# Полымя Рэвалюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Праўлення Саюза
Совецкіх пісьменнікаў
БССР

*КНІГА ВОСЬМАЯ*

МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1 9 3 5

Янка Купала

## АБ ДЗЯУЧЫНЕ

Аб дзяўчыне яшчэ не пеяў,
Бо дагэтуль не знаў ўсіх прынад,
Сёння йдзе ў думку шмат новых з'яў,
Дык і ў песні па-новаму лад.

Маладую дзявочу красу
Не змалюеш, не спішаш пяром...
Бо хто-ж летню змалюе расу,
Спіша хто птушын шчэбет і гром?

І я толькі яе хораству,
Як умею, аддам песняй дань...
Прытупіў сэрца я аб жарству
Год цяжкіх, што мінулі, як здань.

Вось яна—цуд-дзяўчына мая,
Нібы казкі чароўнай жар-цвет!
Я шапчу ёй:—Зірні, паспрыяй!
Дый куды?! Іншы сніцца ёй свет.

Вочкі спусціць на грудкі, на дол,—
Так ідзе і на бок не зірне,
А прывабны прыпол і падол,
Аж смяюцца з мяне, да мяне!

Яе сонца ад ног да калень,
Ад калень да грудзей і да губ
А туляе ў пяшчотны прамень,
Бы спраўляе заручыны—шлюб.

Я гляджу, сам не свой, як у сне,
Цень на сэрцы, у думках імгла...
Ці была тут дзяўчына, ці не?..—
Яна ў побачкі з сонцам пашла!

Акопы. 3-VII 1926 г.

Мар'я Канапніцкая

# ВОЛЬНЫ НАЙМІТ

Па вузкай сцежцы, ўздыхаючы цяжка,
Між грэчак, жыта—сяўбы рук мазольных—
Бледны, апрануты рванай сермяжкай,
Шоў наймiт вольны.

Год той быў цяжкі: улевай тапіла
Пасевы, руні—й даспець не даспелі;
Зямелька ў слёзах чуць-чуць урадзіла
Салому й зелле.

З хаты, падаткамі труднымі змучан,
Выгнаны, там не пакінуў нікога...
Зямлі горсць толькі ўзяў у анучу
Й пайшоў дарогай.

Капалі росы з зялёных бярозаў,
Жалейка граннем вітала бяздольных...
Стаў, палой світкі сівой абцёр слёзы
Ён—наймiт вольны!

Вольны, бо з путаў, у якіх быў закуты
Родны загон, крывёй зліты чырвонай,—
Ужо яго збавіла гэтай пакуты
Стацца закону.

Вольны, бо ўжо не было каму надта
Сена падкінуць, папасвіць у ночы;
Вольны, бо кінуць мог кут сваёй хаты,
Калі захоча.

Вольны, бо ўжо ён не мае цяжару,
Хіба на плечах каса й торба з хлебам.
Сермяга ў латах ды вечная кара—
Боль, што жыць трэба.

Вольны, яго бо апошні з сіротаў,
Што вясной спух з голаду, больш не дыша,
Стары сабака застаўся пад плотам
І вые ў цішы.

Вольны!—бо можа йсці, ці стаяць дрэвам,
Клясці скрыготам вячыстага болю;
Можа захлынуцца плачам, ці спевам,
Даруе доля.

Можа замерзнуць, як рэчка ад лёду,
Біць галавой аб сцежку, рваць грудзі,—
Ад сонца ўсходу, да сонца заходу
Змены не будзе.

Загон убогі для ўбогай тэй хаты,
Імшары, верас, луг змыты расою,
І хоць не будзеш знаць цэлы год хлеба,
Ідзі з касою!

Чаго-ж стаіць ён?—то-ж вольны, як вецер,
Хоча жыве хай, а хоча ўмірае;
Ці пойдзе ў працу, ці хопіцца смерці,
Ніхто не дбае.

І хоць раздзёр-бы сябе на палову,—
Не запытаюць аб долі мазольнай...
Хоць-бы паў трупам, не скажуць ні слова...
Ён найміт вольны!

*З польск. мовы пераклаў*
*ЯНКА КУПАЛА.*

Ц. Гартны

# ПЕРАГУДЫ

(Раман *))

## I

На гэты раз Лявон Перагуд прачнуўся раней звычайнага. У дробныя нізкія ваконцы толькі-толькі зірнула сталёвая шэрань золку. Пад жытнім палеткамі віўся белаваты дымок. Нават нельга было выразна разглядзець недалёкі хутарок яго зяця—Васіля Лагоды. А рэдкі бярозавы гаёк, што ўправа ад гасцінца атуляў паўкругам месца калгаснага цэнтра—амаль зліваўся ў шэрані з ваколіцамі жытніх палеткаў.

На заходняй часці неба яшчэ даволі прыметна блішчэла запозненая Венэра, хоць ужо ў хляве Падласка чакала пастуховай трубы.

Стары Лявон з шасці гадзін, пралежаных у пасцелі, бадай каля чатырох і не прыкмеціў—так яны хутка прамчаліся ў здаровым, моцным сне; але першыя дзве, з вечара, добра даліся яму ў знак: здавалася ім канца не будзе. Што ён ні рабіў: і мяняў месца і пераварочваўся з боку на бок, дагары і .ніцма, настойліва праганяў думкі з галавы,—дарма: дзесяткі якіхці вычварных планаў, меркаванняў, успамінаў жывасілам лезлі ў галаву. Час ад часу Лявон цішком злазіў з полу, падыходзіў да прыпяку і пачынаў шамятацца ўпоцемку з люлькаю; сцярогся, каб не абудзіць Домны, жонкі, цішком мацаючы тутуню і сярнічак. Але гэта ад жонкі не ўхоўвалася: Домна адразу прачыналася, паднімала голаў і востра дапякала:

— Ці ты скора сцешышся? Вот калі старая ламачына! І сон яго не бярэ—верціцца ўсю ноч, як неўтрапёны. Цвёрда табе, ці якое ліха? Вазьмі, вунь, на лаве, мой бурнос да падсцялі пад бок... Угаманіся каліва каб другім заснуць...

Лявон адчуваў сябе вінаватым, некалькі разоў змоўчваў; пасля яму дапякло і ён сярдзіта агрызнуўся:

— Вось спі, мармоль, я, здаецца, табе не перашкоджу... Далікатная вельмі; муха-заваруха.

— Добрая муха! Мядзьведзь—не муха... Пэўна і Пятрусю ў сенях перашкаджаеш спаць—як лінь на скавародзе: скрыпіць, крэкча, шамечацца па прыпяку—тфу, ты, насланне нейкае.

Але ноччу было не да сваркі: стары Перагуд угаманіўся, а пасля заснуў; бітых чатыры гадзіны нават не паварухнуўся. Але трэба было Пятрусю, вярнуўшыся з гулянкі, скрыпнуць сеняшнімі дзвярыма, як ён раптам расплюшчыў вочы і настарожана ўзорыўся ў крыху прачыненыя хатнія дзверы. Калі-ж гэта не ўпэўніла яго ў бяспецы, ён вёртка ўсхапіўся з пасцелі, падбег да парога і, скрадаючы голас, запытаў:

— Гэта ты, сынок? Пятрусь?

---

*) Друкуецца ў скароч. выглядзе.

— Я! Чаго вам?—адказаў запытам Пятрусь.

— Мне пачулася, нібы... Ну, добра-а... спі...

Праз момант, ужо павярнуўшыся на хату:

— Бадай, ужо можна ўставаць?

— Кіньце, лажыцеся... Толькі тры гадзіны раніцы...

— Раніцы?! То ўжо спаць годзе...

Пятрусь больш нічога не адказаў; Лявон, прычыніўшы дзверы, зірнуў на пасцель: Домна соладка храпла. Ухмыльнуўшыся, ён ціха сказаў:

— Гады свае бяруць. На якіх сем маладзей мяне, а знібыткуецца за дзень—дык спіць... што... (махнуў рукой) і будзіць шкада...

І зусім нечакана да таго соладка зяхнуў, ажно заплюшчыў вочы і хіснуўся на нагах.

— Тфу ты, заваражыла старая,—папікнуў ён сябе, падазрона глянуўшы на жонку, ці яна не падмеціла.

Каб не паўтарылася гэтая аказія, Лявон увішней заварушыўся. Даволі хутка апрануўся і ўкрадлівым крокам падаўся з хаты...

Свежая раніца дыхнула на старога водырам жытніх палёў, пахам гародніны. Лявон задаволеным адышоўся за вешніц, лёг грудзьмі на пераkладзіну і пільна паглядзеў у адзін, і ў другі бок.

Тым часам на дварэ значна павіднела. Праз густыя кароны дзярэў, парасонам навісшых над страхою, падзёртаю страхою хаты кружкамі ды палоскамі прабівалася ружовае святло зарніц. Над жытнім палеткам абапал шырокага гасцінца, насілася пара ранніх жаўранкаў.

Ён адвярнуўся на хату, але тут-жа адняў погляд, яму зарупела жывёла, якой, бадай, не лішняе будзе прайсціся па двары. Ён накіраваў да хлява, але раптам прагучэўшая пастухова труба прымусіла Лявона азірнуцца на вешніцы! каля іх стаяў хлапчук з паднятым угару пужальнем і соннымі рухамі марудзіў з запіркаю.

— Не адчыніш, ці што?—кінуў яму Лявон.

— Выганяйце, дзядзька, карову.

Лявон увішліва выпусціў Падласую. Сухазадая, укачаная ў гной, карова вымусіла Лявона паківаць нездаволена галавою.

— І не правіцца, ліха на яе... Дзе-ж пры гэткім мясе яна папалюе...

Ён пачухаў патыліцу, скрывіў хмурую грымасу і тут-жа забыўся пра карову: чмыхнуўшы, конь адцягнуў яго ўвагу.

— Што-ж, Буланы, як здаровіцца?

Пагладзіў па мызе.

— Шкада мне цябе, што ты цэлую ноч у хляве, на адным бярэмі травы... Твой малады гаспадар вінават. Замест таго, каб павесці цябе на начлег—сам начлежыць... Нядаўна прышоў... Давай, вось, ідзі на прагумень...

Ён выпусціў Буланага з хлява, прагнаў на прагумень. Густая яшчэ росная трава, адразу прыцягнула да сябе выстаянага за ноч каня: Буланы старанна зацёр зубамі.

— Ну, папасвайся, пакуль Пятрусь прачнецца,—праказаў ён і адвярнуўся на выведзены зруб.

Зруб паднімаўся ўжо вышэй вакон, а Лявон усё яшчэ не чуўся ўпэўненым, ці падхадзяшчае выбрана месца для новае хаты. Перад тым, як закладаць, у сям'і многа было гаворкі, як лепш зрабіць, ці выносіць новую хату на прыгумень, ці ставіць побач з старою.

Лявон вымераў узрокам адгон ад гумна да бліжэйшае сцяны зруба,

зайшоў ад суседняга гароду, паглядзеў на зялёныя верхавіны дрэў, якія астануцца воддаль ад новае хаты, пакруціў галавою.

— А мо' было-б ляпей, каб на месцы старое...

Абарваў сумненне рэзкім махам рукі. Яго адцягнула да сябе зложанае каля зруба роўнае, ачэсанае дзерава. Лявон лагодна ўсміхнуўся. Унутры рэзва шавяліліся радасныя думкі, лёгкія ўзлёты надзеі. Пабудова новае хаты, хоць і пад старасць, з'яўлялася надзвычайным здарэннем у Перагудавым жыцці. Шэсцьдзесят гадоў Лявон карпеў з сям'ёй у цеснай, маленькай хатцы, размахнуцца на новую—трэба смеласць і сродкі. Сродкаў доўга не знаходзілася. Праўдзівей кажучы, іх можа было-б наскрэбці сям-там, з пазычкаю, але ні Лявон, ні яго малодшы сын Пятрусь не былі ўпэўнены, што ім удасца адолець усю гэту справу. Скромнасць не дазваляла надазаляць старэйшаму сыну Паўлу, які і так, дзякуй яму, не забываў бацькоў, жывучы ў Менску.

Ваганне цягнулася доўгія годы—пасля пытанне стала рубам.

— Болей адкладаць нельга,—мацаючы аднойчы за абедам гарбіну пад вакном, праказаў Лявон.—Трэба натужвацца новую здабываць.

Гэта было тады, калі ўжо канчаткова высветлілася, што Пятрусь будзе жаніцца. Перавесці ў старую, цесную хату Каніцаву дачку, можна сказаць, з пакояў—зусім не гадзілася. Ды ён, Пятрусь, нават не асцярогся... пахваліцца маці, праўда не падумаўшы, што першым яго мерапрыемствам к вясне будзе пабудова новае хаты. Вядома, што бацькавы словы ён стрэў рашуча і спагадліва.

— Няхай то некалькі цяжка было агараць хату, а то цяпер, калі мы ўсё-ж многа лепш жывем як бывала; каб не рашыцца—брыдка...

Гэта была Домніна думка.

Нарэшце звярнуліся да Паўла, які падняўся ўжо да намесніка дырэктара завода. Павал ахвотна прышоў на падмогу. Гэта рушыла наперад справу з новаю хатай... Адно за другім, як па ланцугу: купілася дзерава, перавязлося, былі наняты майстры і во... ужо зруб абганяе старыя будынкі... Хто цяпер адніме ад Перагудаў салодкае адчуванне іхняй перамогі?

Лявонавы думкі тут-жа маланкаю сягнулі да Паўла, намалявалі яго вобраз, светлы і выразны, і стары прывітаў сына цёплаю падзякаю.

— А, бач, Паўла, вывела ў людзі савецкая ўлада! Хто ведае, куды-б накіраваўся яго жыццёвы шлях, каб не бальшэвікі. І праўду ён піша, што мы дарма ўсе яшчэ нечым незадаволены, паціскаемся, шапнем часамі нялюдскае... Цаніць не ўмеем. Паглядзеўшы на гэта, во...

Перагудава рука працягнулася да жоўтае смалістае сцяны прасторнага зруба.

Ён успомніў апошняе Паўлава пісьмо—у вачах бліснулі слёзы ўмілення. Такі добры і такі разумны сын! Каму даецца гэткае вялікае шчасце?

Лявон апынуўся ў абдыме ўзрушанага настрою і ажно здрыгануўся ад зняцанку пачутае гутаркі цесляў.

— Добрае раніцы, дзядзька! Рупіць хата! Будзе, як лялька!

— Чаму-ж не рупець, браткі! Гэткіх прыгод чалавек мала перажывае на сваім вяку.

— Ды яно так, мы ідучы і кажам: Перагуды звекавалі-б ў старой халупе, каб не савецкая ўлада... Сын у горадзе такім чалавекам,—чаму-ж не ўзяцца за пабудову...

— Не ўсім так,—запярэчыў рыжы, скрывіўшы невыразную міну на рабым твары.

— Эт, маўчы ты: табе цяжка ўгадзіць,—пераняў яго таварыш.

Цеслі паскладалі на бярвеннях адзежу, падняліся на рыштаванні, дружна замахалі сякерамі. Мерныя, перабойныя стукі зазвінелі гучным водгуллем за гумном, у жытніх палетках, панясліся гародамі вёскі.

— Тата, снедаць!—Гукаў Пятрусь. Адвярнуўшыся, Лявон ажно здрыгануўся: Буланы злоўжыў яго давер'ем, гаспадарліва тупаючы за перапятаю жэрдкаю ў гародзе:

— А каб ты...

Следавала, слова «здох», але яно да таго было каразлівым, што засела на языку.

Лявон заскочыў каню на перад.

— Тпр-у-у... ты... паскуда-а...

Буланы ёмка закруціўся, скочыў і ў міг апынуўся пры гуменных варотах. Адвярнуўшы мызу, ён падазрона глядзеў на падыходзячага з працягнутай рукой Лявона. У конскіх сіняватых вачах паблісквала выбачэнне за нескромнасць перад гаспадаром, які, адышоўшы ад злосці, лагодна паляпаў Буланага па крыжы; пасля ўзяў пасму дарашаватае грывы і прамовіў:

— За злоўчынак, галубчык, давай на поўгадзіну раней вернамся ў хлеў.

І следам, успоўніўшы пра снеданне, звонкім голасам кінуў у пусты двор:

— Іду, сыне, іду...

Ён спешна адвёў каня ў хлеў і накіраваўся ў хату. На хаду ўспомніў раптам аб латах.

— Але, бок, гэта-ж трэба сёння паехаць у лес забраць жэрдзе...

І толькі наважыўся пераступіць парог, стрэўся з Пятрусём.

— А-а... вы ідзеце! Добра! А я зноў бег зваць.

Лявон азірнуўся на вешніцы—паўз іх прайшоў якісьці чалавек.

— Хтосьці меўся зайсці ў двор ды мінуў,—сказаў ён Пятрусю.

— То Даніла Луба, ён ўжо быў...

— Быў у нас? Чаго?

— Загадваў па хворост ехаць на грэблю.

— Ці ён мае лад! Людзям свае работы па вушы, а гэта... Не знайшлі больш зручнага часу...

— Чорт іх ведае:—ні дня спакою не даюць. Гэта новая сельсоветчыца, на яе ліха вельмі ўжо порсткая. І на нас, чамусці, як на кантрольшчыка ўсёроўна...

Лявон націснуў правым плячом, паглядзеў у вакно; невыразна ўздыхнуў.

— Бачыш, сыне, каб не хата, то яно няхай бы... Трэба, ведаеш, выконваць грамадскі абавязак, няма чаго казаць, але, вось каля хаты некаму і неяк без каня ўпраўляцца. Падумалі-б аб калгасе—таксама... Можа ўжо і пара...

Ён не дасказаў. Абярнуўся на мыцельнік, спыніўшыся вачмі на Домне, якая налівала ў улахань цёплую зацірку.

Пятрусь нэрвова выскачыў з-за стала і ўзрушана затупаў каля вакна, неадзначана бегаючы міглівымі ўзрокамі па аддалёнаму жытнёваму палетку.

— Чаго ты раптам затрапятаўся, варочайся за стол,—запрапанавала Домна, нясучы страву. Пятрусь моўчкі заняў месца насупраць бацькі.

Некалькі ціхіх хвілін аслабілі напружанасць. Пятрусь астыў, лагодна праказаўшы:

— Напэўна Павал больш не напіша, калі рашыў прыехаць?

Старыя насцерагліся. Успамін аб Паўле адзеў на іх твары радасную ўхмылку.

— Чаму ты, сыне, так думаеш? Ці не хапае часу пісьма напісаць?—запытала Домна.

— Не ў часе справа; зразумела, што на пісьмо яго трэба не так ужо многа... Адкрытку на хаду можна напісаць, але... навошта-ж пісаць больш...

— Чаму бо ты так кажа-ш! Так часта Павал піша, ці што? Цудны які...—не ўзлюбіла Домна.

— Так,—умяшаўся ў гутарку Лявон,—напісаць, яно пэўней будзе. Чалавек чакаў-бы, а то...

Домна шчыльна прытуліла далонь да грудзей, чуць не ўпусціўшы з рук апарожненую міску. У яе вачах бліснула вільгаць слёз.

— Мужчыны, як карчы, бязчулыя... Каб вы ведалі, як ные мае матчына сэрца! Як я прагну яго дачакацца... Каму як...

Скора бацька з сынам пакінулі застолле. Лявон, вылазячы, мімаволі ўскінуў узрокам на скучаную ў кутку групку пацямнелых, замурзаных абразоў паглядзеў, штосьці раздумаў, пасля крута абвярнуўся на хату. Домне кінулася ў вочы, што муж не перахрысціўся; яна заўважыла гэта ўпяршыню і ўпікліва праказала:

— Паднімі руку да крыжа, не адсохне!

— А табе што за дзела?—перацяў яе Лявон.—Няма чаго рабіць, дык сочыць за кожным тваім повертам.

— Ай, ай! Кіпень—не чалавек, слова сказаць нельга...—Не хрысціся і не маліся, мне вельмі гэта трэба...

Домна занялася ў мыцельніку з пасудай. Пятрусь моўчкі праслухаў бацькаву пікіроўку, і калі абое старых сцішыліся, запытаў у бацькі:

— Як-жа нам быць? І па латы трэба-было з'ездзіць і... гэта фурманка?

Азадачанасць трымала Пятруся ў нерухомасці. Ён аднакава глядзеў у адну кропку на сцяне. Лявон неадзначана адказаў:

— Ведай ты, чалавек, як тут лепей зрабіць!

Прыпаліўшы люльку і зрабіўшы першы смачны зацяг, дадаў:

— Не ў пару, кажу, гэты падводы...

Пятрусь нездаволена матнуў галавой, тут-жа схапіў з крука ў сцяне шапку, паведаміў:

— Прайду ў сельсовет, авось уламлю гэту дзяўчыну. Няўжо не ўважыцца? Тады паедзем па латы...

Накіраваўся ў дзверы.

— Паспрабуй,—кінуў яму ўдагон Лявон і пашоў за сынам.

Але ім перагарадзіла дарогу Волька.

— Вы куды-ж гэта сабраліся? Мо' ў лес часамі?—запытала яна.

За мужчын адказала Домна:

— Ай, дачушка, знойдзеш ты зараз які лад: хацелі перш ехаць па латы, то, думаеш, сельсовет пераняў: трэба ў падводцы...

Волька паставіла на лаўцы прынесеную пад белай хусцінкай дзежачку; тут-жа адчыніла века і выцягнула нешта ў торбачцы. Перадаючы мацеры, праказала:

— Вы прасілі дзежачкі на булкі, а гэта, во, сушанай садавіны крыху.

Мужчыны ўдзячліва паглядзелі на Вольчын гасцінец. Пятрусь з сянец пажартаваў:

— Падганяеш маё вяселле? Бо цікаўлюся... ты-ж мой брат, з рэзва прабегшай ухмылкай па малажавым чарнявым твары адказала Волька.

— То, думаеце, Васіль як дазнаецца—непрыемнасці будзе Вольцы—дапусціла Домна.

— Ці ліха яму!—не згадзілася тая.

— А дзе ён, мо' пашоў дакошваць канюшыну часамі?—запытаўся Лявон.

— Колькі яе там... Учора скончыў, прышоўшы з калгаса... Пашоў раніцою ў калгас—нехаця... Да касьбы рыхтуюцца...

Пятрусь хітра ўхмыльнуўся.

— Вось бачыце. Заўсёды трэба гэткую справу як след разжаваць, а тады ўжо на яе пускацца; а гэта надаў загадзя гарачкі—вось і апаліўся... Калгас, калгас... Хто яго падганяў запісвацца?..

— А мне думаецца, што мы не прайгралі, пашоўшы ў калгас... Дарма мой не можа забыць мінулага...—упэўнена заключыла Волька,—не вечна з фальбарачкамі... Кончыўся іх час. Хоць Васілю гэта неяк не ўкладаецца ў думкі. Рашучы Вольчын тон зрабіў неаднакавае ўражанне. Калі Лявон схіляўся да доччанай думкі, а Домна аставалася ў нявыразнасці, то Пятрусь быў зусім іншага погляду на закранутае сястрою пытанне. Неадабральна матнуўшы галавою, ён хутка схаваўся за дзвярыма. Калі стукнулі зачыненыя ім вешніцы, Волька пад сакрэтам паведаміла бацьком:

— Бачыце, Адам Каніца надовечы заходзіў і ўсё падбіваў Васіля пераглядзець свае адносіны да калгаса. «Ты, кажа, не паказвай знешня, што табе ён, калгас, бач, адваротны, а рабі выгляд стараннага працаўніка... І калі ўжо ніхто не будзе западозрываць, тады ты сумееш зрабіць, што табе захочацца...» Мяне, ведаеце, злосць разабрала і я проста не сцерпела:—«Не падгаварвайце, кажу дзядзька, Васіля на гэткія справы». То, думаеце перш абсмяялі ўдваіх, а пасля выправілі з хаты...

— Так, Адам—чалавек ліхамысны, ты яму не кладзі пальца ў рот—адкусіць,—прызналася Домна.

Волька нездаволена паківала галавою, выказаўшы:

— А думаеце, Каніца з дачкою нашага Пятруся на падбіваюць на тое, каб ён выступаў супроць калгаса? Ого! Пятрусь гаворыць не сваімі словамі, паверце...

— Цікава, аднак,—не сцярпеў стары,—як усе цяпер крута мяняецца. Часы інакшыя ад ранейшых, але нашы людзі не хочуць поўнасцю гэтага зразумець. Ды нічога—жыццё прымусіць іх...

Падышоў к вакну паглядзець на сонца.

— Мы загаварыліся лішне. На дварэ к полудню бярэцца.

Ён порстка вышаў з хаты, пакінуўшы жанок адных.

Яго пацягнула цікавасць праведаць, на колькі цеслі сёння паспелі зрабіць. Каля вешніц Лявон пачуў:

— Тата! Пачакайце!

Азірнуўся. Наганяла Волька.

— Што скажаш, родная?

— Напэўна вам давядзецца сёння прабыць дома... То мо' прышлі-б у абед памагчы Васілю хлявец скласці?

Лявон задумаўся.

— Я-ж, бачыш, не гуляю...

Яму проста не хацелася сёння паказвацца Васілю на вочы, якога ён не вельмі далюбліваў.

— Ды мо' Пятрусь хутка вернецца з сельсовета з дадатным рашэннем...

— А я думала...

Волька не дасказала і павярнулася ісці назад. Пакуль яна адышлася да сянец, Лявон паспеў зводдаля аглядзець зруб, заметна вырасшы. Пад вакеннымі дзіркамі лягло здаровае шырокае бервяно, прыдаўшы сцяне зусім інакшы, больш прыемны выгляд. Усцешаны гэтай драбніцаю, стары паглядзеў услед дачцэ, гукнуў:

— Скажы Васілю, а мо' і падскочу...

II

Гэтым часам Пятрусь знаходзіўся ў памяшканні сельсовета; ён моўчкі стаяў каля стала, абступленага наведнікамі і напружана чакаў, пакуль кончыць гутарку пажылы, сіваваты мужчына з рэзваю чарнамазаю маладою дзяўчынаю ў юнгштурмаўскім гарнітуры. Дзяўчына трымалася спакойна і ўважліва прыслухоўвалася да кожнага слова наведніка. Гутарачы, сельсоветчыца раз-по-разу пазірала на дваіх сялян, якія тут-жа збоку нешта перашэптаваліся, грузна аблёгшы на стол. Некалькі даволі выразныя ўзмахі сельсоветчыцкай белай рукі, намекалі шаптунам на патрэбу сцішыцца. Але тыя не прыдавалі ўвагі дзяўчыніным папярэджанням. Тады ўмяшаўся сусед; паглядзеўшы на шаптуноў падкрэслена суровым узрокам, ён прымусіў іх падняцца ад стала і замаўчаць. Потым абярнуўся да Пятруся, на якога, ён падмеціў, неяк даволі лагодна паглядзела шустрая сельсоветчыца. Кожны Пятрусёў рух выклііикаў у яго прыметныя ўздрыгі, што зусім не пасавала з яго здаровай каржакавай постацю. Пятрусь не намераны быў заскакваць наперад гэтаму чалавеку, бо было-б не толькі не тактоўным, а і небяспечным ад магчымых непаразуменняў. Ён пачаў нэрвавацца, думаючы аб тым, ці не лепш кінуць сельсовет, каб без усякага паразумення з сельсоветчыцай не паехаць сёння на павіннасць дый годзе. Ужо ён адхіліўся ад стала і паглядаў на дзверы. Дзяўчына павярнулася да яго, але малады мужчына, улавіўшы яе манеўр, мігам адгарадзіў яе ад Пятруся.

— Чарга мая і я нікому не ўступлю,—кінуў убок Перагуда.

Але ён быў моцна сканфужаным, калі сельсоветчыца спакойліва праказала, гледзячы на ўвайшоўшага дзядулю:

— Дайце вашу заяву, дзедка.

Тыя, што раней перашэптваліся над сталом, і Пятрусь з імі зусім не па ўгавору, расплыліся ў гіранічных ухмылках. Прэтэндэнт на першую чаргу варожа паглядзеў на іх, падаўшыся яшчэ болей на руб стала, хоць ужо было некуды.

— Вельмі прашу, таварышка, прыпісаць мне гэта,—неўпэўненым голасам прамовіў дзядуля.

Дзяўчына вярнула яму заяву са словамі:

— Ідзеце, там яны вам усё зробяць: поплаў будзе за вамі.

— Што вы скажаце?—павярнулася сельсоветчыца да Пятруся.

— Мы хату будуем і так заняты, што гатовы другім разам удвойчы адпрацаваць за сёння,—вытлумачыў Пятрусь.—Можа-б, таварышка, былі-б ласкавы адмяніць сёняшні нарад?

Крэмень хвілінку раздумліва памаўчала, потым, перагарнуўшы некалькі паперак у папцы, вытлумачыла:

— Вы хочаце сказаць, што пабудова новае хаты важней за дзяржаўную справу?.. А вось падходзіць жніво, хіба добра будзе вазіць снапы па гэткай разбітай дарозе, як у лузе? Хата паставіцца...

Пятрусь на імгненне не знайшоўся, што адказаць. Пасля, адчуваючы не вельмі суровы тон дзяўчыны, рашыў настойваць. Мнучыся праказаў:

— Кожнаму сваё рупіць...

Сказ быў не такі, каб ім можна было пасунуць справу наперад. Крэмень з першых слоў прыняўшая Пятрусёву просьбу за непасрэдную, зараз убачыла, што ён крыху хітрue.

— А справа краіны—не вашая справа?

Пятрусь апынуўся без усякае падпоры. Разгублена, адчуваючы няёмкасць перад маладою дзяўчынаю і перад тымі двума наведнікамі, што як назнарок тырчэлі сведкамі пры іх размове, ён сарамліва апусціў вочы, пасля павярнуўся да дзвярэй.

— На адну, хвіліну; чакайце, грамадзянін... як ваша прозвішча?— кінула ўдагонку Пятрусю Крэмень.

Трымаючыся за клямку, неахвотліва, адказаў Пятрусь:

— Ды вам аднака... Перагуд...

— Перагуд!.. Ці не ваш брат намеснікам дырэктара завода ў Менску?

Пятрусь рыўком адняў руку ад клямкі, павярнуўся ўсёй постаццю ў бок стала.

— Мой, таварышка...

— Цікавае супадзенне...—дадала яна,—падыдзіце сюды, Перагуд.

Крохкая ўхмылка каўзанула па яе твары; яна ва ўпор паглядзела на Пятруся, які паслушна вярнуўся к сталу.

Што-ж, я вам перанясу нарад на падводу на паслязаўтра... А вам, сапраўды, сёння так ужо няма часу?

— Я-б не прышоў-бы вам надазаляць, таварышка. Пазаўтра—-хоць два разы...

— Дык вось, значыцца... Няхай пазаўтра, калі так...

І нескончыла яна, як дзверы расчыніліся нарасхлест і ўпусцілі ў памяшканне здаравеннага, шырокаплечага круглатварага бландына ў адной зрэбнай бялізне. Вайшоўшы кінуў узрок да стала, прама ў Янінін твар і памеўся падыйсці да яе. Але скасіўшы набок вочы, ён крыху сумеўся, неспадзевана ўгледзеўшы сачыўшага за ім Пятруся.

— А ты чаго тут?—суха запытаў увайшоўшы і, не чакаючы адказаў, падышоў да стала, насупроць Яніне Крэмень.

Яго апушчаныя на стол рукі выдавілі скрыпучыя зыкі, быццам стол пачуў боль ад націска здаравенных валасатых рук. Наведнік выпусціў з думак Пятруся і, здавалася, цалкам выліўся ў адзін празрысты ўзрок, пранізаўшы ім постаць сельсоветчыцы.

Яніна Крэмень не ўпяршыню ўгледзела гэтага чалавека. Яе нядоўгае прабыванне ў Ружанах дазволіла з ім пазнацца многа ляпей, чым з іншымі жыхарамі. Новае наведванне не асабліва здзівіла комсамолку. Прывыкшая к гэтаму, яна пасля кароткай паузы спакойліва, холадна ўткнулася ў паперы. Пятрусь скмеціў як у адказ на гэта здаравенная постаць увайшоўшага моцна ўздрыганулася, а двое ранейшых наведнікаў перасцерагальна адступіліся яшчэ на большую дыстанцыю. Латы з-за якіх ён толькі што востра хваляваўся, на нейкі час вышлі з яго думак.

— Таварышка, ці не можна пачуць, як вы нарэшце вырашылі з маім дзелам?—прагучэў сухі скрыпучы голас над вухам маладое сельсоветчыцы.

Яніна рэзка ўскінула галаў—чорныя валасы матнуліся густой шэвелюрай—пранізала сабранымі ўзрокамі запытаўшага. Той інстыктыўна варухнуўся, адняў ад стала левую руку.

— Не ў вашу карысць, грамадзянін Каніца.

Каніца аддаўся крыху ад стала, вывярнууся, як слуп. Пятрусь прыкусіў губу, яшчэ больш напрудзіўшы ўвагу.

— Значыць, па вашаму, я павінен астацца ў цвёрдазаданніках? Та-ак... вось і знайдзі праўду... Нечага сказаць...

Каніца заапеляваў да мужчыны, які стаяў ад яго ўправа, адчаяна паківаўшы галавой.

— Вось як абыходзяцца з нашым братам-селянінам... А лічыцца, што совецкая ўлада...

Ён канец фразы падмяніў махам рукі. І калі не сустрэў сабе ніякага спачування ад нікога раптам успомніў аб Пятрусю. Рыўком павярнуўся да дзвярэй.

Але Пятрусь нібы прадчуваў гэта: ужо пры Каніцавай апеляцыі да мужчыны, ён падступіўся к вушаку і паціху ёмка вышмыгнуў за парог. Зазірнуўшы з сянец у памяшканне, ён выразна ўбачыў, як па спакойнаму твару Яніны Крэмень прабегла іранічная ўхмылка.

Каніца апусціў галаву, памяўся, глянуўшы з-пад ілба на Яніну і ўжо на адыходзе запытаў:

— Значыць мне няма чаго спадзявацца? Неправільна вы-і, нябога, робіце... Я знайду, дзе справавацца...

Ён павольнымі крокамі пашоў да выхада. Рэзкім махам рукі адкінуў управа адчыненыя дзверы і схаваўся за сценкай.

III

На вуліцы Каніца нагнаў Пятруся, які не паспеў своечасова сыйсці з ваччу будучага цесця. Мэрам узрадаваўся, запытаўшы ўздагон:

— Ці ты чуў, што тут чаўпецца?

Пятрусь азірнуўся.

— Якое ўпартае дзёўчанё! Бывала Якуб Калаш, які, здаецца, быў таксама ўпарты, а пагаворыш і здасца, а гэта—на яе ўсё ліхое... вылаяўся ў злосці Каніца.

Пятрусь скубянуў яго за рукаў, каб той не разыходзіўся. Каніца палахліва азірнуўся на сельсовет і яны прайшлі некалькі сажняў моўчкі. Калі-ж будынак сельсовета схаваўся за выступам суседняга гароду, ён агледзеўся па вуліцы і пахваліўся Пятрусю.

— Ды, няпраўда, сыне яшчэ Каніца знойдзе рады адстаяць сябе. Каніцавы карэнні сядзяць моцна ў зямлі... Дарма гэта дзяўчо тужыцца са мной прававаццa...

Пятрусь маўчаў: абраза Яніны яму не спадабалася, узваліць цалкам віну на дзяўчыну, у Пятрусёвым разуменні, не мела рацыі. Каніца западозрыў у гэтым Пятрусёву безцікаўнасць. Дакорліва і настойна працягнуў гутарку:

— Ты, я бачу, сумляваешся зяцю? Дарма, у цябе не хапае ўпэўненасці і адвагі... Прызнаюся, мне не да спадобы твайго пакрою людзі... Задумайся... Не гадзіцца. Памятай з кім роднішся... На добры лад, чымсь стаяць замарожаным судаком—падышоў бы да стала і стукнуў бы кулаком так, каб у гэтай дзяўчыны лыткі задрыжэлі... В-во-а.

Паглядзеў самаздаволена на Петруся, пераможна засмяяўся.

— Мая Люця не па табе, кажу адкрыта... Другое дзела твой старэйшы брат,—прадоўжыў ён сваё бахвальства.

І зацікаўлена:

— Скажы бок, ён скора прыедзе?

— Пісаў, нібы... ды хто яго разбярэ,—страціўшы ахвоту адказваць на прыкрыя заўвагі будучага цесця, адмахнуўся Пятрусь.

Яму ізноў закарцелі латы, паездка ў лес. Хацелася хутчэй разысціся з Каніцай, каб спяшыць да хаты і ён папікнуў сабе ў незваротлівасці папярашкодзіўшай загадзя схавацца ад надазойлівага цесця. Цяпер не, так проста адкараскаешся! Яны параўняліся з Каніцавай хатай. Каніца спыніўся першым, прытрымаў Пятруся. Той падатліва стаў, азірнуўшыся ў канец вёскі, адкуль глядзелі на яго з-пад свае хаты кароны двух бяроз і кляніны. Следам перакінуў узрок да сонца і праверыў цень, рупліва засумяціўся.

— Не дрэнч, сыне, работа нікуды не ўцячэ...—стрымаў Каніца, падцягнуўшы за штрыфель бліжэй да сябе; запытаў:

— Ты мне прызнайся, калі прыедзе Павал? Ён гэтак цяпер патрэбен тут... Што ён піша?.. Васіль Лагода казаў надоечы, нібы к жніву мае быць?..

Рубам пастаўленае пытанне збянтэжыла Пятруся: каб і хацеў, ён не мог даць цвёрдага адказу.

Неадзначана адмовіў:

— Чакаем. Павінен прыехаць... мо' к вяселлю, мо' крыху пазней.

Каніцава вострая зацікаўленасць братам інтрыгавала Пятруся.

— Чаму так позна?—дзівіўся Каніца. Дзіўны чалавек. Столькі часу не бачыць бацькоў, дому, не мець адпачынку і не хацець хутчэй вырвацца ў госці: якія вы ўсе дзіўныя, Перагуды!.. Хіба няма чым парадзіцца ў сям'і, памеркавацца! Ты жэнішся, ставіце новую хату, сястра з мужам падаліся ў калгас—столькі цікавых навін—гэта-б на крыллях мала прыляцець...

Але ўдаванне ў хатнія Перагудавы справы паказалася Каніцу ніякаватым і ён перайшоў на другую тэму.

Так, Васіль, нечакана апынуўся ў калгасніках...—зусім інакшым, спачувальным тонам заключыў Каніца, і абярнуўся да хаты. Потым, нібы вычытаўшы нешта ў затуляўшым акно лісці бэзу, прызнаўся:

— А я пакуль, сыне, буду трымацца ў аднаасобніках... Можа і грэшан тым, што падбіў Васіля, ну ды ўсё адно яму выгадней было падавацца ў калгас... Я так лёгка не падамся...

Праз момант, нешта ўспомніўшы, крута адкінуў галаў да Пятруся і нервова здрыгнуўся:

— Гэткая хата, сыне, ды каб растацца, сэрца кроўю аплывае... Аддаць яе Юстыну Сніпічу... Парабку, валацузе... Н-не-э!.. Буду зубамі і кіпцямі трымацца.

Ён уміг перамяніўся: пабляднеў, асунуўся, зрабіўся нікчэмным, бязвольным. Пятрусю яго стала шкада. Ён абняў Каніцу рукамі, памкнуўшыся адвясці яго ў двор. Але Пятрусёў намер аказаўся заўчасным і лішнім. Каніца хутка вярнуўся да ранейшага настрою: выраўняўся, змыў ухмылкаю кіслую грымасу і гардліва растлумачыў:

— Мазалямі нажыта і не так лёгка аддаецца, як мо' хто разлічвае...

Пятрусь аглядзеўся на хату. Высокая, стройная, у шэсць гарадскіх вакон, яна зіхацела на сонцы, як вылітая з аднае дошкі, стромым шчытком, рэзнымі конікамі і пеўнікам над вокнамі, па краёх стрэхавых бакавіц; на вытыркнутых к вуліцы бакавых бярвеннях шчыток канчаўся фігураю з двух поўмесяцаў, адным канцом стачаных пры грэбяні, а вярхом утвараўшых сабою нешта на падабенства вялізарных закругленых рог. Суседнія хаткі нізка апускаліся к долу, ледзьве дасягаючы грэбнямі Каніцавых

капяжоў. У Пятрусёвым нутры кранула нешта накшталт лёгкае зайздрасці; потым ураз знікла, калі ён вярнуўся думкамі да свае. Карцела хутчэй спяшаць дадому.

— Хаця-б не спазніцца пераехаць у лес,—ізноў зверыўшыся на сонца, выказаў Пятрусь.—Трэба паспяшаць...

— А ў падводы не едзеш? Заказвалі-ж...—прытрымаў Каніца.

— Згадзілася перанесці на паслязаўтра... Я-ж за гэтым і ў сельсовет наведваў... Нядрэнная дзяўчына...

Каніца яхідна ўхмыльнуўся, вылупіўшы шэрыя кашачыя вочы. Ён не ўяўляў сабе, каб у нелюбай ім сельсоветчыцы можна было гэтага дачакацца. З цікавасцю праказаў:

— Бачыў ты! Пашла на тое! Нешта ў лесе здохла... Гэткая заядлая... Харошая добрая!...

— Ды яна ўжо не гэткая і брыдкая, як вам... Узгаварыліся, ажно яна і Паўла нашага добра ведае... Кажа... «Што-ж, можна адтэрмінаваць—на пару дзён»...

— Адтэрмінаваць, а не зусім зняць? Іш, гга-ад... Нечаканая Пятрусёва атэстацыя Яніны моцна кальнула Каніцу ў сэрцы. Але ён схамянуўся: мігам спахапіўся перад бліснуўшай надзеяй выкарыстаць Паўлава знаёмства з Янінай.

Ну, гэта можа і добра... Можа як-кольвечы з Паўлам... Яго вочы патанулі ў масленай ухмылцы.

— Знаёма з Паўлам! Гэта трэба не забыць... Цяпер сыне ідзі працуй.

Ён адвярнуўся і знік за варотамі ў браме. Пятрусь шпарка пашоў уздоўж вуліцы к дому.

## IV

Да сябе ў двор Пятрусь не ўвайшоў, а літаральна ўляцеў; як толькі ён сумеў так спрытна выхапіць запірку у вешніцах! Вешніцы адно мігнуліся і як быццам не пакідалі свайго месца.

З двара Пятрусь кінуў узрокам у покуцьнае вакно і не запыняючыся, прайшоў на прыгуменне: ён шукаў бацьку, якому хацеў пахваліцца аб удачы ў сельсовеце і хутчэй ехаць па латы. Старыя не пападаліся на вочы.

Цеслі старанна ўвіхаліся за працай. Ніводзін з іх і не азірнуўся на Пятруся.

— Выбачайце, дзядзькі,—гукнуў ён у перабойны стук сякер.

— Што-о?—суха перапытаў цесляр.

— Ці не заўважылі маіх старых?

— Здаецца, як бы-маці прайшла тут нядаўна, а старога не прыкмечалі.

Пятрусь увішліва сарваўся з месца, вышаў у двор. Пачаў рыхтавацца ехаць у лес.

На зборку пайшло не болей дваццаці хвілін. Праверыўшы загваздкі, набадры, шворан і супоню на хамуце. Пятрусь не даў каню апамятацца, як тузянуў лейцамі.

Выстаяўшыся ад ранку, Буланы ўподбег сарваўся з месца, але мусіў адразу спыніцца: Пятрусь нацягнуў лейцы, пачуўшы:

— Прыпыніся, сынку!

З набітым травою прыполам, пралазіла ў вешніцах з прыгумення ў двор Домна.

— Ты-ж куды гэта? У падводы такі?—даведалася яна, адвязваючы фартух з травою і кладучы ношу на прызбу.

— Па латы... дазволілі...— адказаў Пятрусь:—Добрая дзяўчына... Домна засіяла.

— Бачыш ты, а то бо кажуць... Захапі-ж перакусіць з сабою...

Не чакаючы адказу, яна вёртка кінулася ў дзверы, рупліва затупала па сенях; хутка вынесла ў белай анучцы лустачку хлеба і крышон сала.

— Бывае замарудзішся—дарога не блізкая...

Пятрусь палажыў пераняты пакуначак на воз пад жакетку, пагнаў каня. Старая забегла наперад—адчыніла вешніцы.

— Бацька ў Волькі, гукні па дарозе... Удваіх скарэй управіцеся...—дапомніла сыну.

Пятрусь крутнуў над Буланым пугаю, цмокнуў некалькі разоў—гэтага было даволі, каб разагнаць каня да рысі.

Сонца глядзела з заходняга боку неба, але яшчэ толькі што кінула поўдзень; грэла старанна.

Гасцінец абапал сціскалі шчыльныя сцены жаўцеючага жыта.

Пятрусь сядзеў павярнуўшыся тварам да сонца, раскідаючы ўзрокі па шырокаму прастору жытніх калгасных палеткаў. Роўная, неразмяжаваная гала расцілалася далёка наперадзе, па баках, бліскаючы на сонцы залатою парчою. Доўгія важкія каласы гасцінна згіналіся яму паклонамі. Хоць бы намёк на лёгкі повей—ані. Не матлялася і танчэйшая зялінка—так было ціха. Самі сабою выніклі нечаканыя, але яркія, выразлівыя думкі—думкі аб адносінах да калгаса. Дагэтуль у Пятруся не было ніякай веры ў яго. Яму здавалася, нават верылася, што ўсё гэта часовае, на спробу... людзі адумаюцца, вернуцца да старога. Драбнюткая неўдача ў калгасе—а іх сачынялі па вёсцы гібель—злых ды знарочлівых—выклікала якоясь злараднае задаваленне: стане на маім! А хто выпадкам выпішацца—Пятрусь адзін з першых пастараецца яго стрэць, каб ехідліва ўпікнуць: «Ага, надаела стаяць «на варце»! І разрагочацца. Вось-вось калгас зусім распадзецца... Але час ішоў, ішла новая запісь. Глядзіш, і нечакана даведаешся, што яшчэ пара гаспадарак падалася ў калгас, яшчэ пара...

Асабліва цікавым сталася здарэнне з шваграм Лагодаю: Пятрусь, як і старыя Перагуды, ажно здзівіліся смелым Васілёвым крокам. І думкі ўзялі інакшы паварот: не так, сабе Юстын Сніпіч весела задзірае голаў і ганарліва пазірае ўбок аднаасобнікаў. Усёроўна, моў, прыдзеце ў Туранаву мураванку на запіс. «Ён мае рацыю, Юстын Сніпіч»—паківаў сцвярджальна галавою Пятрусь. Следам—упэўненае заключэнне: у калгасе ўрадзіла жыта лепш, як ў аднаасобнікаў. І зразумела чаму:—машыны, дружная супольная праца. Зямля, як пух... «Магчыма, было-б нядрэнна зусім...» Ён хацеў сказаць «падацца ў калгас», але штосьці перацяла думку. Унутры заварушылася неўпэўненасць. Пaглядзеў праз гасцінец, потым назад, да вёскі, у яго на першы план ізноў выступілі латы. Ён азірнуўся назад: выступілі з зелені швагравы будынкі. На гасцінец выбегала вузкая азялененая сценка. Пятрусь успомніў мацерын наказ—завярнуў каня на сценку. На сустрач, басавіта брэшучы несся пярэсты здаровы сабака з пароды воўкадаваў.

— Спе-авак! Цішэй!

Сабака нахабней закруціўся каля воза; злосна скавытнуў, калі Пятрусь хвасянуў над ім пугаю.

— П-пашоў вон!—даняслося наводдаль.

То гукнуў Васіль Лагодна. Ён паказаўся каля вешніц з драва. З усмешкай, гасцінна глядзеў убок швагра, адчыняючы вашніцы.

Пятрусь не апраўдаў яго чакання—прыпыніўся. Запытаў:

— Бацька ў вас?

— Пад'язджай бліжэй, хоць каня напоіш... Няма...

— Няма?! А дзе ён пашоў?

— Не пытаў... з гадзіну таму...

Васіль не мерыўся падыйсці да Пятруся, а адказваў з месца. Ён сярдзіта зачыніў вешніцы, калі швагер завярнуў каня, загрукацеўшы калёсамі па накіданых кучамі каменнях.

«Дзе ён соваецца з самае раніцы»!—упікліва кінуў па бацькаваму адрасу Пятрусь, тут-жа спагнаўшы кальнуўшую крыўду ўдарам пугі па Буланым. Бязвінны конь крута тузануў на завароце—драбіны апісалі дугу на двух калёсах, вось-вось гатовыя перакуліцца. На гасцінцы лейцы туга напяліся ў Пятрусёвых руках—конь ажно падняў голаў, страсянуўшы грывай; потым зацішаным бегам, падымаючы жоўты густы пыл, патрухаў далей.

Пятрусь адчуваў пад сэрцам мулкі асадак нездаваленння на бацьку: яго работа абяцала расцягнуцца на многа больш, ніж ён разлічваў.

Але дарэмныя былі Пятрусёвы папрокі старому—Лявон іх не заслужваў: стары ўсё зрабіў для таго, каб не змарнаваць марна дню. Ідучы да Лагодаў—папярэдзіў жонку:

— Ты-ж не забудзь сказаць Пятрусю, што я яго чакацьму ў Васіля...

Паўтарыў дапамінак ужо з-за вешніц.

«А можа не захацелі адмяніць на сёння падводы?»—заключыў уступаючы ў зяцяў двор.

Не з вялікай ахвотай ён ішоў памагаць Васілю даскласці хляўчук. Не ляжала яго сэрца да зяця. Сваімі адносінамі і паводзінамі Лагода заслужваў гэтага ад старых Перагудаў. Лявон ведаў, што зяць стараўся пералажыць частку віны за неспадзяваныя, крутыя змены ў сваім жыцці на Паўла, хоць той не меў да гэтага ніякага дачынення. Любіў дапамінаць на кожным кроку: «Не звяжыся я з Перагудамі, можа-б усё яно склалася зусім іначай». Волька трапна адказвала, калі моташна рабілася маўчаць: «Аддалі-б, глядзі, табе туранаў маёнтак і ты жыў-бы запраўскім магнатам... Ты-ж радзіўся з Каніцам...

Шурпатасць у адносінах паміж Васілём ды Волькаю, хоць яна заўсёды ўступала мужу, была таксама добра вядома Перагудам. Кожны новы факт усё больш раздражняў іх, насцярожваючы да Лагоды.

Але Лявон, пакуль, таіў нездаваленне ўнутры: яму не хацелася абвострываць становішча. Будзе час! Стары нават схіляўся на тое, каб тым ці іншым уздзейнічаць на зяця. Менавіта гэтым ён кіраваўся і зараз, ідучы памагаць Васілю дабудаваць хлявушок.

«Няхай мае пяройдзе яшчэ раз»,—прапусціў у думках Лявон, калі пры ўваходзе ў двор шавяльнулася ўнутры колкая прыкрасць.

На яго разлікі раптам пачулася ззаду:

— Тата!

Волька спяшыла з калгаса на абед.

— А ты-ж адкуль?

— З калгаса.

— Васіль, не ведаеш, дома?

— Ён сёння ў калгас не хадзіў.

— Не хадзіў! А ці-ж так добра?

— Вось бачыце, а сказаць бойся. Накінецца, як вар'ят—заўсёды я вінавата.

Лявон нездаволена пакруціў галавой. Абмерыў вачыма дачку. Не накіроўвалася на лепшае. Відно. Лагода не здаецца.

— Не цікавы твой Васіль стаў,—не скрыў мігнуўшае думкі Лявон.
— Маўчыце...
Яна падазрона паглядзела ўглыб двара. Угадала. З-за хлява вытнуўся Лагода. Паглядзеў на жонку з бацькам, роблена ўсміхнуўся. Зрабіў некалькі крокаў да іх.
Лявон пераняў.
— Давай, памагу, пакуль Пятрусь заедзе. Ёсць што, ці не?
— Яшчэ пар са дзве вянкоў палажыць,—пахваліўся Васіль, выціраючы рукавом сарочкі спацелы лоб.—Горача, але сваё рабіць неўтомна. Адкуль тая ахвота бярэцца... Зранку, калі прыхваціўся—хлявушок і гатоў. Не тое, што ў калгасе,—заехіднічаў, думаючы сустрэць у цясця адабрэнне.
— Усё рабіць трэба старанна,—дапомніў Лявон.
— А ў калгасе на людзях лепш, чым дзе. Вось як, па мойму. І спахапіўся:
— А мо' я ўжо табе і беспатрэбны?
— Зусім не: дзякую, што паслухалі. Я кроквы паставіць не сумеў-бы адзін...
— Ідзем, пагляджу, якаво ў цябе атрымалася.
Васіль спрытна выхапіў з кучы дзерава пры плоце ачэсанае з двух бакоў бярвенца, ускінуў яго на плячо. Бярвенца качнулася, хістануўшы Лагоду. Лявон вёртка настроіўся, каб падтрымаць, працягнуўшы ўгару растапыраныя рукі:
— Трымайся!—пасмяяўся.
Падбегла Волька.
— Не бойся, не ўпаду,—пераняў Васіль.—Ідзі звары якога крупніку ды з'еш,—для бацькі паклапаціўся ён аб жонцы, знарок прыбядняючыся.
— Які ты ў мяне рупны!—пажартавала Волька і пакінула мужчын.
Яны падышлі да прыбудовы. Дзерава было складзена даволі неакуратна, няроўна. Васіль спусціў з плеч бервяно.
— Глядзіце, добра?
Лявон разняў лахматыя бровы.
— Для хляўца хопіць. Хоць можна было-б лепш.
Лагода паварушыў шула.
— Як мур. На колькі яно часу... Усёроўна астанецца калгасу.
Стары недаўменна паглядзеў на зяця, але змаўчаў.
Яны прыняліся канчаць. Хутка сцены былі гатовы. Лявон увішна тупаў каля пабудовы з сякераю ў руках, спрытна ачэсваючы кроквы. Іх трэба было восем. За працаю нават прызабыў аб Пятрусю, і толькі ўспомніў, калі апынуўся на сценцы, высякаючы пазы. Падняў галаву, каб зірнуць на гасцінец.
— Няма Пятруся, дзень збаёдаваны,—пашкадаваў.
— А навошта ён вам?—пацікавіўся Васіль.
— Мусіў заехаць... Пабег у сельсовет адпрошвацца ад падводы.... Латы ў лесе, каб непакралі...
Лагода адмоўна матнуў рукой.
— Дарма! Не такія ў сельсовеце людзі сядзяць, каб уважыць.
— Ты думаеш?
— Ведаю... Або мне мала даводзіцца там бываць?.. Ды дзядзька Адам Каніца перадаваў...
Лявон захацеў уведаць прычыны чаму зяць запісаўся у калгас. Старому даўно карцела гэта. Васіль не то, што не парадзіўся з жончынымі бацькамі, а абставіў гэта з нейкай асобнай падазронай тайнай. Толькі

праз тыдзень даведаліся Перагуды. Да чаго патрабаваўся Лагодзе падобны манэўр? Лявон кожны раз пры стрэчы з зяцем меркаваў запытаць, ды ўсё адкладваў на далей. Сёння рашыўся. Замацоўваючы апошняю крокву, праказаў:

— Вось і гатова... А цяпер скажы мне, нябог, што цябе прымусіла так нечакана, цішком ад нас, падацца ў калгас?

Васіль быў захоплены з нянацку: ён не чакаў ад цесця гэткай прамой непасрэднасці, у якой выразна адчуў няскрыты дакор. Збянтэжыўся. Потым сутрымаўся ад няёмкасці і адмовіў:

— А што-ж чакаць з маім хутарам... Не дасказаў.

— Мы адно ўжо дазналіся,—таксама не дагаварыў Лявон.

— Нічога, бацька, не страцілі ў тым, што не ведалі раней. Усёроўна мне гэты калгас—воа-а...

Лагода правёў пальцам па шыі.

Лявон дакорліва схіліў на плячук голаў:

— Не страцілі, але і не знайшлі, бачыш... Парадзіцца з намі было-б зусім не шкодна... Мы-б не адгаварвалі, але людскасць патрэбна...

Іншым тонам:

— Чаму ты ўсё-ж так кажаш?

— А што-б вы параілі іншага, калі ўжо на тое пашло,—задзірліва падаў Лагода.—Я сам не рад, што так вышла. Але дзядзька Адам намовіў, намовіў...

Ён з-падлоб'я, нервуючыся зірнуў на цесця. Стрымаўшы хваляванне, працягнуў:

— Час такі, бацька, што не дазваляе доўга думаць... Кончана... І «Кудравы ясень», і незалежнае жыццё...

Вярнуў на сваё:

— Волька, вось, няхай цешыцца... Ды Павал там—пэўна ўжо ведае...

Лявон вырачыў на зяця вочы, чуць не з'ехаўшы знячэўку з сценкі. Хапіўся загадзя за крокву, але балюча стукнуўся костачкаю аб сук, сыкнуў з болю.

— Чаму ты на перакор кажаш, нябог? Не спанраўна—выпішыся. Мы цябе не запісвалі... Людзям добра, а табе...

— А так, бачыце, Вольцы ні ў галаве, што вось, усяго адзін прыгумень ды садок ад гэткага хутара асталіся. Сена карове выпрошваць прыдзецца ў добрых людзей... А яна працуе старанней, ніж працавала на сваёй гаспадарцы. Бачыце, што-б дапамагчы, дык спяшае, не бачачы света, каб хаця не апазніцца ў калгас. Зямля праваліцца без яе...

У вачах Лявона зяцява гутарка мяжавала з непрытомнасцю. Стары пацiскаўся ад раздражнення, стрымліваючы гнеў. А Васіль злорадна ўхмыляўся, зломысна пазіраючы на старога Перагуда.

На гэту сцэну трапіла Волька.

— Ці не пра мяне гутарка?—запытала.

— Угадала, дачушка. Васіль нешта нездаволены табою... Не да спадобы, што ты ганяешся за калгаснай працай. Чула?

Лявон спусціўся з сценкі. Зяцева дурная гутарка не выходзіла з вушэй.

— Не ўпяршыню. Рад, што ёсць на кім злосць спаганяць...

— Думаеш?—вырачыўся на жонку Лагода, занядбаўшы прысутнасцю цесця:—Знойдам, на кім спагнаць і бяз цябе. Не думай, што ты ўжо гэткая... Вось, бяжы ў калгас, а то там без цябе толку не знойдуць!

І дзіка рассмяяўся.

Лявон не сцярпеў. «Паскуда»—падумаў і адвярнуўся спіною да зяця. Васілёў тон скорб старога па сэрцы. Ён пашкадаваў, што гэткаму неўдзячніку аддаў больш двух гадзін часу. Папракнуў сябе за празмерную мяккасць, папушчальнасць. Вярнуўся думкамі да Пятруся.

— Нешта забавіўся Пятрусь!—паскардзіўся Вольцы.

— Напэўна ў падводзе,—дагадліва кінула Волька:—Ідзіце дамоў, лепш будзе...

Не азіраючыся на мужа, яна пералезла на прыгумень.

— Што мне есці-ы?—сярдзіта, рэзкім голасам пагнаўся Васіль.

Данеслося з-за густога аброслага бярозкаю частаколу:

— У пе-эчы-і!

— Зойдзем перакусім, бацька, хоць без яе... Памчалася, як утрапёная...—выканаў фармальнасць Лагода.

Пры гэтым зрабіў лагодлівую міну, на якой лягла масляная ўсмешка. Вузкія маршчынкі расплыліся.

— Дзякую... мяне дома чакаюць... Бывай, нябог...

Лявон не азірнуўся, крута рушыў з месца. Васіль стаяў, як прыпячатаны: цесцява спакойная, але цвёрдая, уразлівая адмова скрабянула нутро. Ён нейкі час не мог шавяльнуць губамі, языком, векамі воч. І калі ўжо Лявон вышаў за вешніцы, суха гукнуў:

— Дзякую, бацька за падмогу!

Той і цяпер не азірнуўся, бышцам гэта яго не абыходзіла. Вышаўшы на сцежку, адмахнуўся рукой, як ад надазойлівай мухі.

З поля, з жытоў дыхнула асвяжаючым павеем. Водырам хлеба ды мёду. Дыхнула так, як дагэтуль Лявону не прыходзілася адчуваць. Дыхнула і бышцам скінула з яго плеч ціснуўшую ношу.

Ён з непадатлівай тлумачэнню лёгкасцю прайшоў да гасцінца. Прыжмурыў рудыя вочы, над якімі капяжамі навіслі бровы, угледзеўся да зялёных верхавін двух бяроз ды клёну. Усё злівалася ў разведзенай празалаці, напоўненай плаўкім бесперабойным гудзеннем кантрабасавых струн. «Няхай-бы ён пад'ехаў, Пятрусь бач!»—пашкадаваў Лявон і перайшоў гасцінец.

Ці-ж-бы ён падаўся ў калгаснае жыта, каб у яго гушчыні зацягнуцца навеянымі ім думкамі, калі-б ведаў, што якраз гэтым часам Пятрусь увішліва засупоньваў хамут? Ёсць-вядома—не! Не-э!.. Прылёг бы пэўней усяго, па абочыне сцежкі і чакаў-бы. Але зверыўся ў прыездзе сына! І рашыў аглядзець калгасныя палі.

## V

Мо' хвілін дзесяць Лявон Перагуд стаяў на адным месцы. Зазіраўся на неаглядныя прасторы жытніх палеткаў калгаса. Ву-ун-нё-а, як згледзець направа! Налева да самае вёскі, наперадзе—праз узвышша, дзесьці за лагчыну. «Семдзесят гектараў»,—хваліўся Юстын Сніпіч. І ёсць чым!

— Жыта як лес!—уголас, каб чуў, хто можа, вымавіў стары гладзячы жылістымі пруткімі пальцамі па тоўстых, як лаза, сцяблох; падаваўся уздоўж сцежкі.

Ён быў гонаў на двое ад гасцінца, у лагчынцы, весела бегаючы шустрымі вачыма па жытняму прастору, калі мяккім пяском, падымаючы пыл, труха́ў рухавы буланы. Нібы праз сон даносіліся знекуль зацішаныя гукі

гаворкі, выразней чуваць быў брэх сабакі, але мала хто мог гутарыць, мала на каго мог брахаць сабака!

Лявону якраз не падумалася пра сына—захапіўся асалодаю сузіранняў.

Знаёмае поле, на якім, здавалася Перагуду, ён так нядаўна быў на заработках у Турана,—зараз гэта поле выглядала зусім інакшым,—новым ад абмежка на сценцы да верхавінкі вышэйшага асцяка на жытнім коласе. Няма тае бывалашняе няёмкасці, калі ідзеш, не думаеш, што вось-вось пачуеш пагрозлівы сярдзіты вокліч... У хмурых вачах упраўляючага, важна абыходзячага даверанае дабро, заўсёды падазроныя ўзрокі, недаверлівыя аганькі. Ідзеш і не рад, што выбраў гэту дарогу... Як нядаўна і як даўно!..

Лявон дыхнуў на ўсе легкія—«А зараз як па сваім». Засаромеўся. «Ці-ж па сваім, калі яшчэ аднаасобнік?» Ураўнаважыўся.

«Ніхто табе словам не закіне!»—заключыў.—«Па сваім!»

Заключэнне спадабалася. Там, дзе ад рэдзенькага гайка пачынаюцца яравыя палеткі Лявон прыпыніўся: сапраўднасць казытала надзеяй.

Ярына ў калгасе нікольні не адставала ў сваім росце, у сваёй ядранасці ад жыта. Шыракалісты, густы, зялёны да чорнага ячмень буйна прэ ўгару; перасцігае ўжо за пояс, а яшчэ каласы толькі-толькі пачынаюць завівацца. Позні, тым не меней, такі ўдалы! Каліва ў каліва! Авёс ужо рудзеў, плаваючы на сонцы мятлічнымі каласамі. Як быццам хтосьць непрыкметна наблізіўся да Лявона, палажыў ком развярушаных думак у голаў і схаваўся—а ты думай, упраўляйся з імі! І сапраўды паспрабуй утаймаваць іх рэзвы рэзрух. Думкі пякуць іскрамі, зліваюцца ў яркія, завабныя планы, намеры, імкненні, намагаюцца выліцца ў поўнасочныя плаўкія, шчырыя словы...

Не стрымаўся стары. Загутарыў над ярыною, перакідаючы ўзрокі да белых будынкаў калгаснага цэнтру, туды, па другі бок гайка, дзе раптам залапатаў гаварлівы трактар.

— Прызнаюся, хоць бы слухаў увесь свет, не вeрыў я таму, што бачу. Не вeрыў. А тота-ж... Робіцца, ды яшчэ як добра робіцца—відно. Ідзе, як поезд па рэйках, рухліва, спорна. Трэба аддаць справядлівасць бальшэвікам—настаялі і дамагліся, чаго след... Пэўна-ж-след... Трэці год, як заварушылі, што называецца вёску, а як далёка сягнулі. Вв-о-а!

Лявон разняў рукі, ажно імі перапяў сценку. Успомніў пра Паўла, аб яго пісьмах, бальшэвіцкіх размовах ды ўгаворах—захапіўся салодкаю ўцехаю. Заварушылася гордасць за сына. І да таго зарупела старому яго ўглядзець, што на некі час увесь свет сышоўся ў мігам вырасшай перад ім сынавай стройнай цікавай любай постаці.

Быў не паверыў, што мары, не сапраўднасць—абярнуўся каб перакanацца... Не сапраўднасць—мары! На жоўтым фоне жытоў вынікла цёмная пляма ў шэрых крапінах. То глядзеў на старога нядаўна пакінуты зяцяў хутар. Дробны, плюгавы, нямілы выплыў вобраз Лагоды, ад якога, расстаючыся, ён, Лявон, так рэзка адвярнуўся. «Нядобра», чалавек, ты сябе ставіш, «не па людску». Які з цябе калгаснік!—паківаў пальцам на хутар.

Цень ад яго нізкай, крыху зсутуленай фігуры даўжэй. Ужо перабег за другую каляінку, а стары ўсё на адным месцы.

Пятрусь ужо дабіраўся к лесу, заварочваючы Буланага ў прагаліну між двух стройных выносных хваін. У густым спляценні кустоў выдзялялася куча доўгіх роўных жэрдак. Каб гэта з бацькам удваіх—як-бы хутка яны перанесліся на воз, пад гнуткую пэўную запліску! Яшчэ завідна

можна была-б вярнуцца дамоў. Пятрусь недаверліва азірнуўся на дарогу, але яго ўзрокі ўпёрліся ў цёмную сцяну зарасніку. Да граніцы леса гонаў з пяток—не дацяць самому востраму воку.

А, між тым, з боку поля, адкуль Пятрусь прыехаў, бегалі па падгалістых камлёх, губячыся ў шэрай дымцы Лявонавы ўзрокі. Стары не забыў аб лесе і не кінуў сумнення—а мо' ўжо якім чынам, Пятрусь накладае на воз латы? У адзін момант мігнула ў старога Лявона невыразная думка: а што-б каб пайсці, наўдагад, і зверыцца; не будзе Пятруся—то хоць упэўніцца, што латы цэлы... Ці цэлы-ж толькі? А мо' крый чаго...

Лявон ужо зрабіў у думках першыя крокі назад да гасцінца, па гасцінцу, перайшоў грудок, потым спыніўся, пільна ўзіраючыся, у далёкую цмяную палову леса, зразумела дарма! Дарма думаць аб няпэўнай хадзе—блізкі свет! Пэўней—да хаты. Паглядзеў напрамкам да вёскі і непрыметна рушыў з месца, пашоў.

Побач цвіла лыга ружовымі з белым адценнем матылькамі.

— Няхай-бы прышлі і зверыліся, чымсьці дарэмна малоць языкамі,— удакорыў Лявон аднаасобнікаў.—Прыкусілі-б языкі...

Спахапіўся.

— А я, бач, сам...

Ужо віднеліся будынкі калгаснага цэнтра.

Да Лявона прылятаалі рэзвыя гукі адноўленае сапраўднасці; яны, гэтыя бадзёрыя новыя гукі, нараджаліся ў калгасе, справодзячы бурныя, уздымныя, працэсы калгаснае працы. Лапацеў трактар па дарозе з ворыва ў калгас. Звінела, заліваючыся ў сярэбраных напевах цыркулярка. Крыху на адгоне ад белага доміка, у якім мясцілася канцылярыя «На варце» і ленкуток, выводзілася будыніна сямісошнага гумна. Цеслярскія сякеры адбівалі знаёмыя ўдары. Рознастайнае багацце гукаў закідала ў Лявонаву душу іскры гарачай асалоды, казытнага ўмілення.

У апошні момант Лявон завагаўся: ці не загадзе будзе ўпярэджваць сваім заключэннем патрэбны абгавор на сямейнай нарадзе? Тым болей, што чакаецца Паўлаў прыезд. Павал прывязе нешта новае. З Паўлавым удзелам само рашэнне набудзе большую сталасць, цвёрдасць. Так!

Лявон лёгка павярнуўся ў бок вёскі,—на яго зірнула ўёмная купка дзярэў, што вартуюць яго аджыўшую старую хатку; шэрая страха яшчэ не старога гумна, высока падняты жоўты, як з янтара, зруб новае хаты. Дзесьці ўнутры далі знаць пра сябе цапкія пачуцці аднаасобніка.

— Не, аднаму не выпадае вырашаць гэтага складанага пытання. Ляпей пачакаць Паўла...—заключыў, доўга перабіраючы ў думках гэта рашэнне.

Пасля запаліў туга набітую люльку, усмак зацягнуўся; зайздросна паглядзеў на лыгу.

— Няхай прабачаць калгаснікі, а я ўсё-ж асмелюся вырваць пару жмень... вельмі ўжо яна завідная вырасла. Хоць пакажу нашым недаваркам, во, што вычварае абагуленая праца...

Лявон нагнуўся над лыгаю—працягнутая рука доўга не магла разняць пальцаў. Нарэшце, выскуб скупую жменю расліны. Доўгія лахматыя сцяблы расцягнуліся на паўсцежкі. «Вось лыга—дык лыга»—паківаў галавою. Па другую жменю рука падалася лягчэй. Ён заняў колькі памясцілася ў руку, тузнуў—лыга ўпіралася. «За многа»...—і не паспеў выпусціць частку расліны з рукі, як пачуў штосці мулка апаўшае на плячук. Стары здрыгануўся ад нечаканасці, і абаперся рукамі аб зямлю.

Высокі, у адной палатнянай бялізне, загарэлы чалавек хутка адхапіў руку і спакойліва пазваў:

— Дзядзька Перагуд, што з вамі? Падніміцеся...

Памог старому адагнуцца.

Лявон знянацку сумеўся і перапрашальна вымавіў:

— Выбачай, Юстынка. Я зусім не з намерам красці: толькі дзвежменькі, каб паказаць нашым недавяркам, што ў вас тут у калгасе робіцца... Во-а, няхай бачыць...

— Нічога, я разумею,—супакоіў старога калгасны паплаўнічы Юстын Сніпіч.—Мне здалося, што гэта зусім другі чалавек. Каб ведаў, я-б не падышоў нават...

Лявон агойтаўся, прагнаў няёмкасць.

— Пакажу—няхай палюбуюцца.

— Такі і пакажыце... Хоць мо' яны самі бачылі.

Юстын матнуў рукою. Пасля скруціў цыгарку і запытаў:

— Мо запалкі маеце?

Лявон порстка ўсадзіў руку ў кішэню. Выняў сярнічку і падаў Сніпічу. Той закурыў, памкнуўшыся ісці.

— У абход?—запытаў Лявон.

— Трэба.

— А я дамоў... Скажы, бок, Юстын, як з выганам? Дазволяць нам гэта лета папасвіць?

Сніпіч засмяяўся.

— Заўтра—пазаўтра ваб'ём тычкі: годзе!

Лявон акуратна згроб рукою расцярушаную лыгу, засунуў пад паху і, пашоў следам за Сніпічам.

## VI

Моўчкі прайшлі з поўганоў да жыта—развіталіся. Лявон павярнуў на вузкую сцежку, мігнуўшую з сценкі ў жыта. Сцежка нацянькі вяла з калгаснага цэнтру ў вёску і так дарэчы прышлося Лявону. Ён упэўнена ступіў босаю нагою на халаднаватую ўтрамбаваную зямлю і паскорыў ходу. Праз хвілін дзесяць абярнуўся, Сніпіч быў ужо далёка, ён хуткімі крокамі ішоў напрамкам да гайку, з-пад якога даносілася рэзвая гутарка. Нямаведама адкуль Лявону ўзбрыло на думкі: «А можа ён толькі з выгляду прыкінуўся мяккаю гутаркаю, а, сапраўды думае зусім іншае? «Не, Юстын не такі чалавек: брыдкага не падумае»—самаўпэўніўся Лявон і весела паглядзеў на важкую тоўстую ў цырбунках лыгу. Непрыкметна для сябе вышаў на гасцінец.

З-пад дому да яго прыляцелі знаёмыя глухія стукі сякер. Усё, як зранку пакінуў: цеслі пры зрубе. Вось, здаецца, ён бачыць мільганне іх рук, чуе адрыўную дзелавую гутарку. Новая хата на вачах паднімаецца ўгару, набывае прыгожы ўдалы выгляд. Хутка ўзнімуцца кроквы і... латаць. Ах, цікава, як з Пятрусём! «Няўжо такі ён у падводзе?» Найхутчэй бы праведаць!

— Бацька-а!—вырвалася быццам з думак, знянацку і затрымала старога на месцы.

Пульхны пясок скрадаў конскі тупат, ціхае шаргаценне калёс.

— Ужо-а?—нечакана для сябе кінуў сыну насустрач.

— Добрае ўжо—гадзін з пяць убіў...—суха адмовіў Пятрусь, хмура паглядзеўшы на бацьку.

— А дзе-ж вы былі ўвесь дзень?

Стары не мог уявіць сабе, каб яго праходка ад Васіля заняла столькі многа часу. Ён недаверліва ўскінуў вочы к небу—сонца стаяла зусім нізка. Было брыдка прызнацца сыну, што такі ўпраўду добрага поўдня пашло на марны агляд калгасных палеткаў ды яшчэ з гэткім непрыемным інцыдэнтам. Пашкадаваў дня, потым перанастроіўся раптам: «Аднак я нічога не згубіў. Наадварот». Аднак сыну схлусіў:

— Наведаў ярыну ў Дубкох.

І каб згладзіць адчутую няёмкасць, тут-жа перайшоў на іншую гутарку.

— Хаця латы цэлыя?

— Здаецца!

— А то я думаў...

— Яшчэ вазоў са два будзе.

— Добра было-б неадкладна іх перавезці.

Стары рэвізуючым узрокам аглядзеў воз з латамі.

— Удалыя будуць латы,—пацешыўся.

Пятрусь усміхнуўся: варта было гэтых трох слоў, каб яго сэрца крыху адпусцілася.

—Калі сеч, дык сеч,—задаволена прызнаўся ён.

І следам:

— А я знарок заязджаў да нашых; Васіль кажа, вось, вось вышаў з двара. Прызнацца—за сэрца крыху ўшчыкнула: як-та можа быць. Ад дому не спускаў вачэй з «Кудравага ясеня»—нідзе нікога...—Дзе тое «вось-вось»,—думаю...

— Што-ж, сынок, парадзіш, я не думаў, што размінёмся. Прылёг-бы дзе-колечы на сцэнцы, і што значыць гадзінку на цяпле паляжаць. Але мінула гадзіна, другая, мо' і трэцяя—неяк вельмі мне задаўжылася—мы кончылі ўкладаць хлявушок, паставілі кроквы, а цябе ўсё няма. «Не паедзе»,—думаю і пашоў.

Пятрусь памаўчаў, пераТруціўшы ўжо ў сабе нездаваленне на бацьку момантамі пераходзіўшая ў наяўную няскрытую злосць.

Асабліва яго хапіла за жывое ў лесе, у час замацавання жэрдзя. У момант, калі ён з усёй сілай упёрся ў дубовую папруціну, каб яе канец падсадзіць пад вяроўку, Буланы рыўком сарваўся з месца; вылузаўся з рук; канец папруціны шыбка дзёрнуў па леваму плячуку. Чуць не збіла з ног; захлупіла духі, ажно нельга было прамовіць слова, выгукнуць «тпру» на каня, які сцягнуў канцы лат з задка і пашыўся ў кусты. Прышлося нанава з балючым плячуком падстаўляць задок, нанава перавязваць,—а дзе не вазьміся—адзін. Атрымаў не мала арэшыны і Буланы. Абураным выехаў з лесу. Злосць, як цень, цягнулася следам праз усю дарогу. Потым раптам стала лягчэць: мала што...

— Я сам не спадзяваўся, што прыдзецца ехаць... Але ў сельсовеце згадзіліся адтэрмінаваць падводу на паслязаўтра. Нядрэнная дзяўчына... Дарма іншыя наракаюць...

— Хіба людзям дагодзіш усім... ды яшчэ гэткім, як Каніца...

Так, у сельсовеце дзверы не зачыняюцца; ідуць ды ідуць, як на якім-небудзь вакзале. Кожнага выслухай, кожнаму ўнараві. Дзяўчына, паміж іншым, ведае нашага Паўла. Но-а, не прыставай, Буланы. Забыў ужо арэшыну...

— Не гані ўжо, сынок, няхай памаленьку даходзіць. Як-ні-як, а вёрст з восем увабраў... А каб гэта распытаў у яе пра Паўла...—пашкадаваў Лявон.

Дзе-ж, няёмка адрываць ад работы...

Прыпёршыся плячуком да шула, іх сустракала пры вешніцах Домна. Яна гасцінна смяялася насустрач мужчынам, спагадліва ківаючы галавою. Калі Пятрусь хапіў за лейчыну, каб павярнуць Буланага ў двор, Домна порстка адаткнула вешніцы і аднесла іх аж да другога шула.

— Такі сышліся, ну і добра. Ты, Лявон, прычакаў Пятруся ў Волькі?—запытала яна.

Лявон адмахнуўся рукою.

— Дачакаўся-а... менавіта, што не.

Старая недаўменна глядзела мужу ў твар.

— Дык дзе-ж ты бадзяўся ўвесь час?.. Я-ж думала...

— Вось менш думай. Індык думаў-думаў ды... здох...

— Кінь, стары псюк!—неўзлюбіла Домна, тархануўшы Лявона ў бок.

Яны падышлі да Пятруся, які распрагаў каня.

— Ніхто не пытаў, часамі?—абярнуўся Пятрусь да мацеры.

— Адам, Люцін бацька, заскакваў.

— Чаго ён хацеў?

Пятрусь затрымаўся знімаць хамут, нацягнуўшы яго Буланаму на галаў.

— Нічога такога не сказаў; запытаў толькі ці не вярнуліся з лесу. І пашоў.

Пятрусь вызваліў Буланага з хамута і ляпнуў лагодна рукою па крыжы.

— Пусціце, няхай папасецца на прыгуменні.

Домна пашла за канём. А Лявон з Пятрусём гэтым часам ухадзіліся з латамі...

— Аглядзіце, як хата расце, няўрокам,—сказаў Пятрусь, весела засмяяўшыся.

— Хата... цацачка...

— Каму-ж не відно,—пахваліўся Пятрусь.

— Ну, пасля будзеце зазірацца—ідзіце падсілкуйцеся крыху,—пазвала з прыгумення Домна.

Яна па чарзе тузанула за рукавы перш мужа, пасля сына.

— Ідзем хіба,—сказаў Лявон.

— Пара!

Пятрусь пашоў за бацькам у хату.

— Вы заўважылі, якое збожжа парасло ў калгасе?—нечакана для старых запытаў у хаце Пятрусь.

Лявон весела паглядзеў на сына.

— Добрая збажына, нечага сказаць... Па сяле дарма пускаюць чуткі, што ў калгасе неўдаўся ўраджай. Вунь я прынёс пучок лыгі аршын на два ростам! А таўшчыня!

Падаючы вячэру, Домна паведаміла:

— Адам і сённі нібы пахваліўся—«а ў калгасе», кажа, «усё прапала».

Мужчыны ў адзін міг перасталі рухаць падбародкамі, поўныя стравою лыжкі спыніліся паміж міскаю ды ратамі. Здзіўлена-дакорлівыя ўзрокі паласнулі па Домніным твары.

Лявон яхідна праказаў:

— І трэба-ж старому чалавеку брахаць ліха ведае што. Як назнарок, або мае справу з малымі дзецьмі... Бач назнарок...

— Мо' дзе ярына і адстала крыху, а што датычыць жыта, то дарма,— паспрабаваў змякчыць настрой Пятрусь.

— І ярына, і трава, і лыга... каб толькі ў нас такія парасλі. Зломыснічае Адам... Не да спадобы яму калгасы,—не згадзіўся Лявон.

— А, гэта ў яго ёсць,—пацвердзіла Домна.

Пятрусь успомніў Каніцаў прыход у іх адсутнасць. Паўстала жаданне наведаць цесця. Ён дагадваўся, што Адама непакоіла сёняшняя гісторыя ў сельсовеце.

Вылазячы з-за стала, Пятрусь паглядзеў у акно.

— Мо' думаеш, часамі, яшчэ накіравацца ў лес?—запытаў сына Лявон і дадаў:—Будзе позна. Зацемкам там неварта блудзіць.

— Ды дзе ўжо ехаць перад ноччу,—адгаварвала Домна.

— Зусім не ў лес... што вы?—адмахнуўся Пятрусь.

Між вакон мігнуліся цеслі. Перанятая імі ў вешніцах Падласая мінула двор. Старыя ўдваіх выбеглі з хаты. Пятрусь задуменна прайшоўся некалькі разоў з кута ў кут, пытаючы ў самога сябе:

— Чаго, цікава, ён прыходзіў усё-ткі?

Неўзабаве пакінуў хату.

## VII

Гэтым часам Адам Каніца знаходзіўся ў сябе ў хаце. Задумліва, у аднэй бялізне ён разважана тупаў па забруджанай, натоптанай падлозе, перакідаючы ўзрокі з аднаго вакна ў другое. Аццяжэўшая ад напруджаных думак галава то паднімалася, то ападала. Ён быў сам-на-сам і смела, у голас выкладаў свае думкі:

— Не, мне здаецца, я не прагдаў, аддаючы Люцю за Петруся Перагуда. Трэба ўсё ўлічваць у наш час... Мой бацька, нябошчык, бывала заўсёды казаў: «глядзі, сыне, на ўсе чатыры бакі». І сам ніколі не спыняўся на адной кропцы. Ды, наогул, пакуль яшчэ Каніца ні на чым дасюль не прагадваў... Вось, можа наперадзе што-кольвечы, але не думаю... Прыедзе Павал—з ім пагутару... яшчэ не прапаў...

Адам не дасказаў: другая частка перарванага сказа спыніла яго хаду. Выплыў з шэрані змроку вобраз настойлівай, цвёрдай і непрыемнай яму комсамолкі з сельсовета. З-за яе дробнае, вёрсткае постаці выступіла на нейкі час адсунутая на задні план гісторыя з цвёрдым заданнем.

Раптам бліснула пудлівая думка: а што калі ўсё разразіцца да прыезда ў госці старшага Перагудавага сына? Каніца зноў хапіўся за коўзкую, але амбітную гордасць: «Яшчэ Каніца так лёгка не здаваўся».

І самаўпэўнена павярнуўся да дзвярэй, з якіх вышла хмурая, расстроеная Люця. Глянуўшы на бацьку, які чакаў ад яе ветлага слова, яна глыбока, быццам дэманстрацыўна, голасна ўздыхнула, адступілася да вакна.

— Ты ўсё яшчэ, дочка, плачаш?—падагрэў астываўшае сэрца Адам. І, затупаўшы нервова на месцы, сярдзіта працягнуў:

— Ы-эх-ха-а!.. Дарма-а!.. Глупства спаганяеш, Люця-а...

Падышоў да прыняка, дзе ў тым-жа падвышаным настроі шаргануў запалку. Чорная палоса ценю, адкінутая дымаходам, лягла на Люцінай постаці. Потым часткай збегла, калі Каніца адсунуў на край запаленую газніцу.

— Не да спадобы, Люця, мне гэтыя твае капрызы. Проста рэжуць маё нутро... Ты мяне раздражняеш, дачка. Няхай ужо гэтыя паганцы-бальшэвікі, дык яшчэ і ты дадзяеш...—прыціскаючы на кожным слове, выспавядаў дачку Адам.

Моўчкі адступіў у цень, а газнічку ізноў пераставіў на іншае месца. Святло выбавіла з цені профіль Люцінага твару. Яна завіхалася ў мыцельніку, бразнула меднаю конаўкаю, перастаўляючы на лаўцы пасуду.

— Ты ўжо не малая, каб спаганяць дзіцячае,— пачакаўшы крыху, чытаў далей Каніца маралы дачцы.—Чуеш? Як табе не брыдка паднімаць у хаце завароху! Пасаромілася-б, нябога...

Люця рэзка павярнулася да бацькі і з сэрца кінула яму ў вочы:

— А што я вам, служка якая? Слова ласкавага не пачуеш....

Глыбокая крыўда вырвалася з яе нутра працяжнымі ўздыхамі, якія перлатвараліся ў зацішаныя стогны. У іх чулася бурліўшая злосць.

Каніца нерухома стаяў на адным месцы. У накіраваным на дачку ўзроку не праглядала і каліва спагады. Дачка дражніла яго сваімі паводзінамі.

— Служка!.. Больш што надумаеш, чамярыца ты гэткая...—расстройваўся яшчэ болей Адам.—Кінь дураслівасць! Толькі зводзіш мяне... Не падумаеш аб бацьку... ліха з ім. Мо' ўжо я табе зусім непатрэбны?.. Ой, глядзі, нябога, каб пазней не шкадавала!

Праз хвілінную паўзу, якую выкарыстала Люця, каб перакорліва кінуць бацьку рэзкае:

— А вось за Перагуда не пайду! Не пайду!

Каніца вышаў на святло, патупаў і ўжо памякчаным тонам праказаў:

— Уразумей-жа, галубка, ты тое, у якія часы мы жывем. Ты не хочаш адплюшчанымі вачыма зірнуць на сапраўднасць... Бачыш, як сталася з тваім дзядзькам, Сідарам Чыжам? Няўжо-б ты хацела, каб і твой бацька апынуўся там таксама? Га-а? А гэта... Падумай Люця!

Яго сказ абарваўся ў момант, калі раптам мігнуліся два доўгія цені ад Люціных рук і тут-жа пачуўся своеасаблівы трэск дзёртай матэрыі. Каніцу ўзарвала, затрасло. Ён крута сарваўся з месца і ўзнятая ўгару рука матнулася да Люці. Люця спалохана шмыгнула ў бок, адставіўшы абедзве рукі, зычна гукнула:—Ой!

Каніца адхіліўся ад дачкі, ашаломлены дзікай сваёй непрытомнасцю... Штосьці надаўміла папрасіць выбачэння ў Люці... Але ў гэты момант, Люця выбегла з хаты.

Каніца схамянуўся ад нечаканасці, нерашуча затупаў на месцы, потым шмыгнуў да мыцельнікавага вакна, моцна гукнуўшы:

— Люця-а!

Упераныя ў цмянае шкло вочы не прыкмецілі ў двары жывое душы. Каніца порстка выбег у сенцы. За парогам, ён знячэўку наскочыў на цэбар з травою. Звонкі гук раздаўся па сенцах. Ён сярдзіта пагразіўся:

— Нну-у, паганка... Ты мне адкажаш...

І пазмяінаму прасыкаў. У парозе спыніўся.

— Дзе-ж ты, Люця-а?!—гукнуў у адчыненыя дзверы.

Маўчанка праняла Каніцаву істоту колкай пудлівасцю. Ён жахнуўся ад няпрошанай думкі, ярка прамінуўшай у галаве; «хаця-б яна не ўздумала пабегчы к Войне».

Ён рухава накіраваў к прыгуменню. Спрытна пералез вешніцы і ўжо ўбежкі апынуўся каля гумна. Збочыў на гароды. Блытаючыся ў разорах, спатыкаючыся аб грады, хапаючыся рукамі за зямлю, утрапёна імчаўся на поплаў, да Войны. Чорнаю маўклівасцю сцяною стаялі ўсцяж рэчкі высокія алешыны. Цішыня выдавала гулкі, важкі тупат Каніцавых ног, сухі трэск цвіркуноў і аднастайны жабін крэкт.

Недабягаючы рэчкі, Каніца, раптам спыніўся, прыслухаўся—нівошта не дапамінала аб блізкай прысутнасці жывога чалавека. Раптам штосьці плюхнула ў ваду. Ногі рэзка сарваліся з мейсца, але нага ўперлася ў выступ прыбярэжнай купіны. Прайшло каля пяці хвілін, пакуль ён супакоіўся. У цяжкай задышцы павярнуў ад рэчкі назад.

— Люця-а!—яшчэ раз паспрабаваў пазваць у цемень ночы, калі вярнуўся к гумну.

Гук раздрабіўся на дзесятак адгалоссяў. Як шалёны, ён бягом ускочыў праз вешніцы ў двор, кінуўся да брамы; варотцы былі запёртымі і гэта яшчэ больш напалохала Каніцу. Знянацку ў вакне ён прыкмеціў мігнуўшы сілуэт і стрымгалоў кінуўся ў дзверы. Ужо з сянец ён угледзеў каля прыпяка Пятруся, які трымаў за руку Люцю і штосьці ўпоўшэпт ёй нагаварваў.

Каніца заспакоена, выціраючы рукавом сарочкі халодны пот на лбе, дакорліва паківаў галавою. Набегшыя словы ўшчунку застылі на засохлых ад смагі вуснах; ён моўчкі пераступіў парог.

— Дзе вы былі?—бачучы расстроены выгляд на бацькавым твары, насцярожана запытала Люця.

Пятрусь здзіўлена паглядзеў на цесця: яму стала непрыемным гэта спатканне. Але ён перасіліў няёмкасць і, не даўшы Каніцы адказаць на Люціна запытанне, даведаўся:

— Вы днём заходзілі да нас?

Люця пакінула мужчын—зайшла ў бакоўку.

Пятрусь глядзеў Адаму ў вочы—чакаў адказу.

— Быў,—нібы нехаця вымавіў Каніца. Яго ўзрокі аставаліся накіраванымі ў вакно.

— Трэба было чаго?.. Мо' зараз...

Пятрусь не ведаў, куды схіліцца і не дасказаў.

Каніцава рука граблямі ўелася ў разлахмачаныя валасы. З вуснаў выпала мляваe:

— Не тэрмінова.

— А што скажэце?

— Ды проста: хацелася зверыцца, ці не пісаў чаго-новага Павал? Сёння якраз была пошта ў вёсцы і мне паказалася, калі я варочаўся з Дубкоў, нібы з вашага двара вышаў лістаносец.

Голас паднімаўся ў нотах.

— Не-э... нічога не атрымалі.

Пятрусёву ўвагу перахапляла невыходзіўшая з бакоўкі Люця. Ён нервовымі рухамі галавы выдаваў гэта Каніцу.

— Можа зусім не паедзе?

Адамава галава наблізілася к Пятрусю, а ў тоне прагучэла трывожная нотка.

— А думаеце, мы ведаем?.. Чакаем...

Пятрусю карцела Люця.

— А няхай бы ён хутчэй прыязджаў... Нечага-б на вяселлі пагуляў...—жартаўліва праказаў Каніца і хітра зажмурыў левае вока. У гэты момант бразнулі баковачныя дзверы і Люця, абмінаючы мужчын, на хаду кінула:

«Весяліцеся». Сама мерсканула ў сені. Петрусёвым нутром прабег халодны струмень непрыемнага адчування. Ён недаўменна затаптаўся на мейсцы, шукаючы ў Каніцавых вачах тлумачэння Люціных паводзін.

Але з тымі-ж думкамі пазіраў на яго Каніца. Адам сам быў у няменшым здзіўленні, хоць яму было ясна, што Люця ўсё яшчэ працягае ранейшыя мудраванні. Ён сурова з-пад нахмураных жаўтаватых брывей пазіраў у сенцы. Выраз яго твару несупынна мяняўся, то прасвятляючыся на момант, то зноў ападаючы ў нейкі цяжкі алавяны смутак.

Пятрусю стала не па сабе. Ён нясмела паведаміў:

— Хіба трэба ісці да хаты...

Але толькі рушыў, як Каніцава рука спрытна зграбяшчыла ў пальцы яго жукетку на грудзях.

— Пачакай! Я выганю з яе галавы гэту дурасць.

Простакутнік дзвярэй праглынуў яго ўздрыгануўшую постаць.

— Люця-а! Ці ты кінеш капрызы?—пачулася ў сенях.

Пятрусь насцярожна стаў у парозе.

— Бацька-а, што вы!—гукнуў прыкмеціўшы на цмяным святле, падаўшым з хаты, шыбнуўшую ўгару Каніцаву руку.

— Яна мяне са свету звядзе сваімі муштрамі!..

Яго голас дрыжэў, як аслабшая струна. Гопалі па дошках падлогі важкія крокі.

— Адыдзі-эця-а!—нема ўскрыкнула Люця, стукнуўшы нечым у сцяну.

— Ты ашалела!—прашыпеў Адам.

Сенцы напоўніла дзікая сумятня, крэкты, піск, стогн...

Пятрусь разгубіўся, не ведаючы, як павесці сябе. Нарэшце пераступіў парог у сені. Каля ложка Каніца старанна выганяў з Люці капрызы.

— Пяатрусь!—раптам выдавіла Люця, калі ўжо Пятрусёвы рукі абнялі Каніцаў стан.

— Што-а вы, бацька-а! Як вам не сорам...

— Ы-эх, паганая... Я яе правучу, як муштраваць бацьку... захлёбываючыся ад злосці не праказаў, а прастагнаў Адам...

Ён памкнуўся вырвацца з Пятрусёвых рук, але толькі вяртнуўся і стаў. Разгорненая, усхліпваючы, Люця бегам кінулася ў хату.

— О-ох! Пусці-ы, Пятрусь, я выйду на хвіліну на двор.

Пятрусь недаверліва зайшоў ад хатніх дзвярэй.

Каніца не абмануў: ён хутка штосьці мармытаў, тупаючы па дворы.

У Люціных паводзінах Пятрусь улавіў для сябе прыкрыя сімптомы. Выабражэнне прадставіла сапраўднасць у цёмных згушчаных фарбах. Ён адчуў, мэрам бы ў яго пад нагамі завагаўся грунт. «Ці не было-б разумней, каб своечасова»... Ён адважыўся сказаць «разблытаць гэты вузел», але яму раптам зрабілася страшна і балюча дапусціць магчымасць гэтага. Бач, усё яно так цесна пераплялося, ушчыльнілася, наспела, што наўрад, ці знойдуцца падхадзяшчыя меры? Павярнуць назад? Адмовіцца? Не-э, гэта пацягнула-б за сабою агульнае пасмешышча, розныя гутаркі, намовы, плёткі, вымусіла-б перажыць цяжкія хваляванні, глыбокую ломку. Не-э! Мала што бывае! Больш вытрымкі. Да чаго тыя ўразлівасць, амбіцыя, гонар! Ці-ж таму наўда, калі чалавек выйдзе з гумару, адчуе на момант якую-колечы прыкрасць, разнэрвуецца... З кім гэтага не бывае!

Пятрусь не дасачыў, як у яго нутры адбылася змена: з натужнага млоснага стану—стала на многа лягчэй і спакайней. Ён падняўся з мейсца, каб паклікаць замарудзіўшага ў двары Каніцу. Той ішоў сам.

— Гэта ты, нябог, Пятрусь?—ласкава праказаў у самы твар.

— Зайдзі крыху ў хату... А дзе Люця?..

У хаце яны паселі пры стале. З бакоўкі чуўся храп заснуўшай Люці.

— Маці казала, што твой стары наведаў Васіля Лагоду, ці праўда, ці не?—пацікавіўся Каніца.—Нешта я яго гэтымі днямі не сустракаў, якаво ён там маецца ў калгасе? Напэўна зарабіўся вельмі, што і не пакажацца. Ха-ха-ха!

У бакоўцы скрыпнуў ложак. Каніца прыслухаўся.

— Га-а?

Смеху аднак, не атрымоўвалася. Адам гэта скмеціў, калі ўлавіў на Пятрусёвым твары сухую аднакавасць.

— Ты на гэта не патурай, нябог... Тут справа хатняя—намекліва азірнуўся ён на бакоўку.

Пятрусь сцепануў плячом.

— Хадзіў памагаць Васілю хлявок будаваць...—праказаў.

— Хто яго, Васіля, бач, ведае, як яму даецца калгас. У яго не дастанеш праўды. Мне думаецца, што калгас яго мала здавальняе... Васіль, наогул, чалавек дзіўны...

— Чаму? Ён не гэткі дурны, як выдае...

— Як вам вытлумачыць,—усё-ж гэта не свая гаспадарка, ды яшчэ гэткая, якой быў «Кудравы ясень». Мы ніяк не можам уявіць сабе, што яго штурхнула так раптоўна з ім растацца...

— Нічога тут неспадзеванага няма, Пятрусь. Васіль добра зрабіў, што заўчасна падаўся ў калгас. Гэтым ён выграў многае... Большэвікі малую дапамогу ў ім знойдуць, а расправіцца як з другімі, не захочуць...

Пятрусь недаверліва зіркаў на цесця, заўважаючы ў яго характэрным, масляністым смяшку яхідную, жулікаватую іронію, накіраваную і супроць калгаса і супроць Васіля.

Паціснуўшы плячыма, ён крытычна адказаў:

— Я-б не сказаў, каб Васіля зацягала калгасная праца. А што ён мог бы,—то ясная справа...

Каніца раптам разліўся ў покатным рогаце, ажно закоўзаўся па лаве. Яго дарэшаватая бародка затраслася дробнымі, частымі дрыжыкамі. Вузкія губы ўпалі ва ўнутр, а шчокі надуліся, як пампушкі. Пад рашпіленым каўняром выдаўся вапляваты гарляк.

Яго галосны незвычайны рогат узварушыў Люцю. Тая нервова скрыпнула дзвярыма і стала ў іх, як у раме.

Бацькаў настрой выклікаў у яе вострую насцярожнасць: яна ўзіралася ў яго расплыўшыся твар...

— Супакоілася?—зларадна запытаў Каніца голасам, які заставіў Пятруся спагадліва паглядзець на Люцю.

Яе ўпартая стрыманасць перамагла бацьку. Адам лагодней кіўнуў галавою і разуважыў:

— Нядобра, Люця, ты робіш... Выдзі на хату... Не варта, мілая нервавацъ пры кожным выпадку. Хадзі...

Надаверліва азіраючыся на бацьку, яна моўчкі прайшла ў мыцельнік. На Пятруся і не зірнула. Абодвым мужчынам гэта рэзка кінулася ў вочы: яны пераглянуліся, але змаўчалі. Пятрусь затаіў крыўду.

— Та-ак, часы прыйшлі, нечага сказаць... Паспрабаваў-бы я некалі з бацькам так—тыдзень трымаў-бы па-за хатаю. Але ўсё добра, што добра канчаецца,—самаўспакоіўся Каніца; намерыўся прайсці к бакоўцы, але раптам затрымаўся: Пятрусь зненацкі сарваўся з мейсца і аддаў:

— Дабранач!

— Ты ўжо хочаш уцякаць?—Спытаў яго на хаду Каніца:—Мо'-б астаўся... Мо'-б...

Ён мерыўся сказаць «павячэраць з намі», ды не пасмеў, укорліва кінуўшы поглядам у бок Люці:

— Пара... Заўтра многа ўсялякіх спраў... Ды вам пара ўкладацца...

— Ты пра нас не думай, сыне! Каніца не з соняў... Каб ён ганяўся за сном, як хто думае, то даўно-б пашоў з торбаю...

Пятрусь падышоў к парогу, ледзь прыкметным кіўком галавы развітаўся з Люцяй і вышаў.

Адам правёў яго да брамы, пастаяў, пакуль сціхлі яго крокі, потым вярнуўся ў хату. Люця тупала ў бакоўцы. Ён падышоў да дзверац, намерыўшыся нешта сказаць, але перадумаў, павярнуўшы ў мыцельнік.

У мыцельніку знайшоў недаедзеную ў снеданне заціркі.

— Апроч заціркі нічога няма?—гукнуў ён к бакоўцы.

Праз хвіліну пачуў:

— За засланкаю ў печы смажаныя картофлі ў горшчыку.

Каніца ўвішліва справіўся з картофлямі. Запіў, як след, вадою.

З мыцельніка падышоў да стала, падняў вочы да кута з абразамі і старанна выматваючы крыжы, зашаптаў модлы.

## VIII

Па вуліцы тупала дванаццатая гадзіна. Ціша спавівала адпачываўшую вёску. Здавалася многалікія сузор'і выціналі з свайго яркага міграння ледзь чутныя шорахі, падобныя да тых, што справодзяць гарэнне васковых свечак. Вялікая мядзведзіца пераглядалася з трапяткім сітцам. Хаткі і гумна расплываліся ў згушчаным змроку чэрвеньскае ціхае ночы з пахкімі водырамі гародніны і прыгуменных дзяцяльнікаў.

Але Пятрусь Перагуд не цікавіўся хараством летняе ночы.

Вышаўшы з Каніцавага двара, толькі падняў угару вочы і з тым-жа раўнадушшам іх апусціў. У галаве мітусіліся раз'юшаным роем думкі. Люця паказала сябе сёння з нечаканага боку. Што ёй убілася ў галаву? Што гэта? Дзяцінства, ці напамінак? Капрызы, ці рашчотлівыя, узгодненыя з бацькам манеўры?

Пятрусь агідліва адмахнуўся рукою, прыдавіўшы неспакойлівае пачуццё. Цвяроза змерыў думкамі адгон часу ад першых сур'ёзных гутарак з Люцяю да сёняшняга вечара. Усё яксці прабегала папутным вецярком, не пакінуўшы па сабе яркіх успамінаў.

«Загадкава», здзівіўся Пятрусь: «Якім чынам магло яно так пераплесціся, каб справа зайшла настолькі далёка, што становіцца позна і боязна падыходзіць да яе з вострым рашэннем?

«Некі час ваганні зацішалі яго хаду. Нарэшце спыніўся на тым, што нічога гэткага рабіць не варта. Няхай ужо пасуваецца далей як ішло... Жыццё адшліфуе каструбатасць». Фатальнасць узяла верх і Пятрусь адчуў заспакаенне. Іншыя думкі знайшлі прытулак у яго галаве. Латы, падвода, Павал—адно за другім прамігнулася ў вачу. На момант заняла ўвагу хата. «Не, к вяселлю ніяк не скончыць», заключыў Пятрусь. З-за вяселля, як з-за вугла—паказалася нанава Люця: злы, упіслівы твар, ганарлівая постаць... Што за насланае? Годзе!

Пятрусь паскорыў крокі і хутка апынуўся каля вешніц. Паложаная на перакладзіну рука пачула моцную апору. Ён рашуча хапіўся загладкі калок запоры, выврваў. Вешніцы ціхім скрыпам правялі яго ў двор.

Але непаспеў ён павярнуцца, каб усё паставіць на сваё месца, як

перад ім вырасла чыясьці шэрая постаць. Пятрусь знянацкі выпусціў вешніцы,—яны стукнулі аб зямлю, рэзка скрыпнулі.

— Хто-а?—дрыгатлівым, прыцішаным голасам запытаў ён, пачуўшы дотык плеч да шула.

Чалавечая постаць была нагружана якімісьці, невыразнымі ў змроку рэчамі. Гэта яшчэ больш шарахала Пятруся. «Злачынец?»—спахапіўся ён і падаўся на некалькі крокаў уперад.

— Пятрусь? Гэта я...

Цішэй:

— Васіль Лагода.

Напружанасць, звязаўшая Пятруся, разам аслабела.

Ён шчыльна наблізіўся да швагра. Праўда—Васіль. У Лагодавых руках адрозніў хамут; углядаўся: на плячы віселі набадры, сядзёлак, нейкая дзяруга. Што-а за дзіва! Шваграва незвчайная ноша больш, як здзівіла Пятруся.

— Ты чаго так позна ў гэткім нарадзе?—западозрана, але не без іроніі, запытаў Пятрусь.

Васіль каля хвіліны прамаўчаў: аглядаўся па двары, перакінуў узрок праз вешніцы на гасцінец—было можна казаць.

— Вось, на збрую—бяры. Сёння ў калгасе пастанавілі знесці ўсё гэта ім... Але годзе ўжо—хопіць і таго, што аддаў.

Лагода працягнуў Пятрусю хамут. Той нерашуча паглядзеў на швагра.

— Горш не будзе, як ёсць—бяры...

Калі Пятрусь пераняў з Васілёвых рук хамут, той папярэдзіў:

— Толькі зрабі так, каб не ведалі ні Волька, ні бацька. Цішэй лепш... Запытае каторае—скажы знайшоў... або як інш... Я не хачу, каб больш хто ведаў... Асабліва бацька...

Пры гэтым ён набадры і сядзёлак палажыў на хамуце.

— Спажывай наздароўе, пакуль не дацягнулася калгасная...

— Дзякуй!—не ведаючы, ці добра робіць, што бярэ, падзякаваў Пятрусь.

Інтрыга ўсё ўзрастала, варушыла падазронасцю. Кідала на здагадкі. Шваграва скнарнасць стаяла перад ім як у люстры. «Не, тут не так! Мабыць дацялі...» Занадта шырокі жэст! Але ноч згладжвала рэзкасці. Пятрусь паўтарыў:

— Добра, дзякуй, швагер! Некалі адплачу... Не скажу нікому.

— Пагодзімся,—выявіў нячуваную дабротнасць Васіль.

І следам перайшоў на другую гутарку.

— Павал, думаеш, усё-такі прыедзе?

— Чакаем.

— Было-б не дрэнна, каб наведаў,—зфальшывіў пачуццё прыязні Лагода, якому старшы швагер мала падабаўся.

— Хоць бы паглядзець на яго, які цяпер,—лісліва дадаў.

— Якім быў... У яго веку людзі ўжо не так прыкметна мяняюцца...—не без гумару адказаў Пятрусь.

У хаце пачуўся зацяжны кашаль Лявона. Следам бліснула запалка—відаць стары прыпальваў люльку. Потым дакорлівы Домнін сказ. І раптам, як не было ні таго, ні другога. Лагода паўшэптам праказаў:

— Бацька, напэўна, пачуў нашу гутарку?

Не верыў вокнам—уперыў у мыцельнікавае вочы.

— Не думаю... Ён што ночы ўстае курыць,—супакоіў Пятрусь.

— Ну, хавай рэчы, а я пайду... Пакуль дабяруся.

Пятрусь хапіўся адчыняць вешніцы, але Васіль яго перапыніў, спрытна пераскочыўшы праз верх. З вуліцы асцярожліва кінуў:

— Дабранач!

У наступны момант схаваўся ў цемры на шырокім гасцінцы.

Пятрусь пастаяў, пакуль сціхлі ціхія крокі швагра, потым падазрона абмацаў збрую. Недаўменне не пакідала. Нёс у гумно і сумлеваўся, ці не лепш нагнаць і вярнуць. «Каб жа ўзяў?» У гумне палажыў пад пацярухаю ад леташняга сена. На звароце на момант затрымаўся каля зруба, які чуць-чуць выдаваўся цёмнымі контурамі з густога змроку. Ад свежага дзерава патыхала пахам смалы. Ён не сцярпеў, каб шчыльна не падыйсці да высока ўзнятай сцяны і не правесці некалькі раз рукою па гладка агаблёваным бярвенам. «Добра майструюць», пацешыў сябе тым, чаго асцерагаўся для звады сказаць цеслям. Спакойна ўвайшоў у сенцы.

Цела адчувала салодкую змору, у якой безвыразна расплываліся астываючыя пачуцці. Нядаўна віхрыўшыя думкі, заспакоена ўлягаліся. Было так завабна расцягнуцца ў мяккія скірды падушак, пад лёгкай капаю ў ложку!

IX

У Каніцавай хаце бурліла вяселле. Паўнюткая гасцямі, хата дрыжэла ад рэзвых скокаў, гучных песень, разухабістай музыкі. Нязмаўканым гудам вісела какафонія рознастайных гукаў, якім не хапала месца ў чатырох сцянах. Знятыя перагародкі, апраставшыя хату, давалі многа месца для сталоў, шчыльнымі радамі паўстаўленых усцяж дваровае і вулічнае сценаў. Абапал іх, па лавах ды ўслонах, сядзела да сотні вясёлых, смяючыхся сватоў і свах. Сталы ўгіналіся ад пасуды з рознастайнаю закускаю ды пітвом. Амаль ніхто не цікавіўся больш ні пітвом, ні закускаю. З раніцы апынуўшыся за сталом, вясельныя паспелі выпіць і закусіць. Іх расчырвоненыя часта падсавелыя, твары расплываліся ў здавольнай. сытай ухмылцы. Хата гудзела ад падвышанай гутаркі. Між сталоў тупаў сіяючы радасны Каніца.

— Госці дарагія! Што-ж вы прысталі з пітвом, з закускамі? Ну, варушыцеся! Не забывайце, што вы на вяселлі ў Каніцы! Нну-у-ж! Тыя, каля покуці... Ён некалькі пастаяў на адным месцы, быццам вылаўліваючы настрой, пасля чванна перагнуўся над сталом, узяў першую трапіўшую пад рукі чарку.

— За маладую! За слаўную, разумную маю дачку Люцю!

Па сталах папаўзлі рукі па чаркі, хутка ў злітым хоры прагудзела:

— За Люцю!

Потым выгуквалі абяцанкі па адным:

— Нашай ружанаўскай гордасці!

— Лепшаму суседу!

— Слаўнейшаму ружанаўцу!

— Добраму чалавеку!

— Адаму Ясевічу!

Каніца раставаў ад ахапіўшай яго ўцехі. Раздымаючы рукі і махаючы імі, як крыллямі, ён спавядаўся адрасуючыся да ўсіх:

— Вы мае лепшыя прыяцелі! Як я рад, што дажДаўся вас бачыць у сваёй гасподзе!

І тут ён кінуўся ў подскакі. Венікам затрэслася дэрашаватая галава, эахадзілі то ўверх, то ўніз плячукі, загрукалі абсацы на падлозе. У вузкім праходзе між сталоў, спатыкаючыся з вясельнымі, Каніца даваў волю сваёй развязнай вясёласці.

— Грайце, музыкі! Каніца хоча весяліцца! Сёння яго свята! Эх-ха-і!

Па хаце разліліся рэзкія піскі скрыпак, стук бубна. У такт музыкам вясельныя забілі ў далоні, загукалі. Пад'южаныя свацці павыходзілі з-застолля і далучыліся ў скоках да Каніцы. Пачаліся разгульныя скокі.

Старыя Перагуды, седзячы побач маладых, весела сачылі за развяселенымі сватам і сваццямі. Домна гайдалася ад рогату, тузаючы Лявона за рукаў і паўтараючы:

«—Ці бачыў толькі, як выдрыгвае Марцэля! Паглядзі—паглядзі толькі на Тарэсю! А сват, ну і сват! Во-а, не чакала!

Успамінаючы Каніцу, Перагудзіха весела азіралася на Люцю. У гэтыя хвіліны яе цешыла нявестка. Як-бы ёй было міла, каб ды здэцца, рассталася з сваёю замкнёнасцю!

Домна прыкмячала, што бацькава развязнасць ёй не па нутру. Люця крывіцца, хмыліць губу, нервова варушыцца на месцы... Вось-вось гатова ўчыніць які скандал... Спробы Пятруся супакоіць яе астаюцца дарэмнымі: Люця дзёрзка адварочваецца ад яго, рэзка ківае галавою. Хвароблівая ружа бегае плямкамі па яе раззлаванаму твару...

Але раптам ўсё мяняецца. Люця аддаецца назад, к сцяне, угледзеўшы, што бацька, хістаючыся, затрымаўся каля Васіля Лагоды. Вось яна бачыць як ён паабяцаўся да Лявона Перагуда, які паважна ўзняўся з месца і накіраваў сваю чарку да яго. Бацька памкнуўся пераняць, але матнуўся на месцы, страціў роўнавагу і апусціўся аберуч у поўную міску густое простаквашы. Каскады пырскаў веерам разляцеліся ва ўсе канцы, каму на твары, каму на валасы, каму на адзенне. Заляпіла вочы і грудзі самому Каніцу. Люця порстка ўзнялася з месца і дзіка кінула па адрэсу бацькі:

— Дамудрагеліўся!..

Пятрусь хапіў яе за руку, але яна рашуча адвярнулася.

Да Каніцы падбегла Волька з рушніком у руках і памагла яму ўцёрціся. Калі Адам расплюшчыў вочы і збянтэжана агледзеўся, з вуснаў яго выпала:

— Каб ты запрахлася, каб ты!

Следам лаянку змяніла ўхмылка: ён ласкава цмокнуў у лоб Вольцы, якая, пырскаючыся са смеху, выцірала яго новую з сівога ў палоску корту жукетку. Васіль падтрымліваў Каніцу пад паху. Хвілінная няёмкасць, ахапіўшая вясельных, растапнела ў прасіяўшых няўпэўненых усмешках.

Не ведалі, як сябе трымаць, старыя Перагуды, Лявон насцярожана паглядаў то на Каніцу, то на Пятруся. На Домніным твары выглядала няўпэўненасць. Але Каніца хутка вывеў сватоў з затруднення, жартліва загутарыўшы к Лявону:

— Ці гэта да добрага, сват, ці мо' на якую небяспеку?

— Што ты, Адам, хай бог крые! Трэба-ж, каб язык павярнуць на гэткія словы.

Госці ізноў загулі рэзваю гамонкаю. Забрэнькалі скрыпкі, грукнуў бубен. Якаясьці рэзвая свахна выкінула альтовую высокую ноту, але рапам сарвалася, закашляўшыся. Па застоллю прабег залівісты рогат, які раптам, нібы па сігналу крута абарваўся: сваты па адным павярнуліся да мала-

дых. Яны насцярожана сачылі, як уткнуўшы твар у змятую хусцінку,— разгорнена плакала маладая. Было відаць нават з задніх сталоў, як узвышаліся ў нервовых подзергах яе злёгку абголеныя роўныя плечы.

Люця прасядзела так моўчкі і сумна, пакуль скончылася дзяльба каравая і прышоў час збірацца ў прыданыя. Калі гэта своеасаблівае шэства з куфрам, падушкамі, прывязанай да воза каровай, кучай вясельных і бацькам на куфры, як блазнам, расцягнулася на паўвёскі, яна ўпала яшчэ ў большае хваляванне. Ішла, як заведзены механізм, не азіраючыся ні на кога, не адчуваючы пры боку Петруся. У яе пад сэрцам сядзела мулкае адзнанне нейкай афярнасці. У імя чаго?—не давалася, як след уявіць, чаму яшчэ больш прыгнятала...

На паўдарозе Люця міжвольна азірнулася назад. Яе ўзрокі спыніліся на бацькавай постаці. «Бр, бр» агідлівае пачуццё перавярнула ўсё нутро, і яна хутчэй адняла вочы назад. «К чаму гэта камедыйнасць з куфрам? А там хата асталася на адну Аксеню... Можа не зачыненыя дзверы і брама... Чужы чалавек, што захоча будзе рабіць у сенцах, у каморы... А бацьку ні ў галаў»... Люця заплакала.

— Люця, Люця, што з табою? Кінь!—ветліва зазірнуў ёй у вочы Пятрусь.

Яго рука лягла на Люцінай паясніцы.

— Не руш мяне...—і рушыла ў бок.

У Петруся аж заскрэбла на сэрцы, але не падаў выгляду; ён зноў уступіў сваёй падатлівасці, адвёўшы голаў ад Люці.

## X

Конь з куфрам ішоў на пару крокаў ад іх.

— Сыдзем крыху к боку,—запрапанавала Люця Пятрусю пасля доўгае нацягнутае маўчанкі.

Той ахвотна згадзіўся. Яны адступіліся.

Прыданыя ішлі, як папісанаму. Чым бліжэй да канцовага пункта, тым большая рэзвасць, ажыўленне напаўнялі вясковую вуліцу. Дзесяткі, сотні ўзрокаў лавілі шэрую маленькую будыніну, што на ўзгрудку каля гасцінца. Яна пакорліва туліцца да зялёнае мураўкі, хаваючыся ў пышнай наві і кляніны і бяроз. Насустрач прыданым дзме салодкі водыр палавеючай збажыны. Шырокаю раўнінаю пабеглі пышныя прасторы далёка да чорнай мяжы лесу. Улева, кілометраў у трох ад Перагудаўскага двара, цёмнаю купкаю дзярэў маячыць хутар Васіля Лагоды. Жоўты разложысты гасцінец, вырваўшыся з вёскі, лёгка памчаўся ў высокіх сценах жытоў.

Каніца адцягнуўся ўвагаю к полю. Падаўся галавою наперад.

Вось ён прыўстаў і палажыў руку на казырку. І хлопец, што трымае лейцы, на хвіліну спыніў каня. Па натоўпу прабегла невыразная сумятня— натоўп затаптаўся на месцы, зашаптаўся, пачаў выцягацца на пальчыках. Хто паглядаў на Каніцу, бачыў, як ён выкінуў наперад руку, паказваючы ўбок Лагодавага хутара.

У нядзелю хто-б паехаў па гаспадарскіх патрэбах у лес, ці ў поле?.. Калгаснікі? Перад Каніцам, як на экране, мільгаюць конныя ружанаўцы—сярод іх нікога, каго-б ён не прыкмячаў на сваім вяселлі.

Ён яшчэ раз уважліва абвёў навакольную грамаду пільнымі ўзрокамі. Мікіта Чуб глядзеў з Грышкавага двара проста яму ў твар. А калі Чуб дома, тады... Але, вось, музыкі ўжо ўзялі направа. І воз з падушкамі загнуў следам за музыкамі.

Замаруджанай хадою ідзе Люця з Пятрусём за музыкамі. Агульная ўвага да яе, цісне на сэрца і яшчэ больш ацяжвае ногі! Ёй карціць азірнуцца на бацьку. Яна павольна адхіляе галаву ўлева і—раптам насцярагаецца. Каніца падае з воза, за ім Васіль Лагода. Пытліва і растрывожана азіраюцца адно на другога старыя Перагуды. Люця зацікаўлена адвярнулася да Пятруся і не паспела праказаць набегшага на вусны запытання, як той весела пераняў Люціна здзіўленне—вясёлым, звонкім паведамленнем:

— Павал прыехаў!

Ён памкнуўся звярнуць управа, закідаючы ўгару галаву, але Люця хапіла яго за руку.

— Пачакай, куды ты, не пакідай адну мяне.

— Там ужо бацькі, і твае, і мае.

Прыданыя на нейкі час замяліся на месцы, змяшаліся ў адну сумятлівую, кірмашную кучу людзей і падвод. На вачах вясёлага натаўпа ружанаўцаў Каніца першым трымаў у цапкіх абдымках збянтэжанага госця.

— Павал Лявонавіч!.. Дарагі мой сваце!.. І прынёс жа цябе бог якурат на вяселле!.. Як добра, як трапна ты выгадаў час!.. Быццам суджана, сыне... мы так чакалі цябе.

Кожны сказ Каніца прыпраўляў звонкім пацалункам. Паўлу рабілася не па-сабе: ён далікатна адхіляўся ўбок, даючы зразумець няўмеру раздобранаму Каніцу, што пара мець меру. Але той не даваў гасцю перадыхнуць. Нарэшце выручыў сына Лявон.

— Адам! Адам!—дай-жа бацькам прывітацца з сынам. Чуеш?

Каніца неахвотна разняў рукі, стаючы, аднак, на месцы. Зламысным узрокам змерыў старога Перагуда. Павал сам павярнуўся да бацькоў і па чарзе расцалаваўся.

— Сынок, мой залаты, як-жа хаця ты здаровенек! Мілы мой, Павалка!—прычытвала Перагудзіха.

Лявон суняў жонку:

— Пасля аб гэтым будзеш гаварыць, давай не затрымліваць прыданых... Хадзем!

Стары паглядзеў на Паўла, той вітаўся з Волькаю. Сястра звала брата падыйсці да маладых. Павал не кратаўся з месца: ён усё яшчэ не мог апамятацца ад нечаканага збегу даволі дзіўных абставін. Ад яго не адступалі ні Каніца, ні Лагода. На яго глядзела ўсё вяселле.

Лагода цераз усіх палез цалавацца.

— Што-ж ты, браце, нас зусім забыў!—з усмешкаю папікнуў ён Паўла.

— Ці ты мог гэта падумаць!—нядбайна праказаў Павал, заўважыўшы падведзеную Волькаю Люцю.

Братавая пільна ўзіралася ў роўную стройную постаць Паўла; у яго здаровы, правільны твар, у вочы, колеру светлае кавы. Нешта патаемнае, моцнае і казачнае, праходзіла па яе постаці, зараняючы ў голаў небяспечныя думкі. Халодная к мужу рука, напружана, уся ў агні, працягнулася для цёплага, крыху манернага, паказалася ёй, сапраўды, прасцецкага поціску. Люця старалася не выдаць сябе, свайго настрою ні Паўлу, ні Пятрусю.

— Далучайся да вясельных,—падбадзёрваючы больш сябе, чымся Паўла, запрапанаваў Пятрусь і зрушыў брата з месца. У тую-ж хвіліну Павал ачуўся ў экскорце Каніцы і Лагоды, якія, падбіваючы маладых спяшаць да вешніц, павялі гасця следам за імі.

— А я думаў, швагра, што ты на мяне зазлаваў,—улучыўшы хвіліну, разліўся ў прызнаннях Лагода:—стаім побач, а не звяртаеш жаднае ўвагі. Быццам хто чужы на цябе ўзіраецца... «Што,—думаю сабе—гэткае я зрабіў Паўлу».

Але да Паўла не даходзіла Васілёва вымова. І за яго адвакацыю Каніца:

— Мала што, нябог... Гэта табе больш здалося, чымся ёсць сапраўды. Цямі сабе, чым ты мог дадзець Паўлу Лявонавічу, каб ён на цябе не меў вока... Паказалася табе...

І тут жа, сочучы за старымі, адстаўшымі Перагудамі, да Паўла:

— Вяселле—што называецца! Яно адно ў мяне... Здэцца, пасвятлела ад твайго прыезду...

Павал азірнуўся ў бок швагра—той мігам працягнуў яму руку, схапіўшы Паўлаву, старанна затрос яе ў шчыльным поціску. Яго твар расплываўся ў невыразнай халоднай ухмылцы, якая і бянтэжыла і прыкрыла Паўлу.

— Не-не, Васіль, я нічога гэткага...—праказаў для развагі Павал быў невыказна ўдзячны спрытнаму, лёгкаму і распарадачнаму лысаму дзядку, які вышмыгнуў у гэту хвіліну з-пад вешніц і разлучыў Паўла з Каніцаю ды шваграм.

Павал адступіўся за шула, паглядаючы на двор, дзе сваты частавалі маладых мёдам, а сваццї шчодра пасыпалі іх галавы жытам.

Ужо ён надумаў кудэю яму накіраваць у абход хаты, як раптам з-за куфра выбегла Волька. Яна схапіла за руку і прапіхнула яго ў хлынуўшы да вешніц натоўп. Калі скончылася цырымонія з куфрам і грамада вясельных схавалася ў сенях, можна было ўбачыць праз адчыненае покуцьнае вакно, як лысы, вяртлявы, маршалак рассаджваў па застоллю маладых, іх бацькоў і ўгаварваў Паўла заняць месца побач з Люцяю.

## XI

На заўтра вяселле працягвалася ў хаце Перагудаў. Але бяседа насіла зусім іншы, скромны характар сямейнае пачосткі. Перагуды не хацелі ды не маглі разгарнуцца на шырокую руку. Няхай выбачаць за іхняю ашчэднасць! За двума невялічкімі сталамі хапіла месца ўсім, хто знаходзіўся на вяселлі: сям'я Перагудаў, Лагода з жонкаю і сват Каніца. Адаму Перагудава скромнасць адразу кінулася ўвочы, і ён доўгі час не мог сабе ўявіць, чым гэта растлумачыць. Мулкая гордасць малявала ўчарашнюю пыху, якую ён, Каніца, падняў козырам на ўсе Ружаны, сабраў на ёй усю грамадскую ўвагу—не, яна сваім бляскам і шырынёю ніяк не магла ўціснуцца ў шэрыя цесныя рамкі перагудаўскіх абставін. Пад выглядам сватоўскае гасціннасці, абяцаючыся першаю чаркаю, ён вывяральным узрокам абвёў навакола цесную нізкую хату, просты сялянскі пол з сабранаю ў кутку кучаю лахманаў, асеўшую гарбатую печ, нізенькую столь, і ёмка ўтапіў у гарэлцы несамавітае ўражанне.

Непрытульную для Каніцаў абстаноўку крыху прасвятляла Паўлава прысутнасць. Люця зацяжна ўглядалася ў яго бок, ад чаго выраз яе твару рабіўся, здаецца, сумнейшым, і заметна нервавалася, калі Павал галоўную ўвагу аддаваў не ёй, а сястры—Вольцы. Кожны Паўлаў намер адхіліцца к Люці, Волька рашуча нібы дэманстрацыйна, перарывае. Проста нахабства нейкае... Люця не магла ўтрымацца ад паўстаўшага

хваляваньня, і, каб не пры ўсіх, яна-б разыграла сцэну... Ах, нарэшце!.. Паўлава прасветлая ўхмылка занядбала сястрынай перасцярогаю—накіравалася да Люці, пракалола сэрца, абегла прыемным халадком па стомленай у млосці істоце. Якім цёплым і ўсёпрашчальным поглядам адказала яна Паўлавай ветлівасці!

— За госця!

Люцыя не разлічвала выклікаць гэткага водгуку на свой гэст, які атрымаўся і дала выгляд, што ёй няёмка ад накіраванай да яе ўвагі. Але тут-жа ўзяла сябе ў рукі.

— За ваша новае, шчаснае жыцьцё!—паабяцаў Павал.

Быццам усе гэтага і ждалі.

— За гасця з маладымі!—выгукнуў, прыўстаўшы, Каніца.

Ён ужо ружавеў ад віхрыўшага ў галаве хмелю, і вочы свяціліся прытуманенымі ўзрокамі. Але думка пакуль працавала трапна. Мармынуўшы штосьці невыразнае ў нерашчэсаныя, крыху ўвільгочаныя вусы, ён сцешыў сябе адкрэсленаю думкаю: «Чулая ў Паўла душа! Адзыўлівы чалавек! Ні ў чым не адмовіць». Лісьлівая самаўпэўненасць развязала яшчэ больш яго і без таго вёрткі язык.

— Добрых мала сыноў, Лявон,—абярнуўся к Перагуду:—і я ве-эдаў, сват, за каго аддаваць сваю дачку. Я Люці—няхай скажа сама—цвёрда і ўпэўнена сказаў яшчэ перад сватамі: «ведай, дачушка, ты лепей Пятруся сабе пары не знойдзеш... Не абмылішся»... Так... сям'я... твая Перагудаўская сям'я, браце Лявоне, у мяне ў вялікім пачоце... А што варт твой зяць, сваце, Васіль Лагода! Пашукаць у свеце... І калі я, памятаеш, Васіль—(Адам хітра, з-пад напушчаных броў зірнуў на ўміленнага Лагоду)—сказаў яму калісьці—толькі мяркуй на Вольку Перагудчанку—тысячу раз быў праў... І ўсё яно...

Каніца гайдануўся, абводзячы вострым узрокам па застольлю.

— Было-б вельмі латва, каб не гэткі падышоў шаломны час... каб не гэтыя ўсякія мітрэнгі, гэты бальшэвіцкі...

Ён ні то несхаця, ні то знарок папярхнуўся і неяк ураз ліва, канвульсіўна здрыгануўся і бязвольна апусціўшыся на месца, зачырвонены, як рак. Потым падозрана паглядзеў на Паўла і прыкусіў губу. «На вошта я так адкрыта разляпаўся языком», ушчунуў самога сябе... Але яму прышоў на падмогу Васіль Лагода.

— Вып'ем, дзядзька, за тое мінулае, што ўжо яго не вярнуць,—завадзіў ён поўнаю чаркаю перад Адамавым носам. І калі, злёгку ўроўнаважыўшыся, Каніца зноў выпрастаў тулава. Павал едка кінуў на стол:

— Так, ужо мінулае не вернецца!..

Лявон мо' адзін уявіў сабе поўнасцю і тон і сэнс сыновага сказа, бо выразней за ўсіх успырняў яго развяселеным тварам.

— А на вошта яно каму?

І стары Перагуд наўскос зірнуў да Каніцы: той, як нёс к губам чарку, так знянацку затрымаў руку і ад Васіля павярнуў галаў да Лявона.

— Не кажы, сват, мінулае было нядрэнным...

— А для каго?..—не згадзіўся Лявон, намерыўшыся стаяць на тым, што адчуваў.

— То мо' ж усё-ткі вып'ем?—запытаў Каніца.

— За сёнешняе і за будучае! Мы дажываем, а жыць ім...

Сваты выпілі, кожны за сябе, і абодва лагодна паглядзелі на маладых.

Павал з Волькаю паапладыравалі старому бацьку, які так молада развважаў, і паглядзелі на брата.

Пятрусь аставаўся ў нейкім аняменні: яго пачуцці блытала, труіла Люця. Каб не Павал, ён-бы, трэба думаць, не пачуў-бы яе слова. Толькі Паўлава прысутнасць дазволіла засведчыць, што Люця яшчэ не забылася жывых рухаў... «А можа, менавіта, Павал якраз і звязвае яе сваёю наяўнасцю?»

Балючая рэзь паласнула ў Пятруся па сэрцу. Перад ім мігалася жончына рука з накіраванаю к брату чаркаю, гудзеў тост. «Сапраўды, і трэба-ж было Паўлу якраз трапіць на вяселле! Што-б яму які тыдзень забавіцца! Прыехаў-бы на жніво, калі-б... Калі-б»...

Паправіўся: «прычым тут Павал! Наадварот, ён увесь час вядзе сябе стрымана, нават як быццам цяжыцца ды чужыцца збегшымі абставінамі. Яго займае Волька, да якое брат бліжай сябе трымае. Тут віною Люця... адна Люця... Але навошта Паўлу пазіраць на яе з нейкімі скрытнымі намекамі?»

Пятрусю рабілася млосна сядзець за сталом—ды няёмка было выходзіць... Ён пачынаў нервавацца, укорліва і сурова пазіраючы на жонку.

Усё гэта выклікала ў Паўла адну гіронію, і жарты, але далёка не жартлівымі аддаваліся Люціны паводзіны ў адчуваннях Пятруся. Перад братам пачыналася новая старонка індывідуальнага жыцця, як яно павернецца пры гэткіх цікавых сімптомах? Павал не хацеў разуверваццa ў браце, якога, праўду сказаць, ён не дасканала і ведаў. Восем год пасля апошняе стрэчы, вельмі кароткай і мімалётнай, яшчэ больш узмацнілі тую радняцкую адчужанасць, якую склалі ўмовы сямейнага жыцця. Калі меркаваць па маладых гадах, то Павал помніў, што Пятрусь валодаў многімі дадатнымі рысамі ў сваім характары. Непадатлівасць і самастойнасць у суджэннях, настойлівасць у задуманых рашэннях выдавалі юнака Пятруся за непахіснага і прамадушнага чалавека. Але таму многа гадоў, за якія ўсё магло змяніцца. Пераломныя гады прайшлі без Паўлавага назірання за братам. Як сфармаваўся яго характар, можна будзе сказаць толькі пасля дэталёвага азнаямлення. У кожным разе нельга было дапусціць, каб Пятруся «жанілі», каб у гэтым акце не выяўлялася, калі не поўнасцю, то ў вялікай меры, воля і самастойнасць дваццацічатырохгадовага чалавека... Толькі своеасаблівы, насцярожна-папераджальны погляд мацеры, з якім Домна сачыла за маркотлівым Пятрусём, наводзіла Паўла на некаторыя сумненні ў яго цвёрдасці. Куды гэта варта!...

Павал звярнуўся да сястры, аднак не паспеў выклікаць яе на адказ, як угледзеў разам з усімі, што Пятрусь крута сарваўся з месца і рэзкімі рухамі павярнуў вылазіць з-за стала. Яго твар выдаваў грознае абурэнне, нават працяўшае Люцю. Тая порстка заёрзала на месцы, пачырванела і сярдзіта хапіла яго за руку, каб прытрымаць. Пятрусь крутым рыўком вырваў руку з Люцінай, штосць сурова ёй праказаў і апынуўся на хаце. Да яго працягнуліся рукі Каніцы і Васіля; упрашальныя міны ляглі на іх тварах. Люця хвалявалася, не знаходзячы сабе месца. Яна мімаволі апынулася ў стане вінаватай. Каб хоць чым паправіць становішча, Люця ў сваю чаргу порстка вышмыгнула на хату, накіраваўшыся ў адчыненыя дзверы.

Мірная бяседа была парушана; усе замітусіліся; хто прыўстаў з месца, хто насцярожна адвярнуўся ад стала.

— Што-а вы, дзе-эці-ы!—укорліва паслаў па адрэсу маладых разгневаны Каніца.

— Але...—разняў рукі Лявон.

Ён не паспеў іх зложыць, як раптам у хату ўляцела, задыхаўшыся, якаясць дзяўчына-падлетак; спыніўшыся ў парозе, голасна загукала:

— Дзядзька Адам!.. дзядзька Каніца!.. Да вас з сельсовета прышлі... Дзяўчына з паперамі і нейкі мужчына... Прасілі вас паклікаць дамоў...

Дзяўчына спалохана, быстрымі сінімі вочкамі забегала па затрапятаўшай у буйнай дрыготцы Каніцавай постаці. Васіль хацеў праказаць што-небудзь супакойваючае, але нічога гэткага не ўспала на думку. Толькі заблішчэўшыя шустрымі агенчыкамі яго рудыя вочы перакідалі ўзрокі ад Паўла на Каніцу. Апошні падазрона азіраючыся ўтароплена падаваўся да прыбегшай дзяўчынкі, якая адразу вышмыгнула з хаты. Лявон працягнуў за сватам руку, але той, азіраючыся навакола сябе, быццам чаго шукаючы, сказаў:

— Трэба даведацца, што там робіцца... Аксеня адна не дасць толку. Я зараз вярнуся.

Ён спешна вышаў.

Люця спагадліва паглядзела на бацьку, і з надзеяй на падтрыманне, падыйшла да Паўла. Ніхто не заўважыў, ці яна што шапнула яму на вуха, ці проста так, ад аднаго яго ўзроку сагнала з твару сумлівасць, але рэзва выбегла ў дзверы. Пятрусь угледзеў, як яна хутка мігнулася ў вокнах.

Ён зазлараднічаў і не сумеў захаваць гардлівага настрою. Волька злавіла гэта. Да чаго гэткая надмерная ўражлівасць?

— Люця зазіраецца на Паўла. Ты пільней прасачы за ёю—хацела пажартаваць.

Але гэта аказалася непрадуманымі жартамі. І дарма яна зарагатала, весела паглядзеўшы на ўсіх. Павал, як і след, прыняў Вольчыны словы за сігнал, а Лагода хітра, у стол, ухмыльнуўся. Старыя Перагуды ўважліва пазіралі на Пятруся і бачылі, як ён прыкметна злаваў.

— Што там магло стацца, у бацькі, бач?—задумліва папытаў Лявон, пазіраючы па чарзе на абодвых сыноў.

Яму хацелася вывесці Пятруся з душэўнага разруху, для якога, па думцы старога, не было важкіх даных.

— Ведама што... сельсовет чэпіцца...

— Лагода сказаў і паглядзеў на Паўла. Таму Волька расказвала штосьці пра калгас і прыцішаным голасам скланяла мужава імя. Васіль насцярогся.

— Вось кінь мяне спавядаць!—калюча кінуў ён жонцы.

— Ха-ха-ха!—залілася Волька лёгкім рогатам:—Няўжо ты думаеш, што я брыдкае што кажу аб табе...

— Не да часу, бо...

Пятрусь наўскос пазіраў на бацькоў, перабіраючы пальцамі па стале; яму несядзелася і нестаялася спакойна: выпітая назнарок чарка наліўкі не прыдала ўтаймавання. Раптам памкнуўся ў дзверы. Павал тузнуў яго за крысо жукеткі:

— Пасядзі!

— Цесцю прыпякае! Шкада—нечакана для сябе паскардзіўся ён.

Павал здзіўлена вырачыў вочы.

— Не заплач, хоць!—пажартаваў.

— Сват не малы хлопец... і не дурны чалавек...

Лявон пагладзіў бараду, не цікавячыся Каніцавай прыгодай.

— Тут не на хітрасць, а на сілу,—падаў Лагода.

Павал паглядзеў у вакно.

— Вось Люця вяртаецца,—папярэдзіў Пятруся.

Усе павярнуліся да дзвярэй: Люця чымсьці ўсхваляваная варвалася ў хату. Моцна дыхала, разгублена глядзела.

— Што там?!—трывожна запытаў Пятрусь.

Люця нічога не адказала; яна спынілася каля Паўла і, адсопшыся, праз хвіліну, ці болей просячы праказала:

— Вас прасіў бацька прыйці! Вельмі прасіў... чакае...

Павал пераглянуўся перш з Волькаю, пасля з Пятрусём; занедаўміўся. І здзіўлена:

— Мяне-э? Чаго?

Адмоўна кіўнуў галавой.

Люця збянтэжана скаланулася і падазрона аглядзелася па хаце. Стрэўшыся поглядамі з Пятрусём, мігнула яму вачмі, чуць прыкметна кіўнуўшы галавою ў Паўлаў бок. Следам павярнулася ў бок Волькі, але раптам апусціла вочы. Пятрусь насцярогся, не ўясніўшы, чаго яна ад яго хоча і паглядзеў на жонку.

— Там прышлі з сельсовета... Бацька просіць... Прасі Паўла, каб...

Люця больш нічога не магла сказаць, бездапаможна выбегла з хаты.

— Мо' б ты прайшоў?—няўпэўнена праказаў Пятрусь да брата, прасякнуўшыся спагадаю да жонкі.

— Ці-ж там без яго...

На Вольчынай руцэ лягла важкая рука Лагоды. Калі Волька паглядзела на мужа, той пагрозліва, насупіўшы бровы, сурова намаргаў на яе вачмі.

— Вось ты маўчы...

Ружовасць прабегла па Вольчыным твары: не спадабала.

— Хіба пайдзі, сынок,—абярнуўся Лявон да Паўла.

— Але, прайдзі такі,—паправіла Домна.

Павал паглядзеў на Вольку, неахвотліва падняўся з месца і нехаця вышаў з-за стала.

## XII

Каніца расхваляваным спяшыў дахаты. Яго ногі дрыжэлі, хоць з выгляду ён стараўся быць спакойным. Думкі нараджалі акрэсленыя надзеі—яны ўпіраліся ў Паўла. Як трапна Павал падаспеў у Ружаны! Не, цяпер становішча інакшае. Няхай крыху астудзіць сваю рызыку сельсовецкая... Грубая лаянка кляшчом уелася ў яго каструбаты язык. Але на гэты раз Каніца ўспомніў пачуццё непрыстойнасці: ці варта лаяцца, калі дома Павал. Ён азірнуўся, не спускаючы з думкі спосаба, якім-бы запрасіць яго на падмогу. А можа Павал здагадаецца і прыдзе сам? Каніца затрымаў хаду перад брамкаю ў свой двор і абярнуўся назад: яго даганяла Люця.

— Чаго?

Пачакаў.

— А Павал?

Яна азірнулася.

— Пайдзі пазаві!

Люця ахвотна споўніла бацькаву просьбу: у тую-ж хвіліну вярнулася назад.

Адам прасачыў за дачкою, пакуль яна не схавалася з ваччу.

«Дарма я сам не папрасіў! Але нічога! Павал не адмовіцца»... самаўпэўніўся, рашуча бразнуўшы вароццамі.

Яніна Крэмень з сакратаром чакалі яго ў двары.

— Ну, вось і добра... Вам, дзядзька, трэба распісацца,—паведаміла яна...

Каніца асалавеў, разгублена пазіраючы на сельсоветчыцу.

Шчуплая, дробная постаць, цёмныя смарагдавыя вочы на маленькім белым твары, перавярнулі ўсё Каніцава нутро.

— Пройдам у хату,—прыдаўленым голасам вымавіў ён.

У дзвярах нагнала іх Люця.

— Не ўпрасіць!—шапнула бацьку на вуха.

Каніца выпусціў з-рук замок. Млосць расплылася пад сэрцам, звязала ўсе рухі. Яшчэ ні разу дагэтуль ён не адчуваў сябе гэткім бязмоцным, нікчэмным, бездапаможным, як у даны момант. Пераступаючы парог, ледзве справіўся з нагамі, аця жэўшымі, нібы да іх хто падвесіў пудовыя калодкі...

Але хатняе паветра крыху яго падбадзёрыла:—пасмялеў, выраўняўся. З адценнем дзерзасці запытаў у Яніны:

— Я вам, значыць, патрэбен?

— Так...

Яніна падышла да стала, разлажыла папку з паперамі. Каніца з воддаль узіраўся, як яна шустрымі махамі рукі перагарнула з дзесятак паперак і тут-жа выняла доўгі ліст, падняўшы яго над сталом.

— Вось вам... Падыйдзіце сюды.

Каніца сарваўся з месца, зрабіў некалькі цяжкіх крокаў і спыніўся на адгон працягнутай рукі, нехаця пераняў працягнуты к яму ліст. Паперка зашамшала ў яго дрыгатлівай руцэ. Вочы ўеліся ў дробны шрыфт зместу.

Люця падбегла да бацькі,—ціхім махам рукі той адаслаў яе на месца.

— Без змены?—не адгінаючы галавы ад ліста, запытаў суха Каніца.

— Так... Сельсовет не знайшоў ніякай прычыны ўнесці хоць якую змену... Трыста пудоў!...

Каніца, як ад ветру, хістануўся, развёў рукамі, вытрашчыў вочы на Яніну.

— Дайце рады, таварышка... Няўжо гэта вы на сур'ёз? Удумайцеся толькі, што вы робіце са мною? Вам няйначай, як нехта нахлусіў на мяне...

Ён абарваў рэзкія словы апраўдання—выпаў ліст, адляцеўшы чуць не да Люці. Тая порстка сарвалася з месца, знарочыста зграбяшчыла паперу ў жменю, камяком падала бацьку.

— Ці вы маеце лад?—распрастаў ліст Каніца, атупела зорачы ў адну кропку—у сабраны Янінін твар.

— Адоляеце, дзядзька... нічога... Не прыстаўляйцеся сіратою...—спакойна, але цвёрда адказала Яніна.

Каніца даў волю пачуццям: схамянуўся. І падкрэслена дзёрзка запытаў:

— Гэта ваша канчатковае рашэнне? І ніякае ўступкі?

Яніна апынулася на нагах. Моўчкі ўладавала ў папцы паперы, завязала шнурок.

— Сельсовет—не прыватніцкая крамка... Пашлі!—праказала яна да сакратара.

Каніца падаўся ззаду.

— Таварышка...

Памкнуўся штосьці праказаць, ды Яніціна рука лягла на клямку і рэзкі бразак разлёгся па прасторнай хаце.

Люця шарахліва азірнулася назад, дзе ў глухім закутку абарваўся

апошні гук. У гэты момант Каніца спрытным заскокам хапіў Яніну за руку з папкай.

— Я прашу вас, таварышка, знарок не ўскладняць справы. На вошта дарма губіць час на захады па вышэйшых установах. Касавіца на носе, жніво... Няўжо вы думаеце, што я нідзе не знайду праўды на ваш бесправўны ўчынак?...

Яго лахматая галава краху апала кнізу, каб ямчэй было зазіраць Яніне ў вочы.

Сельсоветчыца ўпічліва пакачала галавою.

— Нічога—паднатужыцеся...—адабрала з яго рукі папку.

Каніца адступіўся к боку. Яніна папхнула рукою дзверы, але не разлічыла: рука павісла над парогам—хтось адчыняў дзверы з сянец. Яна знянацку падалася за вушак. Вайшоў Павал.

— Добры вечар у хату!

Каніца з Люцяю ўміг выраўняліся ў струнку. Іх узрокі прыліплі к Паўлавай постаці. Сельсоветчыца ўважліва, з прыкметным недаўменнем узіралася ў стройную фігуру Перагуда, у яго прыгожы румяны твар.

Знакомыя рысы... Павал...

Неспадзяваная стрэча звязвала яе язык.

Радасная ўхмылка, што асвятліла Паўлаў твар пры першым Яніным узроку, аддалася ў сэрцы ласкаю ды мілай уцехай. Як і Крэмень, Павал некі час, паказаўшыся досыць доўгім, нават зацяжным, нічога не мог вымавіць. Абое маўчалі.

Каніца некалькі разоў пераглянуўся з дачкою, якая ўедліва, адчуваючы вострую зайздрасць, напружана ўзіралася ў Паўла. Яго послух, прывёўшы ў бацькаву хату, напаўняў Люціна нутро трапятліваю ўдзячнасцю і разам—падазронасцю. Няўжо тут адна сухая фармальнасць? На момант бацькавы інтарэсы засланіла завабная, мужная постаць Паўла. Адам стаяў у глыбокім задуменні, злёгку прыгорблены націскам думак; галава ўехала ў прыўзнятыя плячукі; рукі, у адной з якіх быў белы ліст паперы, абвяўшы віселі ўсцяж прыгнутых у каленях ног. З-пад навісшых, шчацінiстых броў, прытупленыя вочы свідравалі ўзрокамі адну невыразную цёмную кропку, якая разбежнымі кругамі несупынна вярцелася перад вачыма, то наблізжаючы да яго бясчулы Паўлаў твар, то затуляючы яго постаць вёрткай, калючай фігурай Яніны. Ён не разбіраў, што яны гутарылі між сабою, хоць Павал уголас пытаў:

— Ты-ж якім чынам трапіла сюды?

Ён трымаў Яніну руку ў сваёй.

— Я-як я, а, ну, а твой сюды прыход мне зусім неспадзяваны,—чуць усміхнуўшыся, адмовіла Яніна.

Павал паглядзеў на чакаўшага пры парозе сакратара сельсовета і тутжа прыкмеціў; як Каніца рушыў з месца, зашамаўшы лістом паперы. Следам разняў губы, хочучы штосьці сказаць, але толькі сумеў кашлянуць і зноў прыняў ранейшую паставу.

— Працуеш па савецкай лініі?—пацікавіўся Павал, кінуўшы Каніцу. Ён гасцінна ўхмыляўся.

— Як бачыш.

— І даўно ў нашых краях?

— У «вашых»?

Яніна не ўтрымалася, каб уголас не засмяяцца.

— Пратэнзія не ўмеру?

— А ўжо-ж... Месяцаў са тры... А ты якім чынам?

— На отведы старых бацькоў... І табе... у дапамогу...

Яніна не зразумела і здзіўлена паглядзела Паўлу ў вочы.

Абое падступіліся да дзвярэй. Павал адчыніў і прапусціў яе, затым сакратара. Калі ён наважыўся пераступіць у сенцы, то адчуў на сваім плячуку Каніцаву руку. Адвярнуўся і пачуў умольную просьбу:

— Павал Лявонавіч, на адну хвілінку.

Каніца трымаў акладны ліст на ўзроўні Паўлавых воч.

Яніна затрымалася пры сеняшніх дзвярах, падазрона азірнуўшыся на хатнія дзверы, дзе стаялі Каніца з Паўлам.

— Вы не абмацаеце клямкі?—гукнула ёй з хаты Люця, думаючы, што Яніна шукае як адчыніць дзверы.

Яніна пачула Каніцаву скаргу:

— Каб ты ведаў, суседзе, што са мною тут вытвараюць! Зрабілі проста памешчыкам і аблажылі—паверыш?—не вынесу. Ласне мне пад сілу, Павалка, выплаціць трыста пудоў? Ці-ж мы—ды ўжо я адзін... як бачыш, змагу столькі сабраць... Што гэта людзі сабе думаюць?..

Яніна ўжо праз вакно прыкмеціла, як Павал пагледзеў на пераняты з Каніцавых рук ліст.

— Во-а, трыста пудоў!—ткнуў Адам пальцам у ліст.

— Так, трыста пудоў! пераказаў Павал, глянуўшы на моўчкі стаяўшую Люцю.

Яго думкі блытала Яніна Крэмень. Ён рваўся выходзіць.

— Закінь слова, суседзе... Або-ж я сапраўды гэткі вораг савецкае ўлады, каб да мяне не знайсці літасці? Прашу цябе, Павал Лявонавіч... Табе лягчэй гэта... Угавары іх... Я цябе прашу...

Не прыслухоўваючыся да Каніцавых слоў, на хаду, Павал аўтаматычна адказаў:

— Добра, пагавару... Нічога...—і сарваўся з месца.

У гэты момант пачуўся стук у вакно і следам вокліч Яніны:

— Павал Лявонавіч, я чакаю!..

Каніца выпусціў Паўла, злосна азірнуўшыся на вакно. З-за брамы данеслася:

— Ты-ж чаго гэта яму наабяцаў?

Адам напружыў слых быццам спрасоння ён улавіў Паўлаў голас:

— Калі, каму?

Непаслушнымі крокамі ён вярнуўся ў хату, а ў гэты час тонкі стройны палец сельсоветчыцы многазначліва заківаўся перад Паўлавымі вачыма і Павал не прыдаў сур'ёзнага значэння Янінінай заўвазе, а хутка выпусціў з думак Каніцу. Яго хвалявала нечаканая стрэча з ёю.

За два гады сумеснай работы на заводзе «Сталінец» Павал усебакова вывучаў гэту жывую, бойкую комсамолку. Энергічная, заўзятая, напорыстая Яніна ўсяляла ў яго цвёрдую веру і абнадзеенасць. Праўда, Павал мог-бы закінуць ёй некаторую, уласцівую ўзросту гарачлівасць, захапленне, але гэта ўсё ўступала цвярозаму сталаму аналізу, сур'ёзнаму падыходу да справы. Вытрыманая, дысцыплінаваная комсамолка, Яніна абяцала з сябе даравітага, падгатаванага работніка, які хутка сумее арыентавацца ў розных умовах. Яе дзелавітасць, тактыка ў абыходзе з людзьмі, заўсёды да часу і на месцы. Мяккасць і лагодлівасць, якія кідаліся ў вочы, не змянялі рашучасці і настойлівасці, дзе гэта вымагалася справамі дзяржавы, савецкае ўлады, комсамола, партыі, соцыялістычнай радзімы. За гэта Яніну высока цанілі на заводзе. Рабочы калектыў падтрымліваў яе аўтарытэт...

Калі яна па загаду ЦК адпраўлялася на вёску, Паўлу шкада было расставацца і з дзелавога боку; якраз на заводзе праводзіўся штурмавы дэкаднік. Яніна ўся акуналася ў работу—начамі не пакідала завода; яе ў кожны момант можна было застаць у любым цэху, у заўкоме. Але пярэчыць мабілізацыі ён не хацеў. Яніна будзе карыснай у вёсцы так, як і ў горадзе. Справа калектывізацыі не павінна цярпець...

Нне-э, яна не папусціцца агульнымі інтарэсамі ў угоду каму-б не было. Бач, як рахмана пазірае на яе гэткі здаравяка...

У той момант, калі ён намерыўся зацішыць хаду, Яніна якраз павярнулася да яго і загутарыла. Мякка і лагодна. Павал замёр, насцярогся.

— Спраў багата,—пачала яна.—А сёння вось, к таму яшчэ набег канфлікт з-за пашы паміж аднаасобнікамі і калгасам... Ніяк іх не паладзіць... Пад выганам гектараў з дваццаць адмысловае зямлі і няма чым замяніць яе для ружанаўцаў... Калгас, аднак, прэтэндуе ад сябе... Сёння ружанаўцам не дазволілі пасвіць на выгане... Калгас бярэ пад поплаў... магчыма ждуць мяне ўжо вяскоўцы...

У прачыненае вакно сельсовецкага будынка прасунулася чыясьці кудлатая галава. Прыкмеціўшы Яніну, галава мігам схавалася за сцяною.

— Я і казала... Заўважыў?

Яніна спакойна засмяялася.

— Цікавая праца ў вёсцы!—пахвалілася яна тут-жа.—І разам з тым вельмі складаная часта бывае: сплануеш так, а раптам усё шыварат-навыварат... Як патрэбна чулая манеранасць, гібкасць. Да прыкладу—Каніца. Замаліўся-запрасіўся, ну, проста старац... Што рабіць—і многія за яго: ні то па-суседску, ні то па спагадзе... Пакуль раскусілі... Столькі, ведаеш, нахабнасці ў гэтага чалавека. Чуць не папалі ў сіллё. А сапраўды—і трыста пудоў мала... Ты дарма яму паабяцаў, Павал!

У вакне ізноў мігнулася сюды-туды тая-ж лахматая, нецярплівая галава.

Яніна падала Паўлу руку.

— Ну, пайду, мяне чакаюць! Глядзі, больш Каніцы нічога не абяцай! Наведвай! Я вунь у той хаце з белымі вокнамі здымаю пакой,—паказала Яніна наўскасяк ад сябе на густа зарослы палісаднік перад новаю, захаванаю ў зеляні хатаю. З-пад парога азірнулася. На яе твары зіяла светлая ўхмылка.

(*Працяг будзе*)

Александр Кутатэлі

# БЕЛАРУСЬ

**(Урыўкі з паэмы)**

*Прысвячаю Іло Мосашвілі*

Быццам дуброва Аджамецкая
Над Сожам раптам паднімаецца.
Друг Іло, глянь, якімі кветкамі
Зазіхацела сонца раніцы.

Блішчаць праменнямі блакітнымі
Нібы пушынкі, хмаркі лёгкія,
Як вечнымі снягамі ўкрытыя
Хрыбты Каўказскія далёкія.

Я пазнаю вас, горы родныя!
Псы брэшуць, пеўні адзываюцца,
Вёска махеўская дрымотная,
Казбек, пад леднікам хаваецца.

Тіфліс і Мцхет адгэтуль блізка так,
Панад Курой сады пахучыя,
Каджорскі ветрык грае ў лісцейку
У ноч ліпнёвую, бліскучую.

Над Сожам песня плытагонская
Цягуча-нудная і смутная —
Зусім, як тая песня сванская,
«Лілео», як скала магутная...

Так я сказаў і золак ўспеніўся,
Як хвост паўліна, ўзвіўся фарбамі,
Быццам міражы, ён рассеяў ўсе
Ў высокім небе здані хмарныя.

Народ шумеў перад вітрынамі,
Гудкі гудзелі зычным поклічам
І вуліца, як вар, няспынная
Грымела, як арган, нямоўкнучы.

Яна у браму упіралася
Паскевіча, «ваякі смелага»,
Дзе дрэвы-волаты хісталіся
Над вежамі палаца белага.

II

Калісь гэтыя залы поўнілі
Тканіны, люстры самацветныя.
Зал графа-ўладара над Гомелем —
Флоберам мог бы быць апеты.

Граф паднімаў арлоў імперыі
І Польшча сцяг свой аддала яму,
І Турцыі дарогі мерыў ён,
І Персіі—краіны дальняе.

Ён добра помніў здачу Арзрума
І Ахалцых з Ахалкалакамі
І гром гармат расійскай арміі,
Багатай палкімі ваякамі.

Вярнуўся ў замак свой Варшаўскі князь,
Граф Эрыванскі са здабычаю:
Каменні там, шмат залатых акрас
І арнаменты маляўнічыя,

І падарункі Шах-Абас-Мірзы
І золата Дэіхагарскае,
Амфоры ў цвеце залатой разьбы
І дываны, і троны царскія.

Усё, усё было у графа слаўнага,
Кароны царскай не было яшчэ
І з лёсам нават вёў змаганне ён,
Каб абяссмерціць сваё прозвішча.

І Рауха рукой пяшчотнаю
У помнік яго рысы ўсечаны,
І Сухадольскага палотнамі
Штурм Ахалцыха ўвекавечаны.

Граф, палкаводзец, пан праслаўлены,
Кановы геніем адзначаны,
І на грудзях усе рэгаліі
І найвышэйшы чын фельдмаршала.

Сабраў ён скарбы самацветныя,
Майстроў даўнейшых творы дзіўныя,
Усе пэрлы генія сусветнага
У палацы ясныя, гасцінныя.

Вось падыходжу, як вандроўнік, я
Да замка гэтага квяцістага;
Усе ліпы нават тут запомнілі
Балы, гулянкі урачыстыя.

Сяляне сцежкаю далёкаю
Ішлі ў лапцях, аглядаліся,
Як ліп вершаліны высокія
Нібы ў Купалле азараліся.

Бядноце—голад, смерць суровая,
Балотам, Сожу не нажалішся!
Гнілі ў балоце хвоі хворыя,
На ветры лён з травой хісталіся.

III

Ішла дзяўчына сялянская
З вёдрамі, з цяжкім каромыслам.
У бярэзніку сына панскага
Сустрэла. Ён не саромеўся.

Белыя косы звіваліся,
Сарочка цвіла вышываная,
Паніч адыходзіў, зухваліўся —
Ліхая усмешка панава.

У полі хвойка хісталася,
На ўзвышшы—макі пунсовыя.
Палаца агні адбіваліся
Уначы аж над Рагачовам.

Помсты агонь не пагасіцца —
Гарыць ім сэрца сялянскае.
Андрэй з'явіўся ў сямнаццатым
Першай вяшчуняй-ластаўкай.

Рабочы, шынель салдацкая,
Кліча да справы суровае.
І павёў ён сілу бядняцкую
Воляй сваёю сталёваю.

Гэй, гэй бедната разгулялася
Змоўклі палацы багатыя —
Толькі коннікі з песняю мчаліся:
«Гэта бой наш астатні!»...

Кіпела змаганне жорсткае,
Пелі кулі, як апантаныя:
Не ўстаяла рапь белапольская
Прад рабочымі, прад сялянамі.

У рабочай Расіі помнілі —
Прышлі з дапамогай братняю,
Паўсталі ліцейшчыкі Гомеля
І пайшлі на бойку ўпартую.

Акопы кругом круціліся,
Гарматы галёкалі з дыму.
Героі адважна біліся
За советы ў сваёй радзіме.

У небе агні раіліся
Як тыя макі пунсовыя,
Пажары ўночы свяціліся
Да самага Рагачова.

IV

Жахлівыя дні мінуліся,
Часіна крывавых бед.
З крывавых стэпаў вярнуліся
Гікала і Галадзед.

Прышлі з баявога поля
Шынелі чырвонаармейскія,
Каб мудрасцю, працай і воляю
Узбагаціць краіну савецкую.

Каб Беларусь шматпакутную,
Ахвяру царскае псярні,
Зрабіць вялікай, магутнаю
На вольных савецкіх абшарах.

Каб фабрыкі нараджаліся
Над Дзвіной, над Дняпром, над Сожам,
Каб машыны там нараджаліся
Замест дзедаўскіх сошак.

Каб нідзе падобных не зналі
Заводаў на зямлі,
Каб расплаўленыя металы
Ручаямі з пячэй цяклі.

Каб рабіць для вёскі, для горада
Прылады, варштаты, машыны,
Для неабдымных прастораў
Усяе савецкай краіны.

Шоўк з фабрыкі магілёўскае,
Папера Добруша слаўная,
Чыстае шкло касцюкоўскае,
Менска варштаты складаныя.

Каб на зацвілых тарфянішчах
З гаручага іх перагною
Заблішчэлі моцныя станцыі
Вясёлкаю агнявою.

Каб гэту краіну новую,
Лясы, сады і палі
Нязломныя і суровыя
Байцы нашы берaглі.

Каб сцягі, як мак, пунсовыя,
Уздымаў наш заходні фарпост,
І Сталіна воляй сталёваю
Рабочым шчасце прынёс.

Вось для чаго раскінулі
Сцежкі вялікіх пабед
У байцы з варожай лавінаю
Гікала, Галадзед.

*Пераклаў* АЛ. ДУДАР

Іло Мосашвілі

# ВЕРШЫ З ГРУЗІІ

## Вечар.

Дзяўчына статак з поля гоніць,
бо сонца ўжо на горы пала...
І хмар дымлівая заслона
над сінім небам загайдала.

А над бяздоннем змрокі вісну́ць
як веткі спелых сліў, няспынна...
І зор вялізарныя вішні
на грудзі ложацца дзяўчыны.

## Плытагоны спяваюць па начах

Перад навалай хмары стогнуць,
Грудзямі б'юць крамністы камень...
Мінаюць хвалі плытагоны,
між стромых гор пяюць начамі.

Але гудзіць Кура. Далінай
вятры з дажджамі б'юць з разгону -
і плач нясуць па Карталініі
жанок і матак плытагонаў.

## Самец-фазан

Гарыць на сонцы дзіўны птах
і крыллем б'е, і самку кліча,
што так спявае ў чаратах
і днём яснейшым зоры лічыць.

Лес загудзеў. Птах знік і змоўчыў
у траве кашлатай і густой.
Вось змоўк гушчар. І ён на сонцы
бліснуў бранёю залатой.

Раздаўся стрэл. І паў, як камень,
не можа крыллі распрастаць...
А ўсё шукае ён вачамі
каханку зніклую ў кустах.

### Алень—аленя травой частуе

Алень—аленя травой частуе
і здаволен:
— глядзі, як сонца грэе нас!
Алень—аленя рагамі коліць,
чарот бузуе, топча гразь.

Алень таксама плача многа
над кроўю любай, сваёй аленняй,
грудзямі ўспёршыся на рогі,
нібы хеўсур на меч надзейны.

### Арол і змяя

Пад сонцам душным змяя ляжала...
А потым—змогшы гарачынь,
што чалавек на ногі стала
атруты жала вастручы.

За злосць у радасці адменнай,
зямлёй пашла яна на штурм —
і белы след—атрутнай пены
травой раскінуўся, як шнур.

І раптам з высі дужы, зграбны
арол зляцеў, змяю замкнуў
і ёй нібы крывавай шабляй
па небу сіняму ўзмахнуў.

### Ноч над возерам

Возера. Чаплі. Чаротаў так многа
і месяц у хмарах, нібыццам у лістах.
Над люстрамі вод бакас аднаногі
і бусел схіліўшыся на кастылях.

Ноччу выходзіць імпэтнай паходкай
алень да вады і стаіць да відна —
І п'е і не вып'е ён смагнаю глоткай
возера кубак блакітны без дна.

*З грузінскай пераклаў* П. БРОЎКА.

1934 г. Кахецiя.

Эрвін Краінскі

# БУРА У КАЗАРМАХ

**(Урывак з рамана)**

Каля лесу, у невялічкай каморцы Фэліка-чыгуначніка заселі на доўгіх лаўках: брат паручніка Янак, гарбаты шавец, Фэлік-чыгуначнік з жоўтымі гузікамі на грудзях, два рабочыя з гуты, кучаравы Олек і так званы «хударлявы» Антэк. Быў яшчэ—паручнік Велянак і «Маляр». Каля лесу было спакойна. Толькі таямніча шапталі штосьці стогадовыя сосны і час ад часу бурчэў вялікі Брытан, прывязаны блізка дзвярэй, каб папярэджваць аб прыходзе непажаданых гасцей.

Каморку асвятляла невялічкая газнічка і шчыльна было завешана маленькае акенца.

Калі Велянак пачаставаў усіх папяросамі, «Маляр» сказаў:

— Паколькі сабраліся ўсе, мяркую, што можна прыступіць да справы.

— Правільна, час пачынаць,—дадаў кучаравы Олек.

Астатнія сядзелі моўчкі, пыхкаючы клубамі дыму.

— Перш за ўсё,—папярэдзіў «Маляр»,—той, хто возьме слова, няхай гаворыць каротка, ціха і спакойна.

— Цяпер-жа не час барацьбы з правымі, як у дваццаць шостым годзе, каб мы за чубы браліся,—пажартаваў Фэлік-чыгуначнік.

— Гэта так, аднак час пачынаць,—сказаў зноў «Маляр»—На парадку дня ў нас адно пытанне: заслухаць справаздачу таварыша паручніка аб цяперашнім становішчы ў палку. Ці ёсць якія змены?

— Было-б шмат пра што гаварыць, але ўзапар усяго нельга. Так і застанецца,—заўважыў хударлявы Антэк.

— Тады слова мае паручнік.

Велянак зірнуў на прысутных, на момант затрымаўся на Янаку, і нешта затрапятала ў ягоных грудзях: твар пачырванеў і ён з хвіліну не ведаў, пра што гаварыць.

Быў гэта сапраўды цяжкі момант у жыцці паручніка. Упяршыню меўся ён гаварыць аб такіх важных справах.

Да гэтага часу працаваў сумленна некалькі тыдняў, але выконваў толькі тое, што яму даручалі. Праўда, досыць часта гаварыў аб справах палка і канспіратыўнай барацьбе, але гэта з адным—найбольш з двума чалавекамі. А тут сёння ўсе яго будуць слухаць, а ён павінен ахарактарызаваць сітуацыю, якая склалася ў апошні час.

Толькі тады, як азірнуўся яшчэ раз вакол сябе і ўбачыў утаропленыя ў яго позіркі, авалодаў сабою, пацёр лоб і пачаў:

— Аб тым часе, калі афіцэры са ўсім сваім апаратам былі бяссільныя і салдаты рабілі, што ім падабалася—гаварыць не буду, бо тое—усё мі-

нулае. Аднак, павінен адзначыць, што той момант мы праваронілі і нашу бесклапотнасць, нашу нерашучасць выкарысталі праціўнікі.

Цяпер становішча ў палку цяжкое. Ячэйка палка робіць шэраг геройскіх намаганняў, але такога энтузіязма, які быў некалькі дзён таму назад сярод салдат, няма. Сярод салдат можна пачуць цяпер такія размовы: «Ужо мы трымалі каня за грыву, а цяпер ледзь за канец хваста».

Трыста чалавек, што прыбылі з пазнанскіх палкоў, гэта горшае зло, як усе афіцэры і пад'афіцэры разам. Вылучана іх па сто да кожнага батальёна, а на роту іх прыпадае па трыццаць, альбо коратка кажучы—адзін сын кулака ці спекулянта на трох салдат нашага палка. Кожнаму з іх давераны тры салдаты, каб сачыць за іх паводзінамі і кожным словам. Кожны вечар разбройваюць наш полк, замыкаюць у пустыя будынкі, упушчаюць па некалькі салдат з кулацкай зграі да кожнай роты, каб не маглі гаварыць свабодна. На службу прызначаюць найбольш адданых пад'афіцэраў, як, напрыклад, сержант Дудка. Апрача гэтага каля ўваходу стаіць караульны з кулацкага атрада і перад кожным будынкам па два карабіны-аўтаматы, наведзены адзін—на вокны, другі—на дзверы.

Сёння зноў прыбылі два атрады.

Гэтыя атрады вельмі небяспечныя: у іх усе разбойнікі, якія праславіліся пагромамі украінскага насельніцтва.

Не зважаючы на гэта, адозвы да салдат яшчэ даходзяць. Чакаць, аднак, нельга, пакуль будуць выкарыстаны апошнія спосабы.

Трэба цяпер альбо ўдарыць па кулаках у часе практыкаванняў, калі маюць вінтоўкі адны і другія і зрабіць тое, чаго мы не зрабілі, калі нам было лягчэй, альбо пакончыць з тактыкай, якую мы праводзім цяпер, і чакаць прыходу соцыялізма іншай дарогай.

— Якая гэта ў цябе там іншая дарога?—спытаў Янак.

— Не перапыняй, дай сказаць,—гукнуў «Маляр».

— Не думайце, што я цяпер пачынаю вылазіць з пялёнак. Ідэяй соцыялізма я цікавіўся перад тым, як пазнаёміўся з вамі.

— Тым лепш—заахвоціў яго «Маляр».

— Вось, калі я быў у Огрудку Ягелёнскім,—паручнік гаварыў далей,—мяне запрасілі мае калегі на даклад аднаго прафесара соцыялізма. Ён казаў, што соцыялізм павінен прыйсці і ніхто гэтага не затрымае, як не затрымае ніхто прыходу дня пасля начы. Але розніца толькі ў тым, што мы хочам накінуць соцыялізм штучны, пры дапамозе ўзброенай сілы, а прафесар гаварыў, што соцыялізма трэба чакаць цэлае стагоддзе...

— Добра ты гаварыў, а цяпер пачынаеш глупства вярзці!—не вытрымаў Янак.

— Чакай, не гарачыся, выслухай да канца, а пазней можаш крычаць,—адказаў паручнік і загаварыў далей.—Апрача гэтага, я чытаў яшчэ здаецца недзе ў Гільфердынга, што пасля вайны свет пасунуўся вельмі далёка наперад да соцыялізма. Там гаворыцца больш-менш так: чым вышэйшая тэхніка, тым больш пролетарыята і менш капіталістаў. З гэтага вынікае, што ліквідуюцца паступовá класы і тады, калі капіталістаў будзе панаваць над сусветнай прамысловасцю зусім мала, з другога боку застанецца толькі пролетарыят, які шляхам большасці галасоў завядзе свой лад і будзе соцыялізм, будзе пазбегнута праліццё крыві. Затым...

— Пачакай, бо не магу вытрымаць...—усхапіўся Янак.

— Супакойся. Няхай выкажа ўсё. Бо тое, аб чым гаворыць паручнік, ёсць самае небяспечнае для яго і трэба гаварыць аб гэтым не адзін раз,—сказаў «Маляр».

— Даць, даць выказацца,—пацвердзілі астатнія.

— Калі не магу вытрымаць і павінен яму сказаць. Ён сам не ведае, што кажа—гарачыўся Янак. — Кажаш унікаеш праліцця крыві?—А ці ведаеш ты, колькі людзей забіваюць кожны тыдзень?

— Ведаю, але калі пачнем затрымліваць вялізнае кола, якое хутка круціцца, дык і нас падхопіць яно сваім імпэтам, як схапіла Міхала, Зохен і іншых.

— Ну, добра. Згаджуся з табою і пакінем зусім у баку партыю, а возьмем прыклады, якія можна бачыць штодзень. У тым, што я Міхал, бацька, уся сям'я Борсаў, двох Будзіеўскіх і шмат іншых засталіся беспрацоўнымі, хто вінават? Ці самы спосаб капіталістычнай вытворчасці? І гэта я паказаў табе на адзін фальварак. А вазьмі ўсе фальваркі, а вазьмі фабрыкі... Ці разумееш ты, колькі ёсць беспрацоўных? Аднак, страўнікі гэтыя людзі маюць і есці хочуць. Што яны, па твойму, будуць рабіць? Дапусцім, што гэтыя людзі не будуць нават ведаць, што такое соцыялізм, і не будуць думаць пра барацьбу за яго. Аднак, яны пойдуць да гэтага капіталіста і будуць біць каменнем у дзверы і будуць патрабаваць, каб ён ім даў есці. Што зробіць капіталіст і абрашнік? Ты ведаеш, што зрабіў у нашым фальварку? Пазваніў у паліцыю і двох забілі на месцы, некалькіх арыштавалі, а пяцёра памерлі ўжо з голаду. Як ты можаш паўтараць словы здраднікаў, не падумаўшы перад гэтым!..

— Таварышы!—перабіў Фэлік-чыгуначнік. Усё яно так, але гэтым часам мы адступілі ад тэмы.

— Усё гэта—наша тэма, таварышы,—спакойна адказваў «Маляр». Потым ён звярнуўся да паручніка, які цяпер маўчаў, і было відаць, што глыбока задумаўся:—Вы хочаце яшчэ гаварыць?

— Асноўнае ўжо ўсё выказаў,—варухнуўся збянтэжаны паручнік.— Я хацеў бы толькі высветліць, што я не стаю спецыяльна за тое, каб чакаць, пакуль само прыдзе. Чытаў сёння кніжку «Дзяржава і рэволюцыя», дзе навукова даводзіцца аб неабходным знішчэнні дзяржаўнай машыны. Дык я сказаў: або ўзяцца і разбураць, як належыць, не кіснуць, або чакаць, пакуль само прыдзе.

— Ні адзін, ні другі спосаб пры цяперашняй сітуацыі не будзе правільным. Дакладна кажучы, другі ніколі не будзе правільным,—абазваўся «Маляр».—Трэба зразумець, што работа, праведзеная ў вашым палку, гэта вялікі падрыў дзяржаўнай машыны. Бо што азначае той факт, калі ўвесь полк павінны вартаваць кулацкія атрады? Гэта значыць, што буржуазія не можа рушыць з такім войскам на вайну. Значыць далей, што з аднаго боку буржуазія не можа выблытацца з крызіса, не можа напасці на Совецкі Саюз, за лік якога хацела-б паправіць сваю гніючую гаспадарку, калі ведае, што такі полк, як ваш, у дзень абвяшчэння вайны Совецкаму Саюзу паверне свае штыкі супроць сваіх афіцэраў. З другога боку гэта значыць, што гэтым часам Совецкі Саюз развіваецца, узмацняецца і будуе соцыялізм, а працоўныя масы, бачачы гэтае, адыходзяць ад тых, што агалошваюць такія тэорыйкі, якія вы паўтаралі хвіліну таму назад, і наносяць удар за ўдарам сваёй буржуазіі. Кідаецеся вы, паручнік, з канца ў канец: альбо рабіць рэволюцыю заўтра, альбо чакаюць яе стагоддзі. Я згодзен, што ў вашым палку можна зрабіць пераварот у самым хуткім часе, а далей што? Трэба азірнуцца, як выглядае сітуацыя ў іншых палках і, урэшце, па ўсёй краіне.

Што датычыць ліквідацыі класаў, як вы тут сказалі, і пра адміранне

дзяржавы—дык буду гаварыць з вамі другім разам, а цяпер памяркуем аб тым, як трэба дзейнічаць у вашым палку на пры...

Тут ён раптам змоўк, бо Брытан пачаў кідацца на ланцугу і брахаць так заядла, што аж душыўся. У каморцы ўмомант патушылі лямпу, а паручнік схапіўся за рэвальвер Фэлік-чыгуначнік скінуў з сябе куртку і штаны, вышаў у сенцы і санлівым голасам спытаў:

— Хто там?

У адказ пачуўся жаночы голас. Але ў каморцы слоў не зразумелі, бо Брытан грымеў ланцугом і заядла брахаў.

— Прашу да акна,—азваўся другі раз Фэлік.

У каморцы гэтым часам адвесілі акенца і сабраўшыяся па чарзе пазіралі, ці не абкружан дом. Неўзабаве яны пачулі, што дзверы ў сенцах адчыніліся і Фэлік гаварыў:

— Брытан, Брытан, супакойся. Уваходзьце, ён цяпер не ўкусіць, бо я трымаю яго моцна.

— Хто-ж гэта можа быць такою парою?—здзівіліся таварышы.

«Маляр» запытаў:

— Нікога больш не запрашалі?

— Не. Ёсць усе, хто павінен быць,—адказаў шавец.

— Проста, проста, да каморкі,—пачулі яны Фэлікаў голас.

Праз хвіліну Фэлік стаяў у дзвярах:

— Не запальвайце там святла. Угадайце, каго прывяла нам ноч. Калі ўгадаеце—сасмажу з поўкапы яек на вячэру.

Усе заварушыліся ўпоцемку і пачалі адгадваць.

— Можа Міхал,—крыкнуў з надзеяй паручнік.

— Таксама не. Бачу, што не здагадаецеся. Свяціце ўжо, гэтыя поўкапы яек сасмажу і без адгадвання.

У адказ на гэтыя словы бліснулі адразу аж тры запалкі і пачуліся воклічы:

— Ах!, гэта ты!

Ізноў каморку напоўніла цемра, бо ўсе рынуліся вітаць прышоўшага. Лямпы не было каму запаліць. Закідвалі пытаннямі адзін перад другім, чуваць было—хлопалі некага ад радасці па плячах аж урэшце Фэлік-чыгуначнік гукнуў:

— Запаліце-ж, кадукі на вас, лямпу! Бо не знайду пінжака.

Бліснула запалка і праз хвіліну жоўтае святло лямпы зноў заліло каморку.

У кутку каля дзвярэй стаяла радасная Зофа. Вочы яе паблісквалі, як і тры месяцы таму назад, агнём, але яна стала значна шчуплейшай.

— Гэта яшчэ раз даказвае, што ты быў не праў.—Смяючыся, звярнуўся Янэк да паручніка.—Хвіліну таму назад хныкаў ты, што імпэт твайго кола ўсіх нас праглынае, а тут маеш яшчэ аднаго большэвіка на волі.

— На самай справе ўжо траха слязы не праліў па табе,—засмяяўся паручнік.

— Як гэта сталася, што ты з намі? Радасна і зацікаўлена спытаў «Маляр».

Зофа бліснула на ўсіх сваімі вялікімі прыгожымі вачыма як-бы хацела ўпэўніцца ці няма тут каго, перад кім трэба быць асцярожнай, потым сказала:

— Сядайце, таварышы, раскажу ўсю гісторыю.

Прысутныя расселіся так, каб Зофа была пасярэдзіне, і яна пачала:

— Раскажу вам усё па парадку: зараз-жа з таго дня, як мяне толькі ўзялі, пачалі нас біць. Гэта яшчэ не было найгоршым за ўсё. Каталі нас многа: наліванне конскай мачы ў нас не было яшчэ найгоршым. «Выспеваеш мне ўсё, альбо жывая не выйдзеш» пагражалі мне. Адказала ім, што хутчэй другое, чым першае. Пасля ўсіх гэтых катаванняў трымалася досыць моцна. Праўда, балелі сінякі, але адпачыла некалькі дзён і зноў адчувала сябе нядрэнна. Толькі калі ўзялі мяне на апошні спосаб «допыту», здароўе адступіла ад мяне.

Зофа змоўкла і слёзы пакаціліся па шчоках. Апусціла галаву, каб выцерці іх неўзаметку, а прысутныя пыталі ў вялікім непакоі:

— Што з табою зрабілі?

— Ведаеце, прабачце мне, што не скажу, бо гэта такое прыкрае, нават няпрыемна пра гэта гаварыць.

— Каты праклятыя!—крыкнуў Фэлік. А астатнія пачалі дапытваць, чым зе пакрыўдзілі. Але «Маляр» сказаў:

— Мы цэнім тваю скромнасць і здагадваемся, да чаго маглі дайсці дыфензыўцы. Але мы ўсе дарослыя, і думаем, што не маеш патрэбы саромяцца таварышоў.

— Не, не, не згвалцілі,—праказала як бы абараняючыся, Зофа. Было і гэта спачатку. Але баранілася я ўпарта: і рукамі, і нагамі і плявала, аж пакуль не адчапіліся. Аднак, пазней мяне страшна каталі... страціла тады я прытомнасць, але яны не даведаліся нічога. З таго часу здароўе маё пагоршылася і захварэла я моцна. У сувязі з тым, што становішча было пагражаючае, доктар прызначыў, каб мяне штодзённа вадзілі ў амбулаторыю. Вадзілі мяне ўжо некалькі дзён, і сёння была там. Пасля агляду ўвайшоў нехта ў габінет, а я накіравалася да дзвярэй, каб выйсці, як заўсёды, у калідор, дзе стаяў вартавы. Ён прыводзіў і адводзіў мяне ў турму.

Адчыніла дзверы і... о, дзіва! Перад сабою ўбачыла вуліцу і вольна праходзячых людзей! Аказалася, што памылілася я і трапіла ў іншыя дзверы. Ніхто гэтага не заўважыў. Выйшла на вуліцу!

Кажу вам, не ведаю, адкуль узялося і здароўе! Знайшліся і ногі здаровыя, і адвага. Аднак, бегчы далёка баялася, каб мяне не затрымалі. Заскочыла на нейкі двор, а пасля—у кватэру. Была гэта кватэра бляхара. Калі расказала я яму, у чым справа і калі ён убачыў, што я работніца, схаваў мяне ў каморку. Праз дваццаць хвілін пачуліся свісткі паліцыянтаў.

— Бачыў я гэтую бегатню паліцыянтаў недалёка ад турмы, акурат ішоў па кнігу для паручніка,—сказаў шавец.

Сход прадаўжаўся. Распытвалі Зофу пра іншых зняволеных, пасля жонка Фэліка паставіла яешню і каву. Зофа распытвала пра становішча ў палку, пра Вайташчыка. Урэшце перайшлі да абмеркавання сітуацыі і далейшай работы ячэйкі ў палку.

* * *

Гэтым часам Герах вярнуўся на кватэру паручніка Велянака па «забыты» рамень. Кватэра была замкнена. Герах вышаў на вуліцу і пашаптаўшыся пару хвілін з нейкім суб'ектам, вярнуўся назад, прымасціўся пад лесніцай і заціх. Праз колькі часу нехта ў цывільнай вопратцы ўзышоў па лесніцы над галавою Гераха, адчыніў дзверы пакоя паручніка Велянка

і ўвайшоў. Герах выпаўз асцярожна і, крадучыся, як кот, падступіў да дзвярэй. Праз замочную шчыліну ён нічога не ўбачыў, бо ў пакоі было цёмна. Пачуў толькі шолах паперы ў баку, дзе была печ.

* * *

Не гледзячы на тое, што паручнік Велянак заснуў ужо пад самую раніцу, устаў ён досыць рана. Спаў неспакойна, галава была цяжкая і не хацелася ўставаць. І раптам ён успомніў, што сёння раніцай павінен занесці адозвы ў полк. Зараз-жа ўсхапіўся з ложка і падбег да печы. У печы ляжала невялічкая пачка надрукаванай паперы.

— Гэта зусім другое,—шапнуў, трымаючы ў руках адозвы.

— Можна ўзяць тысячу іх у кішэню. І прыметна не будзе. Аднак, пастараліся хлопцы.

Ужо сабраўшыся выйсці, расшпіліў мундзір і ўсунуў пад яго адозвы. Потым адзеў рамень з шабляю і старанна яго зашпіліў. У гэты момант нехта лёганька пастукаў у дзверы. Паручнік не меў ахвоты прымаць гасцей, але гукнуў ветліва:

— Калі ласка, уваходзьце.

У дзверах паказалася Люта. Велянак глянуў на яе здзіўлена, стараючыся захаваць заклапочанасць. Яна азвалася першая, згледзеўшы яго здзіўленне.

— Няхай, пан, мяне прабачыць, што так рана раблю напад на кватэру пана.

— Калі ласка. Вельмі рад, што бачу пані ў сябе.—Ён падышоў, каб памагчы зняць ёй плашч.

Люта села на канапцы і спытала:

— Пан знайшоў учора маю картку?

— Так, пані, знайшоў,—адказаў паручнік, неўзаметку аглядаючы яе.

Толькі цяпер зразумеў, як чалавек часамі бывае асеплены. Быў час, калі любіў яе, абяцаў, што толькі яна, а не іншая, будзе яго жонкай. Але ад выпадку з яе бацькам—паручнікам Жэброўскім—унікаў яе свядома і, урэшце, сёння зразумеў, наколькі яна яму чужая. Яна не падыходзіла яму, як жонка. Гэта пустая і дурная, прыгожа-адзетая паненка.

Яна заўважыла, што Велянак глядзіць на яе іначай, чым раней і сказала:

— Пан дзівіцца, што трывожу яго так рана. Але няхай пан мне верыць, што маю для гэтага шмат прычын. Па-першае, не бачылася з панам ужо вельмі даўно,—яна павяла па ім доўгім позіркам,—па-другое—напісала для пана некалькі вершаў і хацела іх прачытаць пану. А самае важнае тое, што ўсю ноч не спала ад трывогі за пана.

— Як гэта ад трывогі за мяне?

— Павінен пан асцерагацца, бо пану нешта пагражае. Не ведаю дакладна што, але ўчора чула праз сцяну, як гутарыў мой бацька з капітанам Болекам.

— Хіба бацька не ў Варшаве? Пані мне пісала, што ён на два дні выязджае.

— Правільна, выбіраўся, але ўвечары прышоў капітан Болек і яны гутарылі з бацькам да раніцы. Шмат чаго зразумець не магла, бо яны гаварылі ціха, але чула, што называлі часта прозвішча пана і пры гэтым вельмі клялі.

Паручнік не хацеў выказаць свае трывогі, таму сказаў весела:

— Прозвішча маё пані чула таму, што мы ўжо знаёмыя з капітанам Болекам. Ён успамінаў, мусіць, наша агульнае мінулае.

— О, не,—запярэчыла яна. Вочы яе набраклі слязьмі і яна пачала прытульвацца да Велянака.

Гэта не вельмі спадабалася паручніку. Непрыязнь яго да гэтай жанчыны ўзрастала. Ён спрабаваў лагодна вызваліцца ад яе абдымкаў.

Тым больш занепакоіўся ён, калі Люта ссунула руку з яго пляча і пачала блукаць пяшчотна па яго грудзях, дзе ляжалі адозвы. Тады ён схапіў яе раптоўна за рукі і сказаў суха:

— Прашу прабачэння ў пані, але я маю надзвычай тэрміновую справу і павінен зараз-жа пайсці.

Люта ўздрыгнулася і быстра глянула паручніку ў вочы. Адчула вялікую абразу, бо так Велянак ніколі з ёю не абыходзіўся, гэты самы пан Пётр, які ёй быў такі любы. Ён, якому яна прызналася некалі, што кахае яго. У першую хвіліну, калі ён адарваў ад сябе яе рукі, здалося ёй, што яна можа нават і не зразумела гэтага жэста. Пачала зазіраць яму ў вочы, хацела знайсці прычыну яго ўчынка, каб як-небудзь апраўдаць пана Пятра. Калі-ж ён застаўся спакойны, пачала зноў да яго туліцца. Паручнік сядзеў моўчкі і толькі думаў, каб як мага хутчэй выйсці з кватэры. Цяпер ужо не адштурхоўваў яе ад сябе, а нават паклаў руку на яе плячо. Люта канчаткова супакоілася і гулліва пазірала паручніку ў вочы, забаўлялася ягонымі валасамі.

— Пане Пётра?

— Слухаю, пані.

— Чаму пан так рэдка бывае вясёлым? Раней пан быў лепшым.

Паручнік злёгку ўсміхнуўся, прытуліў яе галаву да свайго пляча і сказаў:

— Гэта пані ўжо выдумала! Я заўсёды быў такі.

Але гэта не была праўда. Ён сказаў, абы што сказаць, а думаў толькі пра тое, як выйсці найхутчэй.

Люта зноў схіліла галаву на яго грудзі і нечакана абняла яго, моцна прытуліла да сябе. У гэты момант паручнік схапіў яе за руку, якая была каля яго грудзей і адвёў яе.

Люту нанава апанаваў гнеў, яна вырвала сваю руку і сказала:

— Я так хачу абнімаць пана!—І ўсхвалявана адыйшла, бо выразна адчула, што на левым баку пад мундзірам ён хавае нейкі пакунак. Паручнік ускочыў і, прытвараючыся абыякавым, сказаў:

— Пані ведае, што я вельмі чулы на пяшчоты пані і прызнаюся вам шчыра, што маю вялікай важнасці справу, якую зараз павінен упарадкаваць.

— Што пан хавае ад мяне?—крыкнула панна Люта і топнула ножкай.

— Пані нешта здаецца. У мяне няма ніякіх сакрэтаў перад паней.

— Што ў пана пад мундзірам?—наступала Люта.

— Пад мундзірам? Пад мундзірам кашуля.—

— Пан хлусіць. Пан мяне ашуквае! У пана лісты ад жанчын...

— Панна, Люта, не лісты.

— Лісты!

— Слова гонару, не лісты.

— Дык няхай пан пакажа.

— Не магу, гэта прыватныя паперы калегаў.

— Будзь пан пракляты! Здагадваюся, што не лісты.

Сказаўшы гэта, яна накінула плашч і накіравалася да выхада.

«Нарэшце», падумаў паручнік і паспяшыў адчыніць ёй дзверы. Потым узяў яе пад руку і рушыў з лесніцы. Люта не адбірала рукі, толькі маўчала і пазірала ў другі бок.

Калі падыйшлі да брамы, стыкнуліся з капітанам Болькам і двума афіцэрамі жандармерыі. Капітан Болек збянтэжана спыніўся здзіўлены, што спаткаў Велянака ўжо каля брамы. А яшчэ больш тым, што з ім была Люта. Праз хвіліну капітан аднак сказаў:

— Так рана ў казармы?

Велянак хацеў даць зразумець, што ў кватэру ён зараз не вернецца, здагадаўшыся пра значэнне гэтага ранняга візіту афіцэраў і сказаў:

— Перш з паннай Лютай на спацыр, а пасля ў казармы.

— Няхай пан не хлусіць! Пан не ідзе са мной на спацыр. А толькі за сваёй «важнай» справай.—Крыкнула Люта.

— Пан паручнік будзе ласкавы зайсці на хвіліну ў кватэру, бо маю важную справу да пана,—звярнуўся да Велянака жандарскі капітан.

— Ці абавязкова ў памяшканні павінен пан упарадкаваць са мною справы?

— Толькі ў памяшканні,—цвёрда праказаў капітан жандармерыі.

Велянак дакрануўся неўзаметкі да рэвальвера, як бы хацеў упэўніцца, ці мае яго пры сабе. А як успомніў, што абойма напоўнена, сказаў:

— Калі панове гэтага хочуць, калі ласка.

Калі два жандармы і паручнік Велянак адыйшлі, Люта затрымала капітана Болека за руку і, нешта яму расказваючы, рушыла з ім на вуліцу.

Праз некалькі мінут у кватэру Велянака ўвайшоў капітан Болек.

Велянак сядзеў на канапе, абапёршыся на эфес шаблі і нават не зірнуў на Болека.

Паручнік жандармерыі ўсё яшчэ капаўся ў паперах і кніжках Велянака, а капітан жардармерыі стаяў па сярэдзіне пакоя і праглядаў тонкую зашмальцованую кніжачку.

— Ну, што?—пытаў капітан Болек.

— Знайшлі толькі гэта,—адказаў жандарм, аддаючы Болеку кніжачку.

— Ага-а. Што-ж, і гэта матар'ял. Адозваў не знайшлі?

— Не.

— Бачыш, пан, паручнік Велянак, куды прасочвалася большэвіцкая зараза? Можа шаноўны пан скажа, што гэта не яго? Капітан махнуў перад носам Велянака кніжкай Леніна.

— Могуць адпірацца такія, як ты, а я кажу, што мая. І не вырвеш з мяне гэтага,—суха праказаў Велянак.

— Як жа не вырву? ужо ў маіх руках.

— Забраў-жа толькі паперу!

— Ага. Можа быць і так. Каб мы доўга ў цябе не сядзелі, пакажы адразу, дзе астатнія паперы?

— Навошта ў мяне пытаеш? Робіце-ж вобыск.

Афіцэры жандармерыі зірнулі яшчэ раз па кутках, а капітан Болек запытаў.

— У печы шукалі?

— Там якраз знайшлі кніжачку.

Капітан Болек з хвіліну падумаў, падыйшоў да канапы і сказаў:

— Трэба дакладна агледзець канапу.

Велянак устаў з канапы і спакойна сказаў:

— Калі ласка.

Пры аглядзе канапы афіцэры былі вельмі старannымі. Аднак доўгі і падрабязны вобыск не даў вынікаў.

— Прабач, пан, што так доўга непакоілі, і такім няпрыемным чынам. Але-ж пан разумее, служба.—Ухмыльнуўшыся, прагаварыў капітан жандармерыі і пачаў збірацца да выхаду.

Але капітан Болек раптам звярнуўся да жандармаў:

— Панове, затрымаюцца яшчэ. Трэба зрабіць асабісты вобыск.

— Гэтага не зробіш.—Цвёрда праказаў Велянак.

— Чаму?

— Таму, што не маеш на гэта права.

— Гэта ўжо я сам вырашу.

— Чхаю на цябе і тваё рашэнне.

— Калі ласка, без авантур і падпарадкуйцеся.

— Прынеслі вы загад палкоўніка на вобыск кватэры—я не сказаў ні слова. Але здзекавацца каму-небудзь з мяне—не дазволю. І прашу выносіцца з кватэры.

Жандармы вельмі добра зразумелі, што без загада палкоўніка яны не маюць права абыскваць паручніка, але капітан Болек не ўступаў.

— Перш за ўсё, я не хто-небудзь, а на ступень вышэй за цябе і прашу лічыцца са мною. У процiўным выпадку вымушан буду абыскаць цябе сілай. Ты пазней будзеш мець магчымасць скардзіцца на мяне.

— Не адважвайся ўжыць сілу, бо дрэнна будзе.

— Пагражаеш? Імем статута праўнага аб дысцыпліне вайсковай прапаную табе апошні раз падпарадкавацца вобыску.

Велянак адступіў два крокі назад, каб мець добрую цэль праз дзверы ў пакой, дзе засталіся афіцэры і сказаў загадна:

— Неадкладна ачысціць маю кватэру.

— Аб'яўляю, што ты арыштаваны, паручнік, і падлягаеш прымусоваму вобыску—сказаў нервова капітан і рушыў да Велянака.

— Ні кроку далей!—крыкнуў Велянак. Чорная руля яго рэвальвера бліснула зловесна.

Жандармы ў адзін момант намерыліся двума рэвольверамі ў бок Велянака. Стаялі так з хвіліну, мераючы адзін аднаго позіркамі, не гаворачы ні слова.

У гэтую хвіліну, калі Велянак сачыў за жандармамі, Болек, які стаяў бліжэй да Велянака, рынуўся наперад і схапіў руку паручніка, матнуў яе ўгару. Велянак не разгубіўшыся, ударыў з усёй сілы каленам у жывот Болека. Болек адляцеў як мячык і ўпаў на спіну. З боку жандармаў грымнуў стрэл.

Велянак не адчуў яшчэ болю, толькі здалося яму, што з левага пляча сцякае нешта цёплае. Надзвычай узрушаны, нацэліўся ён у аднаго жандарма, але ў гэтую-ж хвіліну заўважыў каля ног капітана Болека, як уставаў, умомант перавёў рэвальвер і два стрэлы грымнулі ў пакоі. З боку жандармаў зноў грымнулі два стрэлы. Раптам дзверы шырока расчыніліся і ў пакой з аглушальным крыкам уляцела жонка старшага паставога!

— Сына! Сына забілі майго!—Жанчына сударгава прыціскала рукою скроні пяцігадовага дзіцяці. Між пальцаў яе цурком сцякала кроў.

Глянула мутным позіркам на аслупянелых жандармаў і крыкнула прарэзліва:

— Дзе-ж той нягоднік, што страляе ў людзей у памяшканні!

Капітан жандармерыі маўкліва паказаў на наступны пакой.

Жанчына зірнула ў той бок і цяжка застагнала:

— А-а-ах!..

Паручнік Велянак ляжаў на левым баку з падкурчанай пад сябе рукою. Каля яго ног з выпучанымі ад страху і болю зрэнкамі ляжаў мёртвы капітан Болек.

* * *

Калі прыбылі штурмавыя атрады, у палку наступілі перамены. Большую частку прафесійных*) пад'афіцэраў адхілілі ад службы, частку дэмабілізавалі зусім, а астатніх перакінулі ў іншыя палкі. Большасць пад'афіцэраў кадравай службы была пераведзена ў радавыя. На іх мейсца прызначылі камандзіраў з прыбыўшых штурмавых атрадаў.

Роты павялічылі з васьмідзесяці да ста дваццаці чалавек. Нізавую каманду ўзмоцнілі такім чынам, што на кожных двух салдат прыпадаў адзін штурмавога атрада. Усе склады былі абстаўлены вінтоўкамі-аўтаматамі.

Аднак начальства яшчэ не было спакойна, бо комуністычныя адозвы не пераставалі наплываць у казармы. Вельмі сцерагліся, каб ніхто з цывільных асоб у казармы не ўваходзіў. Як і раней, салдат ні па якіх прычынах не пушчалі ў горад. Усе ўваходы былі абстаўлены караулам і прайсці з казармаў, або ў казармы было немагчыма. Толькі воз з хлебам прыбываў рэгулярна з пякарні пана Беліцкага. Затрымлівалі выдачу прапускоў, затрымлівалі лісты, якія прыходзілі да салдат, але хлеб паступаў рэгулярна. Малады возьнік пякарні пана Беліцкага з'яўляўся кожны дзень.

У такіх абставінах Герах хадзіў задуменны, напружваў зрок і слых, бо меў магчымасць зарабіць пяцьсот злотых за выкрыццё распаўсюджвання адозваў.

Дзякуючы сваёй актыўнай рабоце ў палкавой арганізацыі, ён дазнаўся шмат чаго, ён ведаў, што сакратаром ротнай ячэйкі быў Няволя, ведаў, што адзін з актыўнейшых у роце украінец Саўчын, чорнаслёнскі гарняк шахты Фердынанда. Але якой дарогай даходзіць літаратура да казармаў,—Герах не ведаў. Урэшце пайшоў да капітана Палчынскага з прапановай, каб арыштавалі тых, пра якіх даносіў, і каб выплацілі яму па сто злотых за галаву, як было ўмоўлена. Тлумачыў, што больш нічога ад іх выпытаць нельга, а хадзіць за імі ўжо абрыдла. Але капітан сказаў, што каб іх нават і арыштавалі без дакумантаў, то на аплату няхай не спадзяецца.

— Мы ўжо даўно ведаем, што тыя, на якіх ты нам паказваеш—комуністы. Дай нам іх у рукі тады, калі пры іх знаходзяцца большэвіцкія матар'ялы,—казаў капітан.

— Гэта нельга даведацца,—пераконваў Герах.

— Значыць ты дрэнны работнік. А дарма грошы даваць не можам. Пастарайся выкрыць тайну адозваў і калі ласка—тысячу злотых у рукі. Апроч таго, за кожнага чалавека, які пры гэтым пападзецца, яшчэ па сотні,—скончыў гандаль капітан. Гаворачы гэта, ён не глядзеў на Гераха і прахаджваўся па пакоі з папяросай у руцэ, зусім як тады на палігоне, калі здзекваўся з Гераха паручнік Жэброўскі.

У памяці Гераха паўстаў той страшны дзень і ўспомніў ён, што даў сабе слова забіць капітана Палчынскага і паручніка Жэброўскага хаця-б

*) Звыштэрміновай службы.

праз дзесяць год. А цяпер стаіць перад ім і просіць яго, каб арыштоўваў роўных яму, Гераху, жаўнераў і пасылаў на катаванні, якія сам пережыў. На хвіліну агарнула агіднасць да цяперашняга рамяства. Крануўся, каб выйсці, як найхутчэй з кватэры, дзе жыве закляты вораг.

— Слухайце, Герах,—затрымаў яго капітан.—З усялякімі такімі справамі звяртайцеся да капрала Ягадзінскага. Ведаеце яго? Камандзір шостага ўзвода нашай роты.

— Гэтых усіх новых камандзіраў яшчэ не ведаю,—адказаў Герах.

— Кажу, што вам належыць пазнаёміцца з ім. Бывае часам так, што паведаміць трэба тэрмінова, а са мной не заўсёды можаце пабачыцца. Урэшце, нявыгадна вам заходзіць да мяне, можа хто-небудзь заўважыць. Разумееце?

— Разумею, пане капітан,—адказаў Герах і вышаў.

Было гэта ў нядзелю, пад вечар. Сонца ўжо знізілася, але да вечара было яшчэ шмат часу. Дзень асенні, але досыць цёплы, дык Герах сеў паміж ліп недалёка ад афіцэрскага касына*) і стаў думаць.

Мільгалі ў галаве адрэзкі параўнаўча кароткага жыцця. Паўставалі ў памяці цяжкасці і няўдачы. Але нядаўнае, пережытае з паручнікам Жэброўскім і капітанам Палчынскім засланіла ўсе іншыя няпрыемнасці. Яго простаму розуму здавалася, што з тымі людзьмі, якія не мелі літасці да яго няшчасця, не павінен ён мець ніколі ў жыцці нічога супольнага. Здавалася, што найбольш правільным было выканаць сваю клятву ў адносінах да Жэброўскага і Палчынскага. А пасля няхай бы яго нават і на кавалкі парвалі, бо жыць не варта. Але, як Валентага і Вінцэнтага, здалося яму, што робіць правільна, што яго цяперашняя праца правільная. Праўда, мучылі яго, але не якія недавяркі, а свае—палякі, хрысціяне.

І тут ён успомніў ліст, атрыманы нядаўна ад бацькі. Бацька пісаў, што гаспадарка напэўне будзе прададзена з таргоў, бо крэдыторы далей чакаць не хочуць.

Гэта думка ўзмацніла яго рашэнне. Наважыў усімі сіламі ратаваць гаспадарку. Была гэта трудная задача, бо ад жніва, як пісаў бацька, процантаў нарасло поўтысячы ўжо, а ўсяго доўгу разам—без чаго тры тысячы. Але, каб бог благаславіў выкрыць спосаб дастаўкі адозваў, дык вылезці яшчэ можна.

«За выкрыццё адозваў тысячу злотых»—лічыў у думках.—«За дзесяць комуністаў—другая тысяча», а пасля будзе ўжо лягчэй. На сёнешні дзень ведаю добра чатырох комуністаў, а сямёх маю на воку. У кожным разе чатырыста злотых неўзабаве пашлю бацьку. Але што з паручнікам Веляпакам? Там, напэўне, былі матэрыялы. Доказам гэтага тое, што яго пяты дзень няма. Відаць знайшлі матар'ялы і яго забралі. Чаму мне не плацяць? За паручніка павінны мне даць больш, як сто злотых. Але чаму не плапяць? Зараз пайду да гэтага капрала Ягадзінскага і запытаю—што гэта за Ягадзінскі? Аднекуль знаёмае мне прозвішча... А ўрэшце, што мне там да прозвішча, пайду напамяну пра аплату.

Ягадзінскага Герах не шукаў доўга. З першага позірку ўспомніў, як спаткаў яго ўпяршыню ў кустах, калі ратаваў ад згвалчання сваю будучую нарачоную Маню. Помніў, як смела ўскочыў на яго і ўдарыў па лбе. Цяпер ахапіў яго страх, што капрал пазнае яго і тады сапсуюцца ўсе інтарэсы. Герах перамог страх і, прылажыўшы руку да казырка, сказаў:

— Пан капітан загадаў, каб пагаварыў з панам капралам.

*) Афіцэрская кааперацыя.

Капрал зірнуў на Гераха, але, відаць, не пазнаў яго:
— Як ваша прозвішча?
— Герахам мяне завуць.
— А-а. Герах? Ведаю. Ну, што? Ёсць можа што свежае?
— Не, тым часам, яшчэ няма, але бог дасць хутка можа будзе. Ужо крыху клюе.
— А пра што хацелі гаварыць?
— А гэта бачыце, пане капрал, паручніка вышпігоўваў, а нічога мне яшчэ за яго не далі,—кажучы гэта, уважліва сачыў за выразам капралавагу твару, бо не быў яшчэ ўпэўнены, знайшлі ці не ў паручніка матар'ялы.
— За паручніка ваша не прападзе,—адказаў не доўга падумаўшы, капрал.—За паручніка абяцалі вам заплаціць дзвесці злотых. Але вы старайцеся больш. Дайце яшчэ некалькіх, дык адразу атрымаеце кучу грошай. Толькі сыпце тады, як убачыце, што пры іх ёсць які матар'ял. Бачыце, сказаць толькі, што той, альбо іншы комуніст—гэта для нас нічога не значыць. Мы самі ведаем, што амаль увесь полк комуністычны. Раней за ўсё мы павінны вылавіць тых, якія кіруюць усёй работай. Разумееце?
— Разумею, пане капрал, але за паручніка...
— Не трывожцеся, не прападзе ваша, толькі працуйце,—перабіў капрал, і адыйшоў, не зірнуўшы больш на Гераха.
«Дзвесце злотых ёсць»—буркнуў сам сабе Герах.—«Каб бацька захацеў здабыць дзвесці злотых, ён мусіў бы прадаць дваццаць цэнтнераў жыта. Не, заработак, аднак, нядрэнны, толькі трэба добра ўзяцца за работу».
Дык і ўзяўся за работу з усёй стараннасцю, але пакуль без вынікаў. Толькі ў наступную суботу атрымаў дзве весткі: адна, што сёння, зараз-жа па атрыманні загада, будзе на некалькі хвілін нарада і на ёй будзе прысутнічаць па адным прадстаўніку ад кожнага ўзвода, другая вестка— ліст ад бацькі. Што было ў лісце—яшчэ не ведаў, бо пісанага чытаць не ўмеў. Друкаванае крыху ведаў, а малітву да маткі боскай чытаў, прызвычаіўшыся, досыць лёгка.

Паведамілі яго, што на нарадзе павінен быць прадстаўнік ад чацвертага ўзвода. Узрадваўся вельмі, бо ведаў, што ў роце ёсць шэсць узводаў. Гэта значыць, што, апрача яго, будзе пяць чалавек, што выпадзе разам пяцьсот злотых.

— Пяцьсот і дзвесці гэта будзе семсот,—падлічыў хутка. А можа яшчэ хто будзе? Не пашкодзіла-б на сотню больш.
Не лічыў комуністаў і за людзей. Кожны з іх—гэта для яго сотня злотых.

Хацеў пайсці зараз-жа да капрала Ягадзінскага з радаснаю весткай, але яго не было на месцы, дык рашыў даведацца, што пішуць з дому. Азіраўся ў зале казармы, каго-б папрасіць пачытаць ліст, бо хоць салдат было шмат, але большасць з іх была няпісьменная.

Толькі заўважыў каля акна Валендзіка, які прышываў да штаноў гузікі. Накіраваўся проста да яго, упэўнены, што той умее чытаць пісанае, бо гарадскі.
— Эй, Валендзік, пісанае чытаць умееш?
— А што?
— Ліст мне прышоў з дому, хацеў-бы яго пачытаць.
— Не, я не магу. Друкаванае крыху ведаю.
— І гарадскі, і чытаць не ўмее,—здзівіўся Герах.

— Думаеш, што ў горадзе вучонымі нараджаюцца?

Герах адвярнуўся ад Валендзіка і пачаў выглядаць другога.

— Няволі дай. Ён табе прачытае.—Гукнуў Валендзік. Але Герах падыйшоў ужо да Будзалкі.

— Ты, здаецца, чытаеш пісанае?

— Чытаю.

— Прачытай мне ліст.

— Давай.

Будзалак пачаў чытаць:

— ... Ідзі лісток у дарогу, бо я ісці не магу. А калі дойдзеш да парога, пахвалі пана бога. Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус.

— Навекі вякоў аман,—сур'ёзна адказаў Герах.

— У першых словах нашага ліста даносім табе, каханы сын, што ўсе мы здаровы, чаго і табе ад усяго сэрца жадаем. Цяпер хочам табе данесці, што ў нас вялікая бяда. Цяпер даносім табе, што нашу Гранулю і ўвесь ураджай забраў у нас праз таргі млынар Ягадзінскі...

— Ягадзінскі?—закрычаў Герах.

... Забраць-то яшчэ не забраў,—чытаў далей Будзалак—бо збегліся з усёй вёскі мужыкі і панская дворня і, каб іх бог узнагародзіў, выгналі яго з вёскі ўжо два разы. Раз выгналі, калі прыехаў з каморнікам, а другі раз, калі прывёз паліцыянтаў. Не ведаю, як далей будзе, але пакуль трымаемся хвацка. Цяпер даносім табе, каханы сын, што Паўлаў Гжэся забіты—адпусці яму божа ўсе грахі—у часе сутычкі з паліцыяй. А Бодэраў Енджак і Ямрозаў Шымэк таксама забіты. Цяпер даносім табе, каханы сын, што з боскай ласкі мы забілі трох паліцыянтаў і Ягадзінскі таксама крыху атрымаў. Цяпер даносім табе, каханы сын, што бацька хворы, бо Ягадзінскі лупянуў яго палкай па галаве, калі бацька вырываў ад яго Гранулю. Цяпер даносім табе, каханы сын, што не ведаем як будзе далей, бо хоць мужыкі сабраліся ў кучу, і лупцуюць паліцыянтаў, як загадаў пан бог, але баімся, што калі іх наваліцца шмат, дык не дадзім рады. Цяпер даносім табе, каханы сын, што вышлі запаведзі Шчэпановага Якуба з Следзюковай Хасяй, але вяселле сабакі з'елі, бо ксёндз не хацеў вянчаць таму, што чацвертыя дзеці. Казаў ім у Варшаву пісаць ці да айца святога—дазволу прасіць. Цяпер даносім табе, каханы сын, што да айца святога пісаць не будуць, бо прашэнне каштуе трыста злотых, а ў іх паламанага граша няма... Цяпер даносім табе, каханы сын, што жадаем табе шчасліва вярнуцца да хаты і жадаем табе і добрага здароўя і поспеху ў жыцці. Няхай табе бог дапаможа, а нас, божа, не пакідай, аман».

Будзалак кончыў чытаць і зірнуў на Гераха сур'ёзна,—бачыў што з ліста, што смяяцца не было чаго. Герах глыбока задумаўся. Відаць было, што нешта перажывае, напружвае думкі і на скронях яго азначаліся сінія жылкі.

Герах сапраўды перажываў цяжкі момант. Гэта была хвіліна, калі належала вырашыць справы вялікай важнасці. Належала вырашыць: ці пайсці на паседжанне ротнай ячэйкі і сказаць там, што да гэтага часу быў шпікам, ад сёнешняга дня—будзе працаваць чэсна, прасіць ячэйку, каб дапамагла змагацца з капітанам Палчынскім, паручнікам Жэброўскім і капралам Ягадзінскім так, як дапамагалі яго бацьку вясковыя мужыкі і панскія парабкі, ці пайсці да капрала Ягадзінскага і паведаміць аб тым, што праз некалькі хвілін збяруцца ў прыбіральні на кароткую нараду камуністы. На момант бліснула думка, што гэтыя грошы, якія атрымае за

прададзеных салдат, не пойдуць на карысць ні яму, ні бацьку, забярэ іх за даўгі пан капрал Ягадзінскі.

— Не хвалюйся так. Бачыш, што ўсюды людзі паўстаюць для барацьбы. Нас у некалькі разоў больш,—пацяшаў яго Будзалак, пераконаны, што Герах задумаўся пра лёс свайго бацькі.

Герах уздрыгнуўся, як абуджаны, і без слова вышаў у карыдор. Хацеў сыйсці ўніз, каб падумаць яшчэ аднаму, што рабіць у такую рашаючую хвіліну.

На лесніцы ўбачыў капрала Ягадзінскага, які ішоў наверх. Адразу разляцеліся ўсе думкі і перад вачыма вырысаваліся лічбы «дзвесце» і «пяцьсот», будзе «семсот»...

— Пане капрал...—перарваў, бо здалося яму, як бы нехта шапнуў у вуха: «не гавары».

— У чым справа?—капрал спыніўся і падазрона зірнуў, як бы пра нешта здагадаўся.

У гэтую хвіліну развеяліся рэшткі Герахавай няўпэўненасці.

— Пане капрал. У прыбіральні, за кузьняй, збіраецца большэвіцкі актыў. Толькі не ведаю, як выйдзе, бо і я з імі буду.

— Ці будуць пры іх матар'ялы?

— Нічога не ведаю. Сказалі мне прыйсці.

— Добра, мы туды падыйдзем.

— А са мною як будзе?

— Не бойся.

Ягадзінскі шапнуў нешта дзяжурнаму і ўвайшоў у залу. Праз хвіліну пачуўся свісток і дзяжурны пад афіцэр прачытаў:

— Радавыя: Дзюбак, Казіцкі, Баторак і Герах, на кухню насіць ваду, бягом, ма-арш!

Мінула яшчэ некалькі хвілін і да дзяжурнага падафіцэра звярнуўся Саўчына:

— Пане дзяжурны сержант! Радавы Саўчын просіць дазволу схадзіць у прыбіральню.

— Колькі гэта разоў трэба табе хадзіць у прыбіральню? Я бываю раз у суткі і хапае. А вы кожныя дзесяць хвілін... Жэрці вам тут замнога даюць. Ну, бягом, марш і за пяць хвілін назад.

Саўчын скочыў з мейсца і збег уніз па лесніцы. Да дзяжурнага падафіцэра падышоў капрал Ягадзінскі і сказаў:

— Пускай іх, няхай ідуць.

Праз некалькі хвілін папрасіўся ў прыбіральню Няволя, пазней Будзалак і яшчэ некалькі.

У прыбіральні за выключэннем Гераха сабраліся ўсе. Каб не траціць часу, і не выклікаць падазрэння, Няволя адразу пачаў:

— Слухайце, таварышы. Сёнешняя ноч і заўтрашні дзень да поўдня патрабуюць ад нас вялікага напружання ў рабоце. Заўтра ў поўдзень, калі будзем вяртацца з навучання, рабочыя ўсяго горада выйдуць нам насустрач. Маеце тут кожны па некалькі адозваў, у якіх рабочыя звяртаюцца да нас. Трэба так распаўсюдзіць, каб ні адна адозва не трапіла ў рукі непажаданых людзей. Ну, бярыце адозвы і рыхтуйцеся да заўтрашняга дня, а зараз па...

— Ні кроку з месца!—крыкнулі чужыя галасы. І штыкі намерыліся ў бок сабраўшыхся.

Некалькі скручаных трубак паперы паляцелі ў канавы. Дзве засталіся ў руках салдата.

* * *

— Гэта папера называецца «чэкам», тлумачыў капрал Ягадзінскі.— Зараз пойдзеце ў комунальны банк і атрымаеце грошы. Толькі спяшайцеся, бо можаце спазніцца. А заўтра нядзеля, дык вам таксама не выплацяць.

Герах узяў у руку хрусткую паперку—яшчэ не верыў, што сапраўды дадуць за яе грошы—і пайшоў у банк.

Цяжкасці ён меў там вялікія, бо накіроўвалі яго то ў адны, то ў другія дзверы і ён блудзіў, як у лесе. Дзверы былі шкляныя, як вокны ў бацькавай халупе. За кожнымі дзвярамі панастаўляна столькі столікаў, наўстаўляна столькі акенцаў, што ніхто-б не мог пералічыць.

Герах блукаў ад дзвярэй да дзвярэй, ад століка да століка, ад акенца да акенца і пытаўся, дзе гэта даюць грошы за такія паперкі. Усюды адказвалі яму злосна, часамі нават падазрона, неаднойчы, зірнуўшы скоса, нічога не адказвалі. Нарэшце страціў Герах апошнюю надзею і думаў:

«Хто гэта можа быць такім дурнем, каб за паперку даваць грошы». Намерыўся павярнуцца і пайсці да капрала Ягадзінскага, каб вылаяць яго за круцельства і кпіны. Але і выйсці было не так лёгка з гэтага лабірынта. У адной зале ўбачыў нейкага пана, які пералічваў пачку новенькіх дваццацізлотак. Падыйшоў да яго і спытаў нясмела:

— Выбачайце, пане, дзе гэта даюць грошы за шчэк?*)

— За шчэк не даюць грошы, толькі кавалак хлеба, каб больш не шчэкаў,—пажартаваў пан, не азіраючыся на Гераха.

— А мне сказалі, што атрымаеш за гэта грошы.—Безнадзейна праказаў Герах.

— Гэта можа за чэк, а не за шчэк?

— Ну, так. Так яна нібы і называецца гэтая паперка.

Герах паказаў чэк. Пан зірнуў на Гераха і, махнуўшы рукою сказаў:

— Мініце гэтыя два акенцы і падыйдзіце да трэцяга. Там вам дадуць грошы.

Герах забыўся нават падзякаваць. Праз хвіліну ён быў каля акенца і пакланіўся пакорна службовай паненцы, нязграбна падсоўваючы свой «шчэк».

Паненка скасілася на чэк і, не кажучы ні слова, падыйшла да нейкага пана, які сядзеў насупраць. У Гераха закалацілася сэрца. Зразумеў, што цяпер наступіць рашаючая хвіліна: альбо дадуць яму грошы, альбо хто іх ведае? Могуць яшчэ ў каталажку пасадзіць. Але пан бліснуў праз залатыя акуляры і вялікім чырвоным карандашом драпануў нешта на чэку.

— Дайце ваша асабовае пасведчанне,—тоненька праказала паненка.

У Гераха задрыжэла сэрца. Успомніў, што колькі разоў паліцыянт патрабаваў ад бацькі асабовае пасведчанне, заўсёды запісваў яму пакаранне. А тут ліха іх ведае, на што ім асабовае пасвечанне. А можа ў каталажку?

— А на што?—запытаў пакорна.

— Як гэта на што? Без асабовага пасведчання не магу выплаціць вам грошы,—піскнула паненка.

Герах амаль страціў розум ад радасці і крыкнуў голасна:

— Толькі маю пропуск у горад!

---

* Брахня.

Паненка ўзяла пропуск, запісала нешта ў вялізную кнігу, а праз хвіліну кінула яму разам з пропускам восем перавязаных пачак пяцізлотак і сказала:

— Пералічыце. У кожнай пачцы павінна быць па сто злотых.

Герах ліхаманкава схапіў пачкі банкнотаў і торапка адбег ад акенца. Хто можа ведаць, што будзе? Могуць яшчэ перадумаць і адабраць.

Калі быў ужо на тратуары, рашыў паспяшыць на пошту, каб выслаць бацьку грошы. Па дарозе затрымаўся каля табачнай крамкі. У вітрыне ляжалі прыгожыя каробкі з папяросамі. Хацеў прайсці, але цягнула назад, у крамку, вельмі хацелася закурыць. У крамцы за прылаўкам стаяў купец з вялікім пузам і лысай галавой. Герах спытаў адзін пачак папярос, а другі выбіраў і доўга думаў. Усе каштавалі па два злоты, а то і больш, за пачак. Урэшце, ён рашыў: закурыць можна папрасіць у каго-небудзь з салдат, як вернецца ў казарму і, вядома, дадуць. А два злотых будуць у кішэні. Выйшаў з крамы і накіраваўся проста на пошту. Калі-ж мінуў некалькі камяніц, адчуў на сваім плячы цвёрдую руку. Азірнуўся і ногі яго задрыжэлі. Перад ім стаяў малады жандарм з адзнакаю ўзводнага камандзіра. Герах узяў пад казырок, але ні слова не мог выціснуць з сябе. Усунуў толькі руку ў кішэнь па пропуск.

— Схавай гэта, фраер,—сказаў, смяючыся, жандарм.—Не цікавіць мяне твой пропуск. Што? Не пазнаеш мяне?

Герах пачаў углядацца ў жандарма, твар якога, здалося яму, вельмі знаёмы.

— Не, пана ўзводнага не пазнаў. Толькі прыглядаюся. Пан узводны камандзір вельмі падобны абліччам да аднаго знаёмага.

— Хто-ж то быў гэты твой знаёмы?

— Гэта было ў турме, пане ўзводны.

— А Валентага ты ведаў?

— Дык пан на яго і падобны.

— А я—гэта хто?

— Пан камандзір узвода жандармерыі,—адказаў Герах.

— Але фраер ты, Восю! Памятаеш, як мы рэзаліся з табою і Вінцэнтам у дурака?

— Валенты!... Не, пане ўзводны...—выціснуў Герах,

— Ну, што, пазнаў цяпер?

— Пазнаў, але як гэта сталася, пане ўзводны?

— Хадзем у рэстаран, там даведаешся пра ўсё.

— Дальбог, не маю часу, пане ўзводны, бо вельмі спяшаюся на пошту.

— Не дуры мне галавы з поштай. У рэстаран, кажу, хадзем. Зрабілі мы цябе багатым чалавекам, а ты і гаварыць цяпер не хочаш. Павінен адкупіцца, разумееш?

Герах пачынаў разумець, пра што ідзе гаворка, але рашыў яшчэ бараніцца.

— Дык можа другім разам, пане ўзводны Валенты, бо сёння акурат граша з сабою не маю.

— Ось, малпа. О, цябе трэба ведаць. А іначай прапасці можаш пры табе. Атрымаў восемсот злотых і хлусіць, што грошай не мае. Каб ты лопнуў, сукін сын.

Герах канчаткова зразумеў, што выкруціцца не зможа, і сказаў:

— Ну, дык куды пойдзем.

— Што значыць—куды? «Под Сэтка»,—дырыжаваў Валенты.

Пры ўваходзе ў рэстаран сустрэлі Вінцэнтага. Валенты гукнуў:

— Ты ведаеш, які купец. Каб за каўнер яго не прыцягнуў, дык збег-бы.

— Што-ж гэта з табою, Восю?—сказаў Вінцэнты.—Зрабілі мы з цябе дзяржаўнага чалавека, а ты нават адкупіцца не хочаш. Так нельга. Гэтыя васемсот злотых—толькі пачатак. Ты кожны тыдзень заробіш столькі, калі не больш.

Словы гэтыя надалі Гераху надзеі. Ён увайшоў у рэстаран амаль весела. У першым пакоі быў вялікі буфет. Герах сеў каля мрамарнага століка і запрасіў:

— Ну, сядайце, панове. Пане сержанце, звярнуўся ён да Вінцэнтага.— Няхай пан сядае.

— Што-о? Тут?—Засмяяліся абодвы жандармы.

— А куды-ж пойдзем?

— Пане гаспадар, які пакой вольны?—спытаў сержант.

— Трэці і пяты да панскіх паслуг, пане сержанце,—адказаў рэстаратар з вялікай пашанай.

— Няхай будзе трэці,—згадзіўся Валенты.

— Да панскіх паслуг,—пакланіўся рэстаратар і паслаў кельнера з ключамі.

Герах увайшоў у пакой апошнім і зараз-жа каля парогу зняў шапку. Ён не ведаў, дзе знаходзіцца. Спачатку здавалася яму, што гэта касцёл, а наймеш—багатая капліца. На сценах віселі вялікія абразы ў пазалочаных рамах. Пакой быў вялікі, на многа большы, чым у яго бацькі і высокая, як у касцёле, столь. Паміж акон, якія былі завешаны фіранкамі, стаяў нейкі струмант з белымі і чорнымі клавішамі, вельмі падобны да касцёльнага аргана. Герах падышоў да піяніна і крануў пальцамі клавішы.

— Што, умееш іграць, Восю?—спытаў сержант Вінцэнты.

— Не. Я толькі мехаваць*) умею. Цэлых тры гады мехаваў у аргана нашага касцёла,—з гонарам адказаў Герах, каб даказаць, што і ён меў справу з музыкай.

— Тут не мяхуюць,—засмяяўся Валенты.

Пазней Герах пачаў прыглядацца да абразоў, якія віселі на сцяне. Яны падабаліся яму, бо рамы былі жоўтыя і вялікія, як у касцёле. На адным была намалёвана жанчына з доўгімі валасамі і зусім голая.

— Чаго так прыглядаешся?—Пазнаеш?—Засмяяліся жандармы.

— Мне здаецца, што гэта будзе матка боская ў часе нараджэння хрыста,—сказаў, здагадваючыся Герах.

— Не, гэта матка боская перад нараджэннем—бухнуў смехам Вінцэнты.

Разглядванне пакою перарваў кельнер у белым фартуху. Ён пакланіўся нізка і спытаў:

— Чаго ласкавыя паны жадаюць?

Жандармы зірнулі на Гераха і Валенты сказаў:

— Гэта пан Вось, і сёння ён тут гаспадар.

— Чаго ласкавы пан загадае прынясці,—звярнуўся фамільярна да Гераха кельнер.

Герах разышоўся, бо быў тут такі багаты пакой, прыгожы стол, мяккія крэслы, прыемна было пасядзець і так далікатна гаварыў пан у белым

*) Сялянскае—надзімаць паветра ў арган.

фартуху. Герах падняў галаву, задумаўся і праз хвіліну сказаў, пазіраючы на жандарма, пераконаны, што вельмі іх парадуе:

— Хай пан прынясе поўбутэлькі гарэлкі, поўкіло кішкі, поўтара кіло пытляванага хлеба і тры папяросы.

Жандармы аж зайшліся з рогату.

— Вось выдумаў... каб па табе пярун трэснуў, га-га-га!.. Кішкою нас накарміць... Го-го-го!

Герах, пачуўшы смех і праклёны, пачаў тлумачыць:

— Я не ведаў, што паны не любяць кішкі. Мне, напрыклад, яна вельмі да смаку. Але мне ўсёроўна. Можа, сальцысон, або нават падгарлянка. Мне ўсёроўна.

Валенты яшчэ смяяўся, але шчокі Вінцэнтага набраклі крывёю і ён са злосці сказаў:

— Калі ты сам малпа, дык не рабі малпы з другога,—і звярнуўся да кельнера.—Дайце, калі ласка, пару бутэлек віна, гэтага, пане, ведаеш?—міргануў ён кельнеру.—І напханае парасё, і сандвіч у марынадзе. А пасля прынясеш нам, пан, каву і лікёр.

— Калі ласка, калі ласка,—выгаварыў мякка кельнер.

— Аж гэтулькі?—У голасе Гераха пачулася роспач.

— Што «гэтулькі»?—сказаў пагардліва Валенты.—Навучыўся зарабляць, павінен ты ўмець і траціць.

— Мо' другім разам? Бо сёння бацьку хацеў паслаць грошы... Там у яго столькі доўгу...—прасіў са слязьмі на вачах Герах.

— Другім разам пашлеш бацьку, а сёння пагуляем. Не забывайся, што гэта твой водкуп. Ад сёнешняга дня ты ўступаеш у наш круг, разумееш?

Герах урэшце зразумеў, што не абароніцца.

Праз некалькі хвілін з'явіўся кельнер і на бліскучым падносе прынёс усё, што Герах «заказаў». У прыгожа аздобленыя чаркі налівалі віно, пілі за здароўе і будучую работу, пасля елі румянае парасё і рыбу ў соусе, які падобны быў на смятану. Герах, бачачы, што шмат грошай прападзе, спяшаўся есці і піць, каб хаця гэтым спосабам намагчы сваё.

Па меры спустошвання бутэлек, раслі апетыты і развязваліся языкі.

— Павінен ты нам падзякаваць, што мы цябе ў людзі вывелі,—гаварыў Валенты.

— Я ніяк не магу зразумець, калі вы так хутка даслужыліся да гэтага чына,—спытаў зацікаўлены Герах. Ён думаў, што можа за які тыдзень сам атрымае ступень сержанта, або хаця-б узводнага камандзіра.

— Як гэта хутка? Я адзнакі ўзводнага нашу ўжо чацверты год, а Вінцэнты сержантам таксама не менш.

— А ў жніўні сядзелі разам у турме, дык вы былі яшчэ комуністамі і простымі радавымі, як я.

— Але-ж і фраер ты, Восю! Мала цябе яшчэ у с... білі,—засмяяўся Вінцэнты.

Вінцэнты перарваў выпытванне Гераха:

— Ну, і выбралі сабе тэму. Сёння гуляць трэба, а такія гаворкі пакінем на іншы дзень. Кельнер! Бягом, марш да мяне!

Кельнер, як з-пад зямлі вырас.

— Тры дамы нам давай, толькі—прыгожыя! Помні, каб ёй морды не пабіў, як на мінулым тыдні.

— Пастараюся. Пан сержант будзе задаволен,—запэўніваў кельнер.

— Але не забудзь пан даць для іх чаркі.

— Дык і яны будуць піць за мае грошы?

— Хто п'е—няхай жыве, а хто не п'е—няхай гіне,—голасна крыкнуў сержант.

Герах не мог ужо думаць аб бацькаўскіх даўгах. Неўзабаве ў пакой увайшла «дама» ў сукенцы з таннага шоўку, з папяроскай у руцэ. Яна, як відаць, не спадабалася жандармам, бо яны скрывілі губы і кепліва пазнаёмілі яе з Герахам.

— Восю, гэта панна Казя!

— Добры дзень, пане Восю,—азвалася Казя, працягваючы яму руку.

— А пані адкуль мяне ведае?—спытаў здзіўлены Герах.

— Я ведаю і кахаю прыгожых жаўнерыкаў,—смяючыся сказала Казя і села Гераху на калені. Абняла яго за шыю і працягнула руку па чарку з віном.

Біў ад яе моцны пах і падвыпіўшаму ўжо Гераху закруцілася галава.

— Гатоў,—сказаў Вінцэнты да Валентага.

Гэтым часам увайшлі яшчэ дзве жанчыны і жандармы прынялі іх у абдымкі.

* * *

Герах адчуў холад і пачаў нацягваць на сябе коўдру, хацяя трымаў моцна канец коўдры і прабаваў накрыць ёю сваё цела, нехта адцягваў яе з яшчэ большай сілай назад і холад дакучаў Гераху мацней. Урэшце, кінуўся ў бок, у які адцягваў коўдру і раптам адчуў, што падае з ложка ў быструю рэчку. Вада аблівае яго і няпрыемны смурод казыча ў носе.

Герах ускочыў на ногі і толькі цяпер заўважыў, што стаіць у канаве, якая цягнецца ад нейкага высокага дома да канала, а замест пярыны—трымае ў руках кавалак дрэва. Пад нагамі хлюпае рэдкая, смярдзючая гразь. За каўнер з валасоў сцякае халодная вада. Перад сабою бачыць Герах невялікі двор, абкружаны нявыразнымі ў цемры будынкамі. Зірнуў угару, а там зоркі міргаюць адна другой, як бы паказваючы на адзінокага ў цёмным двары Гераха. Вылез з канавы і пачаў разважаць, дзе ён і чаму баліць так яго галава. Не мог распазнаць двара, не мог прыпомніць, як сюды трапіў і калі заснуў. І раптам, як бы яму нехта ключом дзверы да памяці адамкнуў: успомніў, што быў у банку, атрымаў грошы, спаткаў жандармаў і пашоў з імі ў рэстаран.

Схапіўся ліхаманкава за кішэню. Пасля за другую! За трэцюю! Чацвертую! Усюды пуста. Знайшоў толькі хустку, у якую былі завязаны грошы. Упаў на калені і, трасучыся ад страху, мацаў нервова рукамі па зямлі з надзеяй, што можа яшчэ знойдзе так цяжка здабытыя грошы. Але пальцы яго натыкаліся на каменне, стружкі, палкі і слізкія косці. Грошай і следу не было. Не мог стрымаць роспачы і застагнаў.

— Ах вы, зладзеі, каб вы з пекла ніколі не вылезлі...

— Хто там бурчыць?—перабіў яго нейчы санлівы голас.

— Выратуйце з бяды,—прасіў Герах.

— Што тут здарылася? Што за бяда?

У цемры вырысавалася чалавечая фігура.

— Няшчасце здарылася. Абрабавалі мяне,—скуголіў Герах.

Цень наблізіўся і Герах убачыў высокага, старога чалавека ў зімняй шапцы з тоўстай сукаватай палкай. Стары глянуў на твар Гераха і пагардліва плюнуў:

— Лайдак! Набярэцца, як свіння, а пасля качаецца на двары і не дае падрамаць чалавеку.

— Прыяцель, бацька каханы, хто вы? Бачыце, якое няшчасце...

— Заткні горла і выбірайся з двара, бо як лупяну цябе гэтай палкай, дык у зямлю правалішся і свіння на суд божы цябе не паспее вырыць.

— Але-ж, добры чалавеча... Мяне абакралі...

— Выбірайся, кажу!

— Але вы хто такі?... Дапамажыце...

— Вядома, не такі п'яніца, як ты. Я толькі бедны вартаўнік, што хоча зарабіць кавалак хлеба.

— Пане вартаўнік! Грошы ў мяне ўкралі.

— Я-ж у цябе іх не краў. Шукай іх сабе ў сваёй паненкі, на якой выехаў з рэстарана. Або ў сваіх калегаў жандармаў, якія табе кавалак палена ў рукі ўсунулі. Выбірайся, кажу, бо лоб табе рашчаплю гэтым сукам.

Герах ужо выходзіў за вароты, але ўспомніў, што няма шапкі на галаве і пачаў ізноў скуголіць.

— Прыяцель! Прыяцель! Мая шапка на вашым двары! Змілуйцеся і аддайце яе мне. Бо іначай у казармы паказацца не змагу.

Калі старык, мацаючы палкай, шукаў шапку, Герах спытаў:

— Чаму святла няма ў вас на двары?

— Бо забастоўка,—кінуў стары.

— Дык таму цёмна, што забастоўка?

— Не, мусіць не таму, што ты шапку згубіў. А ні вады, ні святла, а ні хлеба няма. Фабрыкі сталі.

— А на што гэта так зрабілі?

— Таму, што тры дні таму, шэсць салдат узялі афіцэры на расстрэл. І рабочыя не хочуць...

— Ой! Ёсць! Ёсць! У канаве, юха, ляжала,—радасна гукнуў Герах.

— Заткні горла, кажу, бо дручком цябе пачастую.

— Праз гэтую хваробу—шапку не зразумеў, што вы гаварылі пра салдат.

— Гаварыў, што тры дні таму назад афіцэры забралі шэсць салдат на расстрэл, а рабочыя абараняюць іх гэтай забастоўкай.

— На расстрэл?

Герах не сказаў больш ні слова і з апушчанай галавой накіраваўся да варот.

На вуліцы было спакойна. Герах азірнуўся ва ўсе бакі, як бы думаючы, куды пайсці, пасля павольным крокам падаўся ў казарму.

У галаве зблыталіся думкі і розныя камбінацыі. Перш за ўсё трывожыла думка пра асуджэнне салдат; найбольш яму было шкода Нявolі і Саўчына. Іх паважала і любіла ўся рота. Гэта-ж яны ўвесь час змагаліся за лепшую ежу, змагаліся супроць заганяння салдат пад ложкі і здзекаў над імі. Але ў хуткім часе ўсё заглушылі згубленыя грошы. Пачаў камбінаваць, ці не ўдалося-б пры забастоўцы зарабіць, каб вярнуць іх назад. Успомніў, што жандармы, якія з ім пілі, гаварылі, што ён чалавек дзяржаўны і штотыдзень можа зарабляць такія, або яшчэ большыя сумы. Сапраўды, зарабіць можна, бо нават сам капрал Ягадзінскі гаварыў, што за такога Вайташчыка, калі высачыць яго на якім паседжанні, або з матар'ялам—Герах атрымае трыста злотых.

Пры такім вэрлаху, альбо забастоўцы можна-б вышчупаць з дваццаць такіх комуністаў і было-б... Колькі-б гэта было: за дзевяцёх па сто зло-

тых будзе дзевяцьсот і за дзесятага сто, гэта будзе... гэта будзе... ага, гэта будзе тысяча. За другіх дзесяць—другая тысяча. О, дзве тысячы, а за Вайташчыка яшчэ трыста... Праўда казалі жандармы, што зарабіць можна...

А плацяць сумленна. Наколькі дагаварыліся, столькі і выплацілі... Але дзе мае грошы? Столькі грошай і ўсе зніклі. Не, Валенты з Вінцэнтым не ўзялі грошай. Напэўне, гэтая малпа, што села мне на калені. Але прыгожая была юха... а пахла ад яе! Э-э! Каб чалавек меў грошы, дык і дзяўчаты ліплі-б, як гліна да ботаў... Прыгажэйшая, мусіць, ад Мані. Толькі дзе яна жыве? Але пахла, дык пахла, юха... Як ксёндз, або яшчэ лепш. О, тут на гэтых каленях сядзела... Каб змог адшукаць яе яшчэ, дык хай-бы там і грошы... Гэта ўсё Валенты з Вінцэнтым накіравалі. Добрыя паны... Але за вошта іх трымалі разам са мною? Самі казалі, што яны комуністы?..

— Рукі ўгару!—пачуў раптам Герах.

Спалохаўся страшна і рукі самі ўзняліся ўгару. Стаяў на месцы, як укопаны. За некалькі крокаў перад ім стаяў атрад патруля. Камандзір падыходзіў да Гераха, нацэліўшы рэвальвер, і хрыпеў:

— Дзе было паседжанне комуністаў?

— Пане, я ў рэстаране...

— Маўчаць. Адказвай, калі пытаю. Дзе быў сход?

— Паночку, я ў рэстаране...

— Што? Каму будзеш мыліць вочы! А вопратка і шапка чаго мокрыя? Цераз рэчку перабіраліся?

— Кажу сумленна... нават пропуск маю...

— Маўчаць! Ведаю і вашы, сукіны сыны, прапускі. Урэшце, пакажы...

Герах пачаў шукаць у кішэнях, але і пропуск разам з грашыма некуды прапаў.

— Яшчэ будзеш мне тут хлусіць! Забярыце яго. Заўтра ўсё выспяваеш.

Два салдаты, з насаджанымі на вінтоўкі штыкамі, пагналі Гераха перад сабою. Потым паставілі яго разам з нейкімі двума цывільнымі. Перад ім стаялі яшчэ тры тройкі арыштаваных у цывільнай вопратцы. У такім парадку ішлі праз цёмныя вуліцы. Потым два салдаты адлучыліся, каб адвесці Гераха на гаўптвахту. Астатніх патруль пагнаў у бок камісарыята паліцыі.

На гаўптвахце было таксама цёмна, як і ва ўсім горадзе. Толькі пры стале, дзе прызначалі і адпраўлялі каравул, свяціла лямпа. Далажылі начальніку каравула, што схапілі салдата, які варочаўся з комуністычнага сходу. Начальнік каравула зірнуў на момант на Гераха і загадаў адвесці яго ў камеру нумар сем. Камера гэтая была пустая.

Герах ужо не быў п'яны. Бо з тае хвіліны, як выкрыў страту грошай, працверазіўся зусім. Ведаў таксама, што сядзець тут будзе толькі да таго часу, пакуль не даведаецца аб яго арышце капітан Палчынскі.

Праз некаторы час адчуў у калідоры нейкае варушэнне і цяжкі, як бы нехта душыўся, хрып. Адначасова нехта адчыніў дзверы яго камеры. Герах падлічыў у цемры, што ў яго камеру ўвайшло трох-чатырох чалавек.

— Пусці! Не душы за горла.—Пачуўся глухі, прыдушаны голас.

Нейчая рука пляснула па нейчым твары і грозны голас:

— Хто даў табе адозвы да новага бунта ў палку?

— Сам узяў,—адказваў ужо не прыдушаны, а добра знаёмы Гераху голас.

— Дзе ўзяў?
— Ляжала.
— Дзе ляжала?
— На зямлі.

Зноў трэск, штурханне, грукат ног па цэмантовай падлозе. Зноў грозны голас:

— Хто даў табе адозву да новага бунта ў палку?
— Сам узяў.
— Кажы, адкуль узяў, бо кішкі з цябе выпушчу:
— Ляжала.
— На зямлю яго!

Ногі злавесна зашорхалі па падлозе і зноў голас:

— Эх, ты ку.... крулеўская твая маць, зубамі будзеш грызьці цяпер.
— А-а-а-у-у-у,—завыў у адказ знаёмы Гераху голас.
— Пад столь яго!
— Ау-а-а-у-у... паўтаралася раз за разам.
— Вырываць валасы. Толькі не па многу зразу, а малымі пучкамі.

У цемры чуліся прыглушаныя стогны, шоргат вяровак пад самай столлю, хрыпатае дыханне і шоргат ботаў па цэмантовай падлозе. Праз некалькі хвілін усё паўтарылася, толькі стогны сціхлі зусім.

— Развяжы яму морду.—Задыхаўшыся, шапнуў нехта.
— Ужо.
— І што? Не бурчыць?
— Самлеў, мусіць.
— На зямлю яго, давай запалку.

Зноў зашоргалі боты і на падлогу абваліласся мякка нешта цяжкое. У гэтую-ж хвіліну бліснула запалка, асвятліўшы камеру жоўтым, трапяткім святлом.

Герах, як не самлеў ад страху, але, убачыўшы святло, напружыў зірк. Калі заўважыў, схапіўся, як злоўлены ў пастку ліс. На падлозе ляжаў увесь заліты крывёю Няволя, якога яшчэ перад гэтым пазнаў па голасе. А вакол яго круціліся ўзводны Вінцэнты, сержант Валенты і капрал Ягадзінскі. Вочы Гераха больш не маглі пазіраць і моцна зажмурыліся. А цела трэслася, як у ліхаманцы. Страціў на хвіліну прытомнасць і толькі праз некаторы час адчуў на сабе нейкую руку і пачуў словы:

— А ты тут чаго, сук... сукін сын?
— А-а... мяне... мяне патруль пасадзіў...
— Вымятайся, як найхутчэй у казарму,—загадаў капрал Ягадзінскі.

Герах рушыў слабымі здубянелымі нагамі да дзвярэй. У калідор выскачыў за ім капрал Ягадзінскі і сказаў:

— Бачыў?

Герах задрыжэў, язык анямеў і маўчаў, як камень.

— Гэта нічога. Спатрэбіцца табе ў далейшай працы. Толькі спачатку чалавек крыху ўражлівы, але памалу прызвычаішся. Цяпер бяжы ў роту, а дзяжурнаму падафіцэру скажаш, што я загадаў цябе прапусціць. Толькі маўчы! Памятай... Нікому а ні слова пра тое, што бачыў. У роту марш!

* * *

На другі дзень капрал Ягадзінскі прадставіў Гераха да карнага рапарта быццам за невыкананне асабовага загада ў часе практыкаванняў. У гэты-ж дзень былі пакараны за розныя правіннасці некалькі салдат.

Перад дзвярамі канцэлярыі «злачынцаў» выстраілі ў шарэнгу і на разбор справы ўпушчалі па адным да капітана Палчынскага.

Праз кароткі час прышла чарга да Гераха і капрал Ягадзінскі скамандаваў:

— У канцэлярыю марш. А не далажы там аб сабе, як трэба пану капітану, дык усе кішкі вытрасу з цябе.

Але, як толькі ўвайшлі ў канцэлярыю і дзверы за імі зачыніліся, капітан затрымаў даклад Гераха, падняўшы ўгару руку, і доўга разглядаў яго. Толькі праз некаторы час капітан нахіліўся да Гераха і сказаў:

— Ну, скажыце адкрыта, ці хочаце працаваць з намі сумленна?

— Я ўмею працаваць толькі сумленна, пане капітан,—адказаў Герах.

Капітан адамкнуў шуфляду і дастаў з яе пачку грошай. Паказваючы на пачку грошай, ён сказаў:

— Колькі, мяркуеце тут можа быць?

Убачыўшы новыя паперкі з худымі арламі, Герах заміргаў вачыма, рукі яго затрэсліся, як бы нешта яму шаптала, што пачка падрыхтавана для яго. Не мог дакладна вызначыць лічбу, але гукнуў наўдачу:

— Трыста злотых, пане капітан.

— Цішэй, не крычы так.

— Слухаю, пане капітан,—азваўся Герах.

Пасля капітан выняў рэвальвер і спытаў:

— Умееце з гэтым абыходзіцца?

— Чаму не. Службу канчаю, а пан капітан пытае, ці ўмею абыходзіцца з лівольверам,—упэўнена праказаў Герах.

— Ну, так,—сказаў капітан.—Гэтыя грошы падрыхтаваны для вас...

— Каб найвышэйшы пан бог узнагародзіў вас, пане капітан. А матка боская не выпускала вас з-пад сваёй апекі за...

— Пачакай—не дзякуй яшчэ і слухай да канца.—Перабіў яго капітан.— Грошы, кажу, прызначаны для цябе, але павінен ты ўмець іх узяць. Каб здабыць грошы, трэба ўмець іх заслужыць.

— Я стараюся, як толькі магу, пане капітан,—сказаў Герах.

— Ну, дык пастарайся ўзяць сабе гэтыя грошы...

— А што трэба зрабіць?

— Ну, то слухай! Гэтыя грошы атрымае спярша Вайташчык?

— А яму за што?

— За тое, каб мог заплаціць за сваю смерць.

— За сме-ерць?

— Так, за смерць. Казаў табе калісьці, што атрымаеш трыста злотых, калі выкрыеш Вайташчыка, але, як відаць, ён цябе абыйдзе і зарабіць не дасць. Урэшце, дайшлі да мяне чуткі, што падазраюць аб тваёй рабоце ў нас і збіраюцца справіць табе такую «бібу», як Солярку.

— А што зрабілі Солярку?—пытаў Герах.

— Забілі яго недзе і на сёнешні дзень знаку ад яго не засталося.

— Дык хочуць забіць і мяне?

— Так... Цябе павінен забіць Вайташчык...

Капітан на хвіліну прыпыніў гаворку, бо Герах жахліва збялеў і дзве слязы пакаціліся па шчоках. Герах пачаў заікацца.

— Гэта... гэта, напэўна за Няволю і Саўчына... шкада, хацеў я яшчэ крыху пажыць... але няма рады... заб'юць...

— А гэта што, не рада?—паказваючы на маўзер, сказаў капітан.— Гэта ёсць адзіная рада... Пакуль ён цябе, ты заб'еш яго раней. Апрача гэтага, грошы забярэш сабе і будзеш жыць, як трэба.

— А як гэта зрабіць, пане капітан?

— Дык слухай, не хліпай, як баба. Сёння зараз-жа пасля абеда Вайташчык атрымае гэтую пачку для перавозкі яе ў артылерыйскі полк, які стаіць за лесам. Ведаеш дзе?

— Ага, ага, ведаю... ну, і... ну, і...

— Ну, і. Ну, і ты возьмеш гэты маўзер, сядзеш за кустам, ну, і...

— Забіць?

— Калі не ты яго, дык ён цябе...

Герах падняў ужо руку, каб узяць са стала маўзер, але яна дрыглівa ўпала па швах штаноў: дыхаў ён коратка і цяжка, вочы былі выпучаны і наліты страхам.

— За жыццё трэба змагацца,—навучальна сказаў праз некаторы час капітан.

Пачуўшы гэтыя словы, Герах уздрыгнуўся, схапіў рэвальвер і нейкім дзікім голасам закрычаў:

— Ах! Пайду. Што вы з мяне зрабілі?

— Звар'яцеў ты, ці што? Быў ты хамам, а цяпер робім з цябе пана— пацешыў яго капітан.

— Пайду ўжо, пайду! Зараз пайду.—балбатаў Герах.

— Ну, ідзі, памажы табе божа. Як доказ, прыкоціш у маю кватэру веласіпед. Ведаеш, дзе жыву? За мостам.

— Пайду, пайду,—тлумна мармытаў Герах, пасля адвярнуўся і хацеў выбегчы ў залу.

— Стой!—крыкнуў капрал Ягадзінскі,—схавай рэвальвер.

Герах затрымаўся каля самых дзвярэй, тупа паглядзеў на маўзер, пасля ўсунуў яго ў кішэню.

— Слухай, Герах.—Напомніў яму капрал Ягадзінскі.—Памятай, страляй так, каб жывога не выпусціць. А схавай Вайташчыка так, каб ні адна душа не знайшла... Памятай... Я з табой нянчыцца не буду... Калі выпусціш Вайташчыка і ён цябе не заб'е, дык я табе плюну ў бабэхі... Здаецца, бачыў ужо, што я гэта магу...

Пасля гэтых пераконанняў і пагроз, Герах вышаў у залу, а капрал Ягадзінскі сказаў капітану:

— Ну, можна быць упэўненым. Ён заб'е... Наогул, ад яго будзе карысць, няхай толькі крыху ўцягнецца.

Калі Герах прышоў у свой узвод, дзяжурныя прынеслі ўжо абед. Герах узяў свой кацялок, але есці абеда не змог.

Калі капрал Ягадзінскі падаў яму неўзаметкі пропуск, Герах апрануў плашч і вышаў на вуліцу. Ён накіраваўся проста ў лес, дзе стаяў полк цяжкай артылерыі.

Была ўжо глыбокая восень і ў паветры чуўся подых зімы. Сонца танула ў шэрых густых хмарах. Моцны вецер зрываў з дрэў пажоўклае лісце, біў ім аб зямлю і ізноў ускручваў высока, перакідваў праз дахі будынкаў і гнаў некуды, як-бы не мог знайсці для гэтага лісця месца на зімовы адпачынак.

Як тое вецце разгатае, што калыхалася ва ўсе бакі на высокіх таполях, так білася сэрца Гераха і скуголіла нешта ўнутры:

— Смерць яму, або мне.

Калі дайшоў да лесу, пачуў роспачлівы шум старых сосен: як-бы скардзіліся яны на шалёны націск ветра, што з ўсяе свае сілы стараўся прыгнуць іх да зямлі. Але моцныя карэнні ўпіліся глыбока ў зямлю і сударгава ўтрымлівалі ўвесь цяжар дрэва. Гераха ахапіў жах. Здалося

яму, што ўсё хоча жыць і ўсё змагацца за жыццё. Урэшце, уявіў сабе, што і ён змагаецца не за што іншае, а толькі за жыццё, якое заключаецца ў грашах. Але ў гэту самую хвіліну адзываўся другі голас, што Вайташ-чык таксама змагаецца, каб жыць... ізноў прыпаміналіся словы капітана Палчынскага, што Вайташчык хоча яго забіць...

— Ён, напэўне, хоча адпомсціць за смерць гэтых шасці, якіх жыцця пазбавіў я... А! Гэта-ж не мая віна, што вы загінеце, а можа ўжо загі-нулі... Гэта віна жандармаў Валентага і Вінцэнтага, якія так лоўка ігралі ў комуністаў. Так... Гэта яны вінаваты! Але я калегаў выдаў на смерць. Ці варта мне цяпер жыць?

Тут Герах выхапіў маўзер з кішэні, але, як зірнуў на яго—затрымаўся. Разумеў, што досыць пацягнуць раз пальцам і ўсё будзе скончана.

Але чаму сябе, а не яго? Дык можна-ж наладзіць сабе выгаднае жыццё... Маня ў кожным лісце запэўняе, што жыве толькі для яго, ёсць гаспадарка задоўжаная... Дык ёсць спосаб зарабіць. Раз толькі націсну пальцам і чатыраста злотых уляціць у руку... Хіба ён апошні? Ці не змагу вышчупаць яшчэ такіх, як Вайташчык? А тады і знаку ад даўгоў не застанецца... Эх, трэба жыць і ратаваць гаспадарку...

Аглянуўся, каб выбраць выгаднае месца для засады. У гэтую хвіліну прыйшла яму думка, што трэба стаіцца там, дзе ўзнімаецца найвышэйшы ўзгорак. На такі ўзгорак на веласіпедзе ехаць нельга, дык Вайташчык будзе ісці пешшу. Так. А як будзе ісці пешшу, найлепей будзе страляць.

Герах неўзабаве быў ужо на месцы і асеў у вялікім кусце ядлоўца.

Ён цяпер ужо адважыўся і нецярпліва чакаў, калі наблізіцца Вай-ташчык.

З грошай, якія прывязе Вайташчык, ён парашыў выслаць зараз-жа бацьку трыста пяцьдзесят злотых. А пяцьдзесят узяць у рэстаран і пагу-ляць з той, ад якой так прыемна пахла, калі толькі зможа знайсці яе. Праз некаторы час глянуў у бок, адкуль павінен быў ехаць Вайташчык і ўздрыгануўся ўвесь: недалёка, за якіх пяцьдзесят крокаў быў Вайташчык.

Схілены да руля, ён з усёй сілы націскаў на педалі. З-пад шырокага казырка быў відзен абветраны смуглы твар. Параўняўшыся з кустом ядлоўца, за якім сядзеў Герах, Вайташчык саскочыў з веласіпеда, бо далей цяжка было ехаць. Гераха працяла трывога і маўзер выпаў з рукі. Да гэтага часу ён яшчэ не забіваў людзей. Ён бачыў перад сабою знаё-мага салдата, яго твар, яго жывыя вочы. У гэтую хвіліну Герах успомніў, як мучылі Няволю ў цёмнай камеры. Не мог больш вытрымаць і не мог прапусціць Вайташчыка. Зноў схапіў маузер, які ляжаў на зямлі, выбег з-за куста і пачаў крычаць:

— Стой! Стой! Кажу табе. Бяры маўзер!.. Хацеў ты мяне забіць—забівай! Толькі зараз!..

Збянтэжаны Вайташчык на хвіліну анямеў. Аднак, зараз-жа кінуў веласіпед, схапіў за маузер і вырваў яго з рук Гераха.

— Хто табе загадаў забіваць мяне?—крыкнуў ён.

— Забі, не пытай! Ты-ж гэтага хацеў? Забі! Не муч мяне! Або дай лівольвер, дык я цябе...

— Супакойся. Ніколі не думаў я цябе забіваць. Хто табе загадаў?

Герах крыху працверазіўся і глянуў Вайташчыку ў вочы. Пасля мят-нуўся позіркам на кішэню і ўбачыў вытаркнуты рог пакета з грашыма. «Гэты самы пакет, які паказваў капітан»,—мільганула ў галаве Гераха. Маланкай кінуўся ён на Вайташчыка і схапіўся правай рукой за маузер.

Вайташчык увесь скурчыўся і так ламянуў Гераха галавой у грудзі, што тоў аж уляцеў у роў.

— Не кратайся з месца!—крыкнуў Вайташчык, мерачыся маузерам.— Кажы, хто цябе сюды прыслаў?

— Капітан і капрал Ягадзінскі.

— Каб забіць мяне? Так?

— Так. Загадана не выпусціць цябе жывога.

Але ў гэтую хвіліну Герах ускочыў, бо зноў ахапіў яго жах смерці ад нацэленай на яго рулі рэвальвера. Адначасна позірк яго зноў упаў на пачку з грашыма. Не спушчаючы позірка, Вайташчык адскочыў спружыніста два крокі назад і крыкнуў:

— Ні з месца, бо ў лоб! Зараз-жа сядай!

Герах апушчаўся на зямлю павольна, азіраючыся. Сеў і абмацаў пад сабою камень.

— Каго апрача мяне вышпігоўваеш і якія маеш загады надалей?

Вайташчык гаварыў і ўвесь час мерыўся ў Гераха. Той маўчаў бегаючы позіркам па Вайташчыку і вымяраючы адлегласць да яго галавы. Урэшце, Герах азваўся лісліва:

— Хочаш пра ўсё даведацца?

— Не пытай, толькі адказвай. Разумееш!?

— Усё раскажу, толькі апусці лівольвер, бо не магу слова ад страху праказаць, калі пазіраю на гэтую рулу.

— Гавары, аб чым пытаю!

— Ну, добра, магу гаварыць. Дык слухай...

Герах раптам схапіў камень і кінуў яго ў галаву Вайташчыка. Потым, ускочыўшы, рынуўся на яго.

Аглушаны каменем Вайташчык захістаўся і ўпаў пад цяжарам Гераха. Аднак, маўзера з рукі не выпусціў і лежачы пад Герахам, націснуў на спуск. Рэха стрэлу шуганула далёка па лесе. Герах бязвольна ссунуўся з Вайташчыка, ліхаманкава сціскаючы ў пальцах пачак з грашыма.

* *
*

Вайташчык звярнуў з дарогі ў лес і праз поўгадзіны язды ўбачыў праз туман вёску.

— Ой, будзе тут работы,—сказаў сабе.—Да набора яшчэ месяц. Трэба далажыць сілы, каб, як мага больш, навабранцаў падрыхтаваць да арміі.

Але перш за ўсё трэба падумаць аб цывільнай вопратцы.

*З польскай мовы пераклаў М. ПАСЛЯДОВІЧ.*

Ал. Дудар

# ПЕРАКЛІЧКА ГАДОЎ

Калі-небудь пра гэта
легенды расказваць будуць,
і вучоны
чый лозунг—
адмерай, узваж і правер!—
будзе з пільнасцю строгай
раскапываць пыльныя груды
матэр'ялаў архіўных
пра змаганне за БССР.
А у нас, у жывых
не памерла гарачая памяць.
Сцежкі гэтых гадоў
не паспелі яшчэ зарасці.
І мы ведаем добра,
каго зганьбаваць і запляміць
і каму, як герою,
на ўзвышша вякоў узыйсці.
Зацвітуць гарады,
заяснеюць калгасныя хаты,
і на плошчах,
на вуліцах,
на скрыжаваннях дарог
павядуць пераклічку
дваццаты
і трыццаць пяты—
легендарныя годы
легендарнейшых перамог.
І дваццаты напомніць,
як ворагі край пусташылі:
на палаючы Менск вочы памяці зноў паглядзяць,
на руіны Барысава
і на жахі Бабруйскай бастыліі,
на магілы,
дзе косці дагэтуль аб помсце крычаць.
Ён устане, як здань
з акрываўленым жудасным тварам,
і напомніць ізноў дні рашучых і грозных баёў,
калі з ленінскім сцягам
ішлі паміраць комунары

і за шчасце зямлі
і за ўласнае шчасце сваё.
Пеў палкоўнік Гарун
пра замшэлыя вежы-званіцы,
генеральскія шаблі
хаўтуры вызваньвалі нам,
і майстры пустазвонства,
прайдзісветы
і гіцлі
Беларусь за двузлоты
прадавалі вяльможным панам.
Але подлая здрада
не сцісне рабочаму горла
і за вежы-званіцы
на смерць бяднякі не пашлі.
Не за белую косць
партызаны памерлі ў Дукоры,
не за банкаўскі сейф
комсамольцы ў Бабруйску ляглі.
Паднялося падполле —
збялела бяссільная здрада,
зашумелі лясы —
пан засеў у варшаўскі вагон;
бег палкоўнік Гарун,
уцякала прадажная рада —
і кляцьба,
і пагарда
імчаліся ім наўздагон.
Разам з поступам мерным
сталёвых чырвоных дывізій
шчырасць, дружба і воля
з новым шчасцем дамоў прышлі.
На жыццё і на працу
перамога дала нам візу,
ранне новае закрасавала,
на заводзе і на раллі.
Чарадою прабеглі
незвычайныя гэтыя годы.
Нават сцежкі тых дзён
не паспелі яшчэ зарасці.
І загоены раны
ваяцкае непагоды
і па нашых дарогах
драпежнікам больш не прайсці.
Не прайсці,
не прабрацца —
мы знаем,
мы чуем,
мы верым.
Жарка б'ецца
ў кожнага ў сэрцы
совецкая кроў.

Хай шыпіць Розенберг,
хай зубамі ляскае Герынг.
Мы ўжо многіх вучылі —
калі трэба
паўторым ізноў.
Трыццаць пяты
ідзе самавіта, спакойна і горда
праз шумлівыя гарады,
праз квітнеючыя палі:
ён рэспубліцы нашай
прыносіць чырвоны ордэн
і братэрскае прывітанне
ўсіх працоўных усёй зямлі.
Толькі ў нас пачуццё
можа быць маладым і адзіным,
толькі ў нашай
адзінай, магутнай, савецкай сям'і.
З мільёнамі разам
мы жылі на чэлюскінскай льдзіне,
з мільёнамі разам
ў стратасферу ўздымаліся мы.
Мы гадуем людзей,
мы інакшымі робімся самі:
нашу працу
і нашых сяброў
мы умеем любіць;
ўсё нікчэмнае,
брыдкае,
ўзгадаванае ў свеце вякамі,
мы умеем адкінуць, растаптаць і забыць.
Перамога і дружба
нас злучылі,
загартавалі
і адкрылі дарогу
ў прастор,
ў бліскучую шыр.
Слухай сэрца!
Вітае
нас сусветным голасам Сталін,
найвялікшы, любімейшы правадыр.

Мар'іна Горка, 1935 г.

Александр Міронаў

# МОЦ БЕРАГАВЫХ

## I

Прывязаўшы да жэрдкі сабачую запражку, Тэнэро кінуўся ў ярангу.

— Улікай!—крыкнуў ён, шпарка падымаючы ўваходную скуру полага.

— Чш!... Дзіця спіць...—старая Укуга злосліва зірнула на прышоўшага.—Улікай каля мора, ён...

Не даслухаўшы, Тэнэро выбег з ярангі і шпаркімі крокамі рынуўся па адхону, унізе якога цёмны натоўп людзей завіхаўся над чымсьці доўгім. «Байдару правяць»,—здагадаўся Тэнэро. Цьмяна-жоўты твар ягоны скрывіўся ад нецярплівасці і трывогі, ён злосна выцягваў са снегу ногі і цяжка дыхаў. На поўдарозе спаткнуўшыся, паваліўся і клубком пакаціўся па адхону.

— Улікай!—хрыпла крыкнуў ён, устаўшы ўнізе адхона.—Улікай, я да цябе...

Чукчы рагаталі, гледзячы на растрапаную, постаць, аблепленую мокрым вясновым снегам. Яны ляпалі адзін другога па спінах і ў рогаце выскалялі жоўтыя, пракураныя зубы.

— Чаго прыехаў?—ступіў Улікай да Тэнэро.

— Тут не скажу,—стрэльнуўшы зіркам на тых, што рагаталі, буркнуў чукча.

— Тут усе свае, калгаснікі, кажы. Ну?

— Вялікая бяда ў нас!—нязвыкла голасна крыкнуў Тэнэро, чаучу *) паехалі ў тундру на аленях, будуць рэзаць...

— Хто рэжа?—схапіўшы Тэнэро за каўнер кухлянкі, холадна з шыпеннем выпаліў Улікай. Чукчы адразу зрабіліся суровымі. Сціхлі, калматым колам абкружыўшы Тэнэро і Улікая. Прышлы, цяжка пераводзячы дух, не вырываўся з цэпкіх Улікаевых рук: ён спяшаўся растлумачыць страшэнную вестку і нецярпліва пераступаў з нагі на нагу, напружана хмурачы чорныя калматыя бровы.

— Хто?—прыглушана паўтарыў Улікай.

— Усе рэжуць. Рыркай загадаў: кажа хутка будзе мор на аленяў і алені паздыхаюць.

— Рыркай?—здзівіўся Улікай.—Як-жа гэта шаман апынуўся ў тундры?—Тэнэро разгублена пацісnуў плячыма:

— Хто ведае? Рыркай прыехаў раніцою, загадаў сабраць усіх аравелян**). Шаманіць пачаў. Крычыць: «духі загадалі рэзаць аленяў, мор будзе, статак выдахне». І людзі...

*) чаучу—аленевыя чукчы.

**) людзі.

— Спалохаліся?—з усмешкай перапыніў хлапец, што стаяў у натоўпе.

— Спалохаліся,—пацвердзіў Тэнэро.—Людзі пабеглі ў тундру па аленяў, я ўзяў запражку і паехаў да вас. Памажыце!..

— Дзе рэзаць будуць?—рэзка запытаў Улікай.—У тундры?

— Не,—Тэнэро адмоўна кіўнуў галавою.—Рыркай загадаў гнаць аленяў у стойбішча.

— Пойдзем у стойбішча!—прахрыпеў Улікай і кінуўся да адхону. За ім пабеглі астатнія, адразу кінуліся па адхону ў стойбішча і пачалі шпарка лавіць сабак.

. . . Нібы стрэлы выляцелі запражкі са стойбішча. Сабакі, скавычучы пад ударамі бізуноў, імчаліся, нібы не дакранаючыся лапамі снегу. Чукчы моцна трымаліся за лукі нарт. За Тэнэравай нартай, не адстаючы, імчалася Улікаева запражка. Ззаду, наўсцяж, трымаліся яшчэ чатыры нарты. З іх часта даляталі нецярплівыя пакрыкванні каюраў.

* * *

Дзень дагараў: неба здавалася пасыпаным попелам, і толькі на захадзе, нібы вялізарная пастка невядомага звера, выскаляўся чырвоны заход сонца. Загарэліся першыя нясмелыя зорачкі. З кожнай хвілінай гусцеў змрок.

Да качэўя аленяводаў заставалася недалёка. Чукчы ўсё так жа шалёна гналі сабак, але пры набліжэнні да стойбішча іх ахапляў непакой.

— Хутка цяпер,—шаптаў Улікай, пільна ўглядаючыся наперад. Вячорны змрок плаўна спускаўся на тундру, і ў ім нявыразнымі цьмянымі зрабіліся абрысы снягоў. У кожным сумёце, што маячыў наперадзе, Улікаю здаваўся шэраваты ўзгорачак аленевага трупа.

— Спазніўся,—мармытаў ён,—парэжуць аленяў, парэжуць...

. . . Сабакі пярэдняй запражкі рэзка тузанулі ўперад, агалашаючы тундру шалёным, хрыпатым брэхам. Захліпваючыся, падвываючы, адказалі ім астатнія.

— Кроў чуюць!—зразумеў Улікай, пільна ўглядаючыся.

Наперадзе паказалася шэрая, густая і невыразная маса, з якой, нібы балотныя купінкі ў пакрытай ягелем *) тундры тырчэлі вярхі ярангаў.

Перакуліўшы нарты ўгару палазамі, прыехаўшыя прымацавалі іх да ўтаптанага аленямі снегу і кінуліся да крайняй, самай вялікай ярангі. Там, невыразныя ў вячорнай імгле, тоўпіліся ўзрушаныя людзі, размахвалі рукамі і крычалі. Яны нават не заўважылі прыезду нечаканых гасцей, і калі Улікай шырокімі плячыма пачаў расштурхоўваць бліжэйшых, тыя расступіліся не гледзячы на яго.

У асяродку, каля ўваходу ў ярангу, гарэў невялікі касцёр. Святло яго слабымі плямамі слізгала па пачарнелым ад крыві снезе, па нерпавым торбазам чукчаў, якія пасталі шчыльным кругам. На снезе, сударгава дрыгаючы стройнымі нагамі, ляжала важэнка**), пуза яе ўздымалася, як гара, а з распатрашанага нажом горла хліпаючы біла кроў.

— Цягні,—выпрастаўся чалавек, што стаяў над важэнкай.—Давай другога.

Да важэнкі кінуліся двое чукчаў, накінулі ёй на заднія ногі аркан і шпарка пацягнулі з круга. Чалавек, што даваў загад, падганяў іх, махаючы акрываўленым нажом.

---

*) мох.
**) аленевая самка.

Улікай паглядзеў на чырвоныя рукі чалавека з абпырсканым крывёю скрыўленым тварам і раптам пазнаў яго:

— Рыркай,—ступіў ён да агню,—здароў, шаман...

Той, яшчэ п'яны ад крыві, няўцямным поглядам зірнуў на прышоўшага. Шаманавы вочы былі ахмялелымі, святло агню адлюстроўвалася ў іх зялёнымі, драпежнымі агенчыкамі.

— Улікай?—зразумеў раптам, адступаючы на крок.—Улікай, ты чаго прыехаў?

Рыркай замітусіўся, боязна хаваючы вочы ад упартага погляду чукчы. У яго адразу зніклі ўзрушанасць і рашучасць. Шаман палахліва азіраўся, нібы шукаючы спачування і абароны ў людзей, што раптоўна змоўклі і шчыльней прысунуліся да яго.

— Я... у госці... прыехаў, у калгас,—важна, падзяляючы словы, адказаў Улікай.—А ты чаго тут?

— Я...—шаман адступіў ад Улікая, сціскаючы ў руцэ нож.

— А табе навошта ведаць?—выскачыў з натоўпу сівы Тыняно.

— Мне? Мне трэба шмат чаго ведаць... Стой!—Улікай спрытна ўхіліўся ад бліснуўшага над галавою нажа і цэпка, на ляту схапіў ліпкую ад крыві руку. Моцна павярнуўшы яе ён рэзка тузануў яе да сябе і раптам вячорную цішыню агаласіў дзікі, нечалавечы крык. Рыркай паваліўся на дол, прыціскаючы да цела вывіхнутую руку і, як нядаўна важэнка, задрыгаў па снягу нагамі. Чаучу спалохана расступіліся. Шаман змоўк, выпрастаўся струною, на вуснах ягоных з'явілася белая пена, а з роту пасыпаліся незразумелыя і страшныя як брэд, словы.

Чаучу захваляваліся. Рукі людзей прывычна пацягнуліся да паясоў, дзе вісяць вострыя і хуткія да расправы нажы. Шаман хрыпеў, пляваўся пенаю, выкрыкваючы заклінанні.

— Заб'юць!—падумаў Улікай.—Ён шпарка нахіліўся, схапіў жменю акрываўленага, набраклага аленявай мачою снегу і моцна прыціснуў яго да шаманавага роту. Рыркай усхапіўся, плюючыся і абціраючы з твару снег.

— Не смачна?—засмяяўся Улікай. Шаман пляваў багата і густа, па твары ягоным цяклі слёзы і тады разам з Улікаем засмяяліся ягоныя спадарожнікі, і Тэнэро, і чукчы, што забыліся пра нажы.

## II

Тэнэро склікаў усіх у сваю ярангу.

Каля жырніка селі берагавыя. Улікай на галаву ўзвышаўся над астатнімі і быў падобны на буры, халодны каменны ўцёс. Каля выхаду, абкружаны шчыльным колам старых чукчаў, панура сядзеў Рыркай, прытрымліваючы каля грудзей, нібы дзіця, вывіхнутую руку.

Калгаснікі трывожна шапталіся, паглядаючы на маўклівых гасцей.

— Пачнем?—шапнуў Тэнэро.

— Мгм,—Улікай станоўча кіўнуў галавою.

— Вось прыехаў Улікай, старшыня калгасу берагавых,—пачаў гаварыць Тэнэро.—Хутка будзе вясна, берагавыя майструюць байдары да вясновага промысла. Улікай просіць да промысла аленяў, у промысел калгас тлушчаю аддасць нам.

— Заўтра шмат мяса будзе, дамо,—перапыніў хтосці.

— У промысел тлушчаю аддадуць,—паўтарыў Тэнэро.—Цяпер Улікай скажа.

Улікай жоўтым пальцам прыціснуў агеньчык у люльцы.

— Ваш старшыня праўду кажа: нам трэба мяса. Вы аленяў рэжаце, мы возьмем. Шмат мяса возьмем: людзям, сабакам. На беразе два новых калгасы ёсць і ім таксама мяса трэба. Ці можаце нам даць?

— Добра,—загаманілі чаучу.—Дамо, колькі трэба?

— Шмат прасіць буду, колькі даеце?

Стрыманы шэпт мацнеў. Нарастаў гул галасоў. Улікай змоўк, падміргнуўшы Тэнэро. Узвышаючы голас, той выгукнуў:

— Берагавыя шмат просяць, не ведаю як даць. У нас мала застанецца.

Рыркай шпарка нахіліўся да вуха Тэнэро і ўзрушана зашаптаў штосці. Стары ўсхапянуўся, махнуў рукою:

— Хай шмат бяруць, усёроўна пошасць на аленяў будзе!

— Добра,—Тэнэро крыху падняўся, сядаючы на кортачкі:—дамо, як Тыняно кажа. Нам алені не трэба, дохнуць будуць.

— Дохнуць?—здзівіўся Улікай.

— Шаман кажа, Рыркай,—гаварыў далей старшыня.—Мор будзе, алені паздыхаюць. Мы так дамо: у нас дзевяць соцен.—Ён падняў над галавою абедзве рукі, на якіх тырчэў адзінокі палец,—Улікай свайму калгасу просіць дзве сотні, калгасу Інчоў—дзве і Пнопельхенскаму—дзве. Шэсць соцен просяць берагавыя! А ў нас застаецца тры,—скончыў Тэнэро, падымаючы руку з трыма растапыранымі пальцамі.

— На чым вазіць будзеце гэтак многа?—здзіўлена развёў рукамі Тыняно.

— Мы не будзем вазіць,—адказаў Улікай,—раніцою пагонім аленяў да берага, у стойбішчы зарэжам.

Шаман захваляваўся. Ён горача шаптаў на вуха то аднаму, то другому старому, але тыя адмахваліся, баючыся прапусціць цікавую размову.

— Дамо шэсць соцен?—голасна спытаў Тэнэро.

— Пачакай,—строга перапыніў Улікай.—Мала шэсць соцен. Аддай ты мне ўвесь статак: каля сэрца—Каменя чаучу зышліся ў новы калгас, у іх мала аленяў. Мы пагонім туды вашых аленяў.

— Не можна гнаць!—усхапіўся Рыркай. Высокі і кастлявы, ён недарэчна махаў здаровай рукою і багата пырскаў слінай з круглага тоўстагубага роту.—Не можна: духі з'явіліся мне ўначы, загадалі сказаць чаучу, каб рэзалі ўсіх аленяў. З поўдня ідзе страшны мор, ён скосіць увесь статак у нашай тундры і будзе касіць людзей, як аленяў.

Рыркай спяшаўся выкрыкнуць як мага больш палохаючых слоў. Ён з кожным сказам павышаў голас і гаворка яго пераходзіла ў жаласнае выццё. Чаучу занепакоіліся, трывожна паглядаючы на выхад. Убачыўшы шаманаву спробу заўладаць становішчам, Улікай зарагатаў нарачыта голасна і крыкнуў, перасільваючы шаманава выццё:

— Ізноў хочаш снегу з мачой, Рыркай? Зараз прынясу, накармлю цябе, а то выеш, як галодны сабака.

Выбух вясёлага рогату берагавых пакрыў апошнія чукчавы словы. Шаман спыніўся і, крывячы вусны ў жаласную грымасу ўсмешкі, амаль прашаптаў.

— Паздыхаюць алені, усе паздыхаюць...

— Не паздыхаюць у нас!—Перапыніў Улікай і, звяртаючыся да чаучу, працягваў:—Вы баіцеся, што алені паздыхаюць, хочаце рэзаць іх. Вас мала, не з'ясце дзевяць соцен. Пакіньце сотню сабе, астатніх мы раніцою пагонім да берага.

— Сотню?—перапыніў Тыняно.—Мала сотні: з'ямо, а потым што?

— Усёроўна калі ўсіх парэжаце, алені хутка засмярдзяць, есці нельга будзе...

— А мы, як пасля будзем?—балесна скрывіўшыся, перапыніў Тыняно.—Якія мы чаучу без аленяў?

У кутку каля выходнае скуры пачулася мітусня. Праз палог павеяла холадам з прыадчыненага ўваходу.

— Рыркай пашоў,—сказаў адзін з старых.—Пайду пагляджу куды.

Стары вышаў. Людзі, чакаючы шамана, змоўклі. Курылі, часам перакідваліся скупымі, негучнымі сказамі. Рыркай не вяртаўся. За тонкімі сценкамі полага пачуўся сабачы брэх. Рыпнуў снег пад палазамі нарты. Праз палог пралез стары і вінавата моргаючы засмучона сказаў:

— Паехаў Рыркай. Лаяў чаучу і Улікая, абяцаўся пасляць мор на аленяў.

Улікай усміхнуўся:

— Чаму-ж ты не спыніў яго?

— Я казаў—застанься, а ён паехаў.

— Добра,—перапыніў Тэнэро.—Будзем даваць аленяў?

Чаучу не адказвалі, хаваючы вочы.

— Кепска адною рукою каюрыць,—задумённа прамовіў Улікай.—Уначы і духі не дапамогуць Рыркаю кіраваць сабакамі, як не дапамаглі мяне забіць.

— Бярыце заўтра аленяў, Улікай!—рашуча сказаў Тэнэро.

— А мы як?—данеслася з цёмнага кутка.

— Ідзіце на бераг,—паглядзеў у куток Улікай.— Толькі ў калгас не прымем: трусы вы, шамана баіцеся. Гэткіх калгаснікаў нам не трэба.

— На бе-раг?—здзівіліся людзі.—На бераг не пойдзем, мы чаучу.

— Якія-ж вы чаучу, калі заўтра аленяў парэжаце? Без аленяў не чаучу. Шамана баіцеся, а ён сам ад вас уцёк.

— Не будзем рэзаць!—злосна закрычаў Тыняно і сівая галава яго затраслася, нібы яе тузалі за нябачную нітачку.—Аддаць аленяў, а самім галадаць? Тэнэро, ты старшыня, скажы, што не дамо аленяў.

Стрымліваючы ўсмешку Тэнэро ўстаў, каб схаваць у змроку, што панаваў угары радасны бляск сваіх вачэй. Ён памаўчаў, чакаючы пакуль сціхне гул устрывожаных галасоў. Пасля строга, нібы робячы вымову Улікаю, загаварыў:

— Мы не дамо аленяў. Навошта рэзаць будзем? Рыркай не запужаў нас, ён сам уцёк.

— Зусім не дасце?—знарок занепакоіўся Улікай.

— Хай людзі скажуць,—сядаючы на месца, адказаў Тэнэро.

— Дзесяць дамо,—разважліва сказаў Тыняно,—больш нельга.

— Мала дзесяць,—запярэчылі чаучу,—можна дваццаць даць.

Улікай, згаджаючыся, кіўнуў галавою.

* * *

Палог апусцеў хутка: чаучу спяшыліся разыйсціся, баючыся, што берагавыя перадумаюць і запросяць больш аленяў. Калі ў воддалі змоўклі крокі апошняга, Улікай весела чмыхнуў, ён не мог больш стрымаць смеху. Смяяліся і астатнія, радыя сваёй моцы і перамозе.

— Колькі зарэзаў Рыркай?—запытаўся Улікай.

— Тры, чацьвёртага ты не даў,—адказаў Тэнэро.

— Заўтра мы забярэм іх, а статак ганіце ў тундру,—моцна ляпнуў Улікай па спіне старшыні аленевага калгасу.

Тэнэро, шчасліва жмурачыся на агонь жырніка, пасмоктваў люльку.

## III

У ружовым світанні спіны аленяў здаваліся ахопленымі полымем. Статак слаўся вялізарны, як мора, і шолах аленевых капытоў падобен быў да рокату прыбоя.

Статак калыхаючыся, нібы павольны разбег хваляваў, рушыў на поўдзень, на новы ягельны папас. Паганятыя спяшаліся адыйсці далёка ад качэўя, дзе спалі берагавыя, спяшаліся аднесці, як мага далей, сваю хітрасць.

... Да берага сабачыя запражкі калгаснікаў імчаліся шпарчэй ад ветру: там чакала Улікая і ягоных спадарожнікаў вялікая работа—спешная падрыхтоўка да блізкага вясновага промысла марскога звера.

Красавік
1935 г.

*З рускай мовы пераклаў А. ЗВОНАК.*

А. Шарапаў

# БАЛАДА ПРА ДВУХ ТАВАРЫШОЎ

Шуміць над ракою сасоннік густы,
Карэннем спавіты курган.
На бераг зялёны, на бераг круты
Паўзе па абрыву туман.

Вартуюць ад ветра, ад слоты й дажджа
Высокія сосны курган.
На беразе тым пад курганам ляжаць
Таварышы Клім і Ян.

Як варта, праходзяць гады-патрулі,
Змяняецца раннем рань.
Ў Палессі на працы падпольнай быў Клім,
Быў польскім жаўнерам Ян.

Быў хмаркаю лёгкай умыты адзін,
Другі—цёмнай ночы хмурэй.
Адзін ішоў сцежкай астатніх гадзін,
Другі яго вёў на расстрэл.

На лапах у сосен гарэў усход,
Дымілася ўнізе рака.
На бераг прывёў белапольскі ўзвод
Расстрэльваць большэвіка.
Праменні ружовыя кідаў усход
На росы праз белы туман.
Заляскаў вінтоўкамі польскі ўзвод,
Ляснуў вінтоўкаю Ян.

Ян думаў: з Палесся—значыць зямляк.
— Капай!—загадаў сержант.
І пахла вакол сырадоем зямля
І рыдаль ў руках дрыжаў.
І русыя кудры спадалі на лоб,
А побач з ім думаў Ян:
— З Палесся, такі-ж, як і я, земляроб,
Такі-ж селянін, як і я.

Па кроплі бруіўся халодны пот,
Але выпрастаў Клім свой стан.
Нязрушна застыў белапольскі ўзвод
І разам з узводам Ян.

Ад берага з захаду вецер падуў
падняўшы пажоўклы ліст.
Бліснулі на сонцы дванаццаць дул,
Адно апусцілася ўніз.

І толькі узнялося сонца ўгару
І стрэл цішыню разарваў,
Махнуў ён арлінымі крыллямі рук
І сонцу насустрач упаў.
Здавалася сонечны промень зары
Вітаў ён без скаргі і слоў,
І мару сваю, нібы дзверы, раскрыў
Ў наступную радасць гадоў.

І толькі у далях растаў стрэлу гул,
Сержант апусціў бінокль,—
Схілілася долу дванаццаць дул
Бліснула на сонцы адно.
І рэха прабегла над дымнай ракой
І дол адгукнуўся на стрэл.
Але прасвістала куля між хвой,
Крануўшы ў сержанта шынель.

І выпаў з рукі ў сержанта бінокль
І зірк яго помстай гарэў.
Ён глуха сказаў толькі слова адно,
Халоднае слова—расстрэл...

Над тым курганом бурна годы бягуць,
Дзе спяць вечным сном Клім і Ян.
Я памяць, як славу, пра іх берагу
Як песню наступным дням.

Менск, май 1935 г.

*З рускай пераклаў Ал. ЗВОНАК*

Алесь Звонак

# РУСТАМБЕКАЎ

Над зямлёй, над жоўтымі пяскамі
Сонца разгараецца ярчэй.
Быццам лебедзь з чорнымі крыламі
Выплывае дзень між двух начэй...

Шлях далёкі, а пяскі, як мора,
Рэжа вочы жоўты далягляд...
Далей, далей... Там, дзе сінь адгор'яў,
Наша сцежка вузкая лягла.

Там зямля сухая смокча прагна
Дарагую вільгаць арыкоў,
І спякотай поўдзень Казакстана
Устае над пусткаю пяскоў...

Гарачынь... Зліпаюцца павекі,
Кроў шалёна стукае ў віскі...
Дарагі таварыш Рустамбекаў
Нас вядзе да гор і да ракі...

Мёртвай кропкай ў небе адзінокі
Над галовамі арол-вяшчун,
Вярблюдоў шпарчэй ступаюць ногі,
Хоць зусім не блізка Усць-Курчум.

Дзе купцоў хадзілі караваны
З Бухары, Пішпека, Ферганы,
Тут праходзяць дзеці Казакстана
Маладой рэспублікі сыны...

Дзе шакалы рыскалі спрадвеку
Каля рэчышчаў даўно сухіх,
Дарагі таварыш Рустамбекаў
Тут шукае новыя шляхі,

Каб па тых мясцінах беглі воды
Халадком жывога серабра,
Каб садамі доўгія стагоддзі
Зелянеў пясчаны гэты край...

Топалеў Мыс, возера Нор-Зайсан

Май 1925 г.

Ю. Віцьбіч

# ЭЖЭН ДЭЛЯКРУА

Сёння заводы адпачываюць і таму за двух працуе белавусы кантралёр у вестыбюлі мастацкай галерэі. Доўгая чарга ўважліва сочыць за гэтай працай, але асабліва ўважліва прыглядаецца лабарант Адась Мартынец. І чым больш прыглядаецца, тым больш знаёмым здаецца яму дзед. Магчыма год дзесяць раней, нават магчыма дваццаць—толькі яны недзе сустракаліся.

Дзядоўскі твар так трапна адбіў наяўнасць гаротнага ў мінулым, як трапна адбівае чуткі лакмус наяўнасць кіслот у рэактывах. На ілбе глыбокія маршчыны, над ілбом сівыя валасы, пад ілбом вылінялыя вочы.

— Член прафсаюза?—пытае нарэшце кантралёр Мартынца.—Грывеннік. Галошы, галошы трэба здаць швейцару грамадзянін. Пропуск, калі ласка.

Знаёмы голас, але бракуе рашучасці, каб прыпыніць і працу вёрткага дзеда і рух бесконцавай чаргі.

На шырокай лесвіцы, дзе бронзавы Праметэй працягвае насустрач гаспадарам галерэі раскутыя рукі, Мартынца абганяе шумная група работніц. Ён пазнае старых ткачых. Яны заўсёды нясуць з сабой тонкі пах анілінавых фарб, а галасы іх ад спаборніцтва з гулам бёрд і рэміз адзначны па сваёй зычнасці. Разам з імі спяшаецца мужчына год пад трыццаць, да якога адна з жанчын крычыць:

— Не заставайся, майстар! Не падрывай чэсць нашай брыгады!

Мужчына ў адказ усміхаецца і ад усмешкі выгінаецца на яго твары ад вуха да падбародку шрам, падобны цяпер да туга нацягненага луку. Мартынцу здаецца, што і з гэтым чалавекам ён калісці і недзе сустракаўся, але чалавак ужо знікнуў за дзвярыма адной з людных зал. Яшчэ некалькі крокаў і Мартынца апанавалі новыя яркія ўражанні, паглынуўшы вобразы знаёмых незнаёмцаў.

Перад лабарантам ніколі не ўставала пытанне, што яго цікавіць больш—хімія альбо мастацтва. Калі Мартынец, як хімік арганізуючы з дапамогай тыгляў і рэторт хаотычную сыравіну, ствараў высокаякасную матэрыю, ён адчуваў невыказнае захапленне. Калі мастак, арганізуючы з дапамогай кісці і алоўка абыякавыя фарбы і светлацені, ствараў высокаякасную карціну, Мартынец, як глядач, адчуваў такое-ж невыказнае захапленне. І захапленне гэтае нараджала смагу да працы і барацьбы. Кісць і аловак дапамагалі тыглям і бёрдам, рэтортам і рэмізам. Лабарант пераходзіў ад карціны да карціны, аглядаючы першую залу, а калі ўвайшоў у другую раптам спыніўся.

Ішла ахутаная парахавой дымкай маладая жанчына. На галаве яе чырвоны фрыгійскі калпак, у адной руцэ мушкет, у другой—сцяг. А за жанчынай ішлі з пісталетамі і шаблямі сыны мансард і сутарэнняў. Ішлі суцэльнай магутнай сцяной, нібы з'яднаныя разам Сена і Рона, Луара і Гарона.

І чуваць, як запявае жанчына, вядомая пад усімі шыротамі зямлі:
— Станцуем, Карман'ёлу, брат!
І чуваць, як тысячы дужых глотак падхопліваюць заклік:
— Пад гром стральбы!
Пад гром стральбы!
Пад гром стральбы з гармат!
І чуваць, як стогне абмытае крывёю жорсткае каменне, калі рушацца няэломныя кагорты несмяротных санкюлотаў.

Узварушаны Мартынец спазнаў гэту карціну. Як і тады, калі ён бачыў яе раней, так і сёння, калі ўбачыў яе зноў, парахавая дымка нібы ахутвала ўсё вакольнае перад карцінай. І, заўважыўшы праз гэтую дымку групу ткачых, лабарант спазнаў і чалавека са шрамам.

* * *

Ужо ад часу пажоўкла прымацаванае цяпер пад карцінай пісьмо, але нават дагэтуль захавала яно памешчыцкія пахі яжэнбяку і мокрай псіны:

Дамброўля,
красавіка 10 дня 185. . . г.

Яснавяльможны пане Карэйша!

На дваранскія Вашы ўмовы даю шчырую дваранскую згоду. Заўтра гайдукі мае прыгоняць да Добрай Вулькі:
свору чыстапсовых падабраных па голасу і колеру курляндскіх лісагончых, свору мяшаных чыстапсовых з хартовымі літоўскіх лосягончых:

«Цэзара»—шчанё ад маіх «Рэйнвейна» і «Пэрлюўкі» прывязе за пазухай егер і ён-жа прыгоніць Марылю Смычыху—20 год—дадаю да шчанё. Тыдзень, як нарадзіла двайнят—адзін памёр, другі памірае. Бацька двайнят Ігнат Смык ідзе абараняць Севастопаль.

Ад Вас гайдукі маюць узяць малюнак гэтага, як яго, Дэлякруа. Вы пыталі надысь, пане Карэйша, чаму мне так бажаецца прыдбаць гэты малюнак. Помнік культуры створаны, так сказаць, славутым мастаком, належачы асабова да мяне, падыймае яшчэ вышэй гонар маёй славутай і, так сказаць, культурнай фаміліі. Ні ў Петэрбурзе, ні ў Варшаве, ні ў Маскве, ні ў Вільні магчыма Дэлякруа няма, а ёсць толькі ў пана Домб-Дамброўскага з Дамброўлі. Потым малюнак мне патрэбен, як вуксус да марынованай ласіны, як хрэн да халоднай целяціны, як гарчыца да смажанай свініны. Сапраўды, калі недзе там за Карпатамі ў далёкай Францыі паўсталі гайдамакі, дык яшчэ больш прыемна зірнуць на тлустыя морды маіх трыццаці гайдукоў. Хіба не, пане Карэйша? Як пан Бог прыемна. Малюнак, дзеля так сказаць алегорыі, павешу ў гасцінай пад генеалагічным дрэвам.

Навіны ўсё звычайныя. Заўчора запаляваў трох цецярукоў. Учора прайграў пану плябану*) ў покер дзве першыя начы. Сёння распачаў бочку з кармяліцкай старкай. Цалую ручку пані Ядвігі.

*З найглыбейшай пашанай да Вас пан*
*Браніслаў Домб-Дамброўскі.*

P. S. Ледзь-ледзь не забыўся на самае галоўнае. Прашу найшаноўнага пана даслаць разам з гэтым малюнкам абяцаны рэцэпт чаромхавай налікі.

*Пан Домб-Дамброўскі.*

*) Плябан—старэйшы ксёндз у касцеле.

Нямаведама, дзе загінуў нікалаеўскі салдат Ігнат Смык—можа, на Федзюхіных узвышшах, можа, пад Малахавым курганам, толькі дамоў ён не вярнуўся. Ніколі не бачылі больш у Дамброўлі і красуню Марылю. Але падманілі пана мазгі, прапітыя яшчэ яго пагарджанымі дзядамі і праманта-чаныя ім асабова ў заядлай барацьбе з цецярукамі—не памёр Міхалка Смык крэўны сын Ігната і Марылі.

* * *

Плылі праз выбаіны гадоў і парогаў плыты. Золкі вясновы туман наваліўся на раку. Трашчаць кастры, вохаюць дрыгалкі, рыпяць шанцэвіны і не відаць людзей. Нечакана на першым з плытоў нехта запявае песню і да яе паступова далучаецца ўвесь караван. Спачатку ціхая, нібы шолах апошніх крыг, песня канчаецца зычней за грымотны рык парогаў:

„Ад начы да начы
Мы ідзём аснaчы*)
Э-эх, асначы...
Э-эх, асначы...
А ўначы, як прывалім
Усе маёнткі падпалім.
Да-а, падпалім!
Да-а, падпалім!!“

Пяе двухвярстовы караван, перасыпаючы песню ахрыплай лаянкай у бога і чорта. Пяе чатырнаццацігадовы Мартынец, націскаючы кастлявымі грудзьмі на лапу дзесяцìпудовай дрыгалкі. А на першым з плытоў праз стогн дрыгалак нараджаецца другая песня:

„І-ы-ых! І-ы-ых!
Мы, братка, плытагоны
Плывуць нашы загоны.
І-ы-ых! І-ы-ых!
Адна шапка на трох!
Адны парткі на двох!!
І-ы-ых!! І-ы-ых!!

Танцуе юнак пад новую песню, каб хаця крыху адагрэць адубелыя ў дзіравых паршнёх **) ногі. Падскоквае па слізкаму бярвенню, прыслухоўваецца да песні і пазнае на першым плыце галасы бацькі і сына Смыкоў—Піліпа Міхалкінага і свайго аднагодка Якуша.

* * *

Плылі праз выбаіны гадоў і парогаў плыты. І ў той самы незабыўны год, караван, у якім ішлі Смыкі і Мартынец прываліў паблізу Дамброўлі. Моўчкі сыходзілі на бераг плытагоны. Яны спакідалі хатулі і забіралі сякеры. Яны спярша нехапатліва крочылі па крывых межах, шануючы маладое жыта. Яны амаль пабеглі, трапіўшы на дарогу да маёнтку. Яны пабеглі хутчэй за маланкі і грымчэй за пяруна, убачыўшы ўперадзе панскі дом.

Першымі апынуліся ў гасцінай Смыкі. Проста над імі схілілася са сцяны генеалагічнае дрэва ў пазалочанай раме. Прапахлая крывавым потам гене-

*) Аснач—бурлак.
**) Паршні—скураныя лапці. У мінулым адзіны абутак бурлакоў і плытагонаў.

алогія Смыкаў сустрэлася нарэшце з яжэнбякавай генеалогіяй Домб-Дамброўскіх і сякеры павалілі дрэва. Над барахлом грэбліва падтаптаным паршнямі, узляцеў да столі затхлы пыл. Потым Піліп убачыў карціну, адразу пазнаў яе і дужэй сціснуў тапарышча. Яму здалося, што гэта бегла да Добрай Вулькі Марыля, падганяемая бізунамі гайдукоў. А Якушу здалося, што гэта ім плытагонам працягвае жанчына прадзіраўлены кулямі сцяг, што гэта да іх плытагонаў бягуць на дапамогу такія-ж адвечныя беднякі.

Калі Піліп узняў над карцінай сякеру, Якуш усім целам засланіў яе.

— Прэч, шчанё!.. Мая бабка!.. Гайдукі!—закрычаў з хрыпкай бацька.

— Не руш, стары. Гэта сваякі—адказаў цвёрда сын і схапіў бацьку за руку. Тузануў руку стары, але крэпкая рука ў сына і падалася рука з сякерай уніз пад паху сына. Выпусціў сякеру стары і штурхнуўшы сына пабег разам з натоўпам туды, куды беглі ўсе. Нават не аглянуўся на сына. І не бачыў ён, што як вада з крыніцы біла кроў, заліваючы Якушу і хударлявы твар і латы кашулі. Юнак хістаўся, працягваючы апухлыя ад галадухі і дрыгалкі рукі да Мартынца і яму здавалася, што пяюць маладзіца і нетутэйшыя плытагоны.

„А ўначы, як прывалім
Усе маёнткі падпалім.
Да-а, падпалім!
Да-а, падпа...

І зваліўся, самлеўшы, плытагон перад карцінай Эжэна Дэлякруа.

* * *

— Добры дзень, Якуш!—сказаў Мартынец хутка падыходзячы да чалавека са шрамам.

— Добры дзень, Адась!—адказаў уздрыгнуўшы ад нечаканасці чалавек.

Абодва ўсміхаліся, але вусны крывіліся. Ткачыхі ў паўголас гаварылі між сабой, што гэта пэўна спаткаліся браты. Не памыліліся чуткія ткачыхі—гэта сапраўды спаткаліся браты па другому свайму нараджэнню. У іх была адна вялікая матка—арганізатар стыхійнай бурлацкай сыравіны— рэволюцыя.

— А дзе-ж твой стары?—запытаўся потым лабарант.

— А хіба-ж ты не атрымаў пропуск у кантралёра Піліпа Смыка? Ахоўвае мастацкую галерэю мой стары—сказаў майстар і яшчэ больш цёпла ўсміхаючыся, ад чаго зноў зварухнуўся чорны шрам, дадаў:

— Мой стары добры бацька. А пабачыў-бы ты з якой любоўю ён аглядае мастацкую галерэю: ён вывучыў кожную карціну. Яго выходны дзень праз чатыры дні—давай збярэмся ў яго—ён напэўна пацягне глядзець галерэю.

Я абяцаў.

Лістапад 1934 г.—май 1935 г.

**Р. Мурашка**

# УЗБРОЕНАЯ НЯНАВІСЦЬ

**(З дзенніка слуцкага падпольніка)** *)

**20 лістапада. 1919 г.** «Я, ніжэйпадпісаны, клянуся гонарам вольнага грамадзяніна, што ведаю аб тэй важнасці ўзятага на сябе абавязка, ад якога залежыць канец нашае барацьбы ў справе вызвалення пролетарскіх мас, якія знемагаюць у цяжкай няволі, і абавязваюся прайсці выбраны мною цяжкі шлях.

У разуменні рэволюцыйнага абавязка я гатоў ахвяраваць сябе для дасягнення мэты вызвалення і аднаўлення ў нас савецкае ўлады падобна іншым таварышам, перада мною дастойна памёршым у няроўных бойках.

Усялякую ўскладзеную на мяне задачу абавязваюся бясспрэчна выконваць ува ўсякі час дня і ночы. Ніякія страты, перажыванні і страх не прымусяць мяне адмовіцца ісці ўперад і выконваць ускладзенае.

Усё, што ведаю і раблю, і ўсё, што выходзіць ад нас—буду хаваць ад людзей чужых нашай справе, як хаваю сваё вока ад таварышоў па рабоце; нічога не ўтаю, памятаючы, што толькі гэтым забяспечым працу нашу і нас саміх ад згубы.

Абавязак, які ўзяў на сябе, лічу правільным, абавязваюся яго памятаць і выканаць.

Невыкананне чаго-небудзь з дадзенага мною абяцання лічу злачынным, а за здраду яму раблюся ворагам не толькі таварышам, з якімі працую, але і цалкам усяму класу пролетарыяў і перад імі адказваю галавою.

За здраду справе няхай будзе мне агульная знявага і смерць».

Ужо капцець пачынае лямпа, выгарвае рэшта газы. Позна, гадзіна ночы. Без прывычкі ад доўгага пісання папруцянелі пальцы. У нас няма яшчэ свае пішучае машынкі, а парткомаўская ўвесь час перапісвае пракламацыі, лістоўкі, адозвы. Многа іх трэба на ўвесь вялікі Слуцкі павет. Але я ўжо скончыў. Самі сабою на хвіліну заплюшчваюцца вочы. Прыемна на адзін момант адхінуцца да спінкі старога аблупленага крэсла. У маім уяўленні паўстаюць каменныя масівы гарадоў, даўгія істужкі вёсак, цёмныя нетры лясоў і багна балот мае зневажанае краіны, мае роднае Беларусі. Я ўвесь пад уладай жальбы. Заплюшчанымі вачыма бачу я,—пачынаюць, як пад ветрам, шумець лясы, варушыцца высокая асака на балотах і запруджвацца людзьмі доўгія істужкі вуліц. І бачу я хваляванне людзей і хваляванне

*) Твор пабудаваны на сапраўдных фактах барацьбы з белапалякамі ў 1919—20 г. на Случчыне.

прыроды і мне здаецца, што прырода з людзьмі заключыла саюз па вялікай людской справе і гарачы камячок узрушэння падступаецца ў мяне да горла. Я адчуваю цела ўсё магутным, дужым, усё адно, як наліта яно жалезнаю нязведанаю сілаю, якое нікому не перамагчы. І раптам вынікае з глыбіні ўзрушэння думка: «Вось зараз могуць зайсці жандары». Мне востра ўяўляецца гэтая карціна. Перад вачыма раптам згрудзіліся ўсе рэчы ў пакоі, усё адно, як іх узяў хто і згроб адным рухам абедзвюх рук у адну кучу: іржавы жалезны ложак пакрыты вылінялаю посцілкаю, старэнькі паточаны шашалем рыпучы стол, на якім стаіць закапцелая лямпа, сподачак поўны недакуркаў (стол увесь усеяны лісткамі спісанае паперы), крэсла і акованы жалезам зялёны сундук. І востра і адразу ўсёю сілаю ўяўленне адчулася: гэта была-б смерць. Так, смерць!

У закурэлае паветра пакою струменем уліваецца чад і копаць з дагарэлае лямпы. Я расплюшчваю вочы. О, не! Я яшчэ буду жыць, я буду доўга жыць, я перажыву жандараў! Шпарка збіраю я спісаныя лісткі паперы і кладу пад падушку. (Кожнае патайнае месца ў маім пакоі здаецца мне самым адкрытым і небяспечным і я больш прытрымліваюся прастаты. Прастата і натуральнасць больш надзейныя). А заўтра гэтыя лісткі будуць далёка адгэтуль на руках у вясковых упаўнаважаных. Заўтра-ж гэты лісток прачытае і падпіша кожны член вясковае ўзброенае групы. Сваім подпісам кожны дасць абяцанне на вернасць вялікай справе вызвалення краіны з-пад гвалту акупантаў. Іх ужо не мала ў нашай арганізацыі гэтых верных і самаадданых людзей, большасць з якіх моладзь комсамольскага ўзросту, цвет нашага народа. Гордасць узнімаецца ў мяне ад сэрца, гордасць за зняважаную і пакрыўджаную тупою ваеншчынай белых акупантаў маю краіну, гордасць таму, што я пераконаны ў сіле простага народа. Мы ўбачым пяты тупых і саманадзейных польскіх ладскнехтаў Дэтэрдынга і Моргана, Круппа і Ротшыльда, Радзівілла і К°!

Я тушу астатняе ўсхліпванне лямпы і бадзёра кідаюся на цвёрды злежаны матрац. Я ўвесь пад уплывам мае жальбы, пад уладай мае гордасці.

**23 лістапада.** Мы скарыстоўваем усе магчымасці для пашырэння масавае работы. На вёсцы я быў сведкам аднаго цікавага выпадка. У першыя дні акупацыі ў адной з вёсак комсамольцамі была закопана на агародзе немалая бібліятэка, якая, галоўным чынам, складалася з палітычных агітацыйных кніг. Перад маім прыездам яны адкапалі бібліятэку. А таго дня, як я прыехаў, кожны селянін знайшоў раніцою ў сваім гумне падсунутыя пад падваротніцу дзве-тры кніжкі. Па вёсцы пайшлі патайныя чуткі, што большэвікі змагаюцца з белапалякамі не толькі на фронце, што яны ёсць і ў тылу. Сустрэчныя абмацвалі мяне недаверлівым поглядам, у якім гнездаваў цень скрытнасці, цень патайных забароненых думак. Я прывёз з сабою пак пракламацый, якія падліюць гаручага ў палымнеючы агонь страсных думак і пачуццяў людзей, якія павінны неўзабаве выступіць са зброяй у руках за вызваленне нашае краіны з-пад прыгнёту акупантаў.

**25 лістапада.** Вясковая група нашай арганізацыі правярае свае раёны. Я ў вясковай групе і вылучаны для сувязі з гарадскою.

Настрой на вёсцы баявы, але не стае ваеннае вывучкі, і таму цяпер усе ўзброеныя групы збіраюць зброю і вучацца валодаць ёю. Якую толькі хітрасць і цярплівасць пры гэтым паказваюць нашы партызаны. І агнястрэльнае і халоднае зброі многа яшчэ засталося па вёсках, не гледзячы на неаднаразовыя рэквізіцыі (нямецкая і польская). Вайна многіх прывучыла да зброі. Шмат хто з іх нават не ведае, навошта ён трымае вінтоўку (ляжыць яна ў яго закапаная ў зямлі і ржавее), але адказвае: «Няхай будзе—спатрэбіцца». Але і ў самых упартых аматараў дастаюць зброю партызаны. Калі не памагае просьба і дыпламатычная размова, даведваюцца, дзе схавана, і забіраюць употайку. Адважваюцца на самыя смелыя і рашучыя захады.

У самым пачатку яшчэ акупацыі два пятнаццацігадовых хлапчукі выкралі вінтоўку з воза, з-пад самога носу ў легіянераў. У другім выпадку вінтоўка і кулямётная лента пранесены адным з партызанаў у мяшку з трэскамі цераз увесь горад і данесены да месца назначэння ў адну з вёсак. З такімі адважнымі байцамі мы ў самы рашучы момант на фронце змяшаем акупантам усе карты.

**26 лістапада.** Завошта мы іх ненавідзім? Начальнік дзяржавы польскай 18 верасня наведаў стары беларускі Менск. Юзэфа Пілсудскага віталі каталіцкае, праваслаўнае, яўрэйскае і мусульманскае духавенства, як высокага абаронцу ад бязбожных большэвікоў. Пілсудскаму лізалі брудны бот «прадстаўнікі беларускага народа», сірэч, кучка авантурыстаў з беларускае рады. Пілсудскаму падносілі адрас пакорнасці і смірэннасці—палітычныя жулікі і аматары лёгкае нажывы. То ў асобе вучонае інтэлігенцыі, то ў асобе так проста носьбітаў культуры, папранай нібыта камісарамі, то ў асобе... Ды ці мала было іх розных катэгорый і розных прафесій.

І ўсе, і ўсё ад імя гэтага беднага беларускага народа. І ўсё просяць ягомасць Пілсудскага ратаваць беларускі народ, ратаваць Беларусь. Сапраўды, як кажуць: «Хто парасё ўкраў, у таго ў вушшу пішчыць». Адкуль яны ўзяліся, хто даў ім права прысягаць імем беларускага народа?

Мне ўспамінаецца адзін дзень неўзабаве пасля таго, як наш комуністычны і комсамольскі атрад вымушаны быў пакінуць горад, і выходзіць па адным з белапольскага абкружэння, калі я сустрэўся з Сымонам Чыжом. Масіўны і цяжкі ён навіс над сталом і цяжар гэтае масіўнасці здаецца здушыў мяне моцна, але глыбока ў душы так прыемна і радасна было ад таго. Сымону Чыжу мы давяраліся, як старэйшаму і адказнаму за перапраўку цераз фронт на совецкі бок. Нас засталося апрача комуністаў каля дзесятка комсамольцаў. Сымон Чыж пытаўся:

— Як лепш перапраўіцца цераз фронт? І сам адказваў:

— Мы лепш перапраўімся тады, калі астанемся тут, у Слуцку. Ідуць першыя весткі з павету. Польскія легіёны рабуюць вёскі, гвалтам забіраюць коні, каровы, сена, хлеб і ўсе харчы. Яны лічаць сябе гаспадарамі над усім, што запрацавана крывавым

мазалём працоўнага і таму не думаюць нават весці гутаркі на тэму платы. Калі-ж знаходзіцца такі смяляк і надаеда, што намагаецца іх навесці на гэтую гутарку, яго зараз-жа прымушаюць паслухаць размовы гарапніка і прыклада вінтоўкі. Цяпер табе, Міхась, павінна быць зразумелым, што мы мусім астацца тут.

І мы асталіся.

Так, мы іх ненавідзім. Бо яны прышлі няволіць нашу волю, гвалтаваць нашых дзяўчат і здзекавацца з нашых лепшых пачуццяў і светлых імкненняў. Бо яны навезлі за сабою паноў і паняят і пасадзілі іх на карак працоўнаму народу. Бо яны прышлі гасіць наш дух і паліць у пажарах наша цела.

Аднойчы мне прышлося бачыць са звязанымі рукамі чалавека, які на вяроўцы бег за конным жандарам. Ён мацаваўся з астатняе сілы, каб збегчыся з канём, але ўрэшце не вытрымаў,—ён задыхаўся. Нацягнутая вяроўка паваліла яго далоў. Хто ён такі? З вопраткі ён мог быць селянінам, але з такім самым поспехам яго можна было-б назваць і рабочым. Па выразу-ж на твары, па яго нема блішчэўшых вачах, па буйна выступіўшых на грубых руках і на шыі жылах я назваў-бы яго будучым партызанам. Бо яму больш не было чаго траціць, а набыць ён мог усведамленне права і асалоду расправы са сваім катам. Відавочна гэта было ў яго ўзрушаных распачных думках, няйначай, бо я прачытаў у немым бляску яго палымнеючых воч страснае жаданне жыць. Жыць! Калі толькі яму вырабіцца з крывавых лап дэфензівы. А што яго «вялі» туды, пра гэта сведчыў, паперш1е, сам самаздаволены да агіднасці канваір-жандар, па-другое—свежыя сінякі пад вачыма, рассечаны лоб, акрываўленыя валасы і пазакручваныя вяроўкаю назад рукі арыштаванага. Відаць, ён парашыў, што ён лепшы гаспадар над сваім дабром і над самім сабою за няпрошаных добрадзеяў.

У той момант, як ён упаў, я заўважыў другога жандара, які чвалам даганяў першага. Вядома, у ход пайшоў славуты польскі гарапнік і чалавек, як упалёваны звер, з астатніх сіл вымушаны быў устаць і бегчы за сваімі катамі.

У сваю чаргу я магу запытацца: «Завошта ненавідзяць шалёных сабак?» Ды іх нават і не ненавідзяць, іх проста страляюць. А знойдуцца і сярод легіянераў сумленныя рабочыя і сяляне, якім не ўдарыў у галаву тлум польскага патрыётызма, што дапамогуць нам у гэтым. Мне расказвалі пра абурэнне групы легіянераў, якія бачылі апісаны мною здзек над чалавекам. А знайшоўся-ж вось, напрыклад, польскі салдат, які з месца расстрэла работніка ЧК Ю. Ферапонтава прынёс матцы апошні ўздых сына. Ён расказваў матцы пра апошнія хвіліны сына і слёзы былі ў яго вачах, слёзы жалю і спачування. Вось гэтыя калі яшчэ не навучыліся, дык будуць ненавідзець разам з намі нашых і сваіх прыгнятальнікаў—слёзы і абурэнне гавораць пра пачуццё, пра сэрца, а там дзе гаворыць сэрца, неўзабаве загаворыць і стрэльба.

**28 лістапада.** Я іду асенняй пустэльнай дарогай. Уся яна акрэплена крывава-чырвонымі праменнямі заходняга сонца. Крывава-чырвоным заліта самотнае іржышча, прыдарожная запыленая трава, крыва-

вым заліты журботныя прасторы вясковых палёў. Я іду і сэрца ў тон жалобнаму пейзажу выстуквае журботную мелодыю пакутлівай душы. Але гэта толькі на час. Я адчуваю і добра ведаю, што наша вызваленне прыдзе ў крыві, прыдзе ў агні. І я пашыраю крок насустрач акрываўленаму захаду. Я хачу, каб гэты момант настаў хутчэй.

**29 лістапада.** Я зноў на вёсцы. Сяджу ў прасторнай і чыстай хаце, чакаю ўпаўнаважанага вясковай групы. Мяне пытаюцца, хто я і адкуль, і чаго прышоў? Прыходзіцца выкручвацца: стары таварыш па школьнай парце ў двухкласным вучылішчы, думаем паступіць на польскія курсы ў горадзе. Мне верaць і не верaць, калі і верaць, дык неахвотна, іх зняверыла жыццё. Але гасцінна запрасілі пасядзець і пачакаць, пакуль ён прыдзе. Ён іх сын.

За вакном палавыя хмары збіраюцца ў дзівосныя карагоды. Заходжваецца вецер. Позная восень. Астатняе лісце злятае пажоўклымі птушкамі з дрэў. Такім голым і такім падкрыўджаным тырчыць галлё дрэў. І ўсё-ж мне не сумна і я не адзінокі. Нас многа. І седзячы ў гэтай прасторнай хатцы, у гасцінных гаспадароў, я адчуваю сябе, як дома.

Раптам па сяле перабягае трывога, трывога ў выглядзе дзесяцкага і траіх польскіх уланаў. Дзесяцкі заказвае ехаць у падводы, а палякі выганяюць. Два дні таму назад дваццаць падвод вярнуліся бадай што з-пад самога Бабруйска. А гэта йзноў,—абзываецца, уздыхаючы, гаспадар.

Калі палякі паехалі на другі канец сяла, на вуліцу асцярожна пачалі выглядаць з-за платоў, з-за варот ускамлычаныя галовы, устрывожаныя бароды. Толькі падводамі справа не абышлася: уланы наклалі на вёску кантрыбуцыю ў тысячу яек, за непаваротлівасць, як яны сказалі—трэба хутчэй выязджаць. На фронце справа не церпіць, фронт патрабуе людзей, зброі і харчоў, а гэта ўсё павінны давезці падводы, прычым харчы, як правіла, забіраюцца з месца нараду падвод.

Дакуль будзеш ты, Кацiліна, злоўжываць нашай цярплівасцю!

**30 лістапада.** Я спаў ужо моцна, як крот, у сваю норку закапаўшыся ў сена ў гумне, калі мяне раптам разбудзілі.

— Таварыш Міхась!.. Таварыш Міхась!—шаптаў трывожна голас майго ўпаўнаважанага.

— Гэта ты, Антон?—здзівіўся я.—Што такое?

— Таварыш Міхась! Кепскія паперы (меў ён звычай гаварыць)... Кепскія паперы. Нас выдалі ў дэфензіве і сёння ўночы прыедуць жандары.

Рэшткі сну, як спалоханыя птушкі, адляцелі ад мяне, і я сеў на сене.

— А могуць яны і не прыехаць?—запытаўся я, забыўшыся распытаць, хто выдаў, як і калі.

Па жорсткасці майго голаса Антон дагадаўся, у чым справа.

— Ды я таксама думаў пра гэта, але-ж хацеў запытацца тваёй рады. Гэта былі-б нядрэнныя паперы.

— Вось што,—перапыніў я яго.—Яны напэўна будуць ехаць з горада, а калі адтуль, значыцца, гасцінцам, іншае дарогі няма.

— Напэўна так.

Я даю загад сабраць групу ўзброеных вінтоўкамі і рэвальверамі—усяго пяць чалавек, найбольш надзейных, дужых і лепшых стралкоў.

І я вылез з пахучага сена, на якім з такой асалодаю быў заснуў.

Праз поўгадзіны наш невялічкі атрад у зборы. Нас сем чалавек.

— Ніколі не трэба чакаць ворага на месцы—кажу я.—Трэба ўражаць яго нечаканасцю сустрэчы.

Я расказваю ім, што нам трэба зрабіць. А зрабіць мы можам шмат чаго. Мы можам набыць карабінаў столькі, колькі заб'ем жандараў. А як нам карабіны патрэбны мудрэй за хлеб, бо яны дадуць жыццё і свабоду сотням тысяч і мільёнам людзей, дык мы павінны з першага стрэлу кожны па карабіну здабыць. Больш я ім не кажу нічога. Я іх не агітую: цяпер патрэбны толькі рашучыя дзеянні.

Мы рухаемся.

Ноч не вельмі цёмная. Каб нас не заўважылі зараней, мы ідзем абочынаю дарогі, усе сем чалавек адзін за адным. Нават пасля цёплага гумна на дварэ не холадна. Усходні сухі вецер парыўчатымі хвалямі сустракае нас. Мне чуецца ў ім гарачае дыханне магутнае краіны, закаванай у ланцугі інтэрвенцыі, мне чуецца ў подыху ветра напружанае дыханне роднае Савецкае Расіі. І я ўдыхаю ў сябе парывы ветра, я з асалодаю п'ю кроплю гэтага дыхання і сам не заўважаю, як лёгка і бадзёра нясуць мяне ўперад ногі. Я аглядваюся. Наш атрад не астаецца ад мяне.

Наперадзе чуцён конскі тупат. Я сціскаю ў кішэні ручку нямецкага браўнінга і сыходжу з дарогі на тры крокі ўбок. Мы будзем страляць проста ва ўпор. Увесь атрад сыходзіць за мною і мы прырастаем да зямлі.

Конскі тупат заціхае, коннікі едуць шагам. Але яны зусім блізка.

— Падрыхтавацца,—голасна шапчу я, і кожны выбірае сабе становішча, з якога яму зручней будзе пасылаць смерць ворагу.

Я стаўлю браўнінг на «агонь».

Яны ўжо зусім, зусім блізка, чутно, як пырхаюць коні.

— Страляць па маёй камандзе,—шапчу я апошнія ўжо словы, бо коннікі набліжаюцца.

Вось зараз. Чутно, як дышуць коні. Відны абрысы коней і людзей. Колькі іх—пяць, дзесяць, менш-больш, не ведаю і не хачу ведаць. Я камандую адрывіста:

— Агонь!

Поўнагалосы гром вырываецца насустрач коннікам, смерцю плююцца нашы вінтоўкі і рэвальверы.

Храпенне напалоханых коней, чалавечая лаянка, енкі, праклёны, мітусня.

Яшчэ два залпы адзін за адным. Мы не даем ім ачухацца. Мы не чуем у адказ ніводнага стрэлу. І праз пяць хвілін усё скончана.

Астаецца сабраць трафеі. Мы рассыпаемся і ідзем кожны на енкі і перадсмяротныя хрыпоты.

**1 снежня.** Нашы начныя трафеі: чатыры вінтоўкі і два рэвальверы, не лічачы патронаў і шашак. Колькі чалавек іх былі ў карным атрадзе, не вядома, асталося-ж на дарозе па ліку ўзятай намі зброі.

Я даю апошні наказ Антону: ён высокі ростам і шырокаплечы і да ладу і не да ладу ўстаўляе ў гутарцы: «дрэнныя паперы», «нядрэнныя паперы». Я адчуваю, што ў хуткім часе ён будзе рабіць зусім «нядрэнныя паперы». Тым часам, я наказваю трымацца асцярожна і не дапусціць разгрому групы. На выпадак карнае экспедыцыі: у бой не ўвязвацца, а захаваць жывую сілу.

Ясна гарыць сонца ў бясконцых вясковых прасторах, далі зліваюцца з восенскім блакітным небам. Я іду далей у абход свайго раёна.

**3 снежня.** Групе вёскі Варкавічы было даручана знішчыць тэлеграфную і тэлефонную сувязь на лініі Слуцак-Грозаў. Група выбірае час і месца для свае работы па разбурэнню лініі там, дзе вясковы каравул складаецца з мясцовых багатыроў-заможнікаў і кулакоў. Цёмнае ночы расказвае тав. Б.—мы вышлі на шлях. Двое з нас з ножніцамі для рэзкі дроту лезуць на слупы. Пстрык!—і адрэзаны канец дроту ляціць далоў—і гэтак з абодвух слупаў. Пстрык!—і следам за першым другі. Унізе дроты скручваюцца ў кольцы і з свістам ляцяць далёка ў зялёную рунь жыта.

Вайсковыя ўлады ўхапіліся за каравульных, а нам гэтага толькі і трэба было. Але пры дапамозе солтыса і валаснога войта каравульных адпусцілі, не магло быць каб яны, саюзнікі акупантаў, ды гэтак напакасцілі сваім добрадзеям.

Выразна-класаваю афарбоўкаю вызначаецца ўся дзейнасць вясковых падпольных груп. Мы баронім усімі сродкамі інтарэсы беднаты.

**10 снежня.** Весткі з фронта шэрыя, скупыя. Ёсць небяспека, што ён і астанецца там за Бабруйскам на зіму, толькі на зіму, бо на больш ніякая сіла не ў змозе затрымаць злучэння Чырвонае арміі з чырвонымі паўстанцамі. І ўсё-ж, не ўважаючы на гэты адносны спакой на фронце, мы горача працуем па ўзмацненню падполля, па ўзмацненню партызанскіх ячэек і па арганізацыі захопа горада.

Партыйны камітэт даў заданне—прасачыцца ў мясцовую каравульную роту. Гарадская комсамольская група паслала туды некалькі чалавек. Іх абавязак арганізаваць моцную комсамольскую ячэйку сярод салдат каравульнае роты. «Пасляць» у каравульную роту, вядома, не так лёгка: трэба быць або «заўзятым» хуліганам і машэннікам, або мець на руках палітычнанадзейныя рэкамендацыі. Нас гэта, вядома, не магло спыніць на поўдарозе, гарадская група заданне партыйнага камітэта выканала. Гэта і не магло быць іначай, бо ў групе наш слаўны Сымон Чыж, наш Сымон. Але тут справа вельмі сур'ёзная: нязначнае слова, самая нявінная гутарка часам можа навесці на свой след хвастоў. Тады сцеражыся і адказвай толькі сам

за сябе. А хвасты ёсць усюды. На вёсцы яны ўжо паказваюць сябе і гэта перасцярога гораду.

На хутарах вёрст пятнаццаць ад горада хаваўся ў таварышоў адзін з партызанаў. Яго заўважылі, як чужога чалавека, і неўзабаве выдалі дэфензіве. Жандары былі праведзены на хутар тады, калі ў хаце аставаўся адзін ён. Заходзіла сонца, рассейваючы вакол халодныя праменні. Ён падышоў да акна і адхіснуўся. За акном бліснуў на сонцы метал карабіна. Ён кінуўся пад дзверы. Там тое самае. Хата была абкружана і каля ўсіх выхадаў пастаўлена варта. Быстрая думка выратавала яго ад смерці. У самы апошні момант успамянуў ён пра дзірку ў страсе над хатаю, якую гаспадар не паспеў заладзіць. І ў галаве склаўся імгненна план. Ён падышоў да акна па палу і з усяе сілы ўдарам нагі высадзіў яго. На звон шкла сыпанулі жандары з усіх бакоў. А наш партызан выскачыў у сенцы, адтуль на хату і праз дзірку ў страсе выбраўся на агарод.

Ці не было там здрады з боку гаспадароў? Ува ўсякім разе нам трэба быць яшчэ больш асцярожнымі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**10 красавіка 1920 г.** На вуліцах клейкая гразь, а на агародах і ў садках дзе-нідзе белаватыя снежныя плямы. Вясна пасяляе радасна-трапяткую надзею ў сэрцы. Свеціць сонца, яно пачынае грэць і нас. Рухавей па жылах бяжыць кроў. Бурныя думкі суседзяць з пачуццямі. Якая прыгожая вясна ў гэтым годзе!

З Трайчанскае вуліцы я не адразу паварочваю на Падвальную. Я пераходжу на Віленскую, а адтуль на Садовую. Тут поўна паваротак і я маю магчымасць без падазрэння з боку ўстанавіць, цягнецца за мною «хвост» ці не. Потым, ідучы па Садовай, я гляджу, ці ўсё каля дома, дзе наша явачная кватэра, спакойна. Наш дом відзён з Садовай і з Падвальнай, бо яны сыходзяцца пад вострым вуглом, у якім недалёка ад пункта злучэння вуліц і стаіць ён. Я павольна прахаджу паўз фатаграфію Юхніна. Хваста за мной не відаць. Я паварачваю на Падвальную. Крокаў сто прыходзіцца мясіць брудную гразь. Потым ад вуліцы вядзе праз агарод сцежка.

Дом стары, як свет, але ўва ўсім выглядзе яго несхаваная пагарда да людзей. Яго сцены дапаловы ўраслі ў зямлю і стары абымшэлы дах увагнуўся пасярэдзіне і ўвесь пакарабаціўся.

Я ўваходжу. Як звычайна, на месцы ўжо Сымон Чыж і Янка Сімановіч. І, як звычайна, Сымон у сваім нязменным фрэнчы, перашытым з салдацкага шыняля, а Янка ў шырачэзных сініх галіфе. І, як звычайна, у іх—гарачая дыскусія. І, як звычайна,—у пакоі ўсё шэравата-блакітнае ад тытунёвага дыму. Кураць не папяросы, а махорку—самасад моцны, як удар абуха, п'яніць, як неачышчаны спірт. Кураць усе, галоўным чынам новыя, незнаёмыя мне, два прадстаўнікі вёскі. Гэтыя кураць моўчкі з асалодай, яны толькі слухаюць і кураць. Маладыя—аднаму восемнаццаць, другому дваццаць год—карчакаватыя дужакі. Дыскусанты кураць машынальна, у гэтым акце іхная свядомасць не ўдзельнічае, іхныя думкі нават не тут, у пакоі, а ў польскай

камендатуры, на складзе зброі, пры дэфензіве, у казармах каравульнае роты, у падпольным камітэце партыі, на вёсцы, на чыгуначнай станцыі—усюды, дзе ідзе, або наспявае змаганне з акупантамі.

— Каравульная рота ў нашых руках. Мы кінем з вёскі ўзброеныя атрады на горад, а тут выступім з каравульнай ротай. Мы перадушым гэтых «антэкаў», як кацянят,—гарачыўся Янка Сімановіч.

Ён невысокі і не вельмі дужы целам хлопец, але ён увесь гарыць жаданнем барацьбы і таму ён заўсёды гатовы выступаць. Яго вельмі добра разумее Чыж. Сымон прыжмурваецца, як заўсёды, калі, як быццам-бы, стараецца разглядзець нешта невялічкае, але дужа цікавае, і спакойна пачынае:

— Ты-б можа ўжо сягоння выступіў. Мы яшчэ дакладна не ведаем ні нашых сіл, ні нашае зброі. І потым—каравульнае роты толькі прыблізна каля паловы нашае. У першую чаргу трэба захапіць склад зброі і дэфензіву, а потым ужо разгортваць сілы. А табе абы выступаць. Ад партыйнага камітэта няма такога задання пакуль што. Па гэтаму пытанню трэба ўвайсці ў поўны кантакт з партыйным камітэтам. Патрэбна сувязь і з фронтам.

І паступова, як гаварыў Сымон, астываў Сымановіч. Ён заўсёды страшэнна пакутваў ад гэтага адкладу адкрытага выступлення супроць ворага.

Пад канец дыскусіі ўбег хлопец, нізкі і таўсматы, ён аднак вельмі праваротны і лёгкі, усё адно як без касці. Яго канёк таксама вядомы Чыжу, але Чыж слухае яго з выразным задаваленнем. Прывітаўшыся з усімі, той пачынае адразу пра кулямёты. У адной з вёсак знойдзен станкавы кулямёт, не хапае толькі некаторых частак. Кулямёты можна і трэба дастаць. Неабходна арганізаваць кулямётную каманду. На яго думку поспех паўстання будзе залежыць ад кулямётаў.

Ён мае рацыю. Без кулямётаў мы не зможам утрымаць горада і аднаго тыдня. Вось чаму з такой увагай і задавальненнем заўсёды слухае Сымон Чыж гэтага кулямётчыка.

Прадстаўнікі вёскі перамаўляюцца пра нешта ціха з Сымонам Чыжом, як старэйшым з нас і кіраўніком. З гутаркі чуваць нешта пра вінтоўкі і патроны і яны развітваюцца і выходзяць.

Мы ўсе астаемся, толькі Янка Сімановіч выглядвае ў акно.

На дварэ спакойна. Нашы новыя прыхільнікі пераразаюць нацянькі агарод і знікаюць на Падвальнай вуліцы.

Дамаўляемся ў самым блізкім часе сабраць кіраўнікоў вясковых арганізацый. Тады мы дакладна ўстановім, колькі ў нас чаго.

**15 красавіка.** Белапалякі пачынаюць зноў наступаць на Бабруйска-Бярэзінскім напрамку. Але яны павінны быць біты і будуць пабіты. Аднае ночы па ўсяму павету расклеена пракламацыя. У ёй сялянства заклікаецца не даваць ні фунта хлеба ці фуражу польскім гвалтаўнікам, гнаць у карак з вёскі польскіх жандараў. Пракламацыя падпісана Цэнтральным Камітэтам партыі Літвы і Беларусі.

Пракламацыі чытаюць з вялікаю радасцю. Вакол іх ствараюцца часам цэлыя легенды. Расказваюць пра большэвіцкіх разведчыкаў, якіх, нібыта, нехта бачыў, пра наступленне чырвоных, пра тое, што палякі зараз пабягуць назад, а таму трэба хаваць усё дабро ад гэтых рабаўнікоў. Бывалі выпадкі, калі пракламацыі зрывалі, апасаючыся, што іх хутка знішчаць. Тады яны доўга хадзілі па руках, пакуль не зачытваліся да таго, што сціраліся фіалетавыя літары пішучае машынкі на лістку паперы і сама папера не пачынала свяціцца, як рэшата.

Мы павінны быць гатовы кожнае хвіліны.

**17 красавіка.** Якое бясклапотнае неба, якую мірную радасць навявае яно ўстрывожанаму сэрцу. Але няма радасці і спакою ў маім сэрцы. Няма і не можа быць. У ім расце жаданне кінуць з размаху гранату ў акно дэфензівы, пусціць з рэек пад адхон вайсковы эшалон, падпаліць турму або ўзарваць склад зброі і амуніцыі. Я лаўлю сябе на тым, што я, як Сімановіч, гатовы пачаць ураўніваць свае невядомыя сілы з вядомымі сіламі ворага. Мне хочацца небяспечнае работы. Мне хочацца хутчэй змяшаць акупантам усе карты ў іх намерах наступаць далей, у Совецкую Расію.

Я сустрэў аднаго таварыша з Слуцкае воласці. Ён расказаў як яны набывалі вінтоўкі.

— Выгналі ў падводы. Ехаць прышлося ледзь не пад самы фронт. Везлі вінтоўкі і патроны. На месцы прыёмкі вінтоўкі складвалі пад адкрытым небам. Пакуль паспелі выкласці вінтоўкі з другіх падвод, мы ўдвох не толькі здалі, а ўправіліся ўзяць назад па пары і схаваць у салому пад палукашак. Гэтак і прывезлі.

Усё часцей паасобныя выпадкі забойства на вёсках, у лясах на дарогах жандараў, паліцыянтаў, афіцэраў і легіянераў.

Праз некалькі дзён мы абгаворым ужо больш пэўна тое, пра што яшчэ тыдзень таму назад толькі спрачаліся Чыж з Сімановічам.

Як радасна калоціцца сэрца, які агонь гарыць у мяне ў грудзях. Я хачу, каб ён настаў хутчэй, гэты момант! Нібыта я баюся, што ён можа не настаць ці калі і настане пазней, дык без мяне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**15 верасня 1921 г.** Мне ўсё яшчэ не верыцца, што я ў роднай Совецкай Беларусі. Мяне ўсё яшчэ абкружаюць страшныя зданні таго свету. Я ўсё яшчэ не магу паверыць, што я не ў катаржнай турме ў Пазнані, а сярод родных і блізкіх сваіх вольна ступаю раскутымі нагамі па такіх дарагіх мне вуліцах совецкага горада.

Якое глыбокае сіняе неба! Кажуць, такое неба толькі далёка на поўдні. На вуліцах многа пылу, у якім грабуцца вераб'і. Але, не ўважаючы на гэта, мне любы нашыя вуліцы. На іх няма нафталінавых шляхецкіх кавалераў, на іх няма смаркатых жолнежаў, якія пускаюць ваўчкі і рагулькі ў бароды старым яўрэям. Сцены ачышчаны ад загадаў вайсковых польскіх улад, на месцах для абвестак парасклейваны цяпер адозвы да грамадзян і будаўнічыя пастановы.

Горад ахоўваецца міліцэйскімі і, галоўным чынам, каравуламі атрада асобнага назначэння. Павет і горад забруджаны бандытамі—балахоўцамі і дэзертырамі, патрэбна асаблівая пільнасць,

каб ачысціцца ад гэтае дрэні. Усюды паадчыняліся крамы і майстэрні.

Разгортваецца новая эканамічная палітыка.

Жыццё абяцае гэтак многа, многа...

Можа ад таго я і адчуваю вельмі балюча той правал у сваім жыцці, які ўкладваецца ў шаснаццаць доўгіх месяцаў—у 480 дзён і начэй пазнанскае катаргі. Нават памяць адмаўляецца аднавіць карціны гэтых жахаў.

Пра нас успамянуў радасны народ, за які мы гатовы былі аддаць свае жыццё і свабоду. Пра нас на адлегласці соцень кілометраў не забылі. І вось мы вярнуліся назад,—толькі не ўсе. Прыехаў Сымон Чыж, прыехаў Мяцельскі Васіль, прыехаў я... Прыехалі і другія. Астаўся Янка, наш харошы, з палкай душой і палымнеючым сэрцам Янка Сімановіч у сваіх шырачэзных сініх галіфэ, не прыехаў. Яму далі прытулак турэмныя могілкі катаржнае Дан-Карн, прытулак у выглядзе трох аршын мізернае зямлі.

Расстрэлены 15 жніўня 1919 года, белапалякамі работнік ЧК Ферапонтаў некалі запісаў у сваёй запісной кніжцы: «Кажуць, чалавеку трэба тры аршыны зямлі... Глупства! Яму ўсяго зямнога шара мала».

Чалавек са светлым розумам і адважным сэрцам імкнецца разламаць прывычныя рамкі абыватэльскіх уяўленняў аб сутнасці існавання. Сваім духоўным вокам бачыць ён сукрытыя далі і яго погляд імкнецца яшчэ глыбей. А яму кажуць: «Вазьміце тры аршыны і не псуйце нашых рамак». Гэта зайздрасць старога света, тупасць, сляпая, дзікая нянавісць—параджэнне звярынае прыроды.

Якая іронія! Быў жыццярадасны, малады хлопец, які душою хварэў за прыдушаны інтэрвентамі народ, яму-б толькі і жыць— і вось няма яго, не вярнуўся ён разам з намі на сваю радасную краіну. Туман засцілае перада мною сонечны фон гарадскіх вуліц і нешта балюча сціскае грудзі. З ім разам засталася палова ўсіх вязняў грудзэёнскае катаргі.

Нас прымушалі, калі не было ніякае работы, а работы і не было, бо нас не хацелі выпускаць на свежае паветра, нас прымушалі турэмшчыкі перацягваць розныя цяжкія рэчы з першага паверха на другі, адтуль—на трэці, а зверху зноў уніз—і гэтак бясконца адны і тыя-ж самыя рэчы. Без пары згарбацеў дужы і слаўны Сымон Чыж, толькі вочы сталі яшчэ глыбей пранікаць у аднаму яму вядомыя патаемныя глыбіні. Не вельмі дужы Янка Сімановіч зусім саслабеў, саслабеў і злёг. У камерах холадна і мокра для таго, каб кашлю зручней было разрываць хворыя грудзі. О, там усе строга вымералі і вылічылі для таго, каб пакінуць вязня без паветра, сонца і прастору. Мы спалі на мокрай, халоднай цэментавай падлозе. Нас імкнуліся як найхутчэй збыць з рук, а таму і кармілі адпаведным чынам. Так, нам не шкадавалі вады, бо вада лепшая прыяцелька чалавека. Але яе мала было ў супавой місцы і поўна на цэментавай падлозе, на якую яна сцякала са столі і па сценах. О, нас дагледалі вельмі добра, бо нас збіраліся неўзабаве перавесці... на турэмныя могілкі.

З якім пачуццём трывогі і балючага суму мы ехалі туды, як нам цяжка было пакідаць брудныя муры Слуцкага астрога. Мы

згадзіліся-б штодня прымаць на сябе шомпальныя ўдары, чым ехаць туды. Так, у Слуцку гэтак сама не вельмі прыемна было, нават зусім не. А Янка-ж Сімановіч ужо насілу трымаўся і тут. Самым лепшым і самым прыемным для катавых нерваў спосабам допыта былі шампалы і вада... зноў вада.

Арыштаванага да страты прытомнасці збівалі шампаламі і шампалы афарбоўваліся ў кроў і кроў засыхала на іх. Страціўшага прытомнасць аблівалі вадой... Вада—лепшая прыяцелька чалавека. Калі збіты памылкова варочаўся да жыцця, яго зноў пачыналі біць. З намі гэтак цягнулася з тыдзень, дзэнь-пры-дні. Бедны Сымон! Яго білі больш за ўсіх, бо яго дужы, малады арганізм моцна супраціўляўся болю. Але адлівалі і яго.

Нам падаравалі жыццё. Як гэта не смешна, а яно так. Нас не расстралялі. Як няпоўналетніх, нібыта, нас засудзілі на дзесяць год катаргі кожнага, усіх разам на 90 год. Нас дзевяцёх пазбавілі лёсу нашых таварышоў-партызанаў. Відаць палічылі, што, маладыя, мы не зможам вытрымаць расстрэлу, а шампалы, сухоты і пакуты голада можам.

Іх было чатырнаццаць, найлепшых таварышоў, сярод якіх вылучаўся сваёю ўнутранаю моцаю Бычэнка Міхась. Іх расстралялі. Як балюча гэта, як недарэчна.

Раніцаю, а дзесятай гадзіне, калі з'ехалася поўны горад народу з вёсак, смертнікаў павялі на Грацкоўе. Народ плакаў слязьмі, слухаючы іх перадсмяротны рэволюцыйны спеў.

Цяпер яны спяць вечным сном. На прасторнай Шырокай вуліцы, куды перанеслі іх трупы пасля акупацыі, ім пастаўлен помнік і вясковыя дзяўчаты прыносяць на магілу вянкі і букеты жывых кветак.

Я да гэтага часу не магу прачнуцца. Каторы раз я задаю сабе пытанне «Як гэта магло зрабіцца»?

Усё ішло добра. У нас было такая моцная і такая стройная арганізацыя і раптам які недарэчны канец. Ішла ўжо апошняя праверка сіл і зброі і таго дня мы павінны былі скончыць яе на нарадзе за горадам. На адзін момант прызначана было сабрацца на явачнай кватэры. Апроч нас, звычайных наведвальнікаў, прышоў і грэскі арганізатар Мяцельскі. Якая неасцярожнасць—ён прынёс з сабою спіс арганізацыі Грэскае воласці. Раптам прыглушаны крык некага: «Жандары!» Янка Сімановіч кінуўся ў акно, але было позна: акно абгарадзілі халодныя штыкі. І калі-б не грэскі спіс Мяцельскага, дык ні пры нас, ні ў кватэры, не знайшлося-б абсалютна нічога. Ухапіўшыся за спіс, дэфензіва зараз-жа накіравала карную экспедыцыю ў Грэск. Пачаліся масавыя арышты. І ўсё-ж большасці арганізацыі ў Грэску ўдалося застацца.

І пачалі жандары хапаць усіх, хто толькі дзе быў на падазрэнні. Быў зроблен налёт на кватэру падпольнага партыйнага камітэта. І толькі ў самы апошні момант папярэджаны здолеў уцячы адзін з кіраўнікоў партыйнае арганізацыі М. Юшкевіч. Каля нашае явачнае кватэры на другі дзень устанавілі каравул, які забіраў кожнага, хто ні праходзіў вуліцаю. Арыштавана было каля 200 чалавек. Слуцкі астрог ніколі не бачыў такога

перанасялення, насельніцтва яго вырасла да 1500 чалавек, сярод якіх крымінальнікі былі рэдкім выключэннем. Дефэнзіва можа ганарыцца нізасцю і прадажнасцю сваіх правакатараў і ў прыватнасці таго, які насіў дасюль прозвішча Бадэль. За трыццаць срэбранікаў ён прадаў мяцежны дух прыгнечанага народа.

І ўсё такі асноўная сіла партызанаў засталася, не гледзячы на арышты ў Грэскай воласці. У ліпені месяцы, як мне расказвалі, дзесяткамі і сотнямі трупаў плацілі акупанты за кожнага з чатырнаццаці расстрэленых. Я магу толькі ўявіць сабе гэтую карціну. Я заплаціў-бы найдаражэйшую цаною за тое, каб быць у той час там. Я згадзіўся-б яшчэ раз перажыць тое, што перажыў. Не, я з вялікаю радасцю памёр-бы са зброяй у руках за свабоду нашага прыгнечанага працоўнага народа, я-б гэтым выканаў толькі свой абавязак, які прыняў на сябе, як і шмат хто, з поўным усведамленнем усяе яго важнасці.

Сяргей Дарожны

# НЯВЕСТА

За вакном у нашай Насты
Разшумеўся месяц май.
Залаты авёс купчасты
Залівае неба край.

А жыты, ячмень, а травы —
Мора сіняга разліў.
І налева і направа
І навокала палі...

Ой багата наша Наста —
Косы чорны, твар вясёл!
Пра яе між сёл калгасных
Слава ходзіць навакол:

— Хто найлепей жне за Насту?
— У каго рука спрытней?
— Хто званчэй пяе за Насту?
— Што брывей яе цямней?

Каля Насцінае хаты
Май шуміць ва ўсе канцы.
Да яе ідуць у сваты,
Пра яе пяюць хлапцы:

— Пад высокім небам зоркі,
Вецер лёг у травах спаць.
Ці не выйдзеш на вячоркі,
Наша радасць, пагуляць?

Ці не станеш сярод нас ты
За прыпеўкамі ў танок?
Ой ты Наста, наша Наста —
Залацісты галасок!

Ля варот пяюць гармоні,
Рассыпаюцца званкі.
Тут, вядома, едуць коні
Вараныя нацянькі.

Перад імі насцяж хаты,
Расступаецца народ.
Скачуць коні, едуць сваты,
Госці знатныя на сход.

Пад'язджаюць да нявесты,
Нізка кланяюцца ўсім.
Іх за стол вядуць. І месца
За сталом адводзяць ім.

— Моў, сядайце тут і там,
Рады прошаным гасцям!
Моў, для прошаных гасцей
Ёсць не мала навасцей!

І пашла гаворка ў сіні
Пераэвон вячэрніх зор,
Пра калгасныя навіны,
Пра нябачаны прастор.

А нявеста ўся ў палоне,
Між радасных гасцей,
Як вясна, як май зялёны
Толькі лепш і весялей.

Да яе падходзяць сваты,
Славяць песняй маладой.
Кубак ёй нясуць багаты
І завуць наперабой.

— Як жывем, таварыш Наста?
— За здароўе ваша, Наста!

Прывітаюць добрым словам,
Зычаць радасці. І зноў
Паднімаюць кубак новы
За здароўе маладой.

Песень звон вакол. А насцеж
Там, дзе зорны выбіт шлях,
Залатым шумуе шчасцем
Неабдымная зямля.

25-V-35 г.

Алесь Стаховіч

# ГАДЗЮКІ

**(Апавяданне)**

I

Макар хадзіў па хаце, па шурпатых, скрыпучых масніцах і нервова пакусваў свае абвіслыя, рыжаватыя вусы.

Ён прысеў на лаўцы, выцягнуў з кішэні зашмальцаваную бараньюю машонку, напхаў у люльку махоркі і задыміў.

Ля кладоўкі, дзвяры якой выходзілі ў хату, павольна кешкалася жанчына. Яна склала ў торбу невялічкія звязкі, якія ляжалі на паліцы, накрытыя абрусам і ціха перашэптвалася з Макарам.

— Як ведаеш... табе відней... А толькі глядзі, каб яшчэ не здарылася якое ліхалецце...

Макар барабаніў пальцамі па стале, смактаў люльку і ціха бурчэў.

— Не накладвай дужа, мяне і так ужо нудзіць ад усяго гэтага... не на ўме ні піць, ні есці.

На двары ўзняўся халодны вецер, рвануў абледзянелую акяніцу. Акно задрыжэла, нібы шрапнеллю зашурхацелі па сценах сасулькі.

Сабака кінуўся з-пад ганку і загаласіў ля дзвярэй.

Макар каўзануўся з лаўкі і асцярожна адчыніўшы дзверы, выйшаў на двор.

Рыпіна падкінула торбу пад стол, заставіла яе цэбрам з памыямі, апусціла абрус аж да падлогі і, успёршыся на падаконнік, пачала ўглядацца ў акно.

На двары было цёмна. Толькі маленькія праменні ад лямпы, якія праціскаліся праз шчыліны акяніц вузенькімі стужкамі слаліся па зямлі.

Макар прайшоў праз двор, пастаяў ля варот і, зірнуўшы на неба, на цёмна-шэрыя хмары, якія нізка імчаліся над стрэхамі будынкаў, ізноў увайшоў у хату.

— Ну, Рыпіна, трэба шавяліцца.

— А мо' пачакаў бы шчэ?...

— Не, калі надумаў, дык трэба.—І, крыху пачакаўшы, дадаў:— У тыдні сем пятніц не бывае.

Апрануўшы суконны палітон з вялікім башлыкам, ён з-за абраза дастаў кашэль, залажыў яго за пазуху і, развітаўшыся з жонкай, пераступіў парог.

— Ты-ж глядзі, Рыпіна...—выходзячы з сянец, папярэдзіў жонку.

Рыпіна выйшла на ганак, а Макарава постаць ужо знікла за форткай. Сабака цёрся ля ног у гаспадыні, кідаўся на грудзі, шкуматаў яе доўгую, рабую спадніцу. Кругом было ціха. У глыбокай поўначы спала сяло.

II

Невялічкі пакой, дзе вечарамі адбываліся сходы, быў перапоўнен. Ля дзвярэй, плячом падпёршы вушак, стаяў лысы Каўзун. Ён смактаў люльку і блакітны дым, вылятаючы з-пад чорных вусоў, невялічкімі хвалямі праз адчыненыя дзверы, выходзіў у калідор.

Ля стала, рассякаючы блакнотам спёртае, накуранае паветра, гаварыў дырэктар:

...Большэвіцкую вясну спаткаць падрыхтаванымі...

У калідоры было цёмна. Па невялічкіх, дашчаных ступеньках, апіраючыся палкай асцярожна паднімаўся Шурахта. Узышоўшы на ганак, ён патупаў ля дзвярэй, нахіліўся з-за шалёўкі, зірнуў у акно і адышоў назад.

Ён доўгі час стаяў на ганку, пазіраючы ў бакі і, калі скрыпнулі дзверы, Шурахта варухнуўся ля сцяны, падаўся ў цёмны калідор і непрыкметна пераступіў парог.

На сходзе спрачаліся.

— Я-ж казаў і кажу: шмат хто лындае ў нас. А калі каснешся каго, дык і няма... Той туды, той сюды, а хто жывот, на печы лежма, грэе. Дык і не хапае і недахопы ў нас... Абы з рук. Я і кажу: калі рыхтавацца, калі працаваць, дык усім паўдарнаму, не то што...—падступаючы да стала гаварыў Яўмен.

На лаўцы сярод мужчын сядзеў барадаты дзед і час ад часу падкалупваў Яўмена.

— Глядзі, Яўмен, каб не задужа было... нешта разыйшоўся ты, як тая грамафонія...

Шурахта крыху падаўся ўперад, пастаяў ля сцяны, потым апусціўся на лаўку, дзе сядзела Праскоўя і, наклаўшы ў люльку махоркі, закурыў.

Праскоўю цікавіў свежы чалавек. Яна некалькі разоў паварачвалася ў бок Шурахты, пазірала на яго казліную бараду і, нарэшце, запыталася:

— Адкуль-жа, дзядзька, да нас трапіў?

Ён сядзеў на лаўцы, абапёршыся локцем на клумак, які ляжаў на яго каленах і, сціснуўшы ў жменю бараду, загаварыў нудным голасам:

— Эх-хе-хе!.. Ї не пытай, мая зязюлька...

— А ўсё-ж?—дапытвалася Праскоўя.

— Век не меў ні кала, ні двара... Па свеце цягаюся змалку, там-сям падзараблю крыху ды так і пражываю...

— Дык вось знаш, я і прапаную: упарадчыць вупраж, пазбіраць, знаш, гужы, каб не валяліся абы дзе. Пагастрыць, знаш нарогі, падправіць лемяхі, скончыць рамонт трактароў...

— Сам і кажу, знаш, каб чулі ўсе. За мной астаноўкі не будзе. Але-ж трэба ўсім...—трасучы кумочкай, з якой тырчэлі зялёненькія сянінкі, гаварыў Кірыл.—Вясна, знаш, нікому ў зубы не будзе глядзець. Не будзе чакаць. Сонца, знаш, выблісне, прыпячэ, і паперла снег, і сып, знаеш, ярыну ў вясновыя сокі...

Ї калі скончыўся сход, Шурахта падняўся з лаўкі і падышоў да стала.

— Ну, што-ж, стары, адкуль?

— Да вас, таварыш дырэктар, да вас, галубчык!..

— Ну, ну!

— Ці не можна-б у вас тутака на работу залічыцца?

— На работу?.. А вы-ж адкуль?

— Здалёку, таварыш дырэктар... Век свой па парабках... ні кала, ні двара... Па заработках хаджу... Чуў, што рабочыя рукі патрэбны вам?

— А даведку аб сваім становішчы маеш?

— Ёсць, галубчык, калі не згубіў у дарозе...

Ён засунуў руку за пазуху, выцягнуў кашэль і дастаў даведку, якую атрымаў у Лапацінскім сельсовеце ад Буграя.

Дырэктар узяў даведку і, нахіліўшыся да лямпы, пачаў разглядаць. Даведка была свежая. Каравыя тлустыя літары былі падкрэслены зялёным чарнілам.

«... Дадзена гэта Шурахце Макару Васільявічу ў тым, што ён сапраўдны бядняк...»

— Добра. Заўтра пойдзеце на працу.

— А куды-ж?—Запытаў Шурахта.

— У лес, дровы сеч.

— Дровы сеч?—Зірнуўшы дырэктару ў вочы, нездаволеным тонам прамармытаў Макар і зноў пачаў гаварыць.

— А ці не можна тутака дзе ў соўгасе?.. Ужо вельмі я падбіты чалавек. Век свой па заработках... Ці не можна тутака дзе ў майстэрню, па стэльмашнай, ці цяслярскай галіне?

— А вы-ж цясляр?

— Так, таварыш дырэктар. Змалку па цяслярскай ці іншай рабоце, а толькі ў лес ужо...—ён паківаў галавой, пабурчэў штосьці і апусціўся на лаўку. Дырэктар паклікаў прараба і перадаў Шурахту ў яго брыгаду.

Было далёка за поўнач, калі разыходзіўся сход. Вецер сціхаў. Па небу паўзлі шэрыя хмары, якія апускаліся ўсё ніжэй і ніжэй, і густы туман распаўзаўся па полі.

Ідучы да хаты Каўзун шчыльна нахіліўшыся да Макара, шыпеў яму на вуха:

— ... Яно добра, абы прычапіцца. А толькі надакучыла мне тутака ў гэтым соўгасе... Змеркнецца туды-сюды пройдзеш, а тады і сядзіш, усё роўна як той сыч у асінавым дупле. І толькі думаецца пра гэту чортавую куламесіцу.

А калі прыйшлі да хаты, яны яшчэ доўгі час сядзелі за сталом, У хаце штосьці шамацела і была чутна цікавая гаворка.

## III

Сухі марозны ветрык абдаваў абсівераныя, румяныя твары рабочых і вясёлы гоман быў далёка чуцен на полі.

Яўмен стаяў на рыштаванні. Над яго галавой узлятаў, пабліскваў тапор і рэха разносілася па бярозавым ляску.

А пілы гралі па бярвеннях, вянцы ўздымаліся ўгару і мякка пахла смалою.

Макар сядзеў на зрубе, павольна стукаў тапаром па бервяне, смактаў цыбук вялікай люлькі і ўвесь час паглядаў на неба. І здавалася Макару, што сонца тутака такое упартае: яно зусім марудна, марудна спаўзала за гару.

... Здаецца, каб правалілася скрозь зямлю гэтае сонца, і каб была ноч, цёмная ноч... і ліў, ліў дождж з чорнага неба і затапіў усё ў халодным, глыбокім моры...

Ён пералез на другі канец бервяна і, нібы рассякаючы клубок тых думак, пачаў ямчэй паднімаць угару тапор.

Праскоўя з Агапай збіралі трэскі на падпалку. Яны ішлі ўздоўж зруба і ціха гаманілі паміж сабой. Агапа лаяла свайго Рыгора.

Макар махнуў тапаром і, нібы спаткнуўшыся на рыштаванні, шухнуўся са зрубу з тапаром у руках і з енкам пакаціўся па трэсках.

Спалоханая Праскоўя выпусціла з рук кошык і хутка пабегла да калодзежа. Агапа пачала склікаць рабочых.

Макар ляжаў на трэсках, раскінуўшы ногі.

Праскоўя лінула на Макара вады. Ён здрыгануўся, зашавяліў губамі і крыху прыўзняў галаву.

А Каўзун спяшаўся. Ён схапіў лейцы з рук у Кірылы, кульнуў..и ў каламашку і хутка падскочыў да зрубу.

— Гэта ўсё ўдарніцтва ваша чалавека акачурыла.—Падымаючы за лапаткі Макара, пабурчэў Каўзун у свае чорныя, як сажа, вусы.

— Кінь плявузгаць...—Узгарэўся Яўмен. «Чакай Каўзун, яшчэ вывярну тваю душу»...—мільганула ў галаве Яўмена.

Макара прывезлі да хаты і паклалі на ложак, у хаце было душна. Доўгія выцягнутыя Макаравы ногі былі накрыты пасцілкай, мокрыя валасы былі прылізаны да патыліцы, а рыжаватая барада галлём тырчэла ўгару.

У сенцах рыпнулі дзверы і ў хату увайшоў прараб. Ён адразу-ж падаўся да ложка, прысеў да Макара і запытаў:

— Ну як, Шурахта, адчуваеш сябе?

— Ой, галубчык, і не пытайце... Разбіўся ўшчэнт, і руку, мусіць, у локці зламаў... Не працаўнік я больш з тапаром...

— Якая неасцярожнасць!—здзіўлена прагаварыў прараб.

Усяк бывае ў жыцці. Чалавек-жа не камень. Ужо лёс мусіць такі...

Праходзілі дні, а Шурахта сядзеў у хаце, валяўся на ложку і толькі ў нядзелю, увечары, калі дырэктар вярнуўся з раёна, Макар, ручніком падвязаўшы руку, прыйшоў да дырэктара.

— Добры вечар, таварыш дырэктар.

— А-а-а! Добры вечар Шурахта. Сядайце, сядайце. Ну што гэта з вамі?

— Як бачыце, галубчык... усяк бывае з чалавекам. Чалавек-жа не камень....

— Ну што-ж будзем рабіць зараз?

— Ужо і сам не ведаю, што пасля гэтага ліха мне рабіць? Але-ж працаваць трэба. Трэба хлеб зарабляць. А чалавек я змалку працавіты. Прасіў-бы вас, мой галубчык, калі ласка ваша, даць мне працу па моцы маёй...—і пасля невялічкай паўзы, ён ціха запытаў:

— Мо' кладаўшчык вам патрэбен?..

— Кладаўшчык у нас ёсць, а вось вартаўнік патрэбен.

— Вартаўнік?—Клюнуўшы носам у каўнер палітона, працяжна паўтарыў Макар.

— А які-ж вартаўнік патрэбен?

— Начны.

— Добра, таварыш дырэктар. Пайду начным. Вочы ў мяне, хвала богу, спраўныя яшчэ і чалавек я змалку можна сказаць, не санлівы.

## IV

Стаялі хмарныя сакавітыя ночы. Кругом было ціха. Толькі ў густым, шэрым тумане, з палкай у руках, сярод соўгасных будынкаў—клыпаў Шурахта. Ён час ад часу, ужо ў глыбокую поўнач падыходзіў да дома, дзе жыў дырэктар, кіхікаў, нібы адкашліваўся і гучна сплёўваў. Крыху

пачакаўшы, ён стукаў палкай па ганку, паведамляючы гэтым дырэктара аб сваім добрасумленным дзяжурстве.

У самыя цёмныя ночы Макар хадзіў вакол вялікага свірна. Ён некалькі разоў на жываце падпаўзаў пад пярэклець, рукою мацаў па падлозе, але падлога была тоўстая, цементовая і цэлая. А ўдзень, калі Каўзун прыдзе з працы, яны ўдвох з Макарам сядзяць за сталом і ціха, ціха, пазіраючы ў вокны, шэпчуцца паміж сабою.

— Так, так, Макар... толькі трэба з Дзятлінім дагаварыцца... А чалавек ён свойскі... і вопыт добры мае...

Аднаго разу, калі добра змерклася і ў рабочых будынках замільгацелі тусклыя аганькі, Макар накінуў на плечы кажух, паклаў за пазуху воску і выйшаў за дзверы.

Ён пахадзіў па сядзібных сцежках, абыйшоў будынкі і сеў на пераклеці свірна. А тады, як усё супакоілася, Макар падыйшоў да дзвярэй свірна, абмацаў замок, выцягнуў з-за пазухі воску, прыклаў да замка і ціскануў рукою. Потым, ён плюнуў на пальцы, цэрануў аб кажух і хутка знік за вуглом.

Шчыльна завесіўшы вокны, Каўзун чыркаў напільнікам па жалезе і раз па разу прымяраў да васковай мадэлі. Толькі нязграбна ў яго выходзіла. Макар усміхаўся.

— Ну і каваль-жа з цябе Антон! Мусіць, як з мяне плотнік... Што Дзятлін заклапаціўся? Вып'ем па кілішку, каб на душы весялей было...

Макар наліў кілішак гарэлкі. Дзятлін адным глытком апаражніў кілішак, лізнуў языком сваю сіняватую раздрузлую губу і закусіў цыбуляй.

— І чаго-б гэта ў цябе гэткі шрам на губе?—запытаў Макар.

Дзятлін падняў павекі і пачырванелыя бялкі, нібы барабан у малатарні, захадзілі кругом.

— Гэта-ж мінулай вясной,—пачаў Дзятлін,—у клець праз дах падаўся па сала. Разлупіў гэта я страпіліны і баўцель туды. Ну, думаю, і пажыўлюся... Адно-ж раптам гык... і паляцеў уніз, дык аб кадушку рылам... Чуць было не зламілі.

— Ай і Дзятлін!.. Маладзец, хлапчына!—ляпнуўшы Дзятліна далонню па яго шырокім кастлявым плячы, пахваліў Макар.

— Добра, Дзятлін! Мусіць пара нам ужо разыходзіцца. А заўтра... толькі-ж роўна, роўна. І каб усё было так... Ну, пакуль...

## V

Макар хадзіў па сядзібных сцежках, якія віліся ля будынкаў, і нервова пазіраў у бакі. Ля кожнае хаты, ля вакон, ён рабіў невялічкія, непрыкметныя прыпынкі і, адхінуўшы ад вуха кудлаты каўнер кажуха, слухаў, ці ўсе спакойна...

«Не спіць яшчэ гэта выжла ўдарная»...—зірнуўшы ў вакно Яўменавай хаты ціха сам сабе прагаварыў Макар.—У партыю рыхтуецца... Мае намер ячэйку стварыць... Чакай... Яшчэ паглядзім, на чыёй вуліцы будзе кірмаш...

Надвор'е было ціхае.

Каўзун стаяў ля аборы і пільна ўглядаўся ў бок хмызняку. У кішэні цікаў гадзіннік. І калі гадзінная стрэлка дайшла да гадзіны, тады з-пад цемных гушчараў на полі, Каўзун пачуў ціхі скрып калёс. Ён настаражыўся.

Дзятлін сядзеў на калёсах і ціха пад'язджаў да аборы.

— Цс—сс—с...—зашыпеў Каўзун.

Дзятлін саскочыў з калёс.

— Ну як?

— Усё спакойна і ціха,—адказаў Каўзун.

Дзятлін лейцамі абкруціў шуло, накінуў каню на галаву торбу з аўсом. Зняўшы з калёс звязак мяхоў, яны пайшлі да свірна. Макар ускочыў на пярэклець і адамкнуў замок.

— Направа хлопцы... направа, сартаванае...—Ціха папярэджвае Макар.

— Толькі хутчэй, хлопцы...

Ён прычыніў дзверы, павесіў замок на клямку, а сам стаў за вугал. З звярынай зайздрасцю, упацёмках, не бачачы адзін другога, Каўзун з Дзятлінным насыпалі мяхі. А калі пачалі засыпаць апошні мех, Каўзун набраў у жменю аўса і севануў па вугле. Макар пабег па каня, падагнаў падводу, і перапоўненыя збожжам калёсы зніклі за ляском.

VI

Аднойчы, Праскоўя позна затрымалася на лікпункце. Пасля заняткаў яна зайшла да настаўніцы і загаварылася аж-да самай поўначы...

Праскоўя вышла на двор. На небе—ні зоркі і раскінутыя будынкі, нібы зажмурыліся ў густой цемры. Толькі дзесьці пад дахам галасісты певень выводзіў—Ку-карэ-э-к-у-у... і нібы той вясковы будзільнік—парушае цішыню.

Яна ішла нацянькі і мінаючы вугал свірна,—заўважыла падводу і чалавека ў доўгім кажуху, які трымаў каня за аброць.

Свіран быў адчынены і на пярэклеці ў шэрай цемені былі відаць бялявыя мяхі.

Праскоўя ў жаху адскочыла ў бок. Ногі замлелі, мурашкі застрачылі па целе. Перапалоханая, яна некалькі хвілін стаяла моўчкі, а затым сухім, жахлівым голасам пачала крычаць:

— Макар! Макар!..

Але Макар быў не той, як думалася Праскоўі. Ён адскочыў ад каня, схапіў палку і кінуўся да яе. Чорныя, ліпкія пырскі вылятаці з-пад ног у Праскоўі і недзе ў гразі ўвяз чаравік. Недалёка ад дому, Макар шыбнуў дубцом у Праскоўю і вострым канцом дзюбануў ёй у нагу. Яна бухнулася ў дзверы, дзе жыў дырэктар соўгаса і жыватом сунулася на высокі парог. Макар пабег назад. Азвярэўшы, ён схапіў вялікі куль аржаной саломы, чыркнуў запалку, разорваў вязьмо і ўкінуў у свіран:

«Сейце, засявайце свае абшары»...—З пенай на губах прашыпеў Макар і раскідаўшы мяхі каля свірна, яны ўскочылі на калёсы, лейцамі ляснулі па кані і зніклі за соўгасным дваром. Праз, шырокія, адчыненыя насцеж дзверы свірна вялікімі клубамі ішоў дым і чуўся трэск тлеючага ячменю.

Дырэктар ускочыў у свіран. Яго рукі дрыжэлі. Ён шарыў па сцяне і ледзь намацаў агнетушыцель. Схапіўшы яго абедзвума рукамі, ён стукнуў аб падлогу, але агнетушыцель ужо быў папсаваны. І калі дырэктар, задыхаючыся ў дыме, выскачыў на пярэклець, свіран быў абкружан вялікім натоўпам рабочых. Ля дзвярэй стаяла пажарная машына і ў свіран біўся срэбны струмень халоднае вады.

А Яўмен з вядром у руках, у аднэй бялізне і бяз шапкі пакрысе паліваў вадою і ўсё пакрыкваў «хутчэй вады».

Дырэктар павёў вачыма па засеках, што яшчэ з восені былі насыпаны пад самую столь і прысеў на пярэклеці свірна. Яго твар быў змучаны, заклапочаны, цмяны.

— Знайсці! Знайсці, што-б там ні стала,—нервова ляпнуўшы рукою па калене, цвёрда прагаварыў дырэктар.

## VII

Яны ішлі асцярожна. Толькі дзе-нідзе пад нагамі хрусцелі сухія галінкі.

Праскоўя папярэджвала Яўмена.

— Цішэй, Яўмен, цішэй!..

А Яўмен кіўне галавой, буркне пад нос:—Не хвалюйся, баба. Не ў такім пераплёце бываў...—ізноў ідзе наперад. І сярод вялікага хваёвага лесу, што цёмнай сцяною цягнуўся на захад, яны наткнуліся на густы, калючы ельнік. Туды ніяк не пралезці. Там нават заяц і той не ўціснецца. Толькі мышы ды краты шамацяць і дзе-нідзе цокаюць белкі.

— Што-ж будзем рабіць?

— Абыйдзем кругом, разведаем. Як-небудзь трэба пралезці ў гэты гушчар,—ціха прашаптаў Яўмен.

Яны доўга ішлі ля густой яловай сцяны і ўрэшце звярнулі ў невялічкую вузенькую прагалінку. Але было зусім цёмна. Яны парашылі застанавіцца і перачакаць гэту чорную цемень.

Яўмен лёг на галлё, патыліцай абапёрся аб кудлатую ялінку і зашпіліўшы каўнер піджака—задрамаў.

Праскоўя, падагнуўшы ногі, сядзела ля Яўмена. Ёй было холадна і страшна. Невялічкі шорах вожыка ёй здаваўся хадою чалавека.

Запоўначы падзьмуў вецер і хвоі ціха зашапталі вяршынамі. Сярод густых, ялінак, у ламаччы раптам хруснула сухавіна і зашамацелі прынізістыя, маладыя ялінкі. Праскоўя шчыльна прытулілася да Яўмена і локцем у бок таўханула яго.

— Шамаціць! Шамаціць, Яўмен!

Яўмен хутка падняў галаву, пачаў прыглядацца. А галлё ўсё больш і больш хрусцела і ўсё мацней шамацелі ялінкі.

— Яны тутака, Яўмен! Тутака!—Упэўнена і ціха шаптала Праскоўя. Яе голас дрыжэў і калаціліся рукі, а сэрца нібы малатком па кавадле стукала ў грудзях.

— Ты ідзі, Праскоўя, па падмогу, а я адзін астануся і буду сачыць за імі...

— Добра. Я пайду... А ты-ж глядзі, глядзі і сам сцеражыся.

Праскоўя спяшалася. Яе русыя валасы былі растрапаны, асобныя пасмы іх пелескаліся ад ветра па разрумяненым твары, у горле перасохла, і калі спаткала Кірылу ля канюшні, яна ледзь прагаварыла:

— Кірыл!

— Ну! Ну!

— Ёсць!... Знайшлі!... Трэба рабочых...

Кірыл схапіў Праскоўю за рукаў яе ватоўкі:

— Што ты кажаш, Праскоўя?

— Знайшлі, кажу. У лесе. У гушчары... Трэба рабочых хутчэй на падмогу.

Кірыл хутка склікаў рабочых, на плечы закінуў сваю заржавелую двухстволку і, запрогшы дзве пары коней, яны паехалі ў лес.

Яўмен ціхенька ляжаў у галлі і, калі Кірыл з Праскоўяй, падышлі да яго, ён махнуў рукой.

— Вось тут. Тут яны ў ламаччы... Я бачыў, як Макар вылез з ламачча, прайшоўся туды, а тады зноў схаваўся.

Кірыл са стрэльбай у руках кінуўся на ламачча.

— Сюды!

— Сюды, хлопцы!

Рабочыя абступілі кругом і дружна пачалі расцягваць галлё.

— Вылазьце!!

— Вылазце, гадаўё,—скамандваў Яўмен.

Але ў ламаччы было ціха, нібы тыя клапы ў шчыліне, ціха сядзелі кулакі.

Яўмен стаў на калені і, нацэліўшыся, бухнуў у ламачча.

Макар падняў галаву, пакасіў вачыма і, апіраючыся рукамі аб корч, пацягнуўся з ламачча. А ўслед за ім,—нібы тыя ваўкі, падцягваючы азадкі—пачалі вылазіць Каўзун і Дзятлін.

М. Бекер

# РАСКАЗ АБ РАБОЦЕ БАГРЫЦКАГА З МАЛАДЫМІ ПАЭТАМІ *)

Гістарычная прамова тав. **Сталіна** ставіць перад намі з усёй вастратой праблему беражлівага і любоўнага вырошчвання нашых літаратурных кадраў. Мы павінны памятаць аб маладых, аб літгурткоўцах, дапамагаючы **ім практычна**—словам і справай.

Эдуард Багрыцкі—буйнейшы паэт сучаснасці быў чулым выхавальнікам літаратурных кадраў. Вопыт яго работы з маладымі з'яўляецца вельмі цікавым і важным для ўсіх пісьменнікаў і яшчэ ў большай ступені для літгурткоўцаў, якім прынясуць вялікую карысць яго ўказанні і парады.

---

— Ён быў для нас вялікім аўтарытэтам і ў той-жа час найлепшым таварышом,—гаворыць адзін з выхаванцаў Багрыцкага. І трэба думаць, што пад гэтымі словамі падпішуцца ўсе маладыя паэты, якія ўспрынялі разумныя і глыбокія заўвагі Багрыцкага і адчувалі яго жывое і таленавітае кіраўніцтва.

— Ён даваў парады, накіроўваў, указваў, перасцерагаў, ніколі не супакойваў, а ўзбройваў,—гаворыць Скараходаў.

— Кожнае наведванне Багрыцкага ўздымала і натхняла,—заяўляе Павал Панчэнка.

— Як да роднага бацькі можна было пайсці да яго,—сказаў мне неяк Павал Жэлезноў. І ў гэтых словах няма нічога перабольшанага, сантыментальнага. Багрыцкі быў сапраўдным шэфам і дарадчыкам маладых паэтаў. Пры гэтым Багрыцкі не любіў таннага ментарства і сумнага рэзанерства. Ён вучыў з жорсткай крытыкай ставіцца да кожнага з сяброў, адкідаючы ўсе таварыскія пачуцці тады, калі справа заходзіць аб стварэнні мастацкіх твораў. Ён гаварыў аб вершах тое, што думаў, гаварыў проста, адкрыта, не баючыся часам моцных выразаў.

«Эдуард Грыгор'евіч,—успамінае Жэлезноў,—быў заўсёды вельмі адкрытым і шчырым. Калі яму падабаўся мой новы верш, ён гаварыў: «Гэта вам удалося», або «над гэтым варта папрацаваць». Калі-ж верш не падабаўся, дык проста гаварыў: «Гэта барахло. Кіньце гэта», і коратка тлумачыў чаму «барахло».

Між іншым, прыглядаючыся да таго, як Багрыцкі слухаў вершы, можна было здагадацца, падабаюцца яны яму ці не. Калі падабаліся—Багрыцкі нахіляўся ўсім тулавам у бок чытача і ўсміхаўся. Калі вершы не падабаліся—сядзеў надзьмуўшыся, апусціўшы галаву нізка, на рукі, на стол.

---

*) Артыкул у больш поўным выглядзе друкуецца ў альманаху „Эдуард Багрыцкі", які выпускае выдавецтва „Совецкі Пісьменнік".

Багрыцкі вельмі прагна прыглядаўся да новых вершаў, новых паэтаў. Добраму радку ён радаваўся, як каштоўнай знаходцы.

Аднойчы ён хваліўся, што адкапаў цікавыя вершы маладога паэта. Вершы ён рэкамандаваў «Новаму міру» і яны праз хуткі час былі надрукаваны. Але ўжо ў гэты вечар ён ведаў іх напамяць. Гэта былі вершы Максіма Кароткага, здаецца, «Аварыя вадаправода». Асабліва падабаўся Багрыцкаму радок «Капала крохотная вода».

— Вельмі добра,—гаварыў ён.

У пачатку 1933 г. Е. Далманоўскі прынёс у «Совецкую літаратуру» кнігу вершаў. Багрыцкі папрасіў тэрмінова перадаць яму кнігу. Цэлы дзень сядзеў ён з Далматоўскім, праглядаючы вершы. Вечарам ён сказаў:

— Ну, усё ў парадку. Я кладу кнігу на паліцу, і яна будзе ляжаць каля года. Потым мы яшчэ раз яе паглядзім. Возьмем тое, што за гэты год напішаце, і атрымаецца сапраўдная кніга. Вашаму вінаграднаму віну трэба адстаяцца, каб яно зрабілася мацнейшым.

Прыблізна праз год, перад сваёй смерцю, Багрыцкі прыняў кнігу да друку. З першых вершаў засталіся ў ранейшым выглядзе толькі два-тры.

Выключную цікавасць праяўляў Багрыцкі да групы паэтаў-беспрытульнікаў. Ён шчыра радаваўся «другому нараджэнню» Жэлезнова, які прышоў у літаратуру з асяроддзя беспрытульнікаў. Але Багрыцкі добра разумеў, што адных інтэлігенцкіх захапленняў недастаткова, што маладым паэтам патрэбна рэальная і канкрэтная дапамога. І Багрыцкі даваў гэтую дапамогу, разам з Жэлезновым ён паехаў у працоўную комуну ў Большава і там правёў гутарку з маладымі паэтамі. Ён дабіўся выдання альманаха «Учора і сёння», а Бабрынскаму—беспрытульніку, дапамог паступіць у вячэрні літаратурны універсітэт.

Захаваліся каларытныя запіскі Эдуарда Грыгор'евіча. У іх відаць жывыя і кроўныя клопаты аб маладых паэтах, аб іх культурным росце.

Вось некаторыя з іх:

«Дарагі Субоцкі!

Гэтыя хлопцы (Панчанка і Шпірт) працуюць са мной. Для сістэматычнага вывучэння літаратуры ім патрэбны кнігі. Будзь ласкаў, пакажы і дапамажы набыць хлопцам патрэбныя кнігі. Кнігі выдаць пад маю адказнасць.

Прывітанне! Эд. Багрыцкі».

«Сакратару Аргкамітэта тав. Кірпоціну.

Падацельніца гэтай запіскі тав. Перынго—пачынаючая паэтэса. Жыццёвыя ўмовы яе такія, што ёй неабходна ісці вучыцца. Яна раскажа табе аб гэтым. На мой погляд ёй патрэбна абавязкова. З яе можа быць таленавіты чалавек. Выслухай яе і дапамажы ёй.

23-XI-33 г. Прывітанне! Э. Багрыцкі».

Як-жа пасля гэтага дзівіцца таму, што маладыя паэты цягнуліся да Багрыцкага і адносіліся да яго з такой шчырай сімпатыяй?

— У яго заўсёды было поўна хлопцаў,—гаварыў мне той-жа П. Жэлезноў. І правільна, маладыя паэты цягнуліся да яго бясконцай чаргой. Яны прыносілі ў пакой Багрыцкага вясёлае ажыўленне. Іх звонкія песні былі неабходным дапаўненнем да галасістых птушак і рознастайных рыб, якія зручна размясціліся ў яго кватэры.

Неабходна ўсё-ж развеяць тую легенду, быццам Багрыцкі дапамагаў усякаму маладому паэту. Ён з агіднасцю глядзеў на тых, якія прыходзілі да яго з пэўнай мэтай прыхіліць галаву, наладзіць праз яго свае дробныя справы.

Багрыцкі акружаў сябе таленавітым маладняком, пры гэтым пролетарскім літаратурным маладняком. Яго шэфства прасціралася на Сідарава, Каваленкава, Далматоўскага, Панчанка, Шпірта, Скараходава, Шэўцова, Александраву, г. зн. паэтаў комсамольскай складкі. Клопаты аб гэтых паэтах былі па сутнасці клопатамі аб пролетарскай літаратуры, аб пролетарскім мастацтве.

* * *

Якая была сістэма работы Багрыцкага з маладымі? І ці існавала гэтая сістэма наогул? Нам здаецца, што ўказанні Багрыцкага пры ўсёй іх рознастайнасці зводзіліся да пэўнай сістэмы.

Дастаеўскі, які рэдагаваў Грыгаровіча, да слоў апошняга «пятак упаў на тратуар»—прыпісаў «дзынкаючы і падскакваючы». Радок ажыў, заблішчэў, зрабіўся мастацкім.

Багрыцкі часта рэдагаваў маладых паэтаў. І тут ён паказваў сапраўднае майстэрства. Ён паляпшаў рэчы, робячы іх годнымі да друку. Пачыналася з дробязей.

Вось Шэўцоў чытае:

Уже на клумбах клуба
Падали цветы,
А я стоял у дуба,
Средней высоты
С топором.

— Пачакай,—перабівае яго Багрыцкі,—гэта хто сярэдняй вышыні: дуб ці ты?

Багрыцкі ўсміхаецца, бярэ аловак і ставіць у дужкі словы «у дуба сярэдняй вышыні».

Яшчэ ў 1929 годзе Багрыцкі пісаў:

«Верш гэта прататып чалавечага цела. Кожная частка на месцы. Кожны орган патрэбен і нясе пэўную функцыю. Я-б сказаў, што кожная літара верша падобна на клетку ў арганізме, яна павінна жыць і пульсіраваць. У вершы не можа быць мёртвых клетак. Апендыцыт абсалютна немагчымы. Верш нараджаецца без сляпой кішкі».

Застаючыся верным гэтаму свайму крытэрыю Багрыцкі дамагаўся сцісласці, кароткасці, знішчаючы ўсё лішняе і непатрэбнае.

В. Сідараў прачытаў Багрыцкаму вершы «Выходны». Добрыя вершы ён любіў не толькі слухаць, але і сам чытаць іх уголас.

— А ну, давай, я сам пачытаю.

Задыхаючыся, з вялікімі паўзамі ён пачаў чытаць уголас. Чытаючы выкрэсліваў лішнія словы. Так, напрыклад, з страфы:

Сперва он не знает, куда деться
После шумного завода.
Потом решил
Разбежаться, как в детстве.
И прыгнуть с размаха
В холодную воду.

ён выкрэсліваў «з размаха».

— Нашто гэта? Гэта трэба выкінуць. Раз ужо ён рашыў разбегчыся, дык тут без размаха нельга.

Верш канчаўся так:

„А мы умеем уважать
Нашу красивую богатую природу

Тут ён выкрэсліў «багатую».

— І без гэтага відаць, што прырода багатая. Гэтае слова нічога не дапаўняе, а ўвесь радок робіцца такім, што яго цяжка выгаварыць.

Сам Багрыцкі не шкадаваў сваіх твораў. У вершы «Вясна» ўслед за радкамі:

„В аллеях столбов
По дорогам перронов
Лягушачья прозелень
Дачных вагонов;
Уже окунувшись
В масло по локоть
Рычаг начинает
Акать и охать...
И дым оседает
На вихре откоса
И рельсы бросаются
Под колеса...

было напісана аб тым, што паплылі дачы, дрэвы, што цягнік пашоў. Успомніўшы гэта, Багрыцкі лаяўся: «Якога чорта... Радкі «рычаг пачынае... і рэльсы кідаюцца» ужо гавораць аб тым, што цягнік пашоў. Лішнія радкі былі выкінуты. Вершы атрымаліся яскравымі і чоткімі.

«Калі Багрыцкі чытаў мне «Человека предместья»,—успамінае Каваленкаў,—там было ў два разы больш радкоў, чым у надрукаваным вершы. Ён любіў кароткія вершы».

Зусім зразумела, што Багрыцкі не мог даравань паэтам усяго лішняга, непатрэбнага. Ён вопытнай рукой выводзіў з строю словы, радкі і цэлыя строфы. Праўда, ён не адразу выкрэсліваў. Раней пераконваў («так-жа лепш будзе»), а потым вырэзваў радкі з абыякавасцю хірурга, які выдаляе з арганізма дзікае мяса.

Вялікую ўвагу звярачаў Багрыцкі на эпітэт. Далматоўскаму, які толькі пачынаў друкавацца, ён гаварыў.

— У вас, як і ў многіх іншых маладых паэтаў, даецца два эпітэта адразу. Гэта дрэнна. Трэба знаходзіць адзін эпітэт, але каб ён быў моцным.

Адносна верша «Дзяцінства» Багрыцкі гаварыў Далматоўскаму па тэлефону:

— Я ўспомніў, што ў вас вечарам начальнік палітаддзела прыходзіць на могілкі да «жалезнай агарожы». Я прыдумаў лепш: «прахладнай агарожы».

Жэлезноў пісаў:

„Мне все равно, в горячке белой
Свезут в тюремный лазарет.

Багрыцкі замест «мне» піша «ведь» і гэтым надае радку трагічную асуджанасць, больш глыбока і рашуча падкрэсліваючы ўпадніцтва беспрытульніка.

У Каваленкава ў вершы «Матацыкліст» было напісана:

„Ждут победителя,
Он зернышком мелькая,
В гигантский жернов превращает трек
Летит сквозь пыль, спины не разгибая,
Приземистый, чугунный человек.

Багрыцкі мог «ужывацца» ў чужы верш, як і ў свой уласны. Змяняючы ў радку слова, а часамі адзін гук, ён надаваў яму асаблівую ўнутраную прыгожасць, ледзь улоўнае адценне новай выразнасці.

Заключныя радкі верша Далматоўскага:

„И мы послали Нинку в Трам—
Пускай играет в траме.

Багрыцкі чытаў:

«Пушчай играет в Траме,

гаворачы пры гэтым: «Тут патрэбна, каб было да смешнага проста а «пушчай»—гэта смешна і проста».

Радкі Далматоўскага:

„А в небе ночи напролет
Летает самолет.
(верш „Крылья")

Багрыцкі перайначыў наступным чынам:

„А в небе ночи напролет
Гуляет самолет.

Чаму «гуляет»? Напэўна таму, што «гуляет» гучыць больш інтымна, больш лірычна і адпавядае ідылічнаму фону «Крыльев».

Некаторыя рэдактары, якія вельмі спрошчана разумеюць сваю задачу, знішчаюць у вершах пачынаючых моманты індывідуальнага ўспрынящця, замяняючы іх сваёй уласнай творчасцю. З такіх твораў заўсёды тырчаць вушы рэдактара.

Багрыцкі не любіў «отсебятины», хаця-б і самай кваліфікаванай. Вершы ён выпраўляў з такім разлікам, каб індывідуальнае не было затушавана.

У Жэлезнова было:

„Жизнь выставляла на показ
Все прелести свои, как шмара,
Ужасен был ее соблазн
И неотвязчивей кошмара,

Багрыцкі змяніў гэтыя чатыры радкі:

„Хлестал в глаза ее соблазн,
В ночных преследовал кошмарах.
Жизнь выставляла на показ
Все прелести свои, как шмара.

У Багрыцкага—сябра і паплечніка Жэлезнова—было:

„Разве даже на пару минуток
Раньше снилось Кочуге-шпане,
Что смогу я быть близок и чуток
Новой жизни, труду и весне?

У рэдакцыі Багрыцкага гэтыя чатыры радкі выглядаюць так:

„А в жизни, замешанной круто,
Быть близким труду и весне,
Даже на пару минуток
Не снилось Кочуге-шпане.

Ці патрэбны каментарыі? Ці не ясна, што вершы, адрэдагаваныя Багрыцкім, выйгралі?

Багрыцкі заўсёды патрабаваў дакладнага ўжывання слоў:

Ойслендэр пісаў:

„Тамбовец или Ярославец
Стреляет ленточкой и вновь
В сердца непрочные красавиц
Бросает удочкой любовь."

«Бросает удочкой любовь»—гэта недакладна, нават неправільна. І Багрыцкі, закрэсліваючы апошні радок, піша:

«Наживкой брошена любовь».

Багрыцкі чула адносіўся да інтанацыі верша. Каваленкаву ён указваў, што нельга чаргаваць у блізкім парадку мужчынскія і жаночыя рыфмы.

„Где свади могут стукнуть топором
И взятку дать старинным серебром.
Где Ленина рисуют на бересте
И лошади, и школьники в коросте."

Каваленкаў прыняў пад увагу гэтую заўвагу і перапрацаваў страфу.

„Где в дымных юртах властвует трахома,
Боятся коммуны и агронома,
Где Ленина рисуют на бересте,
Где лошади и школьники в коросте."

Але Багрыцкі не быў бы верным сабе, калі-б ён спыняўся толькі на дэталях, мінаючы галоўнае. Ад прыватнага ён ішоў да агульнага, патрабуючы, каб твор быў прасякнуты адзіным дыханнем, адзінай страснасцю.

— Пішыце добрыя вершы, а не добрыя радкі,—гаварыў ён маладым паэтам професіянальнага выдавецтва. Пры гэтым мелася на ўвазе, што дрэнных радкоў наогул быць не павінна.

Паэтычная незвычайнасць—вось якасць, на якую заўсёды указваў Багрыцкі.

— Радок павінен быць непаўторным, як шахматны ход,—гаварыў ён маладому паэту, указваючы на шаблоннасць эпітэтаў.

Характэрная дэталь: Багрыцкі не любіў, калі пісалі «пад яго».

— Трэба па свойму,—гаварыў ён, хмурачы бровы. У маладых паэтах ён хацеў бачыць не сваіх падгалоскаў, а таленавітых майстроў шматграннага мастацтва соцыялізма.

* * *

Так, Багрыцкі даваў надзвычайныя ўзоры паэтычнай карэктуры. Ён прасоўваў у друк лепшыя творы маладых. Аднак, **не ў гэтым** трэба бачыць галоўную заслугу Багрыцкага. Мы думаем, што найлепшая рыса Багрыцкага, як выхавальніка літаратурных кадраў—гэта рэдкае ўменне заражаць воляй да працы і любоўю да паэзіі.

Прафесіянальнае выдавецтва прымацавала да Багрыцкага групу маладых паэтаў. Пры першай сустрэчы з імі ён гаварыў:

— Садзіць вас за папку—я не буду. Я хачу дамагчыся адной рэчы, каб вы палюбілі паэзію, як я люблю яе.

І сапраўды, Багрыцкі, як ніхто умеў прывіваць «питомцам музы своей» страсную любоў да паэзіі, да мастацкага слова.

Як ён чытаў! Па трапнаму выражэнню Аркадзія Штэйнберга ён «адкрываў» паэтаў.

«Ён заўсёды чытаў мне вершы, напаўняючы іх сваім тэмпераментам. Ён навучаў мяне любіць і разумець сімвалістаў, як літаратурную школу,

а не толькі, як паасобных паэтаў. Ён адкрыў мне Вячэслава Іванова, Канаеўскага, Балтрушайціса. Нарэшце, ён указаў мне на Канстанціна Случэўскага, які зрабіўся адным з маіх асноўных настаўнікаў» (Аркадзі Штэйнберг).

Велізарная любоў была ў Багрыцкага да класікаў. І хто не заражаўся гэтай любоўю, слухаючы прытаіўшы дыханне чытанне Пушкіна, Дзержавіна і інш. Так, ён быў хадзячай энцыклапедыяй для маладых паэтаў. Сваім пафасным чытаннем па асабліваму «смачна», чытаннем, якое падкрэслівала «пах» слоў, ён адкрываў у творах класікаў схаваны, падспудны, да гэтага часу здавалася-б невядомы сэнс.

— Аднойчы Багрыцкі папрасіў Скараходава пачытаць уголас «Ледзі Макбет». Ён ужо пачаў чытаць, але Багрыцкі перабіў яго:

— Ну, ведаеце, гэта вам не...*) Так Шэкспіра чытаць нельга. І ён, узяўшы кнігу з рук Скараходава, прачытаў так, што малады паэт адразу адчуў сілу Шэкспіра.

Чытаючы Пушкіна, Языкова, Бенедыктава, ён гаварыў:

— Людзі пісалі сто гадоў назад, а якая сіла! Нам бы гэтую сілу!

— А чаму-б нам не паспрабаваць пісаць вось так,—сказаў ён аднойчы, раскрываючы томік Тютчэва.

Паэт С. Г. неяк сказаў мне:

— Калі малады паэт піша пад Маякоўскага, грамыхаючы вершам і ствараючы шумавыя эфекты, я зараз-жа даю яму чытаць Пушкіна. Пушкінская прастата дзейнічае, як сіні колер. Калі пачынаючы прыносіць мне прозу, напісаную «вельмі прыгожа» скажам пад Тургенева, дык для кантраста, я даю яму чытаць цудоўную прозу Горкага.

Я не адказваю за дакладнасць слоў, але думка С. Г. была такая. Ён карыстаўся метадам кантрастаў і гэта дапамагала.

Багрыцкі таксама карыстаўся параўнаннямі і кантрастамі. Разгортваючы перад маладымі прыгожасці твораў Пушкіна, Лермантава і іншых класікаў, ён звяртаў увагу на незвычайную прастату—якасць, якой часта не хапае пачынаючаму паэту.

«Багрыцкі сказаў мне, што ў мяне няма прастаты, няма лірычнасці і і напеўнасці верша. Пры гэтым ён чытаў Пушкіна, захапляючыся яго геніяльнай прастатой. І цяпер, калі я выкарабкаўся «з-пад» Маякоўскага, я асабліва адчуваю карыснасць указанняў Эдуарда Грыгор'евіча, які дапамог мне стаць на правільны шлях, вывучаючыся у класікаў мастацкай прастаце.

Заклікаючы да вучобы ў класікаў, Багрыцкі падкрэсліваў шкоднасць наследвання: паэт вялікай культуры, які арганічна ператварыў у сваёй творчасці рад уплываў, ён прывіваў сваім выхаванцам імунітэт супроць усякага рода эпігонства.

Уладзімір Аўрушчанка перад тым, як напісаць свой верш «На смерть Калиновского», уважліва прачытаў тыя месцы «Іліяды», дзе гаворыцца аб гібелі Гектара, плачы Андрамахі над ім і нарэшце пахаванні яго. Тады-ж ён прачытаў «Песню о Роланде», «Слова аб палку Ігараву» («Плач Яраслаўны»), песню « У стане рускіх воінаў» Жукоўскага і рад іншых твораў, у якіх адлюстравана трагічная смерць народных герояў. Аб гэтай праробленай рабоце, не гаворачы ўжо аб сабраных матэрыялах аб асобе Каліноўскага і мастацкім афармленні іх, Багрыцкі адгукнуўся станоўча.

*) Тут ён назваў прозвішча вядомага пралетарскага паэта.

Але характэрна тое, што, разглядаючы верш аб Каліноўскім, Багрыцкі гаварыў:

«Я дзіўлюся, як гэта у вас атрымліваецца «пад» Жукоўскага. Наш рамантызм не павінен быць сантыментальным». І ён выкрэсліваў цэлыя радкі, дзе ў жалобных, але па сутнасці непатрэбных танах, гаварылася аб такім мужным чалавеку, якім быў Каліноўскі «ў жыцці і смерці сваёй».

Калі-ж Багрыцкі дайшоў да куплета:

„Ты в небо врезаясь, на крыльях летишь,
На солнечных крыльях Икара,
И танки ломают вечернюю тишь,
То наша и воля и кара."

—ён са здзіўленнем спытаў:

— А як трапіў сюды «таварыш» Ікар?

Аўрушчанка пачаў абараняць Ікара. Багрыцкі быў бязлітасны.

— Як гэта вы пішаце аб Каліноўскім—ваенным большэвіку і раптам успамінаеце міфічнага Ікара, што за дзіўныя асоцыяцыі.

* * *

Можна падумаць, што кансультацыя Багрыцкага мела вузкавытворчы характар, складаючыся, галоўным чынам, з рэдакцыйнай праўкі. Але гэта далёка не так. Багрыцкі не выкладаў ідэалагічных азоў, не гаварыў прапісных ісцін. Ён меў справу з плеядай паэтаў, якія атрымалі ў комсамоле вялікую палітычную зарадку. Але Багрыцкі ніколі не здымаў з сябе адказнасці за ідэйна-палітычны рост паэтаў, з якімі ён меў справу.

Багрыцкі патрабаваў паказа жывых людзей і жывых страсцей нашай эпохі. З якой ненавісцю ён гаварыў аб паэтах-версіфікатарах, якія могуць усё зарыфмаваць, і для якіх, па сутнасці справы, з'яўляецца чужым соцыялістычнае мастацтва. Тэмпераментны паэт рэволюцыі, страсны рамантык, ён ненавідзеў шэрасць, рыфмаваны сум, абыякавасць. Маладосць, здароўе, бадзёрасць—вось што ён хацеў бачыць у творчасці маладых.

Малады паэт прынёс верш на тэму аб нешчаслівым каханні актывіста. Канчаўся верш наступным чынам:

И на эту тоску о любимой
Не умеет ответить райком.

Багрыцкі моўчкі падкрэсліваў кожнае слова ў вершы, а потым прабурчэў:

— Калі мы будзем пісаць такія вершы, дык што-ж гэта атрымаецца з комсамольскай паэзіі. Як гэта не ўмее адказаць райком? Вы самі райком.

Багрыцкі часта гаварыў аб тым, што паэты-комсамольцы павінны даваць радасныя, бадзёрыя вершы. Ён гаварыў аб тым, што, на жаль, моладзь мала піша аб фізкультуры, аб стадыёне, аб ваенных занятках.

— Калі-б я быў маладым комсамольцам, дык напісаў бы паэму ці нават, п'есу, дзе дзеянне адбывалася-б на рэчцы, або ў парку культуры.

Радкі аб здароўі і фізкультуры ён заўсёды выхапляў і паўтараў.

Багрыцкі не замыкаўся ў сферы вузкіх літаратурных інтарэсаў. Ён многа расказваў паэтам аб грамадзянскай вайне, аб партызанах, выхоўваючы ў маладых эмоцыю рамантычных адносін да грамадзянскай вайны.

У адзін і той-жа час Багрыцкі з захапленнем, якое ніколі не пакідала яго, гаварыў аб будаўніцтве. Ён распытваў маладых аб іх заводскай і грамадска-палітычнай рабоце. З Каваленкавым ён многа гаварыў аб авіяцыі, падкрэсліваючы, што лепшыя творы звязаны з работай, з першай прафесіяй.

Багрыцкі неаднаразова падкрэсліваў неабходнасць цеснага яднання з людзьмі нашай краіны і рэкамендаваў паэтам не наогул ездзіць па неаб'ятных прасторах СССР, а быць удзельнікам у той ці іншай рабоце. Выконваючы гэтую параду Аўрушчанка працаваў на вытворчасці ў Волга-Ахтубінскім соўгасе. У часе калектывізацыі на Кубані быў інспектарам трактарацэнтра, пазней ездзіў упаўнаважаным па загатоўках. Багрыцкі не раіў адразу-ж пісаць аб тым, што бачыш, як гэта робяць некаторыя недалёкія пісьменнікі. Ён рэкамандаваў весці дзённікі. І маладыя паэты набылі дзённікі, запісныя кніжкі і іншы інвентар.

Той-жа Аўрушчанка паведамляе:

«— Цяпер у мяне дома арганізаваны спецыяльныя папкі для дзённікаў. Адна асецінская, у ёй сабрана ўсё, што датычыцца да маёй паездкі ў Асецію, другая прысвечана танкаваму палку, дзе я служыў курсантам, трэцяя—Таджыкістану і Туркменіі. Калі мне трэба, я працую над гэтым багатым матэрыялам, сабраным у маіх папках».

Нелішнім будзе адзначыць, што Багрыцкі быў ярасным праціўнікам багемы. Яшчэ да з'яўлення артыкулаў Алексея Максімавіча ён указваў на класава-варожы характар творчасці Васільева і палітычна-шкодны эквівалент яго багемскіх выпадаў. Багрыцкі не чытаў лекцыі аб маралі, не разыгрываў з сябе класнай дамы, але заўсёды ўказваў на недапушчальнасць у нашых умовах багемы, індывідуалізма, не разрываючы асабістага жыцця паэта і яго грамадска-літаратурнай практыкі.

Усе гэтыя заўвагі далёка не вычэрпваюць усіх прыёмаў работы Багрыцкага з маладымі, але яны дастаткова пераканаўча сведчаць аб тым, што Багрыцкі не знаходзіўся ў палоне матэрыяла, не быў рабом абмежаванай формы, што ўся яго работа з маладымі, з'яўляючыся глыбока-ідэйнай і прынцыповай у сваёй аснове, апладнялася страснай верай у соцыялістычнае мастацтва, страсным трубадурам якога ён быў на працягу ўсёй сваёй літаратурнай дзейнасці.

Зразумела, што з фізічнай смерцю Багрыцкага не спыняецца яго ўплыў на маладую паэзію.

Багрыцкі ўплываў і ўплывае на самы кірунак і сутнасць маладой паэзіі. Закаханы ў мора, вецер, навальніцу, ён прывіваў сваім выхаванцам апетыт да жыцця, вялікую цікавасць да творчасці. Нават каля труны, стаўшы ў рад, «не выціраючы слёзы», выхаванцы Багрыцкага «слухаюць шум навальніцы».

Знамена
Прокопченные в степях,
Склоняются над тобой.
А пионеры, твои друзья,
Проходят, гремя трубой.

Вельмі характэрным з'яўляецца вось гэты верш аб Багрыцкім, які належыць пяру Гольдэнберга.

В квадратной хибарке рассвет и окурки,
В квадрате окна проплывает баркас.
Сидим на полу, на разостланных куртках.
Нас трое—и третий кончает рассказ.
Мы с'ехались в отпуск. Мы снова в Одессе.

И вот вспоминаем завод и футбол,
И гавань, где стаей отчаянной в детстве
Мы вплавь огибали Платоновский мол.
В четыре часа из воды, за пригорком
Всплывает умытое солнце. Встаем.
В окно вылетают арбузные корки.
Спускаемся к морю, к шаланде, втроем.
Идем на маяк.
Но внезапно я хмурюсь.
Я вспомнил:
Когда-то на этот маяк
Шаланду такую же может быть в бурю
Водил мой любимый поэт и земляк.
Ему бы двухстволку,
Стихи на дорогу,
Бродить за волчицами,
Жить бы и жить!
Ай, Черное море, как много, как много,
Он мог о тебе еще песен сложить.
Но ветры свежеют над синим простором,
Проходят над нами у троссов звеня.
. . . . . . . . . . .
Я песню твою поднимаю над морем
И песня твоя поднимает меня.

Авеяны подыхам Чорнага мора, бадзёрасцю гэты верш сведчыць аб тым, што стыхію Багрыцкага моцна любяць маладыя паэты. Багрыцкі заражаў маладую паэзію высокім вольтажам паэтычнай страснасці. І характэрна, што яго біялагізм своеасабліва сублімізіруючыся ў маладых, напаўняецца глыбокім соцыяльным маўчаннем. Ад свайго настаўніка яны ўспрынялі любоў да жыцця, да радасці творчасці, да большэвіцкай вясны. І ў гэтым сэнсе уплыў Багрыцкага на маладую паэтычную рунь з'яўляецца вельмі карысным.

— Выходзячы ад яго,—гаварыў мне неяк малады паэт—хацелася пісаць аб сонцы, моры, вясне, лыжах.

Істотным з'яўляецца і тое, што Багрыцкі прывіў маладым выключна сур'ёзныя і адказныя адносіны да слова. Успрыняўшы лепшыя бакі яго творчасці, многія маладыя паэты і цяпер адчуваюць сябе пад кантролем свайго настаўніка, думаючы аб тым, як-бы ён расцэньваў той або іншы твор, той або іншы радок.

Я сказаў вышэй, што Багрыцкі вучыў маладых быць уважлівым чытачом мастацкай літаратуры. Дзякуючы яму, маладыя паэты, у мінулым няпісьменныя хлопцы, упершыню прагна пацягнуліся да кнігі. Гэтая жывая цікавасць да кнігі культывуецца і цяпер ў асяроддзі выхаванцаў Багрыцкага.

Я ў гасцях у Панчэнка, аднаго з самых удумлівых і таленавітых вучняў Багрыцкага. Першае, што кідаецца ў вочы—яго бібліятэка. На паліцах знаходзяцца: Пушкін, Жукоўскі, Дзержавін, Фет, Палежаеў, Баратынскі, Багдановіч, Некрасаў, Пастэрнак, Хлебнікаў, Блокк, Белы, Гайне, Шыллер, Шэкспір. Большасць гэтых кніг, як і трэба было спадзявацца, былі набыты за перыяд знаёмства з Багрыцкім і па яго рэкамендацыі.

Нарэшце варта ўказаць на адзін цікавы факт.

Амаль усе выхаванцы Багрыцкага ў сучасны момант заняты выхаваўчай работай у кансультацыях і літаратурных гуртках.

Літкансультацыя «Совецкай літаратуры». Павал Вячэславаў, трымаючы ў руках рукапіс, гаворыць прыйшоўшаму на кансультацыю:

— Вось бачыце, у вашых вершах не адчуваецца сцісласці, энергіі, мускулатуры, таго, чаго так багата ў Багрыцкага.

Памятаеце?

В густой бородач ударяет бурун
Чтоб брызгами вдрызг разлететься.
Я выберу звонкий, как бубен, кавун,
И ножиком вырежу сердце.

Або ў вершы «Весна»:

И вот из коряг,
Из камней, из расселин,
Пошла в наступленье
Свирепая зелень.

Эпітэт «свирепая» добра перадае буйны, нястрымны рост, маладое імкненне, якое ні перад чым не спыняецца. Так, іменна «свирепая зелень»!

У Багрыцкага трэба вучыцца мастацкай дэталі, уменню пісаць жывой і ўсхваляванай гутаркай.

У чарнавіку «Контрабандистов» было напісана:

„Так бей же по жилам,
Кидайся в края,
Бездонная молодость
Гордость моя!"

Слова «гордость» яму не падабалася. Яно не адпавядала зместу, апрача таго яно часта ўжывалася адным, у той час яшчэ модным, паэтам. Пасля доўгіх пошукаў ён напісаў:

Ярость моя!

Правільна: ярасць! Іменна яна б'е, кідае—гэтая маладосць, прагнасць, ярасць да жыцця (а не гордасць)».

Прышоўшы на кансультацыю ажыўляецца. Прыведзеныя ў гутарцы факты, усё жыццё і вершы Багрыцкага дзейнічаюць на яго вельмі пераканаўча. Я бачу, што яму робіцца сорамна за свае сырыя няпісьменныя вершы. І яшчэ бачу, што яму хочацца напісаць іншыя вершы, добрыя, сапраўдныя.

Павінен сказаць, што я неаднаразова назіраў выхаванцаў школы Багрыцкага ў ролі кансультантаў, рэцэнзентаў і кіраўнікоў гурткоў. Яны вельмі ўважліва і сур'ёзна падыходзяць да творчасці пачынаючых.

Гэтыя ўчора толькі пачаўшыя сваю работу маладыя паэты. Рост гэтых паэтаў, тая жывая справа, якой яны служаць, вырошчваючы літаратурную змену, змяншае цяжкасць страты, якую панесла совецкая літаратура ў асобе буйнейшага паэта сучаснасці—Эдуарда Багрыцкага.

Сяргей Знаёмы

# РАБОЧАЯ ПЕСНЯ

## I

Рабочая песня, як і наогул рабочая творчасць—гэта новая тэма для беларускай совецкай фальклярыстыкі. Новая таму, што і да Кастрычніка і пасля яго гэта тэма ў нацдэмаўскай фальклярыстыцы ігнаравалася. Рабочы фальклор буржуазнымі фальклярыстамі лічыўся «пародыяй на народную творчасць», лічыўся «пераробкай паэзіі вёскі», «скажэннем вясковай паэзіі» і г. д. Нацдэм Шлюбскі, які спрабаваў заняцца гарадской творчасцю, збіраў выключна мяшчанскую і люмпен-пролетарскую творчасць з мэтай давесці, што іншай паэзіі няма, што ў горадзе існуе толькі басяцкі фальклор. Буржуазныя крытыкі да рэволюцыі зусім ігнаравалі фальклор горада, таксама, як ігнаравалі і дэмакратычную творчасць шырокіх працоўных мас вёскі.

Грэбаванне рабочым фальклорам было адным з асноўных пунктаў нацдэмаўскай контррэволюцыі. Адмаўляючы пролетарскую сутнасць Кастрычніка на Беларусі і ігнаруючы пролетарыят цалкам, яны ігнаравалі і заглушалі парасткі фабрычна-заводскай рабочай творчасці. Іменна таму уся зграя контррэволюцыйнай нацдэмаўскай фальклярыстыкі настойліва даводзіла, што беларуская народная творчасць—гэта выключна «творчасць вёскі», «голас старажытнасці», «помнік старой мінуўшчыны», «скарбніца нацыянальнай душы» і г. д.

Нажаль і пасля разгрома нацдэмаўскай контррэволюцыі наша совецкая беларуская фальклярыстыка вельмі мала зрабіла ў справе не толькі збору новага матэрыяла па рабочаму фальклору, але і па перагляду і даследванню ўжо сабранага раней.

Пра тое, што рабочая творчасць мае свае глыбокія карэнні ў мінулым, аб тым, што ў мінулым бытавала сярод рабочых рад песень і казак, у якіх адлюстроўваўся ўвесь цяжар працы на капіталістычных прадпрыемствах,—сведчаць не толькі матэрыялы, запісаныя цяпер, але і матэрыялы, якія мы знаходзім у запісах буржуазных збіральнікаў. Струмень рабочай творчасці да таго быў вялікі, што нават буржуазныя фальклярысты не маглі яго абмінуць; рабочая творчасць сама прабівалася праз усе загарожы буржуазнай фальклярыстыкі. Менавіта з гэтай прычыны мы маем прарыванне рабочых матываў у некаторых казках, запісаных Сержпутоўскім, і трэба думаць, больш глыбокае азнаямленне з запісамі Шэйна, Раманава, Дабравольскага, і іншых, дасць мажлівасць і там адшукаць гэтыя матывы. Наяўнасць у адной з казак Сержпутоўскага рабочых матываў тлумачыцца яшчэ і тым, што яны з'яўляюцца адлюстраваннем становішча рабочых у пачатку развіцця прамысловага капіталізма, на прадпрыемствах памешчыкаў прыгоннікаў.

Яшчэ ў трыццатых гадах мінулага стагоддзя ўсё гучней і гучней пачалі

раздавацца варожыя галасы супроць урывання і выцяснення старой сялянскай песні нейкімі новымі матывамі. Гэтымі новымі матывамі ў народнай творчасці і была рабочая творчасць, фабрычна-заводская песня. Вось што пісалі з гэтага поваду, крыху пазней, збіральнікі рускай народнай песні Лапацін і Пракунін, яркія абаронцы вясковай патрыярхальшчыны:

«Пралегла шаша, прайшла чыгунка—народ кідае свае песні. Прышоў фабрычны ў вёску—дзеўкі і хлопцы заспявалі новую пошасць»*).

Гэта не што іншае, як крык душы фальклярыстаў прадстаўнікоў і абаронцаў заскарузлай патрыярхальшчыны супроць подыху новай эпохі, супроць грознага наступу капіталізма.

Калі да сказанага дадаць яшчэ словы Д. І. Успенскага, які пісаў, што: «уплыў горада і фабрыкі, як зараза, распаўсюдзіўся і на глухія вёскі», то малюнак зробіцца яшчэ больш яскравым, розныя загарожы, што рабіліся перад рабочай песняй выступяць ва ўсёй сваёй аголенасці.

І ўсёткі, не гледзячы на ўсё гэта, рабочая творчасць развівалася, пераможна расцярэблівала сабе шлях, ішла наперад. Рабочую песню не запісвалі, яе баяліся, як «чорт ладану», яе высмейвалі, але песня насупроць волі ўсіх фальклярыстаў расла разам з пролетарыятам, бытавала ў яго асяроддзі.

І не гледзячы на ўсе перашкоды рабочая песня часам, мімаволі прарывалася ў запісы старых фальклярыстаў. Што гэта так, прыгадаем запісы А. Сабалеўскага. Вось песня, якую мы знаходзім у VI томе яго «Великорусских песен»:

Лето красное проходит
Зима морозна настает,
Зима морозна настает,
У фабричных сердцах мрет.
С полуночи встает,
на работу поспевает.
На машине задремал,—
Праву ручку оторвал.
Праву ручку оторвал,
К отцу матери послал.
Отец с матерью идут,
Слезы в три ручья текут
. . . . . . .
Ах, постылый ты, завод
Перепортил весь народ.

Бытаванне гэтай песні ў рускім фальклоры, як ужо ўстаноўлена, адносіцца да семідзесятых—васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя і песня гэта бясспрэчна адыграла сваю пэўную функцыянальную ролю.

Яскравым прыкладам таго, як прарываліся матывы фабрычна-заводскай творчасці можа служыць казка, запісаная Сержпутоўскім «Аб тым, як тры ксяндзы вылячыліся». Гэта казка, як-бы мімаходзь, выпадкова закранае побыт рабочага ў пачатку развіцця капіталізма, побыт рабочага на прадпрыемстве памешчыка-прыгонніка.

Непамерна цяжкім было жыццё запрыгоненага селяніна, але жудасней была праца рамесніка і асабліва работніка памешчыцкага прадпрыемства. Ісці на працу на панскую фабрыку ці бровар лічылася найвышэйшай і ганебнай карай, такой самай, як брыццё барады ці аддача ў рэкруты. Гэта

*) Н. М. Лопатин и В. П. Прокунин „Сборник русских народных лирических песен“ ч. I м. 1889 г.

былі не прадпрыемствы, а катарга. Неабмяжованы рабочы дзень, «ад цямна да цямна», адсутнасць якіх-бы там не было правоў і ўмоў працы і жыцця. Сагнаныя з далёкіх вёсак, адарваныя ад роднай сям'і, пазбаўленыя прытулку, «броварскія работнікі» дзе «днявалі там і начавалі». Акрамя свае непасрэднае работы «будзяць дзяцюкоў набіваць картаплянік» ці рабіць іншую работу на панскім двары. Да ўсяго гэтага дадайце панскі бізун, кары і здзекі пана і падпанкаў і малюнак жахлівага становішча набудзе патрэбную паўнату. Вось чаму, калі трапляюць на памешчыцкі бровар тры ксяндзы (гл. казку «Аб тым, як ксяндзы вылячыліся»), то праз пяць тыдняў яны нават чалавечае аблічча згубілі. Вось чаму «паглядзяць яны адзін на аднаго і пазнаць не могуць, так выпетралі за гэтыя пяць тыдняў». Вось чаму «думалі ўжо ксяндзы, што гэта іх чэрці ўхапілі ды і засадзілі ў бровар на пакуту».

Такім чынам мы бачым, што вобраз рабочага яшчэ перыяду фармавання пролетарыята выступае перад намі з акрэсленым разуменнем сваёй супроцьлегласці гаспадару-фабрыканту і яго прыслужнікам, з акрэсленым разуменнем сваіх класавых інтарэсаў, і таго, што толькі ў змаганні, у класавай барацьбе пролетарыят дасягне палепшання свайго становішча. Далейшы шлях развіцця фабрычна-заводскай творчасці гэта—глыбейшае ўсведамленне пролетарыятам сваіх мэт і задач. Праўда, часам яшчэ дзе-ні-дзе будуць прарывацца матывы разгубленасці і простага канстатавання свайго цяжкага становішча, але гэтыя ноткі, хутка замяняюцца ўсё больш упэўненым і гучным голасам неабходнасці жорсткай класавай барацьбы і знішчэння панавання буржуазіі.

## II

Развіццё прамысловага капіталізма і рэзкая дыферэнцыяцыя вёскі штурхала вясковую беднату ў горад на капіталістычныя прадпрыемствы. Трапляючы ў горад, селянін сустракаў цяжкую працу і нізкі нікчэмны заробак. І вось старыя песні, якія я запісаў у 1931 г. у г. Нова-Барысаве ад рабочых-ганчароў, даюць нам малюнак цяжкага жыцця і разгубленасці, паказваюць шлях пролетарызацыі сялянскіх мас.

Жыццё маё нялёгкае,
У горадзе цяжка пражыць.
І родную сям'ю сваю
Даводзіцца забыць.

Не мінаючы мажлівасці жыць у вёсцы, бядняк ішоў у горад, каб там, працуючы на капіталістычнай фабрыцы, падтрымліваць сваё існаванне і існаванне сям'і. Але нікчэмны заробак разбурыў усе яго мары і надзеі. А тым часам:

З вёскі лісты пішуць:
У раскошы сын жыве,
Палучку палучае,
Дамоў грошы не шле.

Гэты папрок з боку галоднай сям'і выклікае ў сына не толькі жаль, але і ўсведамленне свае бездапаможнасці, уяўленне адсутнасці якіх-бы там ні было перспектыў на палепшанне. Ён толькі і можа сказаць:

Якая гэта палучка
У месяц рублёў пяць.
Ідзе і сабе думае,
Куды грошы дзяваць?

Ён бачыць не толькі бедную, без кавалка хлеба сям'ю, але бачыць і сваю ўласную беднасць. Ён марыў купіць сабе на зіму паліто, але за што?

Зіма ідзе халодная,
Пальто трэба купіць,
А грошы гэтых мала...
Давай-ка брат, прапіць.
Прапіць то іх няштука,—
П'яніцай будуць зваць
А лепей давай, брацец,
Ў тры лісцікі згуляць.

Так, разгублены перад агромністымі цяжкасцямі, не ўсвядоміўшы яшчэ актыўных рэволюцыйных сродкаў барацьбы, не ўключыўшыся яшчэ ў агульную барацьбу пролетарыята за сваё вызваленне, ён ідзе на шлях люмпен-пролетарыя. Праіграўшы ў карты палучку, ён «цэлы месяц есць хлеб з вадой». Хвароба падкошвае яго апошнія сілы ў той час, як у вёсцы чакаюць што:

У госці сын прыедзе,
Ён грошы прывязе.
А сын у гэты час—
На казённым шчоціку—
У больніцы ляжыць.

Свой апошні «сундук без крышкі і той ён залажыў», каб хоць як-небудзь дабрацца да роднай сям'і. Гэта жахлівая трагедыя чалавека ў капіталістычным грамадстве канчаецца тым, што —

У госці сын прыехаў
І грошы не прывёз.

І бацька, які апошнюю капейку аддаў яму на дарогу, цяпер у сына пытаецца:

Чаго цябе чорт прынёс?

Паказам соцыяльнай няроўнасці, прыгнёту і эксплаатацыі прасякнуты і радкі песні «Раскажу я вам таварашы мае». Сюжэт гэтай песні надзвычай просты, ён цалкам скандансаваны ў першай страфе. Малы і нікчэмны заробак, цяжкія ўмовы працы, хатняя галеча прыводзіць рабочага-ганчара да таго, што ён кідаецца ў топку гарнавой. Прычынай гэтаму былі нікчэмны заробак і галодныя дзеці і жонка:

Эх, ты, гора цяжкае мае,
Іх адным рублём не накармлю,
Іх адным рублём не напаю,
Слязмі сваё сэрца абаллю.
(Запіс мой. С. З.)

Праўда гэтая песня, акрамя адлюстравання цяжару і жаху капіталістычнага прадпрыемства, паказвае нам яшчэ і на выпадкі разгубленасці, адчаю і песімізма, якія часам апаноўвалі найменш устойлівыя элементы рабочага класа. Струмень падобнага роду творчасці ў рабочым фальклоры зусім незначны і як бачыце мае сваімі вытокамі пэўнае кола рабочых; гэта тыя рабочыя, што нядаўна з вёскі, якія з-за сваёй цямноты не дайшлі да ўсведамлення сваіх класавых задач, якія з рабскай пакорлівасцю цягнуць лямку прыгнёту ганчара-заводчыка. Але нават гэтыя людзі, людзі дробных ускраінных майстэрняў, у пераважнай большасці калекі, якіх

не прымалі на буйныя прадпрыемствы, а таму яны ішлі на ўскраіну, у кабалу да дробнага жывадзёра-ганчара, да заводчыка цагелен, нават гэтыя людзі пачынаюць разумець, што:

Нас сагналі сюды
У цяжкую няволю.
Потам мелем глазур—
Рукі, ногі—ломіць.

Гэта ўжо не адчай, а пробліск пэўнага разумення і цяжару працы і цяжару няволі. А вось вазьміце песню, якая запісана ў 1932 г. П. Шыраевай на заводзе «Красный треугольник»* у Ленінградзе. Гэта песня паказвае ўвесь цяжар працы і ўмоў жыцця на капіталістычнай фабрыцы.

Последнюю рубашонку
У вальцов трепали,
До двенадцати часов
Отдыха не знали.
Годы многие без смен
Красим мы резину,
Нас не знают как людей,
Знают, как скотину.
Сажа в тело и лицо
Коростой впивалась,
Эх, а мыло никогда
Нам не полагалось.
Мы по улицам ходили
Грязные, как черти,
Лишь в субботу в бане мылись
—Так до самой смерти.

Рост рэвалюцыйнай свядомасці рабочага класа, набуханне першай рэвалюцыі ў былой царскай Расіі не магло не мець свайго ўплыву на народную творчасць, не магло не пакласці на рабочы фальклор пэўнага адбітку. Мы ведаем, што народная творчасць гэта—люстэрак народу, яго імкненняў і жаданняў. І нават у самыя цяжкія часы, калі ўсякі пробліск прагрэсіўнай думкі чалавека заглушаўся, народная творчасць умела ператварыць гэтую мару ў жар-птушку, у царства за колькі земляў, у шчасце, што адвечна лунае над чалавекам, у харомы і казачнае жыццё. Народная творчасць стварала сваіх герояў-волатаў, якія ішлі за праўду, у абарону бедных супроць багацеяў. Прыгадаем Асілка, Рымшу, Прастачка, усе яны былі ўвасабленнем мары, завуаляваным пратэстам супроць існаваўшага ладу.

Подых рэвалюцыі 1905 году развязаў язык фальклору, жыццё прымусіла і народную творчасць загаварыць адчынена. Тут ужо рэчы трэба было называць сваімі іменамі, тут ужо нельга было абмежавацца словамі:

Раскінулася мора шырока
А хвалі бушуюць удалі.
Таварыш, мы едзем далёка
Падальшы ад гэтай зямлі.

Цяпер трэба было гаварыць чаму ехаць найдалей ад гэтай роднай зямлі і ў той-жа самы час чужой, далёкай абрыдлай? Чужой і далёкай стала гэта зямля—казала рэвалюцыя таму, што людзі на ёй прыгня-

*) Глядзі „Фольклор"—бюллетень фольклорной секции института антропологии и этнографии Академии Наук СССР. 1934 г.

таюць адзін аднаго, што ўлада не па праву належыць прыгнятальнікам. Чужой і далёкай рабочаму чалавеку стала гэта зямля таму, што:

Нагайка, ты, нагайка
Сильна в стране родной.
Романовская шайка
Царит тобой одной.
(„Правда" № 142, 1935 г.)

Знішчыць гэтае панаванне эксплуататараў, раманаўскай шайкі і яе наймітаў вось кірунак, імкненне працоўных, вось воля партыі Леніна—Сталіна. І рабочыя масы наўпярок усім ворагам ішлі на барацьбу, лавілі кожнае слова большэвіцкай партыі, вось чаму радасць і хваляванне агортвалі кожнага рабочага, хто трапляў на большэвіцкае слова. Адгэтуль і толькі адгэтуль нараджваецца такая прыпеўка Іванава-Вазнясенскіх рабочых:

Шла я с фабрики одна,
Прокломацию нашла,
Не пилось, не елося,
Прочитать хотелося.
(тамсама)

Напружаная і жорсткая барацьба за сваё вызваленне, ненавісць да багатых, да прыгнятальнікаў—вось тыя матывы, якімі была прасякнута старая рабочая песня ў сваёй пераважнай большасці:

Мы за правду, за свободу
Против гнета сил проклятых,
Мы—за бедных на богатых,
За рабов мы на царя!
(тамсама)

Нажаль наша беларуская совецкая фалькларыстыка зусім мала яшчэ зрабіла па арганізацыі запісаў, збору і даследванняў старой рабочай песні, у прыватнасці песні, насычанай матывамі рэволюцыйнай барацьбы за вызваленне працоўных. У гэтым напрамку належыць зрабіць яшчэ надзвычайна багата і ў першую чаргу тут абавязаны праявіць ініцыятыву не толькі літаратурныя гурткі, але насценгазеты, рабкоры, шматтыражкі. Выяўленне старой рабочай песні дапаможа нам яшчэ глыбей, ясней і шырэй зразумець, уявіць увесь цяжар, увесь прыгнёт, якому падупадалі рабочыя масы горада на старой капіталістычнай фабрыцы.

III

Зусім іншымі матывамі прасякнута сучасная рабочая песня і частушка. Радасць за перамогу дыктатуры пролетарыята, глыбокая прасякнутасць барацьбой за соцыялізм—вось аб чым сведчыць сучасны рабочы фальклор.

Зазвінела піла,
Паляцелі апілкі
Уцякаюць фабрыканты,
Трасуцца паджылкі.
(Н. Барысаў, запіс мой—С. З.).

Ліквідацыя ўлады памешчыкаў і фабрыкантаў і ўстанаўленне дыктатуры пролетарыята далі мажлівасць буйнаму расквіту соцыялізма па ўсёй краіне.

Воляю партыі, рабочых і працоўнага сялянства, адсталася ў мінулым Беларусь:

Край легенд,
Крыжоў, магіл-курганаў,—
Край тугі—
Бальзам жывых крыніц...
Край смугі,
Балявых кос-туманаў,—
Край палёў,
Краса шумлівых ніў...
Край балот,
Нізін, азёраў наскіх,—
Край лясоў,
Маўклівых сосен—струн...
(П. Трус).

дзякуючы правільнаму ажыццяўленню ленінска-сталінскай нацпалітыкі ператварылася цяпер у адну з перадавых ордэнаносных рэспублік вялікага Савецкага Саюза, ператварылася цяпер у край буйных фабрык і машын і моцнай калгаснай гаспадаркі. Індустрыяльны рост краіны не мог абмінуць увагі рабочай творчасці. І вось:

Дзе былі звяры і совы
Твань ляжала з году ў год,
Пабудованы там сёння
Лесапільны наш завод.
(Запіс мой. С. З.)

Ці вазьміце такія радкі:

Сцекладуўны наш завод
Імені Уханава
Пазапрошлы толькі год
Адбудован занава.
(Архіў секцыі этнаграфіі БелАН)

І гэтымі чатырма радкамі сказана амаль усё.

Наступная частушка дае нам уяўленне пра новыя адносіны рабочых мас да працы, пра пранікненне ў шырокія рабочыя гушчы соцыялістычных метадаў працы.

Ой, гудзе гудок прызыўна:
— Годзе, тата, табе спаць!
Паспяшай на завод
Пяцігодку выпаўняць.
(Н. Барысаў, запіс мой—С. З.)

Побач з гэтымі, новымі соцыялістычнымі адносінамі да працы яшчэ часам на нашых прадпрыемствах можна бачыць рэшткі несвядомых варожых пролетарыяту адносін, г. значыць лодырніцтва, а то і свядомае шкодніцтва. І вось рабочая моладзь, пратурыўшы з завода лодыраў і шкоднікаў, добра арганізаваўшы свой вытворчы працэс, мабілізаваўшыся на выкананне промфінплана і дамогшыся пэўных дасягненняў, зараз з радасцю спявае:

Пад вясёлую гармонь,
Танцуй, хлопцы, ходырам.
Пратурылі мы з завода
Шкоднікаў і лодыраў.
(Запіс В. Хомчанкі)

І іменна дзякуючы таму, што з завода пратурылі шкоднікаў і лодыраў, дзякуючы ўмеламу большэвіцкаму кіраўніцтву, дзякуючы адданасці рабочых мас ідэям ленінскай партыі зараз адсталая ў мінулым галіна прамысловасці, прамысловасць па вырабу цэглы вялікімі крокамі пашла наперад.

Запяём-ка, хлопцы, песню.
А ну, Ваня, зацягні.
Выпрацоўваем мы цэглы
Больш як летась у тры разы.

(Цагельны завод, Касцюковічы,
запіс В. Хомчанкі).

Пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва, дасягненні на фронце выканання промфінплана бясспрэчна прывялі і не маглі не прывесці да палепшання матэрыяльных і культурна-бытавых умоў пролетарыята. Рабочы цагельнай прамысловасці, які ў мінулым туляўся па бараках, начаваў у хлявах ускраінных заезжых дамоў, пастаялых двароў, каля заўголля вясковых корчмаў цяпер у выніку перамог соцыялістычнага будаўніцтва, у выніку адданай, плённай, ударнай працы заваяваў сабе права на добрую кватэру, на шчаслівае жыццё. І цяпер ён з радасцю спявае:

Я такі не быў вясёлы
Як вясёл цяпера,—
За ўдарную работу
Даў завод кватэру.

(тамсама).

Можна было-б прывесці ці мала прыпевак і песень сучаснага фабрычна-заводскага фальклору. Іх багата сабрана і запісана ў выніку той працы, якую правёў у гэтым напрамку наш комсамол, які ў апошнія часы пасапраўднаму сур'ёзна ўзяўся за збор і запісы народнай творчасці і ў першую чаргу творчасці сучаснай калгаснай вёскі і фабрычна-заводскага фальклору.

Думаецца, што прыкладная праца нашага комсамола, якая распачалася па ініцыятыве «Комсомольской правды» павінна звярнуць на сябе ўвагу ўсёй нашай грамадскасці. Народная творчасць, не гледзячы на тую вострую класавую барацьбу, што адлюстроўваецца і праводзіцца праз яе, часам заставалася па-за ўвагай нашай грамадскасці, знаходзілася ў становішчы самацёку, без належнага, патрэбнага сістэматычнага кіраўніцтва. З такім становішчам неабходна пакончыць, ідэі старой дваранскай і буржуазна-народніцкай тэорый наконт ізаляванасці і недатыкальнасці народнай творчасці, павінны быць знішчаны. Наша совецкая грамадскасць, якая падначальвае ўсё і уся агульнай ідэі стварэння соцыялістычнага грамадства абавязана ўзяць у свае рукі і кіраўніцтва творчым працэсам фальклору. Не трэба гэта разумець механічна, але трэба народнай творчасці надаць больш увагі, умяшацца ў творчы працэс з тым, каб дашчэнту назаўсёды выкараніць з фальклору лжэнародныя матывы, пазбавіць мажлівасці кулацкія і буржуазныя элементы ўплыву і выкарыстання народнай творчасці ў сваіх класава-варожых мэтах.

Гаворачы пра неабходнасць актыўнага ўмешвання ў творчы працэс фальклору, трэба адзначыць і такую дэталь, як своеасаблівасць (да некаторай ступені) формы фабрычна-заводскага фальклору ў параўнанні з творчасцю вясковых працоўных мас. Рабочая паэзія, рабочы фальклор вельмі розніцца ад сялянскай паэзіі не толькі сваім зместам, але і мастацкай формай. Вы рэдка знойдзеце ў рабочай песні тую сантыментальную напеўнасць, якой так багата ў сялянскай, асабліва старой творчасці

Рабочыя песні сціслыя і суровыя, дынамічныя і заўсёды соцыяльна-насычаныя. Рабочая песня не мае тэй анімістычнасці і прыроднай сімволікі, якую вельмі часта мае сялянская творчасць.

Але было-б зусім няправільным сцверджанне пра абсалютную розніцу паміж фабрычна-заводскай песняй і паэзіяй вёскі. Як зместам (агульнасць ідэй апявання прыгнёту і ўціску, зневагі пана да селяніна і фабрыканта да рабочага, бесправнае становішча адных і другіх і г. д.), так і формай (рытмічная і стылёвая агульнасць—сталыя эпітэты, параўнанні, метафары і г. д.) абодва віды народнай творчасці маюць між сабой багата агульнага. Яно звязвае іх у агульны струмень сапраўднай народнай творчасці шырокіх працоўных мас горада і вёскі.

У працэсе знаёмства з рабочай песняй і прыпеўкамі ўзнікае пытанне наконт формы выражэння новага зместу фабрычна-заводскага жыцця. Мастацкая форма ў фальклоры вельмі часта адстае ад зместу. І гэта так. Гэта яшчэ раз падкрэслівае словы Владзіміра Ільіча пра тое, што новы змест да часу можа ўжывацца ў старой форме. Гэта з усёй упэўненасцю сцвярджае нам рабочая песня. Вельмі часта новы змест, новыя матывы выражаюцца праз старую форму, форму старой сялянскай песні, форму песні рэкруцкай, а часам і разбойніцкай.

Праўда, як мы падкрэслілі ўжо ёсць нешта і новае ў рабочай песні, як напрыклад, прыўнясенне ў рабочую песню элементаў літаратуры пісьмовай, элементаў паэзіі кніжнай, дынамічнасць і інш., але тым не менш форма старой песні тут захоўваецца надзвычай часта.

Гэта можна прасачыць і на нашым сучасным рабочым фальклоры, на нашай сучаснай фабрычна-заводскай песні, на песнях і сказах пра Леніна і Сталіна, пра Кастрычнік, пра нашу Чырвоную армію і г. д. Мы знойдзем у гэтых песнях і сказах водгукі быліннага эпаса, гераічных сказаў, часам звычайных казак і навел перыяду распаду прыгону і нараджэння капіталізма. І гэта зусім заканамерна. Наш новы змест, соцыялістычны змест апераджае і апераджае форму як у мастацкай літаратуры, таксама і ў народнай творчасці.

Але гэты разрыў формы і зместу прыдзе да еднасці, ды выпрацоўкі новай формы сучаснай фабрычна-заводскай творчасці, рабочай песні.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## Змітрок Бядуля. „Набліжэнне". Аповесць. ДВБ. ЛІМ. 1935 г.

Аповесць Змітрака Бядулі «Набліжэнне» паказвае жыццё маленькага беларускага мястэчка ў часы імперыялістычнай вайны.

Недзе далёка ад мястэчка Каганцы знаходзіцца фронт. Большасць местачкоўцаў спадзяецца на тое, што вайна абміне іхны ціхі, закінуты ў глухіх лясах куток. Але іхныя надзеі дарэмныя. Усё часцей і часцей у Каганцах чуюцца стрэлы дальнабойных гармат. Спачатку гэтыя стрэлы ледзь-ледзь чутны, бо яны прыглушаны вялікай адлегласцю. Але з кожным днём фронт пасоўваецца ўсё бліжэй і бліжэй. Над блізкімі лясамі ўспыхваюць крывавыя зарніцы ад гарматных стрэлаў. Стрэлы з кожнай гадзінай робяцца гучнейшымі. Ад іх ужо дрыжаць шыбы маленькіх местачковых хатак.

Змітрок Бядуля ў сваёй аповесці паказвае класавую дыферэнцыяцыю беларускага мястэчка, паказвае як прадстаўнікі розных класаў ставіліся да падзей імперыялістычнай вайны.

Галоўны герой аповесці—Левін. Ён—дробна-буржуазны інтэлігент—рамантык. Ён з самага маленства цэлымі днямі сядзеў у хедэры, паглынаючы «святыя» словы бібліі, а ў вольны ад заняткаў час чытаў розныя рамантычныя і прыгодніцкія раманы. Некаторы час Левін працуе ў якасці ляснога прыказчыка.

Адарваны ад цяжкай сялянскай працы, знаходзячыся на ўтрыманні бацькоў, і самае галоўнае,—не разумеючы класавых прычын, якія кіруюць паводзінамі людзей,—Левін вельмі далёкі ад розных штодзённых «чорных спраў», ад розных «зямных хваляванняў». Ён захапляецца толькі выключным, рамантычным: нязвычайнымі прыгодамі, ціхімі, ідылічнымі пейзажамі, прыгожым каханнем.

У Левіна вялікі разрыў паміж прачытанымі кнігамі і жыццём. Лепшай характарыстыкай Левіна з'яўляюцца наступныя словы Змітрака Бядулі: «Левіну ўсё-ж такі лягчэй зразумець гісторыю філасофіі, чым вочы абветраных і змучаных салдат (стар. 244).

Спачатку Левін ставіцца да ўсяго навакольнага ў ролі пасіўнага сузіральніка. Але пад уплывам адбываючыхся падзей і гутарак з паасобнымі людзьмі ў свядомасці Левіна пачынае адбывацца пералом. Ён пачынае актыўна ставіцца да рэчаіснасці. Ён пачынае правільна разумець ход гістарычных падзей і займае ў гэтых падзеях пэўную класавую пазіцыю. Левін пачынае разумець, што імперыялістычная вайна павінна ператварыцца ў вайну грамадзянскую, якая павінна прывесці да пролетарскай

рэволюцыі. Такі пералом у свядомасці Левіна адбываецца не адразу. Гэта—доўгі, складаны і цяжкі працэс. І гэты пералом у свядомасці дробнабуржуазнага інтэлігента, яго паварот у бок пролетарскай рэволюцыі паказан Змітраком Бядулем даволі пераканаўча.

Апрача галоўнага героя аповесці—Левіна, Змітрок Бядуля паказвае адносіны да імперыялістычнай вайны цэлага раду другіх людзей—прадстаўнікоў розных класаў буржуазіі (Шыман Кантаровіч, Сакалоўскі) местачковага начальства (соцкі, ураднік) прадстаўнікоў рэлігійнага культа (Лейба Кантаровіч), мяшчанства (Войская), сялянскай беднаты (Макар, Герасім, Язэп, Гануля) і, нарэшце, партыйных работнікаў (Шагал, Тарас).

Змітрок Бядуля паказвае ў сваёй аповесці адзінства класавых інтарэсаў беларускай і яўрэйскай буржуазіі, выкрывае дзейнасць прадстаўнікоў рэлігійнага культа.

У аповесці ўдала раскрыты погляды прадстаўнікоў розных класаў на імперыялістычную вайну.

Буржуазія была за імперыялістычную вайну, бо яна на гэтай вайне нажывала вялікія капіталы. Пазіцыі буржуазіі ў адносінах да імперыялістычнай вайны выражае Сакалоўскі, які ў гутарцы з Левінам разважае:

«—А вайна, скажам, вайна, пане дабрадзею, гэта гісторыя. Ваявалі мы з японцамі, з туркамі, а там даўней з французамі, са шведамі. Гісторыя. Як наплодзіцца шмат народу, дык дзе з ім дзенешся? Гэта-ж, каб не вайна—зямлі-б было мала для людзей. Людзі вельмі плодныя. Ад цеснаты брат брата усёроўна зарэзаў-бы. Вось гісторыя і ратуе. Вайна, пане дабрадзею, добрая штука, а гісторыя—разумная рэч, раз-уумная» (стар. 49).

Вельмі добра выкрывае Змітрок Бядуля прадажнасць рэлігіі. Калі у Каганцах пачалі збіраць грошы на пабудову царквы, дык першымі падпісаліся крамнікі-яўрэі. І ўжо толькі гэта прымусіла папа, які «раней ў сваіх казаннях гаварыў аб патрэбнасці яўрэйскіх пагромаў», «пахваліць каганецкіх крамнікаў і паказаць іх перад сваімі парахвіянамі, як найлепшых людзей». А яўрэйскія крамнікі добра разумелі выгаднасць для іх пабудовы царквы.

«А крамнікі меркавалі так: калі тут будзе царква, тады Каганцы зробяцца цэнтрам розных фэстаў, гадавых кірмашоў, і гандаль узрасце ў некалькі разоў. Каб толькі божая ласка» (стар. 65).

Кантаровічы і Сакалоўскія, як прадстаўнікі буржуазіі, лічаць імперыялістычную вайну патрэбнай, бо на гэтай вайне яны нажываюць вялікія капіталы, займаючыся дастаўкай на фронт розных прадуктаў. Мяшчанства (Войская) хоць крыху і церпіць ад вайны, але ўмее прыстасавацца да ўсякай улады. Недарма, Войская у той час, калі мястэчка займаюць немцы, гаворыць: «Дзеці, мы ўжо немцы», а калі немцы адыходзяць і мястэчка пераходзіць у рукі казакаў, Войская хавае нямецкія кнігі і гаворыць: «Дзеці, мы ўжо казакі.» Гэтыя словы Войскай з'яўляюцца вельмі характэрнымі для мяшчанства, якое заўсёды застаецца верным прынцыпу: «Хто гаспадар—таму і služы».

Местачковае начальства жадае на вайне «выслужыцца», каб атрымаць вышэйшыя чыны.

Мы ведаем, што ўся цяжкасць вайны кладзецца на плечы пролетарыята і сялянскай беднаты.

Змітрок Бядуля праўдзіва паказвае, як у прадстаўнікоў сялянскай беднаты накапліваецца вялікі гнеў, вялікая ненавісць да самаўладства, як

сялянская бедната выступае супроць падпальшчыкаў вайны, згуртоўваючыся вакол пролетарыята, каб разам з ім, і пад яго кіраўніцтвам накіраваць зброю супроць сваіх класавых ворагаў.

Гэтыя рэволюцыйныя настроі ярка выражаны ў разважаннях Язэпа, Арцёма, Ганулі. Потым, у канцы аповесці да гэтых рэволюцыйна настроеных людзей далучаецца і Левін.

Змітрок Бядуля паказвае класавую дыферэнцыяцыю і ў радах арміі, паказвае бегства з арміі, паказвае братанне рускіх і нямецкіх салдат.

Калі мястэчка Каганцы займаюць немцы, Змітрок Бядуля шляхам проціпастаўлення паказвае круглатварага, пышнавусага кайзераўца, начальніка нямецкага горада і нямецкага салдата—соцыяліста. Пышнавусы кайзеравец, забіраючы схаваныя ў зямлі рэчы каганецкіх гаворыць: «орднунг, орднунг» (парадак, парадак) і, нібы, парадыруючы гэтага пышнавусага кайзераўца, нямецкі салдат-соцыяліст ў гутарцы з Левіным гаворыць:

«— Не жадайце вы орднунг нашай арміі, не жадайце, каб кайзераўскія салдаты на доўгі час тут замацаваліся, бо апошнія сокі высмакчуць яны з акупаванай зямлі, вы ўсе будзеце паміраць з голаду, як мухі. Вось гэта ў кайзераўцаў завецца «Орднунг». Цум тайфель—к чорту—і вашых царатаў і нашых кайзераўцаў! І адны, і другія ворагі бедных. І рускія і нямецкія рабочыя не хочуць вайны. Не хочам! Мы—браты! Мы таварышы!» (стар. 195—196).

Рэволюцыйна настроеныя людзі паказаны Змітраком Бядулем і сярод казацтва.

Не менш паказальнымі, чым толькі што прыведзеная гутарка нямецкага салдата-соцыяліста, з'яўляюцца наступныя словы аднаго з казакаў:

«— І сярод казакаў ёсць багатыя і бедныя, прыгнетацелі і прыгнечаныя. Яшчэ казакі пакажуць сябе. Вайна навучыць іх чаму-небудзь. Ведайце раз назаўсёды, што гэта вайна закончыцца нечым такім, ад чаго зямля ўся уздрыганецца. За гэтай вайной, па яе слядах і унутры мас, асуджаных на пушачнае мяса, нешта расце. Расце незадаволенасць, нараждаецца думка аб прычынах вайны. І гэта думка страшней і мацней за гарматы. Вы не думайце, што рабочыя, якія дзесяткамі і сотнямі тысяч уліліся ў фронт, забылі 1905 г. Яны могуць паўтарыць тое-самае, толькі з багацейшай, чым тады, практыкай, без ранейшых памылак. Сярод людзей у казацкай форме таксама ёсць шмат батракоў і нямала рабочых» (стар. 248—249).

Партыйныя работнікі паказаны Змітраком Бядулем у вобразе настаўніка Шагала і Тараса. Але гэтыя партрэты (гэта датычыцца галоўным чынам Тараса) усё-ж атрымаліся крыху бляднымі ў параўнанні з надзвычай удалай галерэяй партрэтаў другіх персанажаў.

Асабліва добра Змітрок Бядуля нарысаваў партрэты Шымана Кантаровіча, Сакалоўскага, старога кніжніка Лейбу Кантаровіча і інш.

Вось, напрыклад, партрэт Шымана Кантаровіча:

«Малады гаспадар Шыман Кантаровіч сочыць за гульнёй вачыма арбітра. Ён спрытны і хударлявы чалавек з паслухмянымі цёмнымі вочкамі—шпілечкамі, з густой стрыжанай чорнай бародкай, у шэрай жакетцы і ў такіх жа нагавіцах, засунутых у мягкія халявы запыленых ботаў.

Шыман Кантаровіч стаіць у такой позе, нібы ў кожную хвіліну гатоў нешта незвычайнае ўчыніць ад вялікай гасціннасці—падскочыць у паветра і стукнуцца зашмальцаванай, без колеру і формы, кепачкай у столь, вылецець птушкай праз акно, ці бараніць усіх ад нападу бандытаў худзенькімі

кулачкамі з вострымі шышачкамі суставаў на пальцах. Ён на варце. Вартуе гасцей—«зайцоў» і часта выбягае на двор паслухаць і паглядзець ці ўсё спакойна. Ён як цень. Непрыкметна знікае і непрыкметна зноў з'яўляецца» (ст. 21—22).

Мы ўжо гаварылі аб тым, што вобраз Тараса атрымаўся бледным. Але самы істотны недахоп аповесці не ў тым, што Змітрок Бядуля не паказаў нам кіраўніцтва партыйнай работы з боку партарганізацыі. У некаторых мясцах аповесці (выпадак з Левіным ў вагоне) заўважаецца некаторая наігранасць, тэатральнасць.

Гэтыя недахопы ні ў якім разе не змяншаюць вялікага значэння аповесці «Набліжэнне».

Аповесць «Набліжэнне» мае вялікае значэнне для самага пісьменніка, бо гэтай аповесцю (галоўным чынам, вобразам Левіна,) Змітрок Бядуля праводзіць аўтарскую самакрытыку сваіх мінулых адносін да імперыялістычнай вайны (прыгадаем цыкл вершаў, прысвечаных імперыялістычнай вайне ў зборніку «Пад родным небам»).

Аповесць «Набліжэнне» паказвае няправільнасць тых гуманістычных пазіцый, на якіх стаяў пісьменнік у 1914—1915 г.

Кампазіцыя аповесці дынамічная. У аповесці ёсць рад удалых дэталяў, рад цікавых пейзажаў, адпавядаючых ідэі і зместу аповесці.

Напрыклад, для больш поўнай характарыстыкі Сакалоўскага, Змітрок Бядуля падае такую дэталь: калі ўсе знаходзяцца каля рэчкі, у якую выліта гарэлка, Сакалоўскі хапае і забівае некалькі качак, стукаючы іх галовамі аб вядро. Гэтая дэталь удала напаўняе звераватую, жорсткую натуру эксплаататара.

Як ужо адзначана, большасць пейзажаў у аповесці таксама падпарадкавана асноўнай ідэі і зместу твору.

Напрыклад: «Над будынкамі, над непрытульнымі восеньскімі палямі вісіць акрываўлены серп» (стар. 136).

Або: «Мерным, круглым шчытом сонца вісіць над лесам зусім нізка—на адзін локаць. Яго праменні завостранымі пікамі колюць вочы Антося. Рыжая галоўка Агаткі выглядае акрываўленай» (стар. 207).

Дасканалае веданне Змітраком Бядулем побыта беларускай вёскі і беларускага мястэчка, пачынаючы ад дробных дэталяў нацюрморта, канчаючы псіхалогіяй людзей,—надае аповесці нейкую асаблівую рэчавасць, канкрэтнасць і разам з тым прастату, прастату ў лепшым сэнсе гэтага слова, такую прастату, якая з'яўляецца неабходнай ва ўсякім мастацкім творы і якая, па ўдаламу выражэнню аднаго з крытыкаў, «вельмі дорага каштуе». Аб такой прастаце неаднаразова гаварыў вялікі рускі пісьменнік— Л. Н. Талстой.

Сапраўды. Якой прастатой і разам з тым праўдзівасцю вее, напрыклад, ад вобраза прадстаўніка рэлігійнага культа, старога кніжніка Лейбы Кантаровіча. Або ад Шымана Кантаровіча, Сакалоўскага, Войскай, паказ якіх ідзе шматлікімі бакавымі лініямі праз усю аповесць, арганічна і стройна пераплятаючыся з яе асноўнай сюжэтнай лініяй.

Каротка кажучы,—асноўная дадатная якасць аповесці Змітрака Бядулі «Набліжэнне»—гэта жыццё.

Яно струменіць з кожнай старонкі, кожнага абзаца, кожнага сказа аповесці.

Самае галоўнае ў мастацкім творы,—гэта тое, пасля чаго чытачы могуць сказаць: «Правільна. Сапраўды гэта ўсё адбывалася так, як напісана ў кнізе».

Думаецца, што пасля чытання аповесці Змітрака Бядулі «Набліжэнне», чытачы скажуць гэтыя словы. Гэтыя словы чытачоў і будуць самай лепшай ацэнкай аповесці.

**С. Левін.**

401.

---

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

## ЗМЕСТ

*Стар.*

